УДК 821.163.3-1
ББК 84(4Беи)-5
Д13

Рэдагаванне і малюнкі аўтара

**Давідовіч, С. Ф.**
Д13 Збор твораў. У 5 т. Т. 2. Паэмы / Сяргей Дывідовіч. — Мінск : Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд, 2016.— 751 с., іл.

ISBN 978-985-6975-45-8.

Паэма — адзін з самых складаных літаратурных жанраў. Менавіта ў жанры паэмы поўна раскрываюцца паэтычныя магчымасці Сяргея Давідовіча. У іх — неабсяжны спектр і тэм, і псіхалагічных адценняў чалавечных характараў.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(Беи)-5**

**ISBN 978-985-6975-45-8 (Т. 2)**
**ISBN 978-985-6975-43-4**

*Ахвярам вёскі Лясіны*
*і ўсім спаленым лёсам*
*зямлі Беларускай*
*прысвячаю*

Падрастае дзіця
І ляціць «тэлеграма»
У прастору жыцця —
Слова першае:
Мама!

Вось дзіцяці ўжо год —
Для бацькоў звышуцеха.
І глядзяць яму ў рот,
Гэта ж толькі узлёт,
Лёсу першая веха.

Над дзіцяцем не спяць,
Толькі б смутку не ведаў.
Вось яму — ужо пяць —
Шалянец, непаседа.

Ды знайшоўся той дзень,
Што пачаўся нягегла —
І бяда, нібы цень,
Хлапчука падсцярэгла.

Праміргалі бацькі
Той з запалкамі пачак.
Ён гуляў з імі і...
І апёк сабе пальчык.

Ой жа ж як запякло!
Ой жа ж плакаў уволю —
Быццам знікла святло
Ад нясцерпнага болю.

У чатыры шчакі
Шумна фукалі, дзьмулі.
І ўздыхалі бацькі:
— Гэта ж, Гансік, не гулі!

Ты ж мог дом падпаліць,
Сам, сыночак, згарэці...
Ну, лягчэй?..
— Ой баліць!
— Ах, вы ж дзеці, вы дзеці...

Хутка знік пухірок
І не чутна ўжо болю.
Але Ганс даў зарок —
Да агню — аніколі!

Ён запомніў той дзень,
Як з запалкай пазнаўся.
Дома нават агмень
Абыходзіў — баяўся...

Гансу — дваццаць.
Ого!
Час — як мячык з-пад біты.
Ёсць усё для яго
У Германіі сытай.

Ён жыве, бы ў кіно,
Сыр у масле — дый толькі.
Ён адрокся даўно
Ад дзіцячае болькі.

Ўжо карычневы зброд
Верхаводзіць Берлінам.
І глядзіць на усход
Фюрэр вокам звярыным.

*

Падрастае Сяргейка —
Вёска туліцца ў лесе.
За акном салавейка,
Як анёл з паднябесся.

Зранку — гульні ў пясочку,
Жмуркі па завуголлю.
Маці пела сыночку
Пра шчаслівую долю.

«Ой не слёзы з галінкаў,
А празрыстыя росы.
Ой расці, родны сынку,
Мой пшаніцавалосы.

Ой у лузе рамонкі
Прывітаюць вясёлку.
Падрастай, срэбразвонкі,
Год-другі і — у школку.

Будзеш мамцы уцеха,
Будзеш татку падмога.
Не пужайся — то рэха
Перуна — служкі Бога...

Пагрыміць і растане,
Ачуняюць абшары.
Зноўку сонейка гляне
На зямельку з-за хмары...»

Памылялася маці
Ў спевах сыну малому.
Ўжо гучалі пракляцці
Ўсюды гэтаму «грому».

Па зямлі кіпцюрыста
След крывавы і дзёрзкі,
Цень звяругі-фашыста
Набліжаўся да вёскі.

Да знаёмае хаты,
Да маленства Сяргейкі.
Прыгадзючылі каты
Да яго салавейкі.

І на шуфлік з пясочкам
Ўлезла ботам навала,
На зямлю, дзе сыночку
Маці песні спявала.

Паднімалі з пасцелі
І малога й старога,
Здзек чынілі, шалелі,
Зневажаючы Бога.

Выганялі з-пад стрэхаў
Паўраспранутых, сонных.
Крык чужынскі абрэхваў
Людцаў безабаронных.

Да драўлянага току
Пазганялі гаротных.
Дождж заплакаў звысоку
Ад падзей незваротных.

Салавейка раптоўна —
Цёх! — і змоўк вінавата.
А вяскоўцаў гвалтоўна —
Ў ток прыкладамі каты.

Немаўлят не мінулі
Да матуль прыхінутых.

І Сяргейку з матуляй,
І сяброў, з кім вёў гулі
Яшчэ ўчора ў закутах.

Гулка грукнулі дзверы,
Чуўся лязгат замочны.
Свет змяніўся на шэры,
Светлы ранак — на змрочны.

Людзі быццам знямелі,
Жах камком стыне ў горле:
Для чаго іх з пасцелі
Пад замок тут запёрлі?

Кожны думаў употай
Не аб тым, што загіне —
Немцы з'едуць, а потым
Хто ім дзверы адчыне?

Што рыхтуе ім злыдзень —
Кіне тут? Разняволіць?
Дзень сядзець тут ці тыдзень —
Хто ж каровак падоіць?

Чутна з гэтай цясноты,
Як жалобна рыкаюць —
Там жа ў нас свет работы,
Нас жа хаткі чакаюць.

А тым часам злачынцы —
Творцы смерці й пажараў —
Рыхтавалі «гасцінцы»
Для нявінных ахвяраў.

Па дарожцы знаёмай
Смерць да сцен набліжалі —
Ток абклалі саломай
І — каманда без жалю:

— Гансу факел! Ды будзе
Фюрэр нам у падмогу!
Нішчы гэта нялюддзе,
Набліжай перамогу!

Факел пыхкаў іскрыста,
Ўзняты Гансам высока.
Як на свяце, ўрачыста
Падышоў ён да току.

Ды раптоўна, знянацку,
Факел сплюнуў акалец.
І балюча ваяку
Зноў апёк той жа палец.

Ой жа ж як пеканула —
Зноў пухір нечаканы...
Пэўна, й мама адчула
Сэрцам сынаву «рану».

«Пашкадуй яго, бітва,
Будзь, мой сын, незабіты...»
І ляцела малітва
Аж з Германіі сытай.

А сынок — не ануча,
Ён арыец — не з пешак.
Факел тыцнуў рашуча
У салому, ў падстрэшак.

Пераможна й падлобна
Азірнуўся Іудам.
А салома жалобна
Ўзвыла полымем-жудам.

Запалалі ўсе сцены
Застагналі няўцешна.
І раптоўна страшэнны
Крык рвануўся з падстрэшша.

Зразумелі палонцы
У агністай няволі,
Што ніколі ўжо сонца
Не пабачыць ім болей.

Мітусіліся людзі,
Запляталіся клубам,—
Няўжо ж выйсця не будзе
З немінуемай згубы.

Галасілі жанчыны,
Захінаючы дзетак...
Ток, замест дамавіны,
Для старых, малалетак.

Людзі ў полымі, дыме
Подых смерці адчулі.
І Сяргейка між імі
На руках у матулі.

Як магла, захінала,
Галасіла штосілы:
— Хай адна б я сканала,
Любы, родненькі, мілы.

Мне б адной тут згарэці,
Толькі б ты жыў на свеце,
Мой ты срэбрагалосы,
Мой пшаніцавалосы.

Хай ляцеў бы да неба,
Хай бы цешыўся гуллю...
— Мамка, мамка, не трэба! —
Суцяшаў ён матулю.

— Мамка, мамка, трымайся...—
Дым душыў тыя словы,
Бо ў агні захлынаўся
Хлопчык пяцігадовы...

Шугануў дах агністы,
Завяршыў жах вялікі.
І над вёскай лясістай
Сціхлі стогны і крыкі.

Чорным вокам глядзела
Пляма — дым, як павейкі.
І зямля ссірацела,
І не стала Сяргейкі.

Яшчэ ўчора ён вольна
З сябрукамі галопіў.
А цяпер пад вуголлем
Ператвораны ў попел.

Тут жылі шматгалоса,
Планавалі вяселлі,
А цяпер жыцці-лёсы
У нябыт адляцелі

*

Час бязлітаснай плынню
Ліжа памяць жывую.
А на ўскрайку Хатыні
Салавейка сумуе.

За блакітнаю даллю
Тых жа бед справаздача.
І над спаленай Дальвай
Бусел клёкатам плача.

Над Лясінамі ціша,
Ды званы ў сэрцах чулых...
Час бязлітасна ліжа
Боль трагедый мінулых.

*2010*

Пасля стрэсаў нервашкодных,
Пасля грукатнага дня,
Як паветра, неабходна
Лекавая цішыня.

Век тэхнічна ашалелы,
Век уздыбленых падзей
Дорыць «крызы», дэцыбелы,
Абяздушвае людзей.

Час з разбэрсанаю фалдай,
Пэўна, ўстаў не з той нагі,—
Нібы важкаю кувалдай,
Нішчыць рытмамі мазгі.

Сёння многім, як спрасоння,
Не адрозніць ноч ад дня.
І пытаюць шматмільённа:
— Што такое цішыня?

Сёння грукае прывычна
Час ля кожнага жытла.
Цішыня ж філасафічна
Шмат філосафаў дала.

Сёння цішыню няўдала
Час трымае пад пятой.
Ў цішыні тварыў Купала,
Колас, Пушкін і Талстой.

Мудрасць Бібліі, Карана
З пустазвонствам не ў ладах.
Цішыня маўчыць пашанна
Ў святамесцах — на кладах.

Цішыня й ад стрэсаў лечыць,
Ад нагрымнуўшай бяды.
Цішыня й душу нявечыць
І праводзіць назаўжды.

*

О, старонка Лагойская мілая!...
Адгукніся, былое! Э-гэ-эй!
О, бацькоўская хатка падгнілая,
Ты палацаў усіх даражэй.

Скінь, душа, гарадскую аскоміну
На пахілы, прыветлівы плот.
Вунь, без дыму сумуецца коміну,
Вунь, і яблынь застыў карагод.

Што адпелася — не адгукаецца,
Адквітнеламу — не зацвісці.
І юнацтва ружовую раніцу
Зноўку — ні запаліць, ні знайсці.

О, дарога жыццёвая коўзкая,
Ты бясконцая, кажуць... Ды не!
Дзякуй Богу, што хатка бацькоўская
З ціхім болем чакае мяне.

Цішыня тут вугламі прытулена,
Я аглух ад такой цішыні.
Лягу спаць — калыханка матуліна
Сніцца мне і малечыя дні.

Немагчыма душой не параніцца
На сцяжынах мінулых часоў.
І наіўна здаецца, што раніцай
Цесна зробіцца ад галасоў.

Цішыня з хаты бегла адступіцца —
Кожны з нас гаваркі — будзь здароў!
І за снеданнем шумна зарупяцца
Дзевяць душаў — адзіная кроў.

Так было...
Смех бязвоблачна пеніўся,
Сэрцы крыліў жыццёвы уздым.
А за вокнамі дзень распраменьваўся,
Запрашаў у зялёны абдым.

А за вокнамі — неба блакітнае,
Нібы з шоўку — насіць не знасіць,
І жыццё, у надзеі спавітае,
І надзеі...
У што б іх спавіць?

*

Нібы парнуў у сэрца нож,
І я пад коўдраю падскочыў.
І я прачнуўся...
Ад чаго ж?
Ад цішыні працяглай ночы.

І стомленая плоць мая
Ляжыць з адкрытымі вачамі,
Адказ шукае: — Ў пекле я
Ці ў невылазнай чорнай яме?

О, «лекавая» цішыня!
Не ўсё так проста, гладка, чыста —
Пакутаў катавых радня,
Сястра апошняга садыста.

Яна пранізвае мяне
І вострыць нож за кожнай шыбай.
І кіпцюрамі па-за сне
Крамсае кожны нерв, як дыбай.

Усіх я ў думках абдыму,
Хто ў сэрцы, хто яшчэ ў паміне...
Ляжаць у хаце аднаму —
Нібы ў прасторнай дамавіне.

І мары ў чорнай сумятні
Няздзейсненасцю дол капаюць.
Яны мае — дзе ні зірні —
Нябожчыкамі падступаюць.

Ад неадступных думак-хмар
У сэрцы горычы завея.
Хто бачыў пахаванне мар,
Мяне да болю зразумее.

О, ад званка і да званка
Не жыць без смеху і без суму.
Хто — філасофіі пінка,
Хто — надакучліваму тлуму...

*

І ўсё ж я раніцай — на двор.
Праменіць неба, а не зорыць.
І праваруч знаёмы бор
Мне цішыню прыветна дорыць.

Насупраць, з левае рукі,
Вялікапольны гай зялёны,
Цецерукамі гаваркі,
Ва ўчора, як і я, ўлюбёны.

Бо сёння гаю — цішыня,
Спіць вінавата, сумналіка.
Цецерукоў тых балбатня
Даўно ў мінулым — ні чу-фыка.

А вёска што?
Няма яе.
Лічы, Карпілаўкі не стала.
Бацькоў, вяскоўцаў нестае —
І цішыня ў душу ліе
Цяжар тугі, цяжэй метала.

Нішто не вернеш, плач не плач,
Рэальнасць коліць, як ядловец.
На целе вёскі скулы дач,
А ў вёсцы дачнік — не вясковец.

О, каб у сённяшняе «ёсць»
Вярнуць «было» — ўявіці цяжка...
Што тут была за прыгажосць!
Прырода-неруш, неруш-казка!

А моладзь?
Ці ж лічыў хто нас
Гурты хлапцоў, дзяўчат букеты?!
І хоць «душыў» усіх калгас,
Для вёскі той «вясковы» час
Бліжэй, чым звыштэхнічны гэты.

Мой родны кут згубіў, што меў,
Сціхае й памяці галоска.
І душы пакідае спеў,
І не спявае сёння вёска.

*

Вёскі...
Выміраючыя вёскі...
Сёння вы — сапраўднай вёскі цень,
Адгалоскі даўніны, абноскі —
«Отраженье русских деревень».

Вы старых нагадваеце птахаў —
Селі адпачыць, ды не ўзляцець.
І няма каму, бы ў фільме жахаў,
Ні дзяцей тут нараджаць, ні пець.

Без гаспадароў — двары расхлябы,
Там, дзе ёсць душа — з бязвыйсцем шлюб.
На ўсю вёску — тры-чатыры бабы,
На ўсіх баб — адзін струхнелы зуб.

Мужыкі ж, пасля шасці дзесяткаў,
Ў вочы лёсу: — На які ты лях!
Аджылі па-свойму, без астатку,
І сышлі у свой «апошні шлях».

Вось і ўсё...
Гісторыі ухмылка...
Вёска-прамысловасць — крылы два.
І адно зліняла да падкрылка —
Дык няўжо: «хоць не расці трава?»

Вёска з галавой улезла ў скруху,
І ў тупік пакорліва брыдзе.
Вёска — прывід.
Днём нідзе ні духу,
Вечарам — агеньчык дзе-нідзе.

Новае — ні рыба і ні мяса,
Хай сабе і з шчодрае рукі,
Хай сабе прыгожая грымаса
Антывёска — аграгарадкі.

Я — у вёсцы...
І мой слых збалелы
Прагна просіць: — За-ку-гуй, дзіця!
О як не хапае дэцыбелаў
Светлага, здаровага жыцця.

*2010*

*Люблю цябе, мой Бог, і адвяргаю —*
*Што болей — адвяргаю ці люблю?*
С. Д.

З далёкага далеча,
З бяздоння даўніны,
Маліўся чалавеча,
Каленьмі драў штаны.

Спіну гарбаціў крута,
Масніцы лбом лічыў.
З іконавага кута
За кожным Бог сачыў.

Цуглялі плоць-спакусу,
Грашылі, а затым
Маліліся Ісусу,
Заступнікам святым.

І беззаганнай Дзеве,
І спраўна, з году ў год,
Сваёй рагулі ў хлеве,
Каб не мінаў прыплод.

Маліліся скарбонцы,
Чакаўшай «чорны дзень».
Маліліся на сонца,
На дождж, на ноч, на дзень.

Ды мелі ўсе патрэбу
Штодзённа да яды,
Таму — малітвы хлебу
Паўсюдна і заўжды.

Малітва — немаўлятам,
Слязам жалобных хат.
Былі малітвы й катам,
Прымаўшым лік ягнят.

Гулі за душы бітвы,—
Шмат трапіла ў палон.
Ды час мяняў малітвы
І парушаў канон.

Ёсць грэх, у сэрцы ўросшы,
І, пэўна, ад таго ж,
Хто — моліцца на грошы,
А хто — на востры нож.

І да святога Ойца,
Пасля крутых «уцех»,
Спяшаецца забойца,
Каб адкупіць свой грэх.

Зусім не па загаду —
За мэты ўсе свае —
Мы молімся на ўладу,
Бо выбралі яе.

І спадзяюцца людзі —
І я сярод людзей,
Што дзень наступны будзе
Мінулага святлей.

І ўсё ж жыцця дарога
Ў наступныя вякі
Без веры і без Бога
Крутнецца ў тупікі.

І паратунку дзеля
Я усвядоміць змог:
Святло ў канцы тунэля —
Бог!

*

Увесь свой век
вяду з сабою бітву —
То застые душа,
то адтае.
Я ўсё жыццё
ствараў сваю малітву,
Ішоў праз звышпакутнасць да яе.

Хацеў ад дум сваіх
сябе ж ачысціць,
На пераправе бед
мяняў каня.
Ці ж справа ў тым —
тры пальцы лоб наш хрысцяць,
Ці — злева ўправа
хрысціць даланя?

Лягчэй адрозніць
славу ад бясслаўя,
Чым плыні веры —
хто б мне дапамог? —
Каталіцызм,
ўніяцтва,
праваслаўе,
Буддзістаў, мусульман —
адзіны Бог!

Хоць Бог адзін —
няма адзінабожжа,
Не ўсюды іншаверцаў прызнаюць.
І розныя рэлігіі варожа
Нярэдка між сабой суіснуюць.

Абранай веры —
вернікі дастойны,
Ды свет не перастаў кроватачыць —
Загінулі ў міжрэлігійных войнах
І гінуць сёння людзі —
не злічыць!
Мільёны зніклі, быццам не было —
Дык што рэлігія —
дабро ці зло?

Святая вера, Бог —
для многіх свята.
І я імкнуся з верай
«на пакой».
Як сумясціць:
царква-святар-зарплата,
Катэдж-палац,
абстаўлены багата,
А вернікі —
з працягнутай рукой?

Даруй мне, Божа,
памылковасць гэту,
А, можа, не даруй —
у дол мне кол.
Бо я зжываю сам
сябе са свету
За непатрэбных думак,
«перасол».

Бо што ні год —
чарней душы асадак,
Бо вочы ў вочы —
незнаёмей час.
Як мне стварыць ў душы
светапарадак,
Дзе на пытанне кожнае —
адказ?

Не супраць я
укленчана-адданых,
Уросшых у падлогу галавой.
Пасрэднікаў не трэба
самазваных
Паміж табою, Божа,
і між мной.

Ды бог з табою, Бог —
я не баюся
Маланак-стрэлаў,
кары спадцішка.
Я не люблю канонаў —
і малюся
Сваімі слоўмі,
крыж — мая рука.

І для мяне мая душа —
ікона,
Я вернік для яе
і грахаўнік,—
Адрозніць,
дзе мана гучыць натхнёна,
А дзе маўчыць
святых пачуццяў лік.

Маліцца ўсім святым —
не абавязак,
А прага веры — для сябе святой,
Хачу я сам —
без нічыіх падказак,
Зрабіць свой выбар —
выбар толькі свой.

*

Я нічога ў цябе
    для сябе не прашу —
Ты знаёмы з заможнасцю нашай.
Шлапакі датапчу,
    рызманы данашу,
Дажыву і з аўсянаю кашай.

Не прашу за сябе,
    не прашу за людзей,
Ты караеш нас —
    мала караеш!
І хоць ты — літасцівы,
    і ты — дабрадзей,
Ўсе падставы
    для жорсткасці маеш.

Вунь дзіця — яснавокі,
    бязгрэшны анёл,
Хмар на ранку
    няма і ў паміне.
Колькі розных злачынстваў,
    грахоў, розных зол
На яго чалавецтва абрыне.

І ў душы згасне сонца
    пад ціскам начэй,
І для сэрца грахі —
    нібы краты,
І драпежнасць з душы,
    і няшчырасць з вачэй,
І прысуд —
    ты ва ўсім вінаваты.

Гэту вопратку з дробязных
    спраў не знасіць
І абутак —
    грахоў нашых гіры.

Вось чаму, грэшнік я,
не пасмею прасіць
За сябе й за людзей,
Божа шчыры.

Я па праўдзе не варты
малітваў святых,
Не лунаю ў надзеях
ружова,
Але, скінуўшы сціпласць,
прашу я за тых,
Хто табою пазбаўлены слова.

Ты, магчыма, між справаў
забыўся на іх,
Я прашу, я малюся,
твой сыне,
За бяздомных жывёлінак,
птушак, за ўсіх,
Хто штодзённа
пакутуе, гіне.

Агарні іх цяплом,
не пазбаў іх надзей,
Кінь на лёс іх цяжкі
сваё вока.
Бо і душы — у іх,
як у нас, у людзей...
Як у нас?
Не! Да іх нам далёка.

Не, не з кожнага вока
сляза пабяжыць,
Нам — трагедыя,
іншым — забава.
Жыць пад сонцам, як мы,
не пакутаваць — жыць
Ўсё жывое — усё
мае права.

*

Зіма. Кладземся спаць, бывала,
Ні гуку, толькі мыш скрабе.
А мама штосьці цыравала
І ўсё ўздыхала ўглыб сябе.

О як шкада, што вы не чулі,
Як пры газоўцы ля стала
Мая набожная матуля
Размову з Госпадам вяла.

— Божа мілы,
Божа любы,
Божа родны,
О-хо-хо...
Божа літасцівы,
Божа шчыры,
Божа ўсемагутны,
Э-эхэ-хэ...
Божа слаўны,
Божа даражэнькі,
Божа непарушны,
Ты адзіны ў свеце,
Дзякую, што дзеці,
Дзеткі мае родныя,
Нічога, што галодныя,
Жывыя сыночкі —
Спяць вунь, як снапочкі,
Смокчуць ночы вымя,
І дачушка з імі.
Будзем жыць прыгожа —
Дзякуй табе, Божа...

Пасляваенная галеча,
Ноч, печ, газоўкі курадым.
Я нібы з Богам быў на печы,
Хоць мама размаўляла з ім.

І ўсё ўздыхала, быццам кпіла
З жыцця гаркотнага свайго.
Нічога ў Бога не прасіла
І толькі ўзносіла яго.

Бацькі, па вушы у нястачы,
Дзяцей галодных — аж кішыць,
А мама шэптам Богу дзячыць,
Хоць жыць было — як набяжыць.

Усё было ў жыцці-маланцы,
Жылі, разгортваючы бруд,
Спачатку, як краты, ў зямлянцы,
Затым — гнілы калгасны кут.

І ў ім нішто не дапаможа
Перафасоніць пекла ў рай —
Ні мамы пацеры, ні Божа,
Хоць лямантуй, хоць памірай.

Яшчэ я доўга чуў спрасоння:
— О, мілы Бог... о дзякуй, Бог...
І стала сорамна мне сёння
За мой няўдалы маналог.

Адкуль прыбедніцца патрэба —
З'еш хоць вала — адна хвала?
Ёсць хлеб надзённы і да хлеба,
Душа штодня не без крыла.

Адольваю праблем аблогу,
Яшчэ гарыць жыцця агмень.
Як не сказаць тут:
— Дзякуй Богу!
Не крочыць у наступны дзень?

*

«Не маніся, а Богу маліся» —
Заклікае Стары Запавет.
Я пярэчу: — Спачатку маніся!
Вер сабе — на сябе пакладзіся,
Бог — загадка, паможа ці не?

Тым, хто ў справах нястрымны, гарачы,
Дапаможа й малітва і Бог,
Бо й вадзіца пад камень ляжачы
Не цячэ — тут і Бог не памог.

Чалавек шчыра моліцца Богу
І калені пакорліва гне.
Ды не думае, што й без падмогі,
Калі дужы — не зверне з дарогі,
Сам адолее штосьці ці не.

Перашкоды прайшоў — значыць з Богам,
Не адолеў іх — значыцца сам.
З веку ў век, за жыццёвым парогам —
З верай, з крыўдай на лёс — папалам.

Не, не варта адкідваць нікога,
Месца шмат у душы — й для святых,
І для веры ў людзей, і для Бога,
І для ўласных амбіцый — для ўсіх.

*2010*

*Светлай памяці*
*мамы і таты прысвячаю*

## Я позна зразумеў

Мае бацькі... Ці хопіць слоў і фарбаў,
Душы балючай самых светлых скарбаў,
Ці дапаможа сэрца, пачуццё,
Мне расказаць пра вашае жыццё
Пасля таго, як вы сышлі ў магілу?
Баюся, што мне гэта не пад сілу.
Я позна зразумеў, як вас не стала —
Казалі многа вы — я слухаў мала,
Вось крыўду з абурэннем і глытаю,
Бо ўжо да вас, жывых, не завітаю,
Не можаце вы мне дапамагчы,
Вас не сустрэць, хоць плач ці хоць крычы,
Не дачакацца слова ні паўслова,
Мне не аблашчыць сэрца ваша мова.
І вось пішу, нягледзячы на тое,
Пішу пра вас — пра самае святое.

## Рубеж

Рубеж, Рубеж — прыгожы хутарочак,
Зірнуць бы на цябе адзін разочак,
Калі стаялі тут чатыры хаткі,
Цякло жыццё без хітрыкаў і звадкі.
Тут людзі працавалі, святкавалі,
Хвалілі Бога, плакалі, спявалі,
Насілі ў сэрцы мары і надзеі,
Сабе — паны, сабе — і дабрадзеі.
Як той казаў, па-людску жыць хацелі
І абрасталі скарбам, багацелі.
У кожнай гаспадарцы — тры кароўкі,
Ды тры цяляткі побач на вяроўцы,
Свіней не менш, яшчэ і парасяткі,

Таму са скваркай еліся аладкі,
Таму і тваражок абжыў кліночак,
Ды масельца жаўцела, як жаўточак.
І конік свой, калёсы ды атосы,
Не кажучы пра граблі і пра косы,
Што так у працы чыняць дапамогу —
Усё сваё прыдбалі, дзякуй Богу.
Але між тым галоўнае не гэта,
Ёсць у сялян адна спрадвеку мэта —
Свая зямліца, тут жыцця вытокі,
Ды мелі ў Рубяжы свае валокі.
На іх і лес, і паша, і вадзіца
Крынічная, што піць і не напіцца,
Свае загоны, здобраныя гноем,
Ды яблынькі свае з пчаліным роем.
Хапала дабрабыту тут з запасам,
Мацнеў Рубеж, як дуб мацнее з часам,
Стаяў на маляўнічым ён узгорку,
Таму заўсёды чулі тут гаворку
З суседніх вёсак, ледзь яны прачнуцца,
Да іх кіёчкам можна дацягнуцца —
Харужанцы, і Жукаўка, і Буды.
А вечарам ляцелі адусюды
У той Рубеж дзяўчынкавыя спевы,
І слухалі іх людзі, неба, дрэвы...
У гэтым Рубяжы стаяла хата,
Дзе жыў мой дзед і нарадзіўся тата.
Няхай без нас жыццё ён сустракае,
Бо нас другое месца ўжо чакае.

## Карпілаўка

Ад Рубяжа, якія дзве вярсціны,
Такія ж незвычайныя мясціны.
І лес шуміць ласкава-задуменна,
І на лугах трава вышэй калена,
Крынічныя рачулачкі віхляюць,
Дзе стронгі асцярожныя гуляюць.

І як ні крадзься — мільгануць, як цені,
Пад бераг віславухі, пад карэнні.
У ранічкі агнём палаюць шчокі,
Прыходзіць дзень блакітны, яснавокі,
А вечар як апусціцца між дрэваў,
Аглухнуць можна ад птушыных спеваў.
А ноччу спіш адну, можа, хвілінку,
Бо салаўі спяваюць безупынку,
Ды так спяваюць, што гады хаваеш
І маладосць, і шчасце адчуваеш.
Я нездарма сюды пазваў у госці,
Другой такой не знойдзеш прыгажосці.
Тут і зіма не адстае ад лета,
Не я адзін ужо заўважыў гэта.
Сустрэну — калі ласка, прыязджайце,
Калі зманіў, манюкам называйце.
Тут і сягоння светла і прыгожа,
А як было калісьці, мой ты Божа,
Ні дач табе, ні хіміі, ні бруду,
Ні гэтага чарнобыльскага жуду.
Хоць для жыцця былі цяжэй умовы,
Але жылі да старасці здаровы.
Тут вёсачку трымалі часу хвалі,
Карпілаўкаю тую вёску звалі.
Двароў не густа, мо які дзесятак,
Дый тыя хаты абмінуў дастатак.
Тут елі хлеб, буйным паліты потам,
Прыходзілася гараваць беднотам.
За поўнач кладліся, устаўшы рана,
Але жылі ўсё роўна горш за пана.
Яго фальварак быў на ўскраі вёскі,
Надворныя будынкі, як прысоскі,
З усіх бакоў фальварак абляпілі —
Тут смачна елі, хоць і менш рабілі.
А жыў тут знакаміты пан Лявіцкі,
Які не толькі ведаў лёс мужыцкі,
Не толькі спачуваў чужому болю,
А думаў, як палепшыць бедным долю...

Тут кожнаму было відаць здалёку,
Што вёску іх падпёр з другога боку,
Дзе пралягаў якраз гасцінец мінскі,
Другі суседзе — пане Кабылінскі.
Карпілаўскія сціснуліся хаты
Паміж паноў, як у палон узяты.
Карпілаўцам не ладзілі нягоду
Паны-суседзі, а хутчэй — выгоду,
Іх часта запрашалі на работу,
І людзі жаць, касіць ішлі ў ахвоту,
Бо пан плаціў, не крыўдзіў анікога —
Зрабілася ўзаемнай дапамога...
Вось так тут і жылося між панамі,
І тут даў Божа нарадзіцца маме.
І для яе жыццё было пачата
У той жа год, як нарадзіўся тата.

## Мая матуля

Мая матуля — як гучыць прыгожа!
Цябе заўважыў і адзначыў Божа,
Сцярог ён доўга твайго лёсу зорку
І даў таленавітую гаворку.
Гаворкай захапляла ты імгненна,
Хоць і была бадай што непісьменнай.
Была ты весялуха і, канешне,
Усім на зайздрасць, прыгажуня знешне,
Ты не губляла прыгажосці ў працы —
Касіла, жала, прыбірала ў хатцы.
Ты столькі за жыццё перарабіла,
Што гэтай працы б на пяцёх хапіла.
Не села днём, недасыпала ночы,
Пакуль свае не зачыніла вочы.
І скончылася Боская адзнака,
Ды і за гэта Госпаду падзяка.
Я потым у яго не раз пытаўся —
Навошта лёс цяжкі табе дастаўся?
За што табе на ўсё жыццё пакуты?

Хіба зрабіла дрэннае каму ты?
Цягнула свой хамут у брудзе й поце,
Каб скончыць век у цемры і бядноце...
Цябе жахнуў аднойчы сказ кароткі:
— Ну, Зоська, дык збірайся ў заработкі,
У хаце едакоў занадта многа,
Ды і твая згадзіцца дапамога,—
Казаў так бацька коратка і важка.
Маўчала маці, уздыхнула цяжка,
Бо ты, як мыш, забілася ў куточак —
Табе ж дзевяты йшоў тады гадочак.
Які з цябе работнік, смеху варты,
Але з беднотаю дурныя жарты.
Ні блізкі свет чакаў цябе, ні дальні,
Прыладкаваць дамовіліся ў Пральні.
Туды вяла праз лес дарога-стужка,
У Пральні той была патрэбна служка.
Ты плакала — была таму прычына:
Тут вымыць посуд ты была павінна,
Падмесці двор і павыполваць грады,
Ды і другім паслугам будуць рады —
Прыбраць у хаце, выскрабці падлогу.
Гаспадары ж цябе за дапамогу
Карміць паабяцалі да ікоткі —
Такія вось твае і заработкі...
— У Пральні я, як плотачка на вудзе,
Чужое месца і чужыя людзі.
Сяннік як пух, а спіш як на жалезе,
Хоць смачная, а ў рот яда не лезе.
Ды лепей голад хай духі падцягне,
Чым жыць сярод чужых, як у той багне,—
Такія думкі змучылі дзяўчынку.
І вось аднойчы, выбраўшы хвілінку,
Праз лес дзіця малое падалося,
І збегла ад сваёй пасады Зося.

# Сустрэча

Сталелі хлопцы, і раслі дзяўчынкі,
Рабілі па нядзелях вечарынкі.
Хапала жартаў, смеху, весялосці,
Бо ўсе насумаваліся пры посце.
Ды так давалі полечку ў нядзельку,
З прыстукам і падскокам, аж пад бэльку.
Ды пацяшаліся і кракавякам,
І «Рэчаньку» выконвалі са смакам,
Любілі падыспань, кадрылю потым,
Аж знемагалі, як касцы пад потам.
А як закажуць гарманісту «Ночку»,
Ніводнага не знойдзеш у куточку.
Хлапец дзяўчыну так фацэтна водзіць,
Нібы ён з ёю пад вянец падходзіць.
А як гучэлі розныя фокстроты,
Ва ўсе бакі давалі дыхту боты,
Ды чаравікі з імі білі ў дошкі
І мільгацелі стройненькія ножкі.
Яшчэ пра вальс сказаць асобна трэба,
Каб уявіць яго — зірніце ў неба —
У акіян блакітны і высокі,
Дзе праплываюць лёгкія аблокі.
Плывуць, плывуць павольна, бесклапотна,
Як гэта моладзь круціцца ахвотна,
Бо перад ёю дзён цікавых — мора,
А маладосць не думае пра гора.
На кожным сёння лепшае адзенне,
А як танцуюць важна — заглядзенне!
Рука ў руцэ, адна рука на стане,
Як і належыць — не для абдымання.
Хлапец да дзеўкі блізка не імкнецца,
Каленам да калена не даткнецца,
На ёй, як на паркане, не павісне,
Ды, можа, й хоча, але не прыцісне.
Адкуль такая стрыманасць, культура?
Ды тут даўно сядзіць «пракуратура» —

Без запрашэння, гуртам, без прывабы
Мясцовыя сядзяць на лавах бабы.
Усё падмеціць гэты люд шчарбаты:
— Вунь гэны дык танцуе, як гарбаты,
А тая, як мядзведзь, віхляе задам,
А той як штык глынуў перад парадам,
А стан у гэтай роўны, як у ступы,
А той надзьмуўся, нібы вош на крупы,
А гэны высах, нібы грыб у печы,
А той чырвоны, як клаповы плечы.
Не так глядзяць, не тое апранулі,
А той, пасля гарэлкі і цыбулі,
Пры ўсіх да дзевак лезе цалавацца.
Ну й моладзь — ёй бы толькі штукавацца...
(Усё ім не па густу і благое).
— Ці ж так было даўней?
Было другое...
І хоць зусім ім сон сціскае вочы,
Сядзяць, як совы, да сканчэння ночы,
Няўжо і мы, як толькі пастарэем,
Як гэтыя бабулі паздурэем?
Былі між танцаў і благія ўчынкі,
Але без бойкі што за вечарынкі?
Хлапцы, вядома ж гэта, як нап’юцца,
Становяцца дурнымі і паб’юцца.
Ды каб мясіліся за маладуху,
А то як вып’юць гэтую сівуху,
Дык проста так, за мех пусты паб’юцца,
А потым самі і з сябе смяюцца,
Што, як сябры, пілі пазавуголлю,
Ды раптам паузбройваліся коллем.
Канец, нарэшце, танцам надыходзіць.
Дый сонейка над лесам узыходзіць.
Па вёсках разыходзяцца гулякі —
Дзяўчаты-кветкі, хлопцы-забіякі.
Галоўная чакае закавыка —
Ды хто ж гэта такі ігрэц-музыка,
Што так выводзіў складна, мілагучна
І так мяхі заламваў спрытна, зручна?

Вось тут гамонкі толькі і пачатак,
Бо гарманіст — цукерка для дзяўчатак,
Аб ім у кожнай спадзяванка-мара,
Для прыгажунь любых ён быў бы пара.
Па-першае, што ён прыгожы, статны,
Дый музыканцік, як відаць, выдатны.
Быў ветлівы і сціплы, па-другое,
Нідзе не чулі пра яго благое.
Піў чарку, ды ніколі не ўпіваўся
І з хлопцамі за грудзі не цягаўся.
Дый ведалі, што ён жаніх багаты,
Адзін сынок расце у мамы й таты.
Свая зямля і сад свой, нават пчолы,
Ў хлявах, казалі, не злічыць жывёлы.
І сніўся той куток дзівосным краем,
Дзяўчатам наш Рубеж здаваўся раем.
Стаць гаспадыняй там — было б то святам,
Ды заадно і ўцерці нос дзяўчатам.
Якое б тут шапнуць яму закляцце,
Каб ён прывёў на гэтае багацце?
Так цешыліся дзеўкі ў думках недзе,
Але даўно па-свойму думаў Федзя.
Як цемру гоніць сонечнае ранне,
Так і цяпер перамагло каханне,
Бо юнака, як зорачкі дзве ўночы,
Даўно цягнулі чараўніцы-вочы
Дзяўчыны-мары, чые словы з перцу,
Што хоць пякуць, але патрэбны сэрцу.
А нам яе ўжо ведаць давялося,
Дык то ж яна — карпілаўская Зося.

## Кароткае шчасце

Баліць душа, Рубеж праведаць рупіць,
Дый ваша хай нага са мною ступіць
Туды, куды аднойчы ўжо ступала,
Бо жыць тут людзям засталося мала.
Але Рубеж не ведае пра гэта,

Квітнее ён, як сонечнае лета,
Здаецца, больш прыветна выглядае,
Жыве ў ім гаспадынька маладая.
Гарыць, кіпіць вакол яе работа,
Запал у кожным руху і ахвота.
Не пазычаць здагадлівасці Зосі,
Няма калі цяпер пароцца ў носе,
Варон не лічыш пад свякроўскім вокам
Да цемры робіш летучы, з падскокам.
Гадзіла, як магла, нявесткай стаўшы,
Была цішэй вадзіцы, зубы сцяўшы.
Тут лёс яе не гладзіў па галоўцы,
Замок вісеў тут нават на кладоўцы
(Такія тут спрадвек былі парадкі).
Стаялі там са смачным салам кадкі,
Каўбасы, а ля іх — кумпяк вяндлёны,
І малако, і масла, ды... замкнёны,
А ключык у кішэні быў у свёкра.
— А каб яму заўсёды было мокра,
Няхай мароз грызе яго на печы,
Як ён трасецца над ядой, скупеча! —
Такія думкі мела наша Зося,
Ды свёкру іх чытаць не давялося.
А свёкар, і напраўду, ведаў справу,
Загадваў ён варыць якую страву,
Стаяў, нібы ў аптэцы, у кладоўцы,—
Гуляйце, як цялятка на вяроўцы.
А Зоська ж усміхалася сардэчна:
— Не жыць жа свёкру са свякрухай вечна,
Як не пражыць жыццё ў адным кафтане,
А з Федзем наш калісьці час настане —
Так разважала, хрысцячыся спешна,
Бо мецъ такія думкі вельмі грэшна.
А як сябе паводзіла свякруха?
Яна маўчала, як у цемры муха.
Цягнулася, як пуга за сахою,
Зрабілася, як флюгер над страхою —
Куды павее вецер нечакана,
Туды і ён крутнецца паслухмяна.

Магла глядзець у рот маўкліва мужу,
Пайшла ў замужжа — нібы села ў лужу.
Тут свёкар правіў балем ідавочна.
Ды не бывае ж у жыцці ўсё змрочна —
Спякотай, сушшу, а жывуць карэнні,
І паміж хмар да нас ляцяць праменні.
Былі і тут шчаслівыя гадзіны,
А ўжо як падыходзілі радзіны,
Тады стаяла мітусніна ў хаце,
Бо кожны вельмі рады быў дзіцяці.
Ды Зоську абступалі чарадою,
Ды свёкар сам падносіў сырадою.
І частавалі павітуху-бабку.
А маладыя і не спалі ў шапку,
Раслі тут дзеткі, як грыбы ў радочак,
І так, каб не зманіць вам, праз гадочак.
Бывала, і шыбчэй давалі ходу —
І прыбывала ў Рубяжы народу.
Ці так яны рабілі што, ці гэтак,
Але даў Божа ім аж восем дзетак.
Хай шчасцейка да іх ідзе і едзе...
А як наш малады? Што робіць Федзя?
Якую ён цяпер іграе ролю?
Нажыўшы жонку, ці згубіў ён волю?
Куды там! Не спынілі яго змены,
Як ні трымалі родныя і сцены.
Не раз ён зведаў момант урачысты,
Бо нарасхоп у вёсках гарманісты,
І ўся радня такога шанавала,
А Зося не сварылася, трывала,
Хоць гаварыла часта, боль схаваўшы:
— Ляціш ты з дому, галаву задраўшы,
І граеш на вяселлях, вечарынках.
Калі надыдуць на цябе супынкі?
Ці ж бедныя, не маем мы зямліцу?
Ці зубы ўжо паклалі на паліцу?
А мне ад працы можна й удавіцца,
Сяджу з дзяцьмі адна, як удавіца,—

Як пацеры, сказала адным духам,
А Хвёдар слухаў, ды не вёў і вухам.
Не, ён не жыў, як наравісты конік,
Як жонку ён сваю, любіў гармонік,
І так, як жонцы, аддаваўся музе,
Быў лепшы гарманіст ва ўсёй акрузе.
Ён граў, нібы пад ногі сыпаў жару —
Прымала моўчкі жонка гэту кару,
Дастаўшы з сэрца адзіноты джала,
Ды і сама з сабою развважала:
— Ды тонню хай ідзе яго ігрышча,
Няхай сабе ён лётае і свішча.
Ці з'есць яго там хто, ці пакусае,
Няхай сабе, задраўшы хвост, гайсае.
Заўсёды цэлы нос — ні забіяка,
Ні п'яніца, ні бабнік, ні гуляка
І грошы лёгка так яму даюцца,
У жонак у другіх і п'юць, і б'юцца,—
Ды так і варушыла думак копы...
А побач з Рубяжом былі Акопы.
Бывала, там на свята вырашалі,
Ды Федзю паіграць і запрашалі.
А запрашаў яго не хто папала,
А сам, ужо вядомы ўсім, Купала.
Штогод ён тут адпачываў у маці,
Быў на людзях, не зашываўся ў хаце,
Любіў свае знаёмыя сцяжынкі
Ды пагуляць дакопкі ці дажынкі.
І не трымаў душы ён на засовах.
Таму і ведаў жыхароў мясцовых,
Ды з імі, нібы з роўняй, сустракаўся —
Вось так ён з Федзем некалі пазнаўся.
Сустрэч цікавых з песняром хапала,
У Федзі й на вяселлі быў Купала.
Таксама гэта памятала Зося,
І пацяплела ў сэрцы, уляглося.

## Новыя парадкі

Ад Бога мы прыйшлі ды йдзем да Бога,
Бо вечнага ў жыцці няма нічога.
Як да жыцця ні прагні, ні чапляйся,
А ў гэтую дарогу ўсё ж збірайся.
Калі ўжо выссаў свайго лёсу вымя,
Тады цябе сустрэне Бог і прыме.
Нікому ў гэтым не было адказу,
Ніхто не адкупіўся ані разу.
Ну, а калі ўсяму канец бывае,
Дык і Рубеж сваё ўжо аджывае.
Не думайце, што тут павыміралі,
Тут гаспадаркі сілу набіралі
Ды карані пускалі ў глыб зямліцы,
Сякеры грукацелі, як грамніцы.
А каб сказаць панятліва і шчыра —
Сталелі дзеткі — хуценька і ў вырай.
Таму і ладкавалі тут гняздочкі,
Сямейкам новым ладзілі куточкі.
Бярвенцы падбіралі, як званочак,
Сякерка іх часала, як станочак —
Раўнютка, спрытна, хуценька і гладка,
Любілі працу тут, а мой ты братка.
Вакол вакон рабілі выкрунтасы.
Гэта цяпер на працы менцяць лясы
Ды на гадзіннік толькі пазіраюць,
Без мазалёў пражыць жыццё жадаюць.
Калісьці на уласнай гаспадарцы
Мужык і жонка, нібы коні ў парцы,
Ды дзеці ў кожнай працы, як падпоркі,
А пра калгас тут не было гаворкі.
Ды толькі горб відаць і з-пад кашулі,
І ў мёдзе дзёгаць хуценька адчулі.
Як бура ломіць дрэвы без аглядкі,
Сюды ўляцелі новыя парадкі.
Спярша павыграбалі ўсю скаціну,
А потым разабралі і хаціну.

Забралі лес, зямлю, калёсы, сані,
І ўсе прылады, і прыстасаванні.
Усё, што людзі нажывалі kроўна,
Пайшло ў калгас рашуча і раптоўна.
Стоць галавой ляціць твая работа,
Нібы ў якую яму ці балота.
І лёс скруцілі, нібы перавясла,
І шчасце дагарэла і пагасла.
І дзе шукаць ад гора паратунку,
Калі ў руках усё багацце — клункі?
Павезлі з хутароў усіх у вёскі,
І толькі лямант чуўся і галоскі.
Не стала хат у Рубяжы і сада,
Ўсё парашыла новая улада.
Ды так яна па-свойму парашыла,
Што чалавеча голы стаў, як шыла.
А розум засцілалі, як туманам,
Крычэлі на ўвесь свет: — Зямлю — сялянам!
А самі ababралі ўсіх да крошкі,
Цяпер і для труны не знойдзеш дошкі.
Затое йшлі цяпер на лапці лозы.
А Федзю з Зосяй, гэта ж смех праз слёзы,
Лагодна прытуліў і даў прыпынак
Лявіцкага спустэшаны будынак.
Бацькі ж старыя, гледзячы на мукі,
Не вытрымалі жыць і «склалі рукі».
У гэты вось будынак-сіраціну
Людзей панапіхалі, як скаціну.
Цяпер было тут цесна нават мухам,
Ды дыхалі затое панскім духам.
З такімі засталіся пірагамі,
Усё скруцілася ўгару нагамі.
А потым у дадатак абвясцілі,
Каб лоб набожна болей не хрысцілі.
Не пойдзе новы час па панскіх торах,
А селянін багаты — гэта вораг.
Тады ты свой, калі галеюць пяты,
Калі сярмяг твой абляпілі латы.
І боўталіся, як камар у квасе,

У гэтай завірусе — у калгасе,
Калгасы абвясціць дык абвясцілі,
А ў іх табе нічога не плацілі,
Яшчэ й пад горла нож — давай падаткі.
І гнуўся лёс, як каласок ад жаткі.
Ў вачах пагас агеньчык весялосці,
Нястача, голад запрашалі ў госці.
Таксама ў Зосі кішкі маршы гралі,
Вось з Федзем вы свой час і прычакалі.
Хоць свёкар спіць і саступіў нявестцы,
Ды на пустым вы засталіся месцы,
Бо працадні — што мёртваму прыпарка,
Іх не згатуе й лепшая кухарка.
А каб да край-хваробы не скаціцца,
Было патрэбна кідацца, круціцца.
Рабіў мой бацька дзірачкі ў кішэні
І патаемна жыта клаў паўжмені,
А праз штаны ляцела жыта ў боты.
І так улегцы шыбаваў з работы.
Канешне, з зерня сцелька не мяккая,
Затое і кішэнь не вытыркае.
Хоць таго жыта — кот наплакаў — мала,
Але яно сям'ю і ратавала,
Бо маці хоць якую зварыць страўку,
А гэта трывалей, чым есці траўку.
Рызыкаваў мой тата кожным крокам,
Бо жменька гэта магла выйсці бокам.
За каласок ссылалі чалавека,—
Гары ты гарам, не жыццё, а здзекі...
Заўжды лягчэй у роскашы купацца,
Ды мусіш да ўсяго прыстасавацца,
Бо так ужо зляпілі чалавека,
Без рук, без ног, а ён жыве, калека,
Ды радуецца сонейку і зоркам.
Ці ж нашы зломкі тут? Пра што гаворка?
У іх і спрытнасці, як у вавёрак,
І Федзю — сорак, ды і Зосі — сорак.
Ў такім узросце можна і жаніцца,
А смутку-болю трэба супыніцца.

Ляцелі думкі, і гады ляцелі,
Тым часам і калгасы багацелі.
І стала Федзю горка ў тым фальварку,
Каб ён адзін, а то сям'я на карку —
Валтузіцца, як конь той зацугляны.
Аб гаспадарцы ён будуе планы:
— Няўжо ж вяроўка вечна будзе рвацца?..
І неўзабаве стаў ён будавацца.
О, як ён рваў, прыйшоўшы з працы, жылы,
Таму дамок узняўся сэрцу мілы,
Такі патрэбны, зграбны і прасторны,
Ды ганачак з усходцамі, узорны.
А колькі трэба лаў і табурэтак?
Ўваходзін жа чакалі восем дзетак.
Аж з ног збівалася ад працы маці,
Бо бедным не калыша чорт дзіцяці.
І не былі без працы рукі ў Федзі,
Дапамагалі й чулыя суседзі,
Хто жыў тут у Карпілаўцы спрадвеку,
Хто быў заўсёды рады чалавеку.
А хутка пакланіліся фальварку
Дый у сваім гняздзе кульнулі чарку.
І сталі прывыкаць да роднай хаты,
Дзе потым нарадзіўся я — дзевяты.

## Вайна

Вядома і старому і малому,
Што нават конь бяжыць хутчэй дадому,
Каб ад хлюпоты пад страху схавацца,
Дый гаспадар там дасць падсілкавацца.
Хто з нас не бачыў свой дамок у снах?
Бо шчасцейка — над галавою дах.
Пад ім утульна ды і меней сварак,
Цяплей душы і не цячэ за карак.
Ужо вядома не адным суседзям,
Што родны домік вабіў Зосю з Федзем,
Бо згода ў ім — прыемная жыхарка,

Яны дамоў шнуруюць шыбка, шпарка.
Ёсць да чаго цяпер ім прытуліцца,
Нагараваліся — чаму дзівіцца.
Любілі дом, як грэбеньчык кудзелю,
Як вернікі Вялікую Нядзелю.
Ды не трымалі доўга дом, як тычку,
Адну-другую пасадзілі дзічку.
Нічога, калі хто і пасмяецца.
Не лёгка ўсё адразачку даецца.
Таго, хто ў працы — гультаём не клічуць,
Як кажуць, куранят увосень лічаць.
Прыладзілі пад вокнамі шыпшыну,
Вяргіню каля ганка і каліну
Ды бэзу насадзілі ля паркана —
Як бачыце, не горай, чым у пана.
А Зося дзёрла дзеркачом падлогу
І дзякавала Федзю ды і Богу.
А дзеці, хто малы — у нос цягалі,
А хто сталейшы — маці памагалі.
Стаяў надзейна дом той шанаваны,
Як слізгатою конік падкаваны.
Тут меркавалі жыць ні дзень, ні тыдзень,
Ды, мусіць, лёс такі дастаўся — злыдзень.
Не пражылі і аднаго гадочка —
Усю Айчыну агарнула ночка.
Загаласілі бабы што ёсць духу:
— Адкуль ты, Бог, паслаў нам завіруху?
А каб на таго немца ўсе хваробы,
А каб яму ды выперла вантробы
Праз рот і нос ды праз другія дзіркі.
Няхай яму сабакі вырвуць ныркі!
Ды смертачка хай вочы ім зашые,—
Жанчыны віслі у мужчын на шыях.

*

Як бурай той узнятыя пясчыны,
Пайшлі ад сем’яў на вайну мужчыны
Чаму ішлі насустрач — невядома,

Ды толькі сэрцы пакідалі дома,
Бо родны дом ці дасць Бог зноў убачыць,
Але і лёс ужо не перайначыць.
Вайна свой баль крывавы святкавала,
Душыла чужаземная навала.
Там, дзе прайшлі звярыныя істоты,
Удовы заставаліся, сіроты.
Бязлітасна бяда людзей хвастала,
І для Карпілаўкі чарга настала.
Ледзь сонейка аблашчыла акенцы,
У вёску раптам наляцелі немцы,
Як той каршун галодны на ахвяру —
Бы сонейка схавалася за хмару.
Паскоквалі з машын, загергеталі
І ўсё, што вока бачыла, хапалі.
З хлявоў каровак спужаных цягалі —
О, хутка тут яны перамагалі!
Аж вочы ліхаманкава гарэлі.
А да курэй дык нібы пашалелі,
Качаліся, лавілі іх, хапалі,
І пер’е, на амаль жывых, скубалі.
Зашыўся ў хату нават самы смелы,
Бо дзе-нідзе а сталі чуцца стрэлы —
Сабак ваякі ўсіх пазабівалі,
Яны праходу немцам не давалі.
І сярод гэтай кашы-мітусніны
Не супыняўся злосны крык Грыпіны,
Яна ўжо век, бадай што, дажывала,
Апошніх дзён сваіх не шкадавала.
Махала палкай, плюнуўшы, старая:
— Няхай вам кутніцу павыпірае!
Каб стала вам упоперак курыца! —
Ды больш выразна частавала фрыца.
Не дай вам Бог пачуць праклён-абразу,
Бо вашы вушы звянулі б адразу,
Страчыла доўга словамі па катах.
А тыя распаўзаліся па хатах,
У дзверы лезлі, як краты да норак,
Прыперліся і ў наш знаёмы дворык.

Змясілі кветнічок адладкаваны,
І на вяргіню ўзбіўся бот каваны.
Тупым прыкладам адчынілі сенцы,
І ў хату гуртам уляцелі немцы.
Ад іх нібы святло ў вакне пагасла,
І штык пад нос матулі: — Яйка! Масла!
Дык вось якая чорная навала...
Сабою мама дзетак закрывала,
А ў тых дзяцей на тварах — ні крывінкі,
Пахаладзелі сэрцы, як ільдзінкі.
Куды тут збегчы? Як абараніцца?
Уся надзея — матчына спадніца.
Ды доўга не далі за ёй хавацца,
Бо мусілі на вуліцу падацца.
Прыкладам білі па спіне з размаху,
Штурхалі, выганялі ўсіх з-пад даху,
Хто быў слабейшы, той ляцеў стоць носам.
І крыўдна ім, амаль раздзетым, босым,
За гэты здзек нечалавечы, грубы,
Але ніхто не плакаў, сціснуў зубы.
Дзядоў, дзяцей і баб вядуць да свірна,
Што сярод вёскі прытуліўся мірна.
За што ты, Божа? Ад каго праклящце?
Якой бяды тут робіцца зачацце?
А як дзвярмі ўжо каты загрымелі,
Людцы вось тут усё і зразумелі,
Што і да іх прыйшло з жыццём расстанне,
Не дачакацца новага ім рання.
Крычалі дзеці, бабы адзічала,
Адна толькі жанчына не крычала.
І хоць сама спужалася нямала,
Надзею-думку ў галаве трымала:
Як абдурыць, перахітрыць ёй звера?
Яна рашуча йшла да афіцэра.
Хто ведаў, можа, йшла насустрач кулі,
Чорнавалосая, ў начной кашулі,
І стала, як бярозка прад магілай,
І з болем, з жарам нешта гаварыла.
О, дай ёй, Божа, мужнасці і духу...

А людзі сціхлі так — пачуеш муху,
Як быццам сэрцы перасталі біцца.
Ды цішыню разрэзаў голас фрыца,
Як рэжуць па жывому чалавека.
І хоць у ім яшчэ хапала здзекаў,
Але мякчэй там нешта пыкаў-мыкаў
Ды на людзей гаротных пальцам тыкаў.
На лес паказваў, на такі жаданы,
І паўтараў праз слова: — Партызаны!
Брахаць нарэшце скончыў, пырскаць слінай,
Крутнуўся — і на твары з кіслай мінай
Пайшоў, як той гусак, да легкавушкі.
А людзі страпянуліся, як птушкі,
Не вераць шчасцейку. Ці ж быць так можа?
Няўжо пачуў і злітаваўся Божа?
І ўсе пайшлі ад родных гаспадарак,
Пад кулямётамі ішлі, паміж аўчарак.
Напружаныя, страшныя хвіліны,
Баяліся, каб не стралялі ў спіны.
А немцы зноў да хатаў падляталі,
Спяшаліся кудысьці, гергеталі,
Сваё злачынства сеялі без спрэчкі —
І запалалі хаты, нібы свечкі.
Карпілаўцы ж за дрэвамі стаялі
Амаль што галяком, у чым і спалі,
І з болем між галінак назіралі,
Як родныя хаціны дагаралі.
Хоць ззяла сонца, а ўваччу цямнела,
Ды сэрца халадзела, камянела.
А я пасопваў на руках матулі,
Пазбегшы,як і ўсе мы, першай кулі...
Карпілаўцы, аддаўшы сіл астатак,
Да партызан прыбіліся, як статак.
Сярод сваіх лягчэй яны ўздыхнулі,
Тут іх падсілкавалі, апранулі,
Бо голыя былі, нібы відэльцы —
Павесялелі нашы пагарэльцы,
Глынулі страху, але смерць мінулі,
Жывыя ж — нарадзіліся ў кашулі.

Яны выратаванне тут шукалі,
А іх выпрабаванні зноў чакалі.
І ім, і партызанскаму атраду
Прыйшлося разам трапіць у блакаду.
Тады жыццё маленькі шанц давала,
Ды вельмі многім не пашанцавала.

*

Даліся катам партызаны ў знакі,
Узʼюшыліся гітлерцы-ваякі,
Як восы, што свае нападкі твораць,
Калі іх палкай у гняздзе папоруць.
Нагналі войска нібы для параду,
Каб браць лясы лагойскія ў блакаду,
Ажно звініць за кожным дрэвам зброя.
З баямі пацяснілі ўсё жывое.
На іх шляху зноў вёскі запалалі —
І партызан да Паліка сагналі.
Было, як пекла, акружэнне гэта,
Пачатак цемры, заканчэнне свету.
Тут і жыцця і смерці скрыжаванне.
І дзе шукаць цяпер выратаванне?
А партызанам не пазбегчы бою,
Ды для таго яны й трымаюць зброю,
Каб смерці свой рашучы выклік кінуць,
Ці выйсці з акружэння, ці загінуць.
І выбару няма — яны адчулі,
Адзін напрамак есць — ісці пад кулі.
Цяжкі іх лёс складаўся гэткім чынам.
А што рабіць, падзецца дзе жанчынам?
Ад выбухаў яны сябе не чуюць,
Хоць з дзецьмі і крычаць, і лямантуюць.
Дзе немцы? Дзе свае?
Незразумела.
І сэрца разрывалася, нямела.
Дзе неба? Дзе зямля?
Усё злілося.
Цяпер адно на ўсіх, у кожным лёсе —

Ці спыне бег, ці пашкадуе куля...
І бегла пад агнём мая матуля,
А я ўшчарэпіўся за шыю маме,
А побач, па баках — сястра з братамі.
Імчалі па лясах, крывёй залітых,
Чапляліся нагамі за забітых,
Закапваліся ў мох для ратавання,
Калі між дрэваў чулі гергетанне.
А я пішчэў — ды лепей мяне кінуць,
Бо праз мяне маглі і ўсе загінуць.
А што маніць — дзяцей пад корч хавалі,
Прабач ім, Бог,— астатніх ратавалі.
Мы беглі так балотамі, барамі,
Усе пакуль жывыя — дзякуй маме.
Ды не настала ратавання свята,
На жаль, і нас не абмінула страта...
Дзень патухаў, стаміліся ад бегу,
Шукалі моўчкі месца для начлегу.
Мы на імху ляглі, як на пасцелі,
Ды раптам самалёты наляцелі.
Слупы агню ўздымаліся пад неба —
Куды ляцець?
Дзе ратавацца трэба?
А Бог даў страху — галаву дурную,
І ўсе мы паляцелі ўрассыпную.
Як толькі зніклі жахі агнявыя,
Затрэсла маці — а ці ўсе жывыя?
І ўсталі валасы ад страху ў мамы,
Быў з ёю на руках маленькі самы.
Астатнія жыццё ці ўратавалі,
Ці бомбы іх усіх панакрывалі?
І стала зваць — сляпілі слёзы вочы,
Крычала дзіка рэха сярод ночы.
А маці ўсе галёкала, гукала
І хлапчукоў пачула, адшукала,
Бо тыя адгукнуліся адразу,
А ад сястры ні гуку, ні адказу.
А раніцай, як толькі развіднела,
Знайсці хацелі хоць дзяўчынкі цела.

Шукалі цэлы дзень без перадыху,
А дзе яна — ні вестачкі, ні слыху.
І мы пайшлі далей — не быць тут вечна,
Тут жудасна, страшэнна, небяспечна.
Цяпер ужо, хоць драпака давалі,
Адзін другога моцна шанавалі.
А тут яшчэ і голад прысляпіўся,
І кожны з нас, як толькі мог, жывіўся.
Смакталі шыльнік, хоць і быў ён горкі,
Пра ягады дык і няма гаворкі.
І сыраежкі ўсім былі па густу,
Ды болей елі зайцаву капусту.
Вось так ішлі,
дзе ноччу,
дзе пры сонцы...
Якой маліцца, дзякаваць іконцы
За тое, што ісці дапамагала,
За тое, што жыццё нам ратавала?

*

Карпілаўцы, нібы сіроты-дзеці,
Вайной, бядой раскіданы па свеце,
Але яны да роднае зямліцы
Ішлі, як да ракі цякуць крыніцы.
Ішлі, зямлі не чулі пад нагамі,
Хоць тут іх не сустрэнуць пірагамі.
Хоць тут усё багацце — галавешкі,
Ды цягнуць да сябе маленства сцежкі.
І кожны да сваёй спяшаўся печы,
Такі, відаць, характар чалавечы:
На хатнішча прыйсці, стаць ля парога
І ціха плакаць ад жыцця такога...
Збіралі чарапы ды чыгуночкі,
І дзе-нідзе цягнуліся дымочкі.
Хутчэй зварыць гарачага хацелі
Ды крапіву і вобаратнік елі.
Цяпер, пасля жахлівага былога,
Адчулі як за пазухай у Бога.

А потым бралі розныя бляшанкі
І рылі патаемныя зямлянкі —
Хаванкі-ямы з накрыўкаю з дзёрну.
У іх няўтульна, цесна, змрочна-чорна.
Ды нездарма зямлянкі рыхтавалі,
Яны не раз ад немцаў ратавалі.
Быў і прамень шчаслівага здарэння —
Прыйшла сястра прапалая — Яўгення.
Сталей гадоў дзіцячых выглядала,
Страшэнная, худая — галадала.
Такі цяжар яе трымалі плечы,
Адна між лесу — гэта ж не на печы.

## Буды

Прыйшоў канец навале-завірусе,
Пагналі немцаў з роднай Беларусі.
І людзі сэрцы насцеж адчынялі,
Пакінулі зямлянкі, ачунялі.
І сталі варушыцца, абжывацца
І лепш і больш надзейна будавацца.
Цяпер зямлянкі вырылі з размахам,
Без вокнаў — ды з дзвярмі,
з драўляным дахам.
На жэрдкі зверху сыпалі зямліцу,
Сталы рабілі, лавы і паліцы.
Замест падлогі лапкі, сена клалі
І на такой пасцелі начавалі.
Хто што майструе, нехта нешта варыць,
Маглі аб гэтым людзі толькі марыць.
Ніхто ўжо з жахам не глядзіць на неба,
Дрыжэць, як заяц пад кустом, не трэба.
Адныя толькі думкі свідравалі —
Мужчынкі каб прыйшлі, павыжывалі.
Жыццё ў зямлянцы ў параўнанні з жудам
І ліхаманкай той было нам цудам.
Але спярша з вайны сустрэлі брата,
За ім, праз нейкі час, вярнуўся й тата.

Зямлянка наша сціснулася значна.
І нават пры лучыне было бачна,
Што для жыцця благія тут умовы,
Хоць верць, хоць круць — прыпынак тут часовы,
Тут і сляпы б убачыў — толькі летам
Магчыма жыць у кратавінні гэтым.
Ва ўсе бакі закідваў бацька вуды,
Шукаў, распытваў, трапіў так у Буды.
Там пуставаў такі ж, як мы, няшчасны
Трысцень струхнелы — закуток калгасны.
У падлозе дзюркі, вецер лез праз сенцы,
Дыміла печ, было адно акенца,
Вуглы гнілыя сцераглі падпоркі,
А праз страху і столь глядзелі зоркі.
І зажылі ў трысценку, як за грошы,
А разам з намі прусакі і вошы.
І голад, як заўсёды, побач з намі,
І болей, чым каму, далося маме.
У гэтай беднаце, у гэтым горы,
Нам шанцавала — елі мы шайморы,
Так мама тую бульбу называла,
Што на калгасным полі зімавала.
Сваёй мы не садзілі — не здзіўленне,
Пасля вайны адкуль узяць насенне?
А як старанна ўвосень ні капаеш,
Ды дзе-нідзе, а бульбінку мінаеш.
Вось так яна зімуе, ззелянее
І да вясны згнівае, парахнее.
А вось на поле — нельга. Што тут скажаш?
А зловяць, дык дзесятаму закажаш.
Пасля вайны такое вытваралі —
І за гнілую бульбінку каралі.
Хай людзі пухнуць з голаду, канаюць,
Дый тое, што гніе, не закранаюць.
І кары хоць баяліся не мала,
Нас мама сярод ночы падымала
І ціхенька вяла нас пехатою,
Каб мацалі рукамі поле тое,
Прыемна адшукаць сухі крухмалец,

А то, бывала, як улезе палец
У нейкую цягучую слізготу...
Напэўна, пацягнула б і на рвоту
Дзяўчынак ды і хлопчыкаў сучасных.
Мы ж поўзалі па тых палях калгасных
І так былі гнілушцы кожнай рады,
Нібы ў зямлі ляжалі шакалады.
А раніцай не вытрымаць хвілінкі —
Сядзіш на печы і глытаеш слінкі,
А побач і браты насамі водзяць,
З патэльні, як каты, вачэй не зводзяць.
Як мама частавала праснакамі,
Мы іх глыталі ледзь не з языкамі...
А я, як кажуць, пры сучасным сонцы
Узяў і спёк праснак нядаўна жонцы.
Знайшоў вясной гнілую бульбу тую,
Расквэкаў, на патэльню — і частую.
Як глянуў на сваю я палавіну,
Скрывілася — хоць лезь у дамавіну:
— Ты што? У роце нібы кот нагадзіў!
Такое елі? Мусіць, ты учадзеў?
Я бачыў сам — праснак не вельмі смачны,
Але глытаў і быў яму я ўдзячны.
У Будах мы амаль што жабравалі
І горай, чым пры пане, гаравалі.
Дапрэла, данасілася адзенне,
Ні жменькі на стале, ні на насенне.
Хада наша зрабілася «няходкай»,
Бо на нагах — драўляныя калодкі.
Нам іх сякеркаю вычэсваў тата —
Падзяка Богу, што лясоў багата.
Ў калгасе чалавек быў не ў павазе:
Каб слоўца добрае табе — ні ў якім разе!
На працадзень ні крошкі не давалі,
Падаткамі душылі, рабавалі —
Вось так і выглядала раўнапраўе...
Але павінен я сказаць пра шчаўе
І ад галоўнай думкі адхіліцца,
Бо гэтая зялёная кісліца

У цяжкую гадзіну падтрымала,
Калі галеч-бяднота галадала.
За зернейка, за бульбінку каралі,
А шчаўе мы і сярод дня збіралі,
Пароліся, як мышы, мех штурхалі,
Пакуль яго біткам не напіхалі.
Тады ўжо мама раненька ўставала
І пешшу з ім да Мінска шыбавала.
А мы чакалі маму, час лічылі
І за дарогай па чарзе сачылі.
Бо сустракаць навыперадкі трэба —
Дамоў жа мама не ішла без хлеба.
А голаду не параўнаеш з цёткай —
І шчаўеца збіралася з ахвоткай...
Але людзей не абмінаюць святы,
Ці стол багаты твой, ці не багаты.
Да беднага зірне праменьчык кволы,
Бо і на свята ён галодны, голы.
Заўжды прыходзіў да людзей і хатаў
Святы Вялікдзень — свята з усіх святаў.
Вялікі Дзень не абмінуў і Буды,
А зачыналі мы яго — шарплюды.
Дарослыя прад святам у суботу
Дзяўблі, вучылі розуму блазноту:
— Хто рана ўстане, таму пашанцуе,
Убачыць той, як сонейка танцуе,
Як толькі-толькі крайчык свой пакажа,—
Мы беглі з хаты — ноч была, як сажа.
Спяшаліся, насы збівалі, ногі,
Хутчэй заняць узгорак ля дарогі.
Як вераб’і, сядзелі і дрыжалі,
Ды холаду зусім не заўважалі.
А неба ласкавела, ружавела,
Як быццам яно цемру разгавела.
А мы ў сябе паветра ледзь цягалі,
Не дыхалі нібыта, не міргалі.
І ўсе чакалі — гэта ж раз на годзе
Танцуе ясна сонейка пры ўсходзе.
І вось ён, цуд! Яго мы ацанілі.

Дарослыя і праўда не манілі.
Заззяла сонейка ў ружовых далях,
Нібы яно плыло ўгару на хвалях,
Гайдалася яно і трапятала
І ганарылася, што рана ўстала.
А потым зрання — самае святое
Давала мама снедаць сёе-тое.
Перш-наперш, як спрадвек ужо вядзецца,
Перад ядой патрэбна разгавецца.
Хрыстосваліся, потым яйкі бралі
І іх у соль свянцоную мачалі.
Малыя ж, хоць штодзённа галадалі,
Не елі і на дзверы пазіралі,
Круціліся бесперапынна, жвава,
Нібы пад імі жар быў, а не лава.
Сталоў не трэба дзецям ладкаваных,
Схапіць хутчэй бы яек фарбаваных.
І кожны так — з апошніх ног імчыцца
З сябрамі ў яйкі на двары пабіцца.
А ўжо чыйго яйца насок вастрэйшы,
Той меў і выгляд значна весялейшы.
Хадзіў як певунік ён, а ў завяршэнні
Насіў і яек поўныя кішэні.
Знаходзіўся між нас і хітры малец,
Мог паміж яек і падставіць палец.
Ды і дзяўчынкі з яйкамі гулялі,
Рабілі горачкі з пяску і там качалі.
Хадзілі валачобнікі між хатаў,
І весялілі ўсіх гармонік татаў.
З павагай пелі хатцы і паненцы
І запрашалі адчыніць акенцы:
— Проша паненцы
Адчыніць акенцы,
Хрыстос васкрэс —
Сын Божы...
А гаспадыня праз акенца клала
У кош, які насілі, яйкі, сала.
А хто даваў і самагонкі глечык —
Ад спеваў тых не лез ніхто ў запечак.

І для дзяцей не скончылася свята,
Трэба было яшчэ аббегчы хаты
Ды прымаўку сказаць там пра яечка —
Калі адмовяць — здохне ў іх авечка,
Прадоўжыць прымаўку пра тое ж кока —
Калі адмовяць, вылезе і вока...
Гулялі людзі шчыра і заўзята
І дзякавалі Божаньку за свята.
А потым зноў прыходзілі, як ночкі,
Бясконцыя і змрочныя дзянёчкі.
Цякло жыццё ў гаротна-смутным часе,
Ўсе дні здароўе клалася ў калгасе,
Начамі ж, пры лучыне, ў цемры хаты
На вопратку ляпіла мама латы.
Штоноч, штотыдзень латала нанова,
Многаслаёва, рознакалярова.
Іх клала так і сяк, сляпіла вочы,
Адзенне ладкавала нам паўночы
Ды і спявала для сябе ўціхую,
А я не спаў і слухаў песню тую:
— А каб таго каваля, каваля
Мяцеліца задула, замяла,
Як ён мяне маладу, маладу
Ды змарозіў на ляду, на ляду...
Трывалі мы, да Будаў прывыкалі,
А нас ужо наперадзе чакалі
Жыцця, а мо каго другога здзекі —
Бяда, як конік з лысінай — навекі,
Прыслепіцца, а з ёю вельмі брыдка,
І цягнецца, як за іголкай нітка.
Як бацька столь ні падпіраў, ні ладзіў,
А гэтага здарэння не адвадзіў.
На столь было ўвесь час надзеі мала,
Яна падлогу і пацалавала.
Былі б жыцця далейшага зазімы,
Ды дзякуй Богу — на дварэ былі мы.

## Пераезды

На новым месцы і дубок хістае,
А на адным і камень абрастае.
І не было нам на зямлі прыпынку,
Насіла нас жыццё, як парушынку,
Ды многае за нас і вырашала,
Цярпець яго капрызы вымушала.
У Мінск паехаў тата без загаду
Трымаць з сваім пляменнікам параду.
Адтуль вярнуўся хмуры, невясёлы —
І зноў да нас зірнуў праменьчык кволы.
І зажылі, нягледзячы на гэта,
Пад Мінскам у будынку сельсавета.
Будынак быў вялізны і цагельны,
Палову клуб займаў пусты-пустэльны.
Пабіты вокны, выламаны дзверы,
А на падлозе розны бруд, паперы,
Так выглядаў куток культурны гэты.
Былі праз дзверы побач кабінеты.
Каб скончыць пра будынак той гаворку,
Да нас заходзьце ў госці — у каморку.
Не, нездарма яна так абазвана,
Няўтульна выглядала, шэра, цьмяна.
Святло адгэтуль назаўсёды збегла,
І волка тут было, вядома ж — цэгла.
І тут калгас, і тут адны парадкі,
Таксама з абяцанак тут аладкі.
Яны ж у горле, як хрыбет ад рыбы,
А пад нагамі толькі гразь і хібы.
Жыццё, як сшытак, на шматкі парвана,
І часта мама ўспамінала пана:
— Паскардзішся паночку і паплачаш,
Дык нейкую карысць за гэта бачыш.
Хоць гонар быў у іх, але й сумленне,
Рубель які давалі ці насенне,
Цікавіліся пра жыццё, пра дзетак
І суцяшалі словамі кабетак.

А што была Лявіцкая за пані!
Ніколі не спыняла намаганні,
Каб несці разам клункі бабскай долі,
Штодзень яна са жнейкамі на полі,
Дапамагала нам і частавала
Ды душачкай жанчыну называла.
А што цяпер? — пакрыўдавала мама.—
Куды ні кінься — то сцяна, то яма,
Ніхто не пашкадуе, не спытае,
Бадзяешся, нібы жабрачка тая.
Ці ж багацець мы хочам, разжывацца?
Хоць бы калгас памог пабудавацца...
Пабег бы ў тую паншчыну, здаецца,
Усё ж у параўнанні пазнаецца.—
Праходзіў час — і прыбядняцца годзе,
У гэтым самым пяцьдзесятым годзе
Узнесла нас жыццё амаль пад неба —
Маглі мы есці, колькі ўлезе, хлеба.
Дагэтуль мама хлеб нам выдавала,
Цяпер — не замыкала, не хавала.
І зараблялі ўжо браты патроху,
Хавала мама грошыкі ў панчоху.
Абходзіліся самым неабходным —
Не быць бы толькі голым і галодным.
Збірала грошы мама для задатку,
А вось калі сваю прыцэнім хатку.
І дзе б ты ні бадзяўся, а спрадвеку
Ён жыў у сэрцы, сніўся чалавеку
Куток, дзе нарадзіўся ён калісьці —
І думкі толькі там шукаюць выйсце.

*

Няўжо ж яна збылася, думка-мара?
Няўжо пашкадавала лёсу хмара
Ды адпаўзла ад нашага прыхіла
З-над галавы да краю небасхіла?
Усхвалявала нас падзея гэта!
Мы ехалі, мы беглі з сельсавета,

Мы ўспаміналі шчасцейка рачулку,
Што несла нас да роднага прытулку.
Уласны дом! Цудоўныя два словы.
Нічога, што маленькі ён, не новы,
І не бяда, што грошы ўсе мы стрэслі —
Нас да яго надзеі-крылы неслі.
Я ехаў — чатырнаццацігадовы,
Цягнуўся я, як парастак садовы,
Да сцежак тых, што толькі сэрцу бачны
І да канца жыцця якім удзячны.
Бацькі ж мае, што працавалі змалку,
Былі, як лён, прапушчаны праз мялку,
Як той буквар, пасля гадоў вучобы,
Як шашаль, патачылі іх хваробы.
Душа гарэла, ды згасала цела,
І сіла пакідала іх, зніцела...
Карпілаўка прыветліва сустрэла,
Але жыццё хмурэла, вечарэла,
Растала, нібы кропелька ў пясочку —
Не абысці і не аб’ехаць ночку.
Якая крыўда — ледзь расправіў крылы,
А бачыш край жыцця, абдым магілы.
А я, падлетак, ад калгаснай працы
Не бег, пачаў больш смела дакранацца.
Асвойваў вілы і з касой пазнаўся,
Ды болей з плугам мучыўся, змагаўся,—
Куды той плуг, туды і я папёрся.
Пазней ці падужэў, а мо прыцёрся
І роўна гнаць барозны налаўчыўся,
Смяяліся: раўней, чым бык, мачыўся.
У ботах ці валёнках, у ватоўцы
Хадзіў я, як і ўсе аднавяскоўцы.
І гонар не зыходзіў з майго твару,
Калі мне даручылі коней пару.
А доўгімі зімовымі начамі
Стаялі, як жывыя, прад вачамі
Героі розных кніг. У захапленні
Усе я з імі перажыў імгненні.
Кусок жыцця майго шчаслівы самы!

Я неабходны быў для таты, мамы.
Касілі сена з бацькам мы кароўцы
І для зімы з ім гатавалі дроўцы.
А разам з мамай хату прыбіралі,
Садзілі бульбачку і выбіралі.
А потым, напярэдадні зазімка,
Чакаў ласунак — сальца-свежанінка,
Пад бок давалі шылам парасяці,
Як кажуць — Бог жыве цяпер у хаце.
Няўжо мяне займала толькі праца?
Любіў з ружжом па лесе пацягацца,
Ганяў зайцоў, вавёрак, розных птахаў,
Ды толькі мала біў, хоць многа бахаў.
Бывала, дома ладзілі нараду
І з братам Кастусём ішлі ў засаду,
Аж да гары Вапеннай шыбавалі,
Там барсукоў ля нораў пільнавалі.
Звяруга гэты чуткі, асцярожны,
Таму яго перахітрыць не кожны.
На што ўжо спадзявацца нам, блазноце?
Як кажуць, звер у лесе, слінкі ў роце...
У будні дзень шчыміць спіна ад поту,
Таму чакаеш кожны раз суботу,
За многа вёрст ідзеш на вечарынку,
Таўчэшся ноч усю бесперапынку.
Зноў потам з галавы да ног памыты,
«Дзяўбеш» дамоў, ідзеш, нібы пабіты.
Ды акрамя ўсяночных вечарынак
Быў і другі «культурны адпачынак» —
Старыя й моладзь рэзаліся ў карты,
Усё было — шальмоўства, крыўды, жарты,
Аж дом дрыжэў ад зборышча начнога —
Любілі ўсе гуляць у «падкіднога».
А што наш чалавек у вёсках бачыў?
Ні радыё, ні тэлеперадачаў,
Няма і клуба адпачыць культурна,
Таму штовечар рэзаліся ў «дурня».
Любілі й святы мы, былі ім рады!
А як мы варажылі на Каляды!

Валёнкі перакідвалі праз стрэхі,
І падпіралі дзверы для пацехі,
І растаплялі воск, і разлівалі,
Не спалі і ўсю ноч калядавалі.
Але знайшла мяне знянацку вестка —
Паклікала ў ваенкамат павестка.
Заплакалі бацькі, засумавалі,
Калі мяне ў салдацікі прызвалі.
Цяжэй стала трымацца і крапіцца —
І хто цяпер падасць вады напіцца?
Жыццё не гладзіць старасць па галоўцы...
А брат мой жыў у аднапакаёўцы —
І да сябе на ціхенькі завулак
Забраў у Мінск, даў старасці прытулак.

*

Вось так жыло старое пакаленне,
А зараз, як трухлявае паленне,
Чапляецца за ногі, замінае,
Жыцця загон апошні дажынае.
Пакутавалі, гора гаравалі,
А мы старую студню заплявалі.
Сучасная цяпер пад намі лава,
А што было даўней — нам не цікава.
А ў тым «даўней» жыцця крынічка б'ецца,
Крынічка тая продкамі завецца.
Настане гэты час, на жаль, настане,
Бяда сустрэне нас — бацькоў не стане,
Тады ўжо позна зваць, крычаць, галёкаць,
Ды і не ўкусіш, хоць і бачыш локаць.
Як пры жыцці — сваіх бацькоў мы знаем,
А як памруць — дык крочылі мы краем
Па лесе іх, па іх слязах-пакутах,
Мы ходзім у сваіх нікчэмных путах.
І вынік быў няўцешлівы, балючы —
Нам сэрцы грэюць відзікі, анучы,
Нас у палон бяруць свае турботы,
А паглядзець назад няма ахвоты.

Сказаў, што «нам», дый усміхнуўся горка,
Пра маладзейшых тут ідзе гаворка.
Не дзіўна, бо мой век сталейшы значна
І час мы не праводзілі лайдачна.
Але і мы далёка не анёлы,
І нашага рыпяць сумлення колы.
О дзеці, дзеці! Лёс вас аклікае.
Няўжо міне вас старасць, не чакае?
Ці ж гэта людзі, як каменні тыя,
З вушмі — глухія, пры вачах — сляпыя?
Не тое напісаў — пераіначце,
Калі каго пакрыўдзіў, дык прабачце,
Бо як ні дбай — абыдзе недазволы
І ўціснецца ў радкі радочак кволы,
Нібыта ў лазню венічак яловы.
Але і я не браў са столі словы,
Бо сустракаў не раз душы нястачу.
Не толькі я гляджу — яшчэ і бачу.

## Таленты

На таленты спрадвеку не скупіцца
Лагойская карміцелька-зямліца,
Іх самабытнасць дорыць людзям шчодра...
Жыў у Карпілаўцы Гаеўскі Пётра,
Такіх мог накруціць са слоў кілбасак,
Любую бабу затыкаў за пасак,
Яму зманіць было, што з’есці скварку.
Бывала, выйдзе, прыпячэ цыгарку,
Усіх акіне сваім вокам жвавым,
Зацягнецца і кажа нам, разявам:
— Іду я гэта неяк праз узгорак,
Каб не зманіць, здаецца, быў аўторак,
Гадоў таму назад, можа, з дзесятак.
І ліст жаўцеў — быў восені пачатак.
Я ведаў, дзе які казляк хаваўся,
І з кошыкам да іх накіраваўся.
Гляджу сабе направа і налева,

Іду і раптам, як ілбом у дрэва,
Так супыніў сваё я жвава цела,
Ледзь галава з плячэй не адляцела.
Паверыце ці не, мае вы браткі,
Спаў заяц так, нібы прапіў манаткі.
Звычайна заяц, як шалёны, драпаў,
А гэты каля самых ног пахрапваў.
Разлёгся, разамлеў, нібы на печы,
Я ледзь яму не наступіў на плечы.
(Яшчэ глыбей, яшчэ смачней зацяжка.)
Ў такім выпадку разабрацца цяжка,
Як мяса гэта ўзяць без дубальтоўкі —
Наклаў напэўна б поўныя начоўкі.
А побач камень быў, не камень — глыба!
Яго падняў я, лезлі вочы дыба,
І гахнуў ім, аж пыл да хмар пагнала,
Аж пахіснулася зямля і застагнала.
А ён на свежы бок перавярнуўся,
Бо я на валасінку прамахнуўся.
Як быць далей? — хвалюе думкі пошук,
Дай, думаю сабе, накіну кошык
На галаву заспанаму касому
Ды і жыўём яго прыпру дадому.
Як кажуць, тут і скончылася спрэчка,
А заяц быў як добрая авечка.
І хоць трава — штодзённая дыета,
Ад'еўся, адкарміўся ён за лета.
Ледзь кошык я на лоб яму накінуў,
Як ён падскочыў і імгненна згінуў,
Аж іскры высякалі яго пяткі —
І новы кошык знёс, мае вы браткі,—
Зарагаталі ўраз аднавяскоўцы.
А Пётра ж свае выдумкі ў галоўцы
Мяняў і нараджаў, як правіў войскам:
— Знайшлі маю прапажу пад Лагойскам,
За сорак вёрст ляжаў мой кошык лепшы —
Во пёр дык пёр той лежабок аслепшы!
Тут поглядам Пятрок усіх абмераў,
Барані Божа, калі хто не верыў.

— А дзе той кош? — пыталіся па-свойску.—
Напэўна, у музеі — у Лагойску?
Курыў Пятрусь ды і без абвяшчэння
Працягваў сказ пра новае здарэнне:
— Я памятаю дзень той, як цяпер.
Памыўся я, бо чысты быў чацвер,
І сеў на прызбу ўволю накурыцца.
А побач ходзіць белая курыца,
Дзяўбе там нешта, порацца, глытае,
Ды шэрая да гэтай падлятае,—
Звычайная курыца як курыца,
І пачалі паміж сабою біцца.
Хоць шэрая малая і худая,
Але да белай зверху насядае,
Ажно ляцяць курыныя іх патлы.
А я сяджу сабе, як у тэатры,
Смалю сабе тытунь і назіраю,
І так цікава мне, ажно згараю.
Што шэрая дужэй — такі я рады,
Бо белая дзярэ бязбожна грады.
Хоць, праўда, тры разы на дзень нясецца.
Як глянуў я, яна ляжыць, не б’ецца,
Не дапаможа нават ёй бальніца...
А шэры быў каршун, а не курыца.
І сыпаў ён, як бульбачку ў барозны,
Меў Пётра выгляд важны і сур’ёзны.
Прасіў, бывала, хтосьці надта жвавы:
— Ты раскажы, як бралі языка вы?..
Тады рваў Пётра новую паперку,
Круціў цыгарку, як дзіця цукерку,
Ды для вагі маўчаў у задуменні...
Вяскоўцы ж чулі гэтыя здарэнні,
Да іх прывыклі, нібы да фуфайкі,
Амаль на памяць вывучылі байкі.
А Пётра пачынаў апавяданне:
— Далі мне неяк з хлопцамі заданне —
Даставіць «языка» да камандзіра,
Крыху я здрэйфіў, прызнаюся шчыра.

Злавіць і прыцягнуць жывога фрыца —
Гэта ж не заяц вам і не курыца.
Як тая гніль затоіцца ў пашчэмцы,
Зашыліся ў Янушкавічах немцы.
Каб нос у лес уткнуць, для іх — забойства,
Вось так яны паказвалі геройства.
А нам патрэбен хоць адзін смярдзючы,
Ды возьмеш яго як у гэтай кучы?
Тады ўжо я, каб скончыць нашы мукі
(А як вядома, здольны я на штукі),
І апрануў дзявочае адзенне,
І стаў такой паненкай — заглядзенне.
Качаліся ад смеху партызаны,
Як пад сукенку я паддзеў падштаны.
Хусціну мне бялюткую надзелі,
Напхалі над патыліцай кудзелі,
Ануч замест цыцок прымацавалі
Ды самі ледзь мяне не цалавалі.
І падаліся пёхам, дзе трусцою
І падышлі да месца раніцою.
Тут я крыху сукенку залупляю
І гэтак каля лесу «прамінаю».
Туды-сюды павольна шпацырую,
А вось якога дурня прычарую.
Ды мы не засталіся без удачы,
Знайшоўся валацуга нецярпячы.
Ды на мае ўтаропіўся каленкі,
А я вышэй цягну за край сукенкі,
Ды за кусток, за дрэўца, за ялінку —
Як на вяроўцы, вёў гэту скацінку.
А ён мяне як згроб, як выпер вочы,
Арыец, а да баб чужых ахвочы,
І валіць у траву, як куль вязаны,
А зверху нас накрылі партызаны...
Пакінем Пётру ля свайго парога,
Бо і другіх людзей цікавых многа.
І хоць радкі, як у аптэцы, важыш,
Аб кожным чалавеку не раскажаш.

Як жыў, напрыклад, тут Габрэль з Любінай,
Як той жа Пётра сустракаўся з Нінай,
Здавалася, свой лёс за хвост схапілі,
Ды так, на жаль, гнязда і не зляпілі.
Як з Тодарам жыла калісьці Зося
І што Дзям'яну з Зосяй давялося,
Як бедны Людык жыў, падцяўшы кішкі,
І як раслі дзяўчаткі Каптурышкі,
Не абмінуць Настасю ды і Юрку,
Пагутарыць, прысеўшы на падмурку.
Пісаць аб кожным можна паасобку,
Ды мусіш дзе-нідзе а ставіць кропку.
Не абысці ніяк умоўных рамак,
Бо слоўца вельмі любіць сэнс, напрамак.
А калі так — навошта мне туляцца
Ды ад задумкі-сцежкі адхіляцца?
Іду ў бакі таму — упэўнен цалкам,
Што без галінак дрэва — проста палка.
Гады падзей цікавых многа сцёрлі,
А хто каменьчык першы клаў — памёрлі.
Карпілаўка ляціць уніз жахліва
І сёння выглядае сіратліва.
Свой век такі складаны дажывае,
А сэрца яшчэ болей саграваe.
Тут многае цяпер пераацэніш,
Ды толькі мала тут каго сустрэнеш —
Нібыта вынік нейкага праклёну...
Іду да Васілевіча Лявона —
Апошняга мужчыны з гэтай вёскі.
А ён сядзіць у дыме папяроскі,
Падкінь сякеру — дык яна павісне,
Вітаюся, і ён руку мне цісне,
І не іду далей я, не мінаю
А успамін-гаворку пачынаю.
Здаецца мне, што ў памяці Лявона
Ёсць штосьці ад машыны электроннай,
Ён памятае дні любога году,
І ўсе праявы дзён тых і пагоду,
І хто калі памёр і нарадзіўся,

Хто нават па разліку ажаніўся.
Нічога тут не скажаш — цуда-памяць.
Ды, пэўна, і Лявон нярэдка зманіць.
І хоць гаворыць складна гэты дока,
Ад Пётры адкаціўся недалёка.
Праз дым густы перад пытаннем гляне:
— Ці ведаеш ты, як Лявіцкі пане
Два дрэвы зводзіў у цікавым шлюбе —
Рабіў прышчэпы на звычайным дубе?
— Няўжо рабіў? — пытаюся з сумненнем.
Лявон ускочыў ды і з захапленнем
Працягваў сказ, пусціўшы процьму дыму:
— Як толькі сонца праганяла зіму,
Лявіцкі зрэзваў маладу дубочак
І ў гэты зрэз таркаў, як у гаршчочак,
Ад яблынькі танюткую галінку,
Замазваў нечым, сам жа праз хвілінку
Рабіў другому дубу харакіры.
І выраcталі яблыкі, як гіры,—
Лявон бажыўся, папяроскай кляўся,
Што нож аб тыя яблыкі ламаўся.
(Хапаўся ад здзіўлення я за вушы.)
— А як той пан прышчэпліваў ігрушы!
Шчапіў іх не на дубе, а на елцы,
Ігрушы выпіралі па талерцы,
Даўгія, як бутыль,— не надзівіцца,
А з тых ігруш аж капала жывіца.
А што за смак быў — не раўня дзікушкам!
Зайздросціў мёд Лявіцкіным ігрушкам —
Лявон і мне адразу даў параду,
Каб я сабе завёў такога саду...

І разважалі мы пра час забыты,
Што пан Лявіцкі — быў таленавіты,
Як тут казалі, пан той падкаваўся,
Бо кніжкі ён пісаў і друкаваўся.
І рады я, што ў выдавецкім моры
Мне трапілі аднойчы яго творы.

І кніга мяне моцна ўсхвалявала —
Ядвігін Ш. на вокладцы стаяла.
Чытаў яе, не клаўшы на паліцу,
І дзякаваў за таленты зямліцу.

## Агата

Мае людцы! Няўжо ж мінём Агату?
Давайце зойдзем да яе мы ў хату,
Дзе ўсё багацце — ложак, стол і лава,
Дзе будзе вам, упэўнены, цікава.
Дармо, што падгнілі вуглы, бярвенцы,
Што тут падслепаватыя акенцы,
Што дах прысеў, як заяц з перапуду,
Не раз я тут бываў — маніць не буду.
Цягнула ў гэты дом і ў непагоду
Усіх мужчын, як мух тых да смуроду.
Вы здзіўлены, чаму так? Калі ласка.
Не, не жыве тут прыгажуня-краска.
А гэткая ж трухлявая, як хатка,
Старая, але шчырая Агатка.
Дало ёй у жыцці адной застацца,
Здароўе з’елі гора, голад, праца.
І лёс яе круціў, як рэчка крыгу,
А замест пенсіі пад старасць — фігу.
Такое мела не адна Агата,
А ўсе старыя, з імі мама й тата.
А каб з драпежным голадам не знацца,
Патрэбна было неяк ратавацца.
І ціснула Агатка самагонку,
І завяла для грошыкаў скарбонку.
Агатка? Самагонку? Вось дык дзіва!
Дарэмна вы паўскоквалі крыкліва,
Дарэмна ўраз усе залапаталі,
Што ў кожнай хаце самагонку гналі.
Яно дык так, ды не зусім, браточкі,
Агата вас сустрэне й сярод ночкі,

Ды ля бутэлькі пакладзе і скварку —
Забудзешся тут і пра гаспадарку.
Агата гнала тую самагонку
Чысцей за слёзы і смачней за жонку.
Другія брагу ведалі таксама,
Але як стануць гнаць — мая ты мама!
Адну як вып’еш, нібы сырадою,
Ні ў водным воку, так — вада вадою.
Другая падгарыць, зусім зрудзее,
Ад першай чаркі затрасе й зладзея,
Дае пад нос, як падла ля дарогі,
Нібыта ў ёй памыла цешча ногі.
А гоняць і з курынага памёту,
Не дай Бог выпіць гэтага «кампоту»,
Бо ён прымусіць і быка зваліцца,
А раніцай не можаш пахмяліцца —
Трасе цябе, валтузіць і калоце,
Дзярэш «казлы», павіснуўшы на плоце.
А што за самагонка ў той Агаткі!
Сагрэе ўсё — патыліцу і пяткі,
І зубы скаліш, бо само смяецца,
А сэрца, як у маладога, б’ецца.
І хоць яе ты вечарам напіўся,
А раніцай, як быццам нарадзіўся
І розум твой яшчэ святлей нібыта,
А ўсё таму, што самагонка — з жыта.
І ўсё-ткі для «шэдэўра» жыта мала —
Агата ў свой напой душу ўкладала.
Ішлі па самагонку да Агаты
Сур’ёзна і ўрачыста, як у сваты.
Даўней зімой прыпрэшся, скінеш лыжы,
Сядзіш сабе ў цяпле, як у Парыжы.
Калі каму ўжо грошай не хапала,
Тады Агата напавер давала,
Усё табе, што хочаш, як на блюдзе —
Няхай жа ёй зямля пярынай будзе...

## Роздум

Вось мы і падышлі да заканчэння.
Пра ваша я не ведаю рашэнне,
Напэўна, водзячы, я вас і змучыў,
Ды горш за ўсё размовай надакучыў.
А калі так — свой ганачак на клямку,
Адзін пацісну я ў другім напрамку.
...Знаёмая, самотная дарога,
Яна вядзе малога і старога,
Усіх, хто не згубіў свайго сумлення,
Да вечнага прыхілу-супынення.
І хоць нясуць сюды не шыбка ногі,
Ды мы ніхто без гэтае дарогі,
Бо ёсць на свеце ісціна святая:
— Без каранёў нішто не зацвітае...

*

Крыжы, крыжы, аградкі-агароджы,
А дзе-нідзе і помнічак прыгожы
(Ды прыгажосць на могілках — умоўнасць),
Але прыемна бачыць усё роўна,
Што гэты Божы кут — уладкаваны,
Што людзі тут як людзі пахаваны.
А я здалёк заўсёды пазіраю
На помнік, што мяне чакае з краю —
Два родныя знаёмыя партрэты.
Апошняе, што мог я — помнік гэты,
Як жаль мой несуцешны, камень чорны,
Цяжкі, як вечны боль, як смутку жорны.
Мая матуля, я прыйшоў, твой сынка,
Маленькі самы твой, твая крывінка.
Устань, хутчэй пакінь ты цемру тую,
Хадзем дамоў, я снеданне згатую,
Як нам усё жыццё ты гатавала,
Калі раней за сонейка ўставала.

І ты ўставай з матуляй разам, тата,
Спраў дома назбіралася багата.
Падгледзіш пчолак, як даўней, зайграеш
Ды слоўца скажаш важкае, параіш.
Падклепіш мне прытупленыя косы,
Ты ж так любіў раўнюткія пракосы.
Уставайце, пойдзем, хопіць, паляжалі,
Унучкі вашы дзетак нараджалі.
Пагутарым сардэчна, як бывала —
Ці ж вам у хаце месца было мала?
Глядзяць ласкава, а ў адказ ні слова...
А я іду далей абавязкова
Да помнікаў маўкліва-нерухомых
І пастаю ля могілак знаёмых.
Апошнія свае сказалі слоўцы
І ціха спяць мае аднавяскоўцы,
Ды я і сам тут з імі буду хутка,
Але ад гэтай думкі мне не жутка.
Не першага мяне слязьмі абмыюць
І не апошняга пяском накрыюць.
А чалавек, сышоў хоць з каляіны,
Жыве, пакуль не згаснуць успаміны.
Згасаюць і яны — усе мы сведкі,
Тады на могілках растуць не кветкі...
Мінулае блішчыць слязой гарачай.
Жыццё бацькоў абгрызена нястачай.
І кінута, як костка на талерку.
У лёсе іх відаць, як у люстэрку,
І лёс таго складанейшага часу,
Калі сілком цягнулі да калгасу.
Памылкаў-здзекаў тых не зарубцуеш,
Час гістарычны не пераніцуеш.
Не дапамогуць злосныя нападкі,
Галоўнае, каб помнілі нашчадкі,
Як некалі надзеі паміралі,
Ды тых жахлівых спраў не паўтаралі.
Усе гады, ад самае калыскі,
З бацькамі сёрбаў я з жыццёвай міскі

І жах вайны, і кіданне-бадзянне,
Нястачу, голад, здзекі, зневажанне.
Ў канцы жыцця засмучана адзначу:
Аб’еўся гэтым я, а дна не бачу.

## Мая зямля

Мая зямля, зямелечка, зямліца,
Стаміўся я, дазволь мне прытуліцца
Да баравых зялёных тваіх скроняў,
Да ветлівых тваіх палёў-далоняў.
Схіляюся перад табою нізка,
Бо ты — мой вечны боль, мая калыска,
Бо ты — мой спеў і плач душы спагаднай,
Ты — мой прамень у цемры непрагляднай.
Смяяліся і плакалі мы разам,
На ўсе пытанні ты была адказам.
Як маці, ты карміла, гадавала,
І песціла мяне, і гартавала.
Мой пот гарачы, горкі прыняла ты,
Калі я быў твой сейбіт, твой араты.
Я выйду на твае палі, прасторы
У час, калі яшчэ не згаслі зоры,
Калі пракосы пахнуць сакавіта,
Калі ты цемрай, як дзіця, спавіта.
І сам нібы ступаеш у дзяцінства
І адчуваеш вечнае адзінства
З тваёю доляй, родная зямліца,
Няхай табе шчаслівы сон прысніцца!
Ты — маці Боская, мая ікона,
Але спазнала й ты безабароннасць.
Настала ноч пад красавіцкім сонцам —
У тваё цела ўпіўся цэзій, стронцый,
І іншы бруд, і іншая навала,
Зламала лёс, людзей з гнязда сагнала.
Слязьмі змачылі змрочныя навіны
Твае шляхі, дарогі-пуцявіны.
А паабапал тых дарог жахлівых

Крыжы, крыжы на могілках маўклівых.
Крыжы, крыжы на роднае старонцы —
І чорнае над намі ходзіць сонца.
Знайдзі ж ты сілы выжыць, адрадзіцца,
Мая зямля, зямелечка, зямліца.

*

Як многа адспявала, адзвінела,
Маўчу і я, стаю акамянела,
Нібы гады да вечнасці прыпёрлі —
Варушыцца і душыць ком у горле.

І ўсё ж такі — нягледзячы на гэта,
Адплакана не ўсё, не ўсё адпета.
Як кажуць, не з усіх сталоў прыбрана,
Ды й госці ёсць — і кропку ставіць рана.

Балюча, што з жыцця зыходзяць людзі,
Але працяг жыцця заўсёды будзе —
Надзею продкі аддаюць нашчадкам,
Канец заўжды сустрэнецца з пачаткам.

Жыцця падзеі менш жыццё заплямяць,
Калі не будзе растаптанай памяць,
Калі «вярхі» ў сваім утульным крэсле
Маліцца будуць: — Нас «нізы» узнеслі!

Мае бацькі — з краіны абяцанак,
На жаль, не прычакалі новы ранак,
Не чорна-белы свой,— крыху ружовы,
А пасля нас ён зробіцца больш новы.

І так далей...
А што, калі іначай?
Ад горкай крыўды, кажуць, камень плача.
А чалавек не камень — сэрца мае,
А сэрца бачыць, чуе, усё ўспрымае.

І ў гэтым віравым, замкнёным коле
Жыццязварот не спыніцца ніколі,
І будзе несці, як і век дваццаты,
І святы, і расчараванні-страты.

І будуць зноўку — будуць пакаленні
Раскідваць больш — і менш збіраць каменні,
Не абмінаць трагедый безаглядных,
І ні сваіх памылак, і ні ўладных.

Хто — гімн складзе устойлівым канонам,
А хтосьці зноў — няпісаным законам.
Адзін — з вудзільнам, а другі — на вудзе,
А вінаватых, як заўжды, не будзе.

*1990*

## Частка першая

Язэп устаў з пасцелі
І стаў кумекаць зрання:
— Дык сёння што? Нядзеля?
Пайду на паляванне!

Зайду, гукну Сцяпанку,
Усё ж зручней на пару.
Язэп узяў ламанку —
Дадзім дзічыне жару!

Але Сцяпан «адбіўся»,
Бо меў другія планы.
— Я ж сёння падрадзіўся
Свінню калоць у Ганны...

Ды кінь ты аднастволку,
Дарэмна муліш плечы.
З яе, Язэпка, толку,
Як з чапялы ля печы.

Глядзі! — дастаў ён пляшку
І падміргнуў пры гэтым.
— Мы зараз без прамашкі
Як смалянём дуплетам!

Сядай, пагрэем кішкі
І матанём да Ганны,
Спакойна, без задышкі
Зварганім «паляванне».

*

Пасля другой бутэлькі,
Як добра размарыла,
Сцяпан дастаў з-за бэлькі
Адвостранае шыла.

— Глядзі, якая зброя! —
І ткнуў пад нос Язэпу.
— Праткне свінчо любое,
Як параную рэпу.

За мной! — і ён падаўся
Праз снег, што густа сыпаў.
Язэп, хоць спатыкаўся,
Але за сябрам клыпаў...

— Ой, людцайкі! Ой дзякуй!
Сяброў сустрэла Ганна.
— Ты, баба, менш балакай!
Пакуль што дзячыць рана.

Вось свінства як абкоцім,—
Сказаў Сцяпан са смакам,
— Як скварка будзе ў роце,
Тады — і час падзякам.

— Ой, мілыя мужчынкі,
Ад жалю сэрца стыне.
Я ж так шкадую свінку! —
Галосіць гаспадыня.

— Запхні ты ў вушы вату,—
Язэп уставіў словы.—
А лепш — кульгай у хату
Ды ў печ падкідвай дровы.

*

Свінні і гора мала —
Дзень шэры ці прыгожы.
Яна шпацыравала
Ля хлева ў загароджы.

Яна гуляла смела
Без думкі, што загіне.
Адно не разумела —
Дзе з ежай гаспадыня?

Парохквала — без злосці,
Пачэсвалася смачна,
Папісквала — ды штосьці
Ані душы не бачна.

Зірк — падыходзяць двое
У сэрца штось кальнула.
Жывое — ёсць жывое —
Нядобрае адчула...

— Язэп... Баюся — гэта
Гара не хутка ўкленча...
Во чортава катлета —
Памэнча нас... памэнча.

Язэп падсыпаў солі
На Сцёпкава ваганне:
— Не есці нам ніколі
З яе кілбас, Сцяпане.

Што шыла гэтай «рэпе»?!
Яна ж — з каня памерам...—
Не псуй настрой, Язэпе,
Мы ашукаем звера!

Праз хітрую галоўку,
Як кажуць, менш заплоцім —
На шыю ёй вяроўку
І — хуценька пакоцім...

Падкраліся маўкліва...
Кідзель неспадзявана!
Свіння — у піск пужліва
І збіла з ног Сцяпана.

— Ну-у, ні свіння — тарпеда!
Сцяпан ледзь змог падняцца.
— Мы, Сцёпка, да абеда
За ёй будзем ганяцца.

Хай без яды гібее! —
Язэп Сцяпану кажа.
— Глядзіш — і паслабее,
Сама пад шыла ляжа.

— Ты што?! — Сцяпан спыняе
Свайго суседа ў злосці.—
Дык сала ўсё «зліняе»,
А застануцца косці.

Пакуль старая ў хаце
І не згубіла веру,
Мазгуй, Язэпе-браце,
Як паваліць халеру...

— А што?! Кладзем на шалі
Маё ружжо і шыла?
Глядзі, як гэтай кралі
Укарачу я рыла!

Я ў вуха засандалю,
А ты — стой нагатове —
Хутчэй дакалвай кралю.
Ну, згодзен?
— Ёсць, панове!

*

Язэп страляў прыцэльна,
Ды хваляваўся, мусіць,
Бо раніў несмяртэльна...
А свінка як прыпусціць!

Сцяпан адкінуў шыла,
Адскочыў, дзякуй Богу.
«Тарпеда» ж плот скрышыла
І ў лес цераз дарогу.

Язэп стаяў убогі,
Меў выгляд кіслы, посны.
А ў лесе ўздоўж дарогі
Ажно трашчэлі сосны.

— Сляпы ты пень! Мазіла! —
Зароў Сцяпан заганна.
І тут загаласіла
З’явіўшаяся Ганна.

— Ой, свіначка ж мая ты!
За што такія мукі?
Ах, злыдні! Ах, вар’яты!
Каб вам адсохлі рукі!

— Во стогне!.. Во галосіць!..
Не скавычы — дагонім!
Сцяпан успыхнуў: — Досыць!
Цяпер не праваронім!

У лес! За ёй! Па следзе! —
Крычыць Сцяпан Язэпу.—
Свінню прыцiснем недзе,
Як параную рэпу.

*

Ішлі па снезе борзда.
— Цяпер давай — я стрэльну.
Адразу ж гэта морда
Патрапіць на патэльню!

Язэп стаў паслухмяным,
Аддаў ружжо без спрэчкі.
— На, тут патрон з жаканам,
Улупіць без асечкі...

Ішлі, а снег — як з меха,
Па лапцю — вось што дрэнна.
«Даследчым» не да смеха,
Бо след прапаў імгненна.

— Цяпер нам не хапае
Сабачага, брат, нюху.
Дзе боўдзіла дурная —
Ні слыху і ні духу.

— Капцы! Уліплі, Сцёпа!
«Зварганіў» ты гулянку...
— Ды сам ты недацёпа!
Начорта браў бярданку?

Я абышоўся б шылам,
Без мук наскрозь бы джаліў.
Стральнуў? Наеўся мыла?
Вось ты і засандаліў...

Язэп падныў: — Во гора!
За што нам пакаранне?
Ісці дадому сорам —
Што скажам бабе Ганне?

Далей ішлі маўкліва,
Без думак, без удачы.
І раптам — вось дык дзіва!
Свяжуткі след свінячы.

Сцяпан запырскаў слінкай,
Дае загад-параду:
— Сыграем ёй памінкі!
Гані, а я — ў засаду!

Крутні, як па заказу,
Каб на мяне «часала».
Я з гэтай вось заразы
Зраблю кубёлак сала!..

І, праўда, неўзабаве
Прыйшоў неспадзяваны
Канец пакутнай справе —
Ударыў стрэл жаданы.

Пачуўся піск адчайны
І трэск галля сухога...
Зноў лес прыціх крыштальны,
Як не было нічога.

Сябры — бягом да мэты
І... матухна Святая! —
Дык гэта... дык не гэта.
Свіння, але... не тая...

— Ды хрэн на гэта сала!
Хоць дзікую прытурым.
— Ой, будзе нам не мала...
— Ды бабу мы абдурым!..

Сцяпан смактаў, як соску,
Цыгарку з асалодай.
— Язэп! Падскоч у вёску,
Схапі каня з падводай!

— Ты што? З санямі, пэўна?
Во цемра — з сябрам райся...
Сцяпан успыхнуў гнеўна:
— Хоць на ражне вяртайся!

Там супакой жанчыну,
Скажы — свінню злавілі...
— Нам разабраць дзічыну
Паспець бы — дзень на схіле.

*

Бывайце, лёсу хібы,
Жыцця выпрабаванні...
Да Ганнінай сядзібы
Паўзлі са скрыпам сані.

Ля хаты нам знаёмай
Спыніліся паволі.
Сцяпан сказаў са стомай:
— Не будзе бегаць болей...

У Ганны — слёзы шчасця,
Але раптоўна кажа:
— Дык гэта ж — іншай масці,
А дзе мая прапажа?

— Ты што, старая качка?!
Сушы мазгі на плоце!
Гэта ж — твая ўцякачка,
Ды толькі ўся ў балоце.

— А лыч чаму даўжэзны?
Ці ж быў такі дасужы?
Сцяпан — нібы жалезны:
— Адмерз, распух на сцюжы!

— А поўсць? А валаснюкі?
Рашылі што? Падманем!
— А для чаго ў нас рукі?
Абсмалім, абалванім!

Язэп! Яна бракуе! —
Не хоча? Фідарзэйчык! —
Няхай пакавырсуе! —
Сцяпан узяў за лейцы.

— Глядзі, старая, думай,
У двух напрамках сцелем:
Ці забірай — і хрумай,
Ці без цябе падзелім.

Старая памякчэла:
— Я што?.. Я вам удзячна..
Я што?.. Вось звечарэла,
Дык мне і дрэнна бачна...

Не тое я малола,
Увагі не звяртайце...
Мая! Мая жывёла!
Смаліце, разбірайце...

*

Патэльня святкавала —
Спявала шумна, звонка!
Падсмажвалася сала,
І скабкі, і пячонка.

Кілішкі — аж пацелі
Ад найважнюткай ролі —
Усе з іх піць хацелі
Часцей, паўней, паболей.

Ляжаць відэльцы скрытна.
І хоць яны ледзь бачны,
А схопяць вельмі спрытна
Кавалак самы смачны...

Што ж, свежына — не жарты,
Гуляюць да світання...
Каму ж у рукі карты?
У нас тут сёння — Ганне!

Яна ўсё гатавала
І з хітрацой смяецца:
— Чаму, мужчынкі, сала
*Маёй* свінні не жвецца?

— Дык свежына ж — не каша!
Не будзе сала жвацца,
Бо вам-с, мамзэля наша,
Да-а-аўно ня васямнаццаць.

У роце зуб адзіны
Схаваўся ў закуточак.
Ты ж будзеш тры гадзіны
Жаваць вады глыточак...

Смяюцца «дапаможцы»,
Жартуюць, байкі родзяць...
Па кропельцы, па крошцы
Душа спакой знаходзіць.

— Мы, Ганначка, талкова
Усё з Язэпам можам.
Гадуй свінню нанова,
Пакліч — мы дапаможам.

*

Мінулых дзён не знойдзеш,
Хоць кліч ці хоць не кліч іх.
Няхай хоць заклік дойдзе
Да вас, да паляўнічых:

— Свінню, што збегла зрання,
Калі падстрэле хтосьці,
Аддайце бабе Ганне
І нас паклічце ў госці.

## Частка другая

Назаўтра — прэч паблажку!
Ледзь толькі зашарала,
Язэп са скрыпам, цяжка
Устаў — нутро гарэла.

— Дало ж учора здуру
Насёрбацца без меры.
А ўсё з-за воўчай скуры —
З-за той свінні-халеры.

Язэп зірнуў наўкола
І... у кладоўку «збочыў»,
У ёй глынуў расолу
І раптам аж падскочыў.

— Дык а свіння ж у лесе!
Ну а куды ж ёй дзецца?!
Напэўна, снег там месіць
І з дурняў двух смяецца.

Няўжо ж сышла далёка —
Мо побач дзе плытае?
Пайду, праветру вока,
Ды шчасця паспытаю.

Мароз хапаў за шчокі,
За нос, як абцугамі.
І снег агучваў крокі —
Паскрыпваў пад нагамі.

Было у лесе ціха
Ды і бялюткім-бела.
І ў Язэпа крыху
Пад шапкай прасвятлела.

Язэп аглядваў строга
Прагаліны лясныя.
Слядоў было хоць многа,
Ды ўсе яны не тыя.

— Разменьвацца не буду! —
Язэп успомніў дзюшку.—
Мне б нашу цуду-юду
Спаткаць і ўзяць на мушку.

Язэп ішоў і мроіў:
— Вярнуць назад бы страту!
Сцяпана б абязброіў,
І Ганне — двойчы свята!

Раптоўна... (зноў «раптоўна»)
Было такое ўчора.
След пацягнуўся роўны,
Глыбокі, як разора.

Язэп ажно затросся,
Успыхнуў погляд сонны.
Ён за свіннёй панёсся
Па следзе, як шалёны.

— Няўжо, аболтус татаў,
Ты не наробіш скварак?..
Язэп узмок да пятаў,
Бо снег злятаў за карак.

Не заўважаў і лапак,
Што лезлі прама ў вочы.
Ён нёс надзей «ахапак»,
Расходваў сіл астатак
І... на свінню наскочыў.

Яна ляжала ціха,
Бо надта знемаглася.
— Што, чортавае ліха!
З ваўкамі нажылася?!

А лес бялюткім ранкам
Над імі сумна віснуў...
Язэп узняў ламанку
І на курок націснуў.

*

Інспектар участковы —
Заўсёды каля справы.
Ён чалавек хоць новы,
А быў даволі жвавы.

І сёння зноў «таўпехаў» —
Не сеў ні на хвілінку.
Ён — дзе ішоў, дзе ехаў
У самую глыбінку.

Ішоў бадзёры, строгі —
Не ладзіў ён са смехам.
Раптоўна ля дарогі
Стрэл пакаціўся рахам.

— А-а! Браканьер заскочыў!
Патрэбен мне для плана!
І участковы збочыў
У лес усхвалявана.

Ён ельнічак маўклівы
Мінуў рашуча, шпарка.
А тут — Язэп шчаслівы
Сядзеў, смактаў цыгарку.

А перад ім здабыча
Свініну распластала.
— Што, гора-паляўнічы,
Паквапіўся на сала?

Навошта знішчыў звера?! —
Язэп збялеў: — Дык гэту...
— Маўчаць! Я браканьераў
Усіх звяду са свету.

Язэп падалікатней
Тлумачыць стаў «уладзе»:
— Яна пароды хатняй
І спярэдзі, і ззадзі...

— Маўчаць! Не трэба здзекаў!
Не дурань, дзякуй Богу! —
Язэп стаяў, кумекаў,
Як праўдзе даць дарогу.

— Таварыш лейтэнанцік! —
Язэп працягваў хмура, —
На лыч, на ногі гляньце —
Тут іншая «фігура».

— Маўчаць! Ты тут бясправўны!
Рашаю я задачу.
Я — чалавек дзяржаўны,
Я што — свінні не бачыў?

Паздзеквайся, пацешся,
Павесялі дзічыну.
Ў раёне «дасмяешся» —
Пайду лавіць машыну.

*

Ото ўжо лёс бывае —
Свінні «свінню» падкіне.
Яна, хоць не жывая,
А трэслася ў машыне.

Язэп і участковы
Раз не прыйшлі да згоды,
Рашаць будуць «галовы»,
Якой яна пароды...

Гула машына, пела,
Мільгалі елкі, сосны.
Язэп сядзеў нясмела,
Сумненнямі паросны:

— Во ўліп, ажно па вушы
Амаль што у астрозе.
Трасуся тут ля тушы
На ветры, на марозе.

А што, калі ў раёне
Прышпіляць пакаранне?
Ды хай яно патоне
Такое паляванне!

Ружжо забраў дзяржаўнік
І пратакол крамзоліў...
Эх, ліха мне у страўнік! —
Сядзеў Язэп, скуголіў.

І вось па курсе прама —
Раённая вяршыня.
Ажно да выканкама
Пад’ехала машына.

Язэп ад халадрыгі,
Каля свінні астылай
Сядзеў у позе фігі —
Сядзеў, скруціўшы жылы.

З кабіны выйшаў чынна
Слуга правапарадку:
— Гэй там, каля дзічыны?
Падрыгайся ўпрысядку!

А я пайду з дакладам
Да найгалоўных самых.—
І, ён крутнуўся задам
Да двух арыштаваных.

Язэпу дзе дзявацца?
Кляў лёс, сваё нядбайства..
Тут — пачало збірацца
Раённае начальства.

Язэпа абступалі —
Міліцыі начальнік,
І хтосьці з «вертыкалі»,
Газетны аглядальнік.

Чыноўнікі, як статак,
Ішлі ад цёплых крэслаў...
Язэп заззяў да пятак: —
Вось дык жыццё узнесла?

А ўсё мая персона
Звяла іх, як на свята!..
І тут будзённа, сонна
Пачаў адзін аратар:

— Хто вырашыць задачу,
Раскажа тут народу,
Што за свінню мы бачам?
Якога радаводу?

— Інспектар паляўнічы! —
З натоўпу падказалі,—
Пазнае ён аблічча
На гэтым спрэчным сале!

Інспектар — зірк падлобна.
Ды і пачаў «маліцца»:
— Падобна й не падобна...
Баюся памыліцца...

З натоўпу з хваляваннем
Гаворка далятае:
— Ён сам на паляванні
Цвярозым не бывае!

Свінню, лася ці птаха
Ён на патэльні бачыў...
— Даволі! Хопіць лахаць! —
Галоўны «туз» зазначыў.

Як вырашыць пытанне,
Каб не стварацць разладу?
Мо склікаць заўтра зранне
Раённую нараду?..

Ці ў вобласць даць дэпешу?
Ды пакумекаць разам.
Няхай пытанне рэшуць
Загадам ці указам...

Адзін з чыноў гаворыць:
— Рашыць бы так пытанне:
Людзей на плошчы — мора,
Пачнем галасаванне...

Народ — разумны ў грудзе.
Параімся з народам.
Як скажа — так і будзе...
І вось гучыць над сходам:

— Увага! Хто з вас лічыць
Свінню ў машыне зверам?
А гэты паляўнічы
Каб зваўся браканьерам? —

Пайшло галасаванне,
Прынесла асалоду.
Язэп у хваляванні
Узняў руку — даў згоду.

— Хто супраць? Ды без крыку!..
Цяпер — усім падзяка! —
І вось, пасля падліку,
Язэп ад шчасця плакаў.

Ён быў на валасочак
Ад пакарання-свінства.
Адзіны галасочак
З Язэпа зняў «злачынства».

Без захаплення людзі
Вярталіся да працы...
— А што са мною будзе?
Як мне дамоў дабрацца? —

Язэп начальству ў вочы:
— Я ж тут з свіннёй загіну!
А тыя ўбок: — Як хочаш!
У нас няма бензіну.

Пад гэты шум «мышыны»,
Пад хітрыя адмовы
Свінню — на снег з машыны —
Бывай, Язэп, здаровы!

Стаіць бядак скалелы —
А хутка ж вечар зорны.

Стаіць — ад снегу белы,
Стаіць — ад крыўды чорны.

Згасаюць спадзяванні,
Куды дзявацца? Гора!
Раптоўна бачыць сані
І конь бяжыць бадзёра.

Язэп свой рот застылы
Напруг, глынуўшы сліну:
— Гэй, чалавечак мілы!
Ратуй! Канаю! Гіну!

Вазок паспеў спыніцца:
— Ну што тут за прашэнні?
Язэп самлеў — мо сніцца?
Сцяпан сядзеў на сене.

— Сцяпан?!
— Язэп?! Няўжо ты
Купіў свінню ў раёне?
— Ды ну яе ў балота!
Я ледзь не здох з ёй сёння!

Ой, Сцёпачка! Сцяпане!
Ты мне радней за брата!
Свіння ж — належыць Ганне.
Бо гэта — тая страта.

А ты адкуль? Мо з неба?
З'явіўся як? Во чары!
— Ды так... Была патрэба
Збыць лішкі на базары.

Давай свінню усцягнем,
Даволі ёй валяцца.
Ды мы абодва прагнем
Хутчэй дамоў дабрацца.

Сцяпан зірнуў на сябра:
— А ты — як пуп курыны.
Пагрэем зараз жабры
Цяпер не без прычыны.

Дастаў з-пад сена пляшку
І падміргнуў пры гэтым:
— Мы зараз без прамашкі
Як смалянём дуплетам!

## Частка трэцяя

Якое ж гэта шчасце
Душы з душой вітацца,
Ды пасля ўсіх напасцяў
У родны дом вяртацца.

Няблізкую дарогу
Размова скарачае,
Ды й чарка, дзякуй Богу,
Нядрэнна выручае.

Сцяпан з Язэпам «хорам»
І песню зацягнулі,
Бо піць бутэльку — сорам,
Другую «смалянулі».

А ноччу, на марозе,
Гарэлка лепей мёда.
Пасля яе ў дарозе
І пні — не перашкода.

Бягуць у цемры сані,
Няспынна конік рушыць.
Язэп у хваляванні
Дзяўбе Сцяпану ў вушы:

— Мінулы дзень прыгодны —
Жыцця, Сцяпанка,варты!
Я ж рэферэндум сходны
Прайшоў! Ці ж гэта жарты?

Цяпер на гэту свінку
Душа глядзець не хоча.—
Язэп без перапынку
То плача, то рагоча.

Вязуць неспадзяваны
Для Ганны падарунак.
А вось і хата Ганны —
Ад холаду ратунак.

Язэп ажно згарае,
Загрукаў сярод ночы:
— Гэй, чапяла старая!
Гані свой сон сірочы!

Прымай і лой, і скабкі!
Набегалася — досыць!
Пачуўся голас бабкі:
— Каго там чэрці носяць?

— Каго?! Прымай дзічыну!
Убачыш, як абсмалім!..
Ды мы цябе свінінай
Аж з галавой завалім!..

Заляскацела клямка,
Пачуўся голас млявы:
— Няўжо ж ужо да ранку
Не церпяць вашы справы?

— Во сонная цяцера! —
Сцяпан са злосцю кажа,—
Язэп застрэліў звера —
Свінню, тваю прапажу!

— Не веру? — Ганна сонна,—
Хлусня! Кажу адкрыта!
— Не стой ты, як ікона! —
Абсек Язэп сярдзіта.

— Распальвай печ, ды чынна
Ўсё хочацца адзначыць...
— Не! Я спярша павінна
Сваю свінню пабачыць.

Сцяпан — ужо са стомай:
— Схадзі, пабач, памацай...
Ляжыць там пад саломай —
Ды мы займемся працай.

Закончыўшы прадмоўку,
Старая штось абула,
Накінула ватоўку
І ў цемру кульганула.

— Ну-у! Вернецца на крылах! —
Язэп пацёр далоні.
— Хутчэй бы стол накрыла,—
Сцяпан пачухаў скроні...

У хату заляцела
Узрушаная Ганна:
— Каб вам па скуле села
За вашае браханне!

Успоруць сярод ночы —
Глынулі, пэўна, мала?
Ды вам хоць плюй у вочы —
Вярзеце, што папала!

І лупяць словы Ганны
Мужчынам па жывому.
Яны — туды, дзе сані,
Пад сена, пад салому...

Усё паператрэслі —
Вачам сваім не вераць.
— Куды яе панеслі
Ваўкі — няўжо вячэраць?

— Куды?! Па пнях як ехаў —
Ёй ззадзі не ўтрымацца...
Адна цяпер уцеха —
Шукаць, назад вяртацца.

— Назад... Ці ж гэта летам?
Пазыч у Ганны пляшку —
Тады з табой дуплетам
Улупім без прамашкі...

І зноў пабеглі сані
За конікам руплівым.
І дрэвы, нібы здані,
Зноў паплылі маўкліва.

Не спіцца бабе Ганне —
Да ранку не прыляжа,
Чакаць будзе вяртання...
Ці знойдзецца прапажа?

## Частка чацвёртая

Ёсць ісціна старая:
Дзе тонка — там і рвецца.
Жабрацкі дом згарае,
А панскі застаецца.

Дзяўбло нешанцаванне
Язэпа і Сцяпана.
Прыдбалі бабе Ганне
Бяду неспадзявана.

Сябры свой скарб жаданы
Ці знойдуць? Ці спатрэбяць?..
Зноў конік паслухмяны
Нагамі снег цярэбіць.

Плыве ўначы гаворка,
Хапае смеху, крыкаў.
То соладка, то горка
На сэрцы пад’ялдыкаў.

— Язэп! Не вешай дзюбу! —
Услых Сцяпан смяецца.—
Спаткаем нашу згубу!
Куды ад нас ёй дзецца?

Язэп — нібы спружына,
Наўкола пільна сочыць.
— Баюся, што ўражына
Зноў міма нас праскочыць.

Ёй, Сцёпка, мала веры,
Яна сваё далдоніць.
Яеныя манеры
Нас у труну загоняць...

— Адкінь дурныя думы!
Вось месяц як узойдзе,
Не тое, што свінню мы,
Сляпы іголку знойдзе!..

І сапраўды, заззяла
Паўночнае свяціла,
Усё святлом прыбрала,
Усё пасерабрыла.

Кусаў мароз-прычэпа
За макаўку, за пяты.
І раптам — крык Язэпа:
— Ура! Ляжыць вунь рэпа!
Во сальцісон пракляты!

Канец! Знайшлося сала!..
Між пнёў, каля дарогі,
Свіння адпачывала,
Уверх задраўшы ногі.

Ужо й Язэп смяецца:
— Раскручвай, Сцёпка, сані!
Апошнія, здаецца,
Тут нашы намаганні!

Рулюй, Сцяпане, бліжай!
Сцяпан лагодзіць: — Згода!
— Цягні! Ды хрэн з той грыжай!
— Ух, чортава калода!

І вось свінню ўсцягнулі,
Хоць лезла ў сані цяжка.
— Во горачка глынулі!
Язэп зрабіў зацяжку.

Сцяпан скрозь смех гаворыць:
— Ану скачы ўпрысядку!
Глынём, але не з гора
Для гэткага выпадку!

Абмыем пасажырку,
Паедзе, як з білетам!
Адтаюць нашы й ныркі,
Як смалянём дуплетам!

Сцяпан — у мех, да хлеба,
Каб пляшку ўзяць, хаванкі,
Язэп — бабах у неба
Ад радасці з ламанкі.

Сярод спакою ночы
Рванула, як з гарматы.
Конь — на дыбы! Падскочыў
І лупянуў дахаты.

Сябры аслупянелі.
Мароз... Наўкола ціха...
І войкнуць не паспелі,
Як зноў уліплі ў ліха.

*

У Ганны век на сконе:
То шумна, то бязлюдна.
І сёння ноч — бяссонне,
Цягнуўся час марудна.

Як Ганне ўсё праверыць?
Жыць застаецца чутым.
І верыць, і не верыць
Яна двум баламутам.

Хоць розум і смяецца:
«Яны ж хлуснёю цешуць...»
А сэрца спадзяецца:
«А можа і не брэшуць! »

Вагаецца старая,
Не спіць, таўчэцца дома.
Надзея ж памірае
Апошняй, як вядома.

На ганак выйдзе Ганна,
З-пад хусткі выткне вуха —
Хоць скрып пачуць бы санны
Ці двух сяброў пад мухай.

А ноч — як цень, глухая,
Бязгучная, як вата.
І Ганна уздыхае,
І зноў кульгае ў хату.

І гэтак вось чаўночыць,
З цяпла — на двор настылы,
Туды-сюды паўночы,
І раптам... Божа мілы!

Няўжо ёй гэта сніцца?!
Конь з цемры — і да хаты...
Адзін! А дзе ж вазніцы?..
Няўжо мароз праклятый?..

Хоць кволых спадзяванняў
Старая ў Бога просіць.
Затым — кульгіц да саняў
І тут — як загалосіць:

— Вярнулася! Мая ты!
А я ж цябе пазнала!
Прыехала дахаты!
Ой, дзе ж ты прападала?!

А я ж цябе карміла!..
І раптам шэпча Ганна:
— Цяпер свіння згубіла
Язэпа і Сцяпана...

Няўжо два безгалоўцы
У лесе акалелі?
Вось і канец вяроўцы,
І адгулі пахмеллі...

Дало ж ім так нягегла
Сустрэцца з Боскай карай...
Яна каня распрэгла,
Які стаяў пад парай.

Шкада жывёлу стала,
Схавала да каровы.
І хутка пакульгала
Да тых, хто, пэўна, ўдовы.

Ёй аж свярбела ў носе
Падняць людзей да ранку.
Пярвей за ўсіх Хаўросе
Панесла «пахаванку».

Хаўрося, як вядома,
Даўно Язэпа жонка.
Вось Ганна тут, ля дома,
Дрымціць у шыбу звонка:

— Хаўрося! Ой! Во гора!
Прачніся! Ай! Трымайся!..
Заляскала запора:
— Заходзь! Не распінайся!

Хаўрося сярод хаты
Стаіць у споднім млява:
— Што? Зноў алкаш пракляты
Спіць у цябе пад лавай?

— Ды не! Ай, Матка Свенча!
Старая кіпяціцца
І раптам як заенча:
— Мая ж ты удавіца!..

Хаўрося пабялела:
— Няўжо памёр? Во доля!

Старая зноў запела:
— Яны ж свінню калолі.

Затым яе стралялі,
Каб ім адсохлі рукі,
А потым даганялі,
І ўжо на дзікім сале
Паказвалі мне штукі!

А гэтай ноччу зноўку
П'яныя прыпляліся,
Дурылі мне галоўку...
Хаўрося ў крык: — Спыніся!

І без цябе мне горка,
Цяпер адной у свеце,
А ты, як тараторка,
Як той віхор на смецці!

Старая дух спыняе
І ўжо не таратора.
Хаўрося ўдакладняе:
— Свінню ж калолі ўчора!

А сёння, на світанку,—
Хаўрося ўслых вяшчуе,—
Язэп узяў ламанку
І недзе з ёй палюе...

— Капцы! Адпаляваўся! —
Зноў Ганна — у запале.—
Ён за свіннёй ганяўся
Са Сцёпкам — і прапалі!

Свіння ж каня прывезла,
Як пан той на саломе...
— Ах, каб ты з лытак злезла!
Хрыпіць Хаўрося ў стоме.—

Дык дзе нябожчык? Блудзе?!
А я ўдава? Во! Фігу!
Ні чорта з ім не будзе,
Ён чхаў на халадрыгу!

Ці ж першы раз прыгоды?
Якая злыдням вера?!
Не бралі іх нягоды,
Ніякая халера!

Прыцягнецца п’янчуга!..
А Ганна асцярожна:
— Мароз вунь, як звяруга,
Замёрзнуць спрытна можна...

— Маліцца буду Богу,—
Хаўрося весялее.—
Сама гукну падмогу!
Ідзі дамоў. Віднее.

*

А ў лесе (хто пачуе?)
Мацнее «завіруха» —
Сцяпан стралка пілуе:
— Эх, даць бы табе ў вуха!

Тады насупраць шыла
Уткнуў сваю ламанку.
Яна перапаліла
Усю мне вантрабянку.

Цяпер — каня пазбавіў.
Страляў якога хрэна?
Ды ты мяне зняславіў
Да сёмага калена!..

Язэп фасоніць позу
І скаліцца ў ахвоту:
— Лічы, што нас з абозу
Перавялі ў пяхоту.

Не псуй настрой ялінам,
Яны так смачна спалі.
Лічы, што дактары нам
Прагулку прапісалі!

Сцяпан сячэ паветра:
— Цябе б узяць, павесіць!
Да дому кіламетраў
Адгэтуль — больш за дзесяць!

Падзяка за гасцінец!
Знайшоўся надта жвавы —
Аболтус! Пехацінец
З ламачынай іржавай...

Язэп глытаў папрокі.
Што скажаш? Вінаваты!
А шлях ляжаў далёкі
З глухіх мясцін да хаты.

Ішлі, настрой псаваўся,
Не абысці дурноты.
Сцяпан штокрок пляваўся
І не спыняў бубноты:

— Каб толькі конь даў драла!
Сцяпан зазначыў цяжка.—
Дык разам з ім зліняла
Святы НЗ мой — пляшка!

Язэп усю дарогу
Маўчаў і раптам гыркнуў:
— Ты лепш маліся Богу
Пра нашу пасажырку!

Дурыдла як саскоча,
Во будзе! Чэсць па чэсці!
Сцяпан зубмі скрыгоча:
— Няхай! Ты ж будзеш несці!..

Ішлі па следзе саняў,
Не легчы ж на дарозе.
Язэп прызнаў: — Сцяпане!
Лягчэй было ў абозе!

*

Хаўрося разважае:
— Зімой блукаць — не гульні!
Мо Ганна не пужае?
Мо дзе скарчэлі дурні?

П'яныя кувыркнуцца
Хутчэй, чым конь раскуты.
Не-е, трэба апрануцца
І бегчы да Дануты.

Данута ж астудзіла
Хаўросеў жар заспана:
— А як жа твой цудзіла
Спаткаў майго Сцяпана?

Не можа быць такога!
Мой на кані ў раёне!..
Хаўрося пэўніць строга:
— Бажуся на іконе!

Хай на язык мне скула,
Калі ён з праўды збочыў!
Сама ад Ганны чула,
Што конь адзін прыкрочыў.

— Адзін?! — Данута ўстала.
А дзе ж Сцяпан, Хаўроня?..
— Ды Ганна ўсё змяшала:
І нейкую пагоню,

І ў вуха страляніну,
І ў лесе паляванне,
І на стале дзічыну,
І зноўку даганянне.

Цяпер усё знайшлося —
Конь, сані, парсючына.
Разблытаць засталося,
Дзе твой і мой мужчыны?

Данута застагнала:
— Жыццё — гарох з капустай,
Туману ў ім нямала...
Ах, каб было ім пуста!

— Так... Лёс у нас туманны,
Хаўрося да парога.—
Хутчэй пайшлі да Ганны,
Людзей гукнём, падмогу...

І вось, нібыта ўранку,
Хоць ноч, усе не спалі
Праз навіну-маланку:
Язэп, Сцяпан прапалі!

На Ганніным падворку —
Нібыта імяніны,
І пальца не уторкнуць
Ад цеснай штурханіны.

А Ганна — ў самай гушчы.
Гудуць аднавяскоўцы:
— Давай, старая, лушчы
Распавядання слоўцы!

Ды коратка, без мухаў!
(Ківала моўчкі Ганна.)
Каб кожны цябе слухаў,
Як дыктара з экрана!

Старая ацаніла
Свой шанц — пасаг свой новы:
— Ці ж я калі маніла?!
Ды я вам — у тры словы!

Яны былі пры шыле,
Вунь там свінню валялі,
Вяроўкаю душылі,
Затым з ружжа стралялі.

Свіння імгненна знікла
І ў лесе начавала,
А я ажно асіпла,
Галосячы без сала.

Ці ж гэта не прычына
Клясці мне балаболак?
Ды шчасце, што дзічына
Заскочыла ў кубёлак...

— Ой, Божа! Во галосіць!
Куды цябе папёрла? —
Аднавяскоўе просіць:
— Ды прытрымай ты горла!

Бліжэй да справы Ганна!
Не трэба ў лес, па дровы!..
Старая паслухмяна:
— Ды я вам — у тры словы!

Дык вось — ад першай свінкі
Не сала — дубавіна.
Цвярдзей сухой скарынкі,
Не жвецца, свалачына.

А дурні два рагочуць —
Было гэта заўчора.
А сёння, сярод ночы,
Зноў прыплялося гора.

Загрукацелі ў дзверы:
«Прывезлі скабкі з лоем!..»
Во чортавы халеры —
Ледзь выпхнула іх з боем.

А дым у хату валіць,
Запнула комін сажа...
— Ды хопіць нас мачаліць! —
Са злосцю хтосьці кажа.

Не ведаеш? І досыць!
Навошта нам прамовы?
А Ганна зноў галосіць:
— Ды я вам — у тры словы!

— Ні слова! Дапякла ты!
Нервуеш! — кажам шчыра!
Знайшоўся памагаты! —
Пачулі брыгадзіра.

Ён скінуў баек чары
І збэсціў Ганны славу:
— Чым слухаць тары-бары,
Накінемся на справу!

Перш-наперш неабходна
Хутчэй каня запрэгчы
І спрытна, ўсенародна
Шукаць прапалых бегчы.

З натоўпу хтосьці раіць:
— Паразважаем трошкі:
Хай той, хто здольнасць мае,
Бярэ, габлюе дошкі.

Бо две труны — галоўны
Нябожчыкам стасунак.
І ўручым ім шыкоўны
Ад вёскі падарунак!

Знайшоўся і прагматык:
— Час думаць пра патэльню!
Свіння — ўсяму пачатак,
Жалобе і вяселлю.

Я — ля свінні галоўны,
Смалю і разбіраю,
Бо рот мой слінак поўны,
Глынуць хачу — згараю!

Вяскоўцы без ваганняў
На справу падналеглі —
Свінню сцягнулі з саняў
І ў іх каня запрэглі.

*

Язэпа і Сцяпана
Нібыта закілзалі —
Паўзлі кульгава-п’яна,
Бо ногі пазразалі.

Знямоглыя мужчыны
Ішлі дамоў упарта —
Перагарэлі кпіны,
Перавяліся жарты.

Ішлі, ў вушах звінела,
Бяссонне грызла, стома.
Вакол паціху днела,
А значыць — хутка дома.

І вось, здаецца, кропка —
Прыйшлі! Святлеюць твары.
— Ой, глянь! А што там, Сцёпка?
Людзей, як на базары!

Спынілася кульганне
Знямоглых на хвілінку:
— Хана, напэўна, Ганне!
— Няўжо сыграла ў скрынку?

— Шкада! Адвекавала! —
Сказаў Сцяпан самлела.—
Ад радасці сканала,
Калі свінню сустрэла...

Язэп радзіў пытанне,
Хоць вусны сцяла стома:
— Пра свінчына вяртанне
Адкуль табе вядома?

— Дык вунь жа конь і сані!
Сцяпан вастрэй за шыла.—
На іх і наша пані
Да Ганны падкаціла!

Сцяпан зірнуў запальна:
— Пляцём, брат, тралі-валі;
Каня мы спецыяльна
Адкамандзіравалі!

Кажы, што ногі грэлі,
Мані, туманъ галовы.
Як быццам мы хацелі
Прыйсці за стол гатовы.

Тым часам сход вясковы
Астыў ад перасудаў,
Скрануцца быў гатовы,
Ды ўбачыў двух прыблудаў.

Тут жарты пачаліся,
Ляцелі крыкі, кпіны:
— Нябожчыкі знайшліся!
— Ламайце дамавіны!..

Крычалі ўсе адчайна,
Сяброў апанавалі.
Сцяпан сказаў нядбайна:
— Вось... Як і планавалі!

А ты, Язэп, баяўся,
Дрыжаў, як дым на кноце —
І конь не заплытаўся,
Вунь і свіння ў рабоце.

Цяпер мы, як блізняты,
За стол, бо нам — пашана!
Язэп прысеў на пяты:
— Глянь! Вось жывая Ганна!

Дае старая здачу,
Сябрам у косці валіць:
— А вы мяне, я бачу,
Жывую пахавалі!

Жывая я! Жывая!
Бог на руках трымае!
Ды Ганна, хоць храмая,
А вас перакульгае!..

Старую астудзілі
Пытаннямі вяскоўцы:
— Хай скажуць, дзе блудзілі
Цяляткі на вяроўцы?!

Наплесці можна многа,
Панавыдумваць штукі!
Пабойцеся вы Бога,
Прызнайцеся, манюкі!

Ніхто вам тут не верыць!
Што?! Скіслі ў пупавіне?
Не хочуць з вамі хеўрыць
Ні коні і ні свінні!

Бягуць ад вас з прыскокам,
Стрынаткай па паркане!..—
Сцяпан жа сквапным вокам
Скасурыўся на сані.

Затым — да меха з хлебам,
Сагнуўся ў выкрунтасе:
— Язэп! Здуплеціць трэба!
Абмацаў! Ёсць! Знайшлася!

Ад нас хацела збегчы?!.
Тут жончын рот раскрыўся:
— Каб мне касцьмі тут легчы,
Калі ты не злавіўся!

Ты ж нават і спрасонку
Свет прадасі за бражку.
Каня ты кінеш, жонку,
А не з гарэлкай пляшку!

Язэп адчуў патрэбу
За сябра заступіцца,
Бо не дадуць і хлеба,
Не тое, што — напіцца.

— Ды хопіць мудрагеліць!
Адлезце ад Сцяпанкі!
Абрус хай Ганна сцеліць
І расстаўляе шклянкі!..

Ад гэтых слоў адчулі
У кожным роце сліны
І дружна павярнулі
Мазгі да свежаніны.

— Хутчэй за стол!
— Да сала!
— Да бульбы!
— Да капусты!
— Дзе наша не прапала!
— Сеў тонкі — ўстану тлусты!..

Ляцела пераклічка —
Дзе спрытнасць узялася!
Гарэлка, як вадзічка,
Па шклянках палілася.

І Ганна не гвалтуе —
Даволі быць няшчаснай!
Зноў свежыной частуе,
Цяпер ужо — уласнай.

Частуе, лашчыць міла:
— Бярыце скабкі, сала!
А я ж яе карміла,
А я ж ёй падсцілала.

Вось мясца! Вунь пячонка!
Эх, каб была мучыца,
Ці ж сальца было б тонкім?
Ці ж гэткай паляндвіца?..

— Ды дзякуй, Ганна! Смачна!
Гасцё загаманіла.—
Бач? Вёска ўся удзячна!
Усім ты дагадзіла!

— А мы?! А нам падзяку?! —
Язэп сячэ з размаху.—
Без нас не толькі смаку,
Не чулі б вы і паху!..

Але Язэпа словы
Глынула шматгалоссе.
Галёкалі, як совы,
Спявалі — што прыйшлося:

«Свежына, свежына,
Свежаняціна!
Кожна дзень на стале
Парасяціна!

Свежына, свежына,
Ой, духмяная!
Каўбаса, каўбаса
Пальцам пханая!

Смаката на губе —
Дзякуй, Ганначка!
Дзве свінні у цябе,
Ты, як панначка...»

Гуло застолле, пела,
Зноў Ганне ў рукі карты!
Ужо і звечарэла...
Што ж, свежына — не жарты.

Вось і канец прыстойны
Прыгодаў — як ні дзіва.
І на душы спакойна,
Калі фінал шчаслівы.

Хаўрося і Данута,
Язэп, Сцяпан, вяскоўцы
Пра «свежыну з салютам»
Даўно маўчаць — ні слоўца.

Бывай, час горка-смешны,
Намуліўшы ўсім вушы,
Вярнуўся лад няспешны
У вёску і у душы.

Нягледзячы на гэта,
Жыццё ўсё ж дні лістала.
Зіма мінула, лета,
І зноў зіма настала.

Аднойчы нечакана
(Паверыць немагчыма)
Язэп сустрэў Сцяпана —
І стральба за плячыма.

— Сцяпан! Вачам не веру!
Куды?
— Ды млосна ў хаце...
— А стрэльба на халеру?
Мані, ды ведай меру!
— Язэпка... ўліп я, браце...
Свінню страляў Аўдоцці,
Як ты калісьці, ў вуха...
— І што? Зноў дзірка ў плоце?
— Так, збегла ў лес, псяюха.

Язэп, вазьмі й ты зброю —
Выпадак, бачыш, важкі,
Мы ў два ружжы з табою
Улупім без прамашкі.

— Так, Сцёпачка, мы крочым,
А ліха хутка едзе...
Сябры насустрач ночы
Нырнулі ў лес па следзе.

Як і калісьці, сёння
Лес белы — злева, справа...
Чым скончыцца пагоня
На гэты раз?
Цікава!

*1994*

Зноў з-пад пяра радок упарты
Расце, як парастак з зямлі,
Каб зразумець, чаго мы варты
І кім мы пры жыцці былі.

Мяркуе, разважае слова,
Хвалюецца — а дзе ж адказ:
Сэнсоўна мы ці выпадкова
Прыйшлі ў жыццё, ішлі праз час?

Ці дабрыні садзілі дрэвы,
Ці жах тварылі за сабой?
Ці жалі нечыя пасевы,
Ці ўсё ж займаліся сяўбой?

Ці мо тапіліся ў гарэлцы,
Ці зорнасць лашчыла нам зрок?
Ці мы святло трымалі ў сэрцы,
Ці ў ім туляўся чорны змрок?

Няма чаго рабіць і лекам,
Калі — ні сэрца, ні душы.
Прасцей лічыцца чалавекам?
Ці быць ім? Паспрабуй, рашы!

*

Сыночка прыціскае маці,
А ён увесь гарыць, як жар.
Нясе, як перынку, па хаце,
А ў сэрцы боль, бяды цяжар.

І не прысядзе на хвілінку,
Да ранку з ім — сюды-туды:
— Пакінь, хвароба, майго сынку,
Пазбаў нас, Божа, ад бяды.

І гэтак не адну ўжо ночку
Люляе, не спускае з рук.
Гатова ўсё аддаць сыночку —
Душу, здароўе, сэрца стук.

Нічога не шкада Таццяне,
Але зрабіў чамусьці Бог —
Пакуль дзіця на ногі стане,
Ушчэнт саб'ецца маці з ног.

Падзей, гадоў імклівых стужку
Яна адкручвае назад.
Тады Ірыначку-дачушку
Круціў, душыў хваробы чад.

Сама выходжвала Ірынку
(Ці многа ў вёсках дактароў?)
І вырвала сваю крывінку
З абдымкаў смерці, з кіпцюроў.

І вось праз некалькі гадочкаў
Ляжыць сынок, як нежывы.
Не адкрывае нават вочкаў,
Не паднімае галавы.

— Таццянка, скуль у цябе сілы?
Дай падмяню, душа ўжо вон,—
Падняўся муж яе, Даніла.
Ён і не спаў. Які тут сон?

Ён бачыў, колькі ёй далося
Ў бясконцым ланцугу начэй.
Мужчына ж у сабе ўсё носіць,
А ці ж ад гэтага лягчэй?

— Дай мне сынка, майго «асілка»,
Сама ж хоць вокам прыдрамні.
Яна ўзмалілася: — Данілка!
Маўчы! Спадае жар — крані!

Ён чуе маё сэрца! Чуе!
Таму й крапіцца наш сынок.—
Маўчыць Даніла, не сярдуе,
Спрабуе праглынуць камок.

— Ты сам, Даніла, спі.
— Не спіцца,
Ці ж камень я? Ці ж лёгка мне? —
— Табе ж, Данілка, калаціцца
Ўвесь дзень на трактары-ражне.

Глянь, на каго ты стаў падобны?
А ён жартуе: — На цябе...—
А сам, як дзьмухавец той,— дробны,
Як свечкі цень пры варажбе.

Надыдзе ноч — і ўсё спачатку,
Хоць валяцца абодва з ног...
Бацькі жыццё свайму дзіцятку
Аддаць гатовы — бачыць Бог.

*

Жыццё — сустрэчы, расставанні,
Ляціць кудысьці хуткі час
Праз спадзяванні, намаганні,
Мяняе нашы лёсы, нас.

Таццяна ў працы зноў, як пчолка,
Перажыла з Данілам жах,
Перахварэў іх сын Міколка,
Расце дачка як на дражджах.

З пялёнкаў вылезлі — падлеткі!
Нявеста хутка і жаніх!
Гавораць жа: — Малыя дзеткі —
Малое й горачка ад іх.

Ды не супыніш часу кола,
Шпурляе нас гадоў рака.
Пайшоў у армію Мікола,
У Мінск — паехала дачка.

Цяпер ад іх і вестка — свята,
А ў сэрцы сум усё часцей...
Без дзетак сірацеюць хаты,
Бацькі марнеюць без дзяцей.

*

Нясуць Даніла і Таццяна
Па лёсе клопаты свае,
Ўстаюць заўжды да сонца, рана,
Кладуцца спаць — як Бог дае.

З узростам — адусюль падпёрла,
Спраўляйся падстаўляць плячо.
Бо ў гаспадарцы спраў — па горла —
Кароўка, курачкі, свінчо.

Дый бульбе трэба пакланіцца,
Пашану выказаць касе.
А гаспадар, што спраў баіцца,
Як тут смяюцца,— лапу ссе.

Таму Таццяна і Даніла
І жартавалі між сабой:
— Давай праз «не магу», праз сілу,
Хоць недаспім, а хвост трубой!

Не шкадавалі часу й поту,
Каб мець кароўку, парсюкоў,
Бо дзеці кожную суботу
«Успаміналі» пра бацькоў.

*

Ірына з мужам без кватэры
Жывуць у Мінску, дзе дасць Бог.
Яны свой лёс, як дурань дзверы,
Нясуць, збіваючыся з ног.

Аднак у мужа яе, Вені,
Пад шапкай не зусім таўкач:
— Ірына, стань ты на калені
Перад бацькамі і паплач.

Хай раскашэляцца, скупечы.
— Ды што ты, Веня? Не змагу!
Ці ж не намулілі мы плечы
Ад бульбы, сала, тварагу?

Тады ты, Венечка, харошы,
Як мех завяжаш кілбасой.
— Дурная! Нам патрэбны грошы!
У слёзы кінься, будзь лісой.

Ці валасы даўжэй у бабы,
Ці розум — хай засведчыць час...
Эх ты, жыццё, гады-ухабы!
Ці здолеў хто аб'ехаць вас?

*

Даніла добры меў характар,
Але, на жаль, жыццё — не мёд.
Растрос яго здароўе трактар,
Абрыдла траскатня, смурод.

І сёння ледзь «дапоўз» да хаты,
Аж змогся ўвесь, пасалавеў.
І хоць галодны быў, мурзаты,
Пайшоў ад гною чысціць хлеў.

Затым шчапаў і зносіў дровы,
Насіў ваду, падлатаў плот.
А як загаласілі совы,
Тады прысеў і выцер пот:

— У вёсцы ўсё сваё. Не трэба
Ні крамаў, чэргаў тут няма.
Напэўна, думаюць, што з неба
Нам валіцца ўсё задарма.

— Данілка, стыне ўжо вячэра,
Пара ад працы й адпачыць.
— Стаміла, хай яе халера,—
Сказаў Даніла, ўстаючы.

— Адкуль яна бярэцца, Таня?
Не помню, калі ўволю спаў.
А заўтра пакасіць бы зрання,
Яшчэ й касу не падкляпаў.

Цішком вячэралі, не шпарка,
Хрумсцелі смачна агуркі,
Таццяна моўчкі ела скварку,
Даніла сёрбаў буракі.

— Кладзі, Данілачка, смятану...—
Даніла ціскануў плячом,
Зірнуўшы пільна на Таццяну:
— Што ты як мыш пад дзеркачом?

Я ж бачу — гутарку ты маеш,
Яна вісіць на языку.
— Данілка, што ты тут параіш? —
Ён сціснуў лыжку ў кулаку.

— Ну, расчыняй з сакрэтам скрынку,
Пракладвай сцежку па расе.
— Я пра дачушку, пра Ірынку...
Ёй трэба нашы грошы... Усе!

Даніла прыпыніў вячэру:
— Чатыры тысячы? Куды?
— Каператыў дае кватэру
Праз год які, праз два гады.

У той жа дзень табе скажы я,
Ты ж мог дачцэ не патураць.
Ну хопіць ім вуглы чужыя
За свае грошы выціраць.

Даніла моцна сціснуў скроні
І іх чамусьці цёр і цёр:
— Дачка расла як на далоні,
А мне трындзіць парламенцёр!

— Які парламенцёр, Даніла? —
Даніла ўскочыў, як з агню.
— Няхай мяне глыне магіла,
Калі я вораг дзіцяню.

Я надарву старыя кішкі,
А штось да смерці зараблю.
Здымай хоць заўтра грошы з кніжкі...
Пайду гадзіну-дзве пасплю.

*

Міколу больш пашанцавала,
Хоць быў ён ціхі, як цялё.
Ён жыў у Мінску дзе папала,
Ды даў завод яму жыллё.

Бацькоў наведваў рэгулярна.
Туды — імчыць паражняком.
Адтуль — не траціў часу марна —
З грашыма, з салам, з малаком.

І жонка з ім — яго Марыся,
Любіла ў вёсцы пагасціць.
Мікола жонкай ганарыўся —
Прыгожая, аж зіхаціць.

Хоць ты яе ад сэрца капай
І пі, як кажуць, «нашчака».
Данілу называла «папой»,
Таццяну «мамой», як дачка.

— Ой, мамачка, у вас дастатак,
А мы ж аблізваем руку.
Ой, яек нам яшчэ дзесятак!
Ой, і кліночак тваражку!

Ой, папа, ў Мінску цяжка стала,
Няхай вас жах такі міне.
Вы ж нам яшчэ кавалак сала!
А паляндвіца ўся ці не?

А што рабіла свежаніна?
Збірала ўсіх адной сям'ёй.
Тут з дзецьмі Веня і Ірына,
Мікола з лялькаю сваёй.

Парсюк пішчыць, аж вянуць вушы,
Глытаюць слінкі едакі.
Абсмаляць, абскрабуць — і з тушы
Нож кроіць цёплыя кускі.

Тут пачынаўся «цырк на дроце» —
Пакуль яшчэ не селі піць,
Пакуль ад слінкаў цесна ў роце,
Дык трэба лепшае ўхапіць.

— Нашто ты цягнеш каркавіну?
Яе й сабака не сажве.
— Вазьмі лапаткі палавіну!
— А дзе язык?
— У галаве.

— Гэты кусок, як плеўка, тонкі,
Кладзі назад яго хутчэй.
— Схапі вунь той шматок пячонкі!
— А тут што, акрамя храшчэй?

— Ты глянь, што у руках у Іркі —
Са скабкаў цэлы патранташ.
— Што ты, асёл, трымаеш ныркі?
— Хто болей хапянуў? Разваж!

Даніла выцер сенам рукі
І, каб базар гэты разняць,
Сказаў: — Ну, досыць, дзеці, ўнукі!
Кладзіце ў сумкі — як падняць.

*

— Што ты разлёгся, як завала?
Паразумнееш ты калі? —
Марыся мужа пілавала.
— Едзь да бацькоў, прасі, малі.

Нахабства найвышэйшай меры —
Сынкоў абскокваюць зяцькі.
Сястра твая жыве ў кватэры,
А хто ёй грошы даў? Бацькі!

— А што, калі адмовіць тата?
Ёсць, скажа, пара медзякоў.
— Ну не мазгі ў цябе, а вата,
Яны здалі ўжо двух бычкоў.

І зарабляюць жа патроху,
Прыбытак і ад малака.
Глядзі, а то зяцьку-прайдоху
Зноў сунуць грошы спадцішка.

*

Даніла здаў. Ад стомы, болю
Дамоў даклыпаў нібы цень.
Убачыў каля хаты Колю:
— Што ты, сынок, у будні дзень?

— Ды так... У хаце пагаворым.
— А я, Міколка, ледзь цягну,
Зрабіўся і старым, і хворым,
Хоць ты жывым лезь у труну.

Ды маладыя нам не вераць.
— Ну што ты, тата? Веру я...
— Таццяна, стаў хутчэй вячэраць,
Хто ж корміць байкай салаўя?

Таццяна стол накрыла жвава,
Што мела, лепшае дала.
— Ну, сын, якая твая справа?
Бліжэй, Міколка, да стала.

Ды што там на самой хоць справе?
Кажы, не баламуць булён.
Мікола ёрзь ды ёрзь на лаве:
— Тут, тата, справа... на мільён.

— Зноў грошы,— выціснуў Даніла,—
А каб яны сатлелі ўраз.
Мікола, як наеўся мыла,
Вачыма лыпаў увесь час.

— Якую ж будзем мець абноўку? —
Даніла запытаў мякчэй.—
Адкінь убок, сынок, прадмоўку,
Ты праміком кажы, шыбчэй!

— Машыну хочуць яны — вось што!
Таццяна сыну падмагла.
— Зноў доўгі твой язык! Во, пошта!
Дзе дзецца мне ад памяла?

Даніла сеў бліжэй да сына,
А той нібыта ў лаву ўрос.
— Машына?.. Кажаш, сын, машына!
Што ж, падатром суседзям нос!

*

Дажыў да пенсіі Даніла —
Узрост не надта ўжо які,
Але тады, калі ёсць сіла,
Тапор не валіцца з рукі.

Пусцей зрабілася ў кладоўцы,
Ды баль быў з вечара да дня.
Гулялі ўсе аднавяскоўцы,
І дзеці, ды і ўся радня.

Хто як хацеў у чарцы мокнуў,
У дзень такі глынуць не грэх.
І песні выляталі з вокнаў,
І жарты чуліся, і смех.

Дык свята гэта ці не свята?
Ці сум — бадай яго ваўкі?
Няхай не ўсё, а большасць зжата,
Куды ні кінь — ва ўсе бакі.

*

Даніла сам пачаў размову:
— Не хочуць дзеці памагаць,
Хоць плач, хоць скач — прадам карову,
Няма ўжо сіл касу цягаць.

Ў Таццяны сківіца адвісла,
Ці ж будзе ёй мужык маніць?..
— Рот зачыні, самому кісла:
А што рабіць? А што чыніць?

— Данілка, пашкадуй Красулю!
— А нас шкадуюць «матылькі»?
Яны ж апошнюю кашулю
Здзяруць з нас хутка, лайдакі.

Ім, бачыш, парсюка ўжо мала.
Быў малады — хаваў і тры.
Іх толькі малако і сала
Ля нас трымае да пары.

— Данілачка, перахрысціся!
— Разуй, Таццяна, зрок хутчэй.
Як сто чарцей, адна Марыся,
Ліса — а воўк глядзіць з вачэй.

А ёй Мікола ліжа пяткі,
Замест анучы ў ногі лёг.
Дзе розум, гонар? Як цялятка.
Што ж я не бачу? Мой ты Бог!

То ім машыну, то — кватэру.
Адным — дыван, другім — аж два.
І цягнуць грошы, як паперу,
Давай — хоць не расці трава!

— Данілачка, ці ж то прапала?
— А дзе падзяка? «Папа, ой...»
Я не кажу пра яйкі, сала,
Пра бульбу з маслам, кілбасой.

Я ж дзеля іх трымаў кароўку,
Быў рады гнуць спіну — і гну.
А хто з іх раз узяў рыдлёўку?
А хто скасіў хоць травіну?

Каб пальцам ляснулі аб палец,
Каб памаглі гады ў рады...
Што ў іх за сэрцы? Як закалец!
Ці проста сумкі для яды.

Ты ў шафу зазірні, Таццяна,
Мыш мае багацей нару.
Ці позна прыйдзе смерць, ці рана —
А што адзенеш, як памру?

— Ты што, Данілка? Кроў аж стыне.
Хай лёс адцягне свой удар.—
Слязу пусціла гаспадыня,
Прыціх самотна гаспадар.

*

— Глядзі, Мікола, схопім дулю,
Калі прахлопаем вушмі.
Бацькі ўжо прадалі Красулю,
Зтаргуйся з імі, як з людзьмі.

Запраў і падрыхтуй машыну,
І паімчым у выхадны.
Ты толькі не бяры Ірыну,
Хутчэй дамовімся адны...

Прыпёрліся, а тут сястрыца
І Веня з ёю думкі грэў.
Даніла стаў худы, як спіца:
— А я во, дзеткі, прыхварэў.

Зрабі, Таццяна, што паесці.
— Раблю, Данілачка, раблю.
Марыся не сядзіць на месцы:
— Ой, папа, я зусім не сплю.

— Няўжо, Марыська, кашаль гэны?
Ён пройдзе праз каторы час!
— Ой, папа, папа, гэта ж цэны
Раздзелі і разулі нас.

Ускочыў Веня: — Вас разулі?
Ды вам не страшны чорт, панам!
Во! Во вам! Фіга ад Красулі.
А грошы больш патрэбны нам!

Таццяну раптам, як ніколі,
Ажно падкінула само:
— Ані Ірыне, ані Колю
Мы з бацькам грошы не дамо!

Ці ж гэта грошы? Слёзы, крошкі!
— Памром — уб'е хоць хто калок.
Даніла злез маўкліва з ложка
І выняў з шафы вузялок:

— Памром, абмые нехта ногі
І нам, Таццяначка, з табой...
Ты пакармі дзяцей з дарогі
І, калі ёсць што — дай з сабой.

*

— Ты, можа, хуценька збярыся,
Падскочым, глянем — як бацькі.
— Куды?! — Ўсхадзілася Марыся.—
Ад’елі там за дзве шчакі.

Мікола выціснуў з мучэннем:
— Не трэба быць такой благой...
Ў адказ Марыся: — Ірка з Венем
Туды даўно ані нагой.

Ты бачыў, грошы як давалі
Нам за Красулю? Смехаццё!
Яны ж мне нервы сапсавалі,
Каб ім гібець усё жыццё!

Такія спрэчкі-перапалкі
Ламалі ўсё паміж людзьмі
І пакідалі аскабалкі,
Бо сэрцы не гарацць з-пад палкі,
Яны згасаюць — дзьмі не дзьмі.

Як у ваду глядзеў Даніла:
— Няўжо ж сябе я сам урок?
Старое сэрца не маніла,
Яно таксама мае зрок...

Не спіць начамі і Таццяна,
Душа счарнела, як турма:
— Чаму ж так сад цвіце буяна,
Кіпіць, а завязі няма?

Клубок складанейшы на свеце —
Горш блытаніны не знайсці:
Браты, радня, бацькі і дзеці
Грызуцца, лаюцца ў жыцці.

Адны — хоць з іх рабі нарогі,
Але ў другіх — на сэрцы кроў.
Такі наш лёс. Няўжо дарогі
Не выведуць нас з гушчароў?

Туляецца жыцця разора,
Як заяц, блытае сляды.
Мы не такія, як учора,
А што праз год? А праз гады?

Нас і псуюць такія змены,
З’ядаюць, як кашулю пот.
Гады паміж людзьмі — як сцены,
А Бог хацеў — наадварот.

*1991*

Як жа лёгка памыліцца
Гарымоце-мужыку...
Тут у нас жыве ўдавіца
З краю вёскі — убаку.

Прыгажуня, рагатуха
І прыкметная здалёк —
Грэе вока, лашчыць вуха,—
Сэрца кідае ўпрыскок.

Мы, мужчыны, жонак цэнім,—
Але ўсе раптоўна тут
Да ўдавіцы сталі ценем
Праслізгаць у ціхі кут.

Ды забыліся «гулёні»,
Што галоўны вораг — слых.
Кожны ў вёсцы — на далоні,
Вёска скажа ўсё пра ўсіх...

А мужчыны пасля «ласак»
Штосьці хмурымі былі.
Кожны моцна тужыць пасак,
Ногі цягне па зямлі.

Я прыкідваю: — Не слаба! —
І скрабу сівую скронь...
— Мусіць, там не проста баба,
А маланка ці агонь!

Гэта ж трэба так запарыць
І мужчын, і дзецюкоў...
Ну й кахае, ну й штукарыць,
Вось дык баламуціць кроў!

Што я, горшы за астатніх?
Я ж яшчэ мужык — ого!
Я ж пражыў, як кот той хатні,
Без усякага ўсяго...

Я старанна пагаліўся
І для смеласці — «глынуў».
Так рашучасцю наліўся,
Што ад жонкі... слізгануў.

...Але вось пра што гамонка —
Прыкусі язык, чытач:
Як даведаецца жонка —
Не дай Бог — тады хоць плач...

Адчыняю ў хату дзверы
Да ўдавіцы — мой ты Бог!..
Нібы трапіў да Венеры,
Смак — ад галавы да ног!

Вочы — як вуголлі з печы!
Вусны — вабяць, ажно жах!
Нібы з белай гліны плечы!
Грудзі — булкі на драждджах!

А ніжэй!.. Я да ўдавіцы:
— Як папасці ў «рай», скажы?!
А яна мне: — Ну й дурніца!
Будзе ўсё табе, мой рыцар,
Толькі ты мне памажы.

— Што зрабіць?! Я з неба зоркі
Усе зграбу — любой цаной!
А яна: — Аб чым гаворка?
Лепей выкінь з хлева гной...

— Гной дык гной! Відаць, каханне
Не бывае без ахвяр.—
Я за вілы — і заданне
Выканаў — гару, як жар.

Зноў у «рай» ляцець гатовы,
А яна мне: — Галубок!
Пашчапай вунь тыя дровы,
Ну а потым — жарты ўбок...

Я сякеру ў рукі жвава —
І давай крышыць, шчапаць.
Але ж дровы — не забава,
Іх тут — кубаметраў пяць!

Чую — пакідаюць сілы,
Я не ў «рай» — дамоў хачу.
Гной, сякера, дровы, вілы
Сталі блытацца ўваччу.

Нарабіўся, як шалёны,
Дамантуліўся, узмок.
Стаў ад поту я салёны,
Як у ражцы агурок.

Ды і потны, як макрыца,
Трэсак, гною повен рот...
А яна мне ззаду: — Рыцар!
Можа, зробіш новы плот?..

Во ўчапілася, халера...
Заўважаю раптам я:
Дык яна і не Венера,—
Жонка ж прыгажэй мая.

Дзе тут «рай»? Няма і знаку!
Як разгледзеўся бліжэй —
Дык на ёй не знойдзеш «смаку»,
Хоць глядзі вышэй, ніжэй.

Вочы тыя — як у жабы,
Вусны — іх бы мець саве,
Плечы — стогадовай бабы,
Грудзі — нібы фічкі дзве...

Ад нахлынуўшых здагадак
Стала цесна ў галаве:
— Вось чаму ў яе парадак,
Хоць зусім адна жыве!

Я скасіўся на ўдавіцу
І кажу, абцёршы пот:
— Заўтра новы дурань-рыцар
Будзе тут — і зробіць плот...

Я пайшоў... «Наеўся» ласак,
Аж па горла «падгуляў».
Зацягнуў тужэй свой пасак,
Ногі ледзь перастаўляў.

*

Дома — падазрона штосьці...
Чысціня!.. Накрыты стол!..
Жонка ціхенька, без злосці
Сустракае, як анёл.

— Дзе забавіцца так можна?
Сядзь, паеш, туга мая!
Стаў я бэкаць асцярожна:
— Я... быў, гэта... Сыты я...

— Калі так, мой даражэнькі,
Нашчапай мне дроў схадзі!
А ў мяне ж тых сіл — паўжменькі,
Хоць мяне ў зямлю кладзі.

Я, як сеў — прыліп да лавы,
Век, здаецца б, не ўставаў...
— Дроў? — раблю я выгляд жвавы,—
Я ж па іх засумаваў!..

Зноў я з хаты — за сякеру,
А яна — як сто пудоў.
Мусіць, помсціць за Венеру
Лёс на старасці гадоў...

Мне ўжо цяжка й нахіліцца —
Ляп ды ляп... Стагну, кракчу,
Рукі хочуць адваліцца,
Цёмна, мутарна ўваччу.

Дашчапаў... А сам — як з ваты...
Сеў з макруткаю спіной...
Тут выходзіць жонка з хаты:
— Любы! Выкінь з хлева гной!

— Цьфу ты! Чортавыя пугі!
Згаварыліся яны?
У мяне ўжо без падпругі
Не трымаюцца штаны...

Як я разабраўся з гноем?..
Ноччу ў сне я ровам роў —
Нада мной ляталі роем
Кучы гною, горы дроў.

*

Я апёкся аб «Венеру»...
А сябры як, маўчуны?
Дай жа, думаю, праверу,
Што было ў іх? Як яны?

Возім мы аднойчы жыта,
Авадні пякуць — наскрозь!
На мяне сябры сярдзіта:
— Што ты гоніш, нібы лось?

Ці ж апошні дзень у Бога?
Мо курнём — глынём дымку?
Дзень вялікі — часу многа,
Адпачнем крыху ў цяньку!

Не! — кажу. Наш лёс — работа,
Хоць ліецца па спіне...
Мы мужчыны ці блазнота?
Хто мы — рыцары ці не?..

Зірк!.. Мае сябры раскіслі...
Чырванеюць, як клапы.
Нават сківіцы адвіслі,
Вочы лезуць на ілбы...

— Ты адкуль?.. Ты што?.. Ты — ціха!
Заікаюцца, гляджу.
— Вось цяпер, ядрона ліха,
Сядзем адпачнем,— кажу.

І было хоць брыдка, горка,
Загулі тут мужыкі.
Развязалася гаворка,
Як у п’яніцы шнуркі.

— Я — касіў!
— Я — клаў падлогу!
— Я — дык студню ёй капаў!
(Не адзін я, дзякуй Богу...)
— Ну, а дровы хто шчапаў?..

Тут і я зачырванеўся...
Сам сабе я нагадаў,
Як я «ласак» тых наеўся...
А сябрам услых дадаў:

— Век не бачыў гэткіх «цацаў» —
Пра каханне — ні гу-гу...
Ну а хтосьці хоць памацаў
За руку ці за нагу?

Змоўклі ўсе... Няма гамонкі...
Раптам як зароў Рыгор:
— Ці не заключылі жонкі
З гэнай шэльмай дагавор?!.

Здрыгануўся раптам кожны,
Сціснуў вусны і — маўчок!..
Як яршок неасцярожны,
Трапілі мы на кручок.

*

Жонка мужам ганарыцца,
Калі мае лад сям'я.
Вось і мне мая: — Мой рыцар!..
— Што?!..— ажно падскочыў я.

— Ты адкуль такое слова
Адкапала? Гавары! —
А ў яе прапала мова,
Стала чырваней зары.

— Трэба ж так прагаварыцца...—
Кажа ўслых сама сабе...
Я крычу: — Мне слова «рыцар» —
Нібы камень на гарбе!

— Ну... не рыцар — малайчына.
Ці ж ты гонар свой згубіў?
Ну, пайшоў... памог жанчыне —
Што ж ты дрэннае зрабіў?..

І з пяшчотаю зірнула,
І знайшло душу цяпло...
Што ж, мінулае — мінула,
Што было ўжо — дык было.

*1992*

# Партызанскі праспект



Захар скакаў па лесе нацяньկі,
Хвастала голле па грудзях, па твары,
Гусцелі і чарнелі думкі-хмары,
Страсалі пену конскія бакі.

Захар хлыстаў, хоць шкадаваў каня,
А той і так імчаў з апошняй сілы.
— Хутчэй, Гняды! Хутчэй, Гнядочак мілы! —
Маліў Захар — падлетак, хлапчаня.

Захарку толькі чатырнаццаць год,
Два месяцы, як скончыў сямігодку.
Як кажуць, толькі-толькі сеў у лодку,
Каб па рацэ жыцця плысці ў паход.

Узрост яго — як ранак ці вясна,
Яму жыццё здавалася бясконцым.
Але раптоўна пачарнела сонца,
Нібыта ноч, накрыла ўсё вайна.

Вайна... У кожным сэрцы паўстае
І жах, і боль, нянавісць і рашучасць.
Вайна — і смерць,
Вайна — і неўміручасць,
Нікому не схавацца ад яе.

Клялі нядолю, рвалі валасы,
Хрысціліся і плакалі жанчыны.
Курылі моўчкі самасад мужчыны
І йшлі ад родных хатаў у лясы.

Хто з чым ішоў, са стрэльбамі радзей,
А хто, як кажуць, голыя нёс рукі.
Ішлі асвойваць жорсткія навукі —
Не сеяць хлеб, а забіваць людзей.

Не, не людзей! Прыйшлі да нас яны
Душыць дзяцей, крыві і слёз напіцца,
Пад імі стогне родная зямліца,
Ці ж людзі гэта? Горай зверыны!

Захарку гонар клікаў за парог: —
Хай немец сам хаваецца ў запечак!
І хлопчык ціха, каб пазбегчы спрэчак,
Падаўся ў лес, інакш ён і не мог.

Ды толькі вось бяда — ісці куды?
Захарка нават разгубіўся крыху...
Дзе партызаны? Не чуваць і слыху,
Хоць бы якія гукі ці сляды.

Няўжо ж надзеі, мары — гэта зман?
А ён жа думаў кожны дзень упарта,
Што толькі ў лес ступіць нагою варта,
А там, за кожным дрэвам — партызан.

У пошуках і трэці дзень прабег,
Захарка згаладаўся, стаў таміцца.
Хоць ты «ау» крычы, як у суніцах,
Ды партызанаў зваць — курам на смех.

Ні крыўды ўжо, ні стомы не схаваць,
Дый думка ў сэрца б’е: — Наваяваўся!
І вось, калі чацвёрты дзень канчаўся,
Яго за плечы ззаду нехта — хваць!

— Куды, саколік, лыжы навастрыў?
Ды і адкуль ты ціснеш, брат, на пяткі
Адзін, насупраць ночы і без маткі?
Захар не стаў маніць, сакрэт адкрыў.

І хоць ад стомы быў ён ледзь жывы,
Але скумекаў, што прыйшоў да мэты
І што з вінтоўкай незнаёмец гэты —
Сапраўдны партызанскі вартавы.

— Я, дзядзечка, шукаю вас!
— Мяне?
— Не, дзядзечка, не вас... і вас таксама...
— Ты, малец, не віхляй, адказвай прама,
Мы ж не ў гасцях з табой, а на вайне.

— А я і не збіраюся віхляць! —
І смела глянуў незнаёмцу ў вочы.—
Таму адзін я тут насупраць ночы —
Хачу стаць партызанам, ваяваць!

— Ты ваяваць? Вось гэта маскарад!
Ты будзеш біць захопнікаў-бандытаў?
Ты, хлопча, пэўна, нешта пераблытаў,
Павінен ты шукаць дзіцячы сад.

Захар ад крыўды застагнаў ажно:
— Я не малы! Мне хутка ўжо... шаснаццаць
(Пра свой узрост рашыў не прызнавацца),
Я школу скончыў, дзядзечка, даўно.

— Во, бачыш пень? — спытаўся вартавы,—
Ты ж за яго вышэйшы на запалку.
— Дык гэта Бог не даў мне росту змалку,
А так я дужы, рост адкіньце вы.

Ды што я тут гадзіну вас малю?! —
Сказаў Захарка горача і шчыра,—
Вядзіце мяне лепш да камандзіра,
Ад вас я ні на крок не адступлю!

— Ну і прыстаў, як да штаноў смала! —
Сказаў падлетку партызан з усмешкай,
Але павёў усё ж нябачнай сцежкай.
Захарка ажно ззяў: — Мая ўзяла!

Прайшлі гушчар, узлезлі на абрыў,
Нырнулі ў ельнік, перайшлі балота...
— Ну што, ваяка, ёсць яшчэ ахвота?
Вось і атрад!
Захар аж рот адкрыў.

Нічога не было і раптам — цуд!
Падводы, коні, буданы, зямлянкі,
Вінтоўкі, шаблі, кіцелі, кубанкі —
Якая моц! Якая сіла тут!

Хто чысціў зброю, хто паіў каня,
Усе былі пры справе партызаны.
Захарка аж застыў зачараваны.
— Пайшлі далей, прачніся, хлапчаня!

— Ой, дзядзечка, я ж адурнеў, як бот,
Я ж і не сніў такое...
— Кінь скуголіць!
Вунь камандзір, калі ўжо ён дазволіць...
Захар яшчэ шырэй разінуў рот.

Вось гэта камандзір! Не партызан,
А найсапраўдны афіцэр вайсковы.
На ім і галіфэ, і кіцель новы,
І рэмні цераз плечы, і наган.

— Каго вядзеш, Мацей? Унук? Радня?
— Таварыш камандзір, ён беглы, быццам,
Ён збег ад маткі, каб усыпаць фрыцам.
— Вось гэта пстрычка? Гэта зайчаня?

З якой ты вёскі? Маці дзе твая? —
Спытаўся камандзір.— Адказвай шпарка!
— Я ваяваць хачу! — сказаў Захарка,—
Чатыры дні шукаў ваш лагер я.

— Галодны ён,— паспачуваў Мацей.
— Вядзі на кухню,— камандзір гаворыць,—
Паесць, паспіць, а заўтра гэта гора
Назад дамоў, не трэба нам дзяцей.

— Куды дамоў? Якое я дзіця?
Я з голаду памру — не буду есці!
Ці расстраляйце лепш мяне на месце,
Адмовіцца я згодзен ад жыцця!

— Вось табе й на! — здзівіўся камандзір,—
Такі малы, а, як яршок, калючы.
— Я, дзядзечка,— сказаў Захар рашуча,—
Ці буду тут, ці галавой у вір!

— Ты чуў, Мацей? Кармі яго хутчэй!
А там пабачым...
— Ёсць карміць Захара!
Мацей шапнуў: — Прайшла, здаецца, хмара,
Пакуль не перайграў, пайшлі з вачэй.

*

Вось так Захарка ў партызаны ўлез,
Схапіўся за саломіну зубамі.
Пры кухні быў, карміў усіх грыбамі,
Разоў па пяць хадзіў па іх у лес.

Аднойчы тут — Захар і сніць не мог,
Яму сустрэўся Кандратовіч Грышка —
Сусед па роднай вёсцы Васілішкі,
З каторым разам лазілі ў гарох.

(І Грышка ў партызаны сігануў!)
Ён атрымаў калецтва выпадкова,
Шчапаў калісьці на дрывотні дровы,
Ды прамахнуўся, пальцы секануў.

І ўсім ён стаў тлумачыць, пераймаць:
— Во, фігі не магу скруціць цяперка,
А ўсё зрабіла чортава сякерка,
Я рот разявіў, а яна мне — хваць!..

І пачалі Сякеркай зваць яго,
А ён не лез за печ ад гэткай раны,
Не слініў, а падаўся ў партызаны —
Было яму год дваццаць усяго...

— Ты што, Захарка, мыеш тут катлы?
А ваяваць калі? — спытаўся Грышка.—
Няхай іх мыюць — у каго задышка,
Ты ж не стары, здаецца, й не малы.

— А што рабіць, Сякерка? Памажы!
— Забудзься пра Сякерку! Што мармочаш?
Калі са мной пайсці ў разведку хочаш,
Нікому пра Сякерку не кажы.

Я не апошні тут, Захар. Цані! —
І ўзяў, прыладзіў хлопчыка ў разведку,
Бо быў Захарка адчаюга рэдкі
І, як ніхто, мог гойсаць на кані.

І пачалося не жыццё, а мёд:
Збор розных звесткаў, рэйды, данясенні,
Свіст куляў, небяспечнасці, здарэнні,
І гэта ўсё — у чатырнаццаць год.

Хадзілі ўтрох — Захар, Мікола Жук
І Кандратовіч. Тройка — вецер вольны!
Быў камандзір разведкай задаволены,
Ён звесткі меў, як кажуць, з першых рук.

Вярталіся аднойчы, як заўжды
Са звесткамі. Захар жа без дазволу
Адстаў, пакінуў Грышку і Міколу,
І птушкаю панёс яго Гняды.

Спяшаўся ён у вёску Цёплы Стан,
Таму і гнаў каня без перапынку.
Хацеў зірнуць там на адну дзяўчынку —
Відаць, сталеў Захарка-партызан.

У вёску гэту звозілі здалёк
Жанчын, дзяцей, падлеткаў тут хавалі
З надзеяй, што вайны пякучай хвалі
Не закрануць глухі гэты куток,

Захар ім не аднойчы дапамог,
Праводзіў днём сюды і сярод ночы.
І выпадкова тут убачыў вочы
І ўжо пра іх не думаць ён не мог.

Яны пяклі яго, як два агні,
Дзяўчынка ў ім убачыла героя.
І ён адчуў, што іх на свеце — двое,
Прад ёю вытанцоўваў на кані.

Ці ж мог мінуць Захарка гэты кут?
Пра гэта ён і ў думках не гамоніць.
Ён толькі гляне — і сяброў дагоне,
Ён толькі ўбачыць сінявокі цуд.

Захар усё імгненна прымячаў.
Адтуль — і Цёплы Стан, як на далоні.
І раптам... аж схапіўся ён за скроні,
Ад жудасці ён ледзь не закрычаў.

Машыны ўнізе чадзілі, раўлі,
І ў кожнай — немцы, аж біткам ваякаў.
Машыны, нібы доўгая вужака,
Узняўшы пыл, у Цёплы Стан паўзлі...

Захар скакаў па лесе нацянькі,
Хвастала голле па грудзях, па твары,
Гусцелі і чарнелі думкі-хмары,
Страсалі пену конскія бакі.

*

Захар хлыстаў...
                    — Здароў, Захар Ільіч!
Вось дык сустрэча! Як неспадзявана
Убачыў я Захарку-партызана.
Ты што, зусім заганарыўся, хрыч?

Захар аж здрыгануўся, знік Гняды,
Ішоў ён побач з Кастусём Каханскім.
Ішоў ён па праспекце Партызанскім,
Ужо Ільіч — даўно не малады.

— Ты што, Захар, нібы ў глыбокім сне?
Цябе я клічу, ты ж, як лёд, халодны.
— Здароў, Кастусь!
Прабач, Кастуська родны!
Мінулае зірнула ў сэрца мне...

— Ад гэтых не схавацца, брат, вачэй,
Прачнешся ноччу — і ляжыш у поце,
То гасне сэрца, як агонь на кноце,
То б’ецца, б’ецца ўсё хутчэй, хутчэй...

Кастусь у Мінск прыехаў з Мазыра,
Ён ехаў кожны год на гэта свята.
З’язджаліся сюды, як брат да брата,
Зляталіся, як да сястры сястра.

— Здаецца мне, Кастусь,— сказаў Захар,
Што сілы родзяць гэтыя сустрэчы.
— Яно-то так, але намуляў плечы
Сучаснага жыцця-быцця цяжар.

За што мы ваявалі? Што знайшлі?
За што сябры паскладвалі галовы?
— Ты што, Кастусь, пляцеш? Пра што размовы?
Мы ж за свабоду, братка, кроў лілі.

— Ат, кінь, Захар! Свабода! Вось яна —
Пустыя крамы, жорсткасць і хваробы.
А цэны? Цэны — з’елі ўсе вантробы,
Затое нам з табою — грош цана.

— Ну не скажы, Кастусь! Ці ж гэта сон?
Удзячна людзі нас вітаюць! Бачыў? —
Але ў душы Захар і сам адзначыў,
Што менш увагі да такіх, як ён.

Раней аж з двух бакоў — сцяна людзей,
У кветках розных блыталіся ногі.
Цяпер — да самай плошчы Перамогі
Ні кветачкі, дый людзі ўсё радзей.

— Цудоўны дзень, Кастусь! Адкінем злосць,
Нашчадкі могуць намі ганарыцца...
— Ты ведаеш, Захар, вайна нам сніцца,
Бо там юнацтва наша, маладосць.

І хоць жыцця ўжо захад, а не ўсход,
Не адпускаюць нас вайны дарогі...
...Быў светлы дзень вялікай Перамогі,
Якой спаўняўся сорак пяты год.

Твае, Радзіма, дочкі і сыны
Праз жах *твой* гонар здолелі пранесці,
І ў гэты дзень штогод праводзяць шэсце
Удзельнікі той жудаснай вайны.

І сумна, і ўрачыста тут было,
Але Захар Ільіч адчуў міжволі,
Што памяць яго сёння як ніколі
Назад вяртае, кідае ў сядло.

*

Захар хлыстаў, хоць шкадаваў каня,
А той і так імчаў з апошняй сілы.
— Хутчэй, Гняды! Хутчэй, Гнядочак мілы! —
Маліў Захар — падлетак, хлапчаня.

Захар у лагер уляцеў стралой:
— Дзе камандзір? Бяда!.. У Цёплым Стане!..
— Што?.. Дзе?.. Адкуль?..—
ляцелі ўслед пытанні,
Да месца збору йшлі ўсе табалой.

Хлапчук з Гнядога пстрыкнуў на скаку,
Да камандзіра мячыкам падскочыў,
А ў беднага агнём палалі вочы,
Ён аж дрыжэў, даў волю языку.

— Хутчэй!.. Бяда!.. Няшчасце!..
Цёплы Стан!..
Там немцы! Там, таварыш камандзірка...
— Мне не па густу з тваіх слоў зацірка,
Сарока ты, Захар, ці партызан?

Захар зачырванеўся: ну й трапло,
Як цецярук развёў тут балбатанне...
— Таварыш камандзір! У Цёплым Стане
Я бачыў немцаў...
— Колькі іх было?

Не зводзіў камандзір з яго вачэй.
Цяпер Захар галоўнае адзначыў,
Даклаў без лішніх слоў пра ўсё, што бачыў,
І горача дадаў: — Хутчэй! Хутчэй!

*

У трох напрамках рухаўся атрад:
Адны — у Цёплы Стан, адны — ў засаду,
А частка — у абход, даць немцам ззаду,
Каб не вярнуўся аніводны кат.

Захар — у першай групе, на віду,
Паказваў карацейшую дарогу,
Спяшаўся, у душы маліўся Богу,
Каб не спазніцца, каб спыніць бяду.

Не заўважалі цяжар зброі, пот —
Там недзе дзеці ў кіпцюрах бандытаў,
Хутчэй бы ў жорсткі бой ісці адкрыта,
Пакуль сябры спяшаюцца ў абход.

Дзяцей, жанчын хоць шкадаваў Захар,
Ды даражэй за ўсіх яму — дзяўчынка,
Вясна яго кахання — Васілінка,
Яе нябесны сінявокі твар.

А вось і Цёплы Стан... Агонь сцяной —
Гарэла ўсё навокал — дрэвы, глеба,
Гарэла вёска, дым упёрся ў неба,
Аж роў агонь, запалены вайной,

Запалены страшэнным перуном...
З жалобным трэскам дагаралі хаты,
Як здань, у дыме мільгацелі каты,
Здаваўся гэты жах — жахлівым сном.

Не памятаў Захар, як грымнуў бой,
Не заўважаў, як смерць жыццё тут секла,
Скакаў ён сярод вогненнага пекла,
Ён бачыў родны твар перад сабой,

І раптам лямант замарозіў кроў.
Клубок адчаю, болю, перапуду
Сплятаўся з ровам вогненнага жуду.
Захар на крык рвануўся, сам зароў.

Драўляны свіран гінуў у агні.
У вогненным бязлітасным абдымку
Захар жанчын чуў, дзетак, Васілінку,
Да іх ляцеў маланкай на кані.

Падскочыў да сцяны — сцяны агню.
Рвануўся конь назад, захроп жалобна,
Трывожна заіржаў, затросся дробна.
Захар — з каня: — Няўжо я гэта сню?!

Падбег да жоўта-белых языкоў,
Штурхала да агню адчаю сіла,
Ды полымем знянацку апаліла
Калені, рукі, твар — з усіх бакоў.

Затлелася адзенне дзе-нідзе...
— Я тут! З табой! — ён клікаў Васілінку.
— Я тут! Прабач! — стагнаў ён безупынку,
Не мог дапамагчы ёй у бядзе
І сам гарэў жывым каля будынка.

Загінуў бы Захар, жывым згарэў,
Але нырнула нешта з-пад застрэшку,
Як быццам кінуў нехта галавешку,
Зваліўся гэты скрутак і курэў.

І раптам з тыхануч:
— Ку-гу! Ку-гу!
— Там немаўлятка, там жывое цела!..
Перакрычаць вайну яно хацела...
Захар схапіў яго: — Дапамагу!

Хоць гэта вырву з кіпцюроў вайны...—
Пабег ён з дзіцянём ад свірна шпарка
І сам курэў, дыміўся, як цыгарка,
Імгненне — і спазніліся б яны,

Бо свіран раптам пахіснуўся ўраз
І рухнуў дах, аж гахнула зямліца...
Згарэлі сэрцы, перасталі біцца,
І крык апошні абарваўся, згас.

*

Захарку толькі чатырнаццаць год,
Зусім нядаўна скончыў сямігодку.
Як кажуць, толькі-толькі сеў у лодку,
Каб па рацэ жыцця пачаць паход.

Рака жыцця... Цудоўная рака!
Нам непаўторнай дадзена, бясцэннай,
Але яна бывае і страшэннай,
Тады — шматкі ляцяць ад чаўнака.

Захараў лёс, як без руля чаўнок,
Шпурлялі з віру ў вір вайны імгненні.
А сёння на смяротныя каменні
Наскочыў лёс-чаўнок ды і пацёк.

Захарка плакаў...
Не, не ад таго,
Што апаліла полымя пякуча.
Было яму ад іншага балюча —
Боль страты апякаў душу яго.

Ён плакаў, слёз не ў сілах супыніць.
І хтосьці, каб паменшыць жаль хлапечы,
Абняў ласкава хлопчыка за плечы:
— Не плач, Захарка, іх не ажывіць.

Не плач, браток, адпомшчаны яны,
Усыпалі і мы драпежным катам
І пікнуць не дазволілі, праклятым,
Цяпер іх пахаваюць груганы...

*

Сюды, дзе свіран быў, аж у канцы,
Збіраліся паціху партызаны.
Павінны ж быць па-людску пахаваныя
Гаротныя згарэлыя людцы.

Пад попелам, пад грудай галаўнёў —
Надзеі сэрцаў, душаў светлых мары,
Дзіцячы смех, гарэзлівыя твары,
Жаночая пяшчота, плоць і кроў.

Рака жыцця... Ні кроплі ад ракі,
Ні думкаў ад загінутых, ні гукаў...
А ім бы жыць і мець дзяцей і ўнукаў,
І праўнукаў, і гэтак — праз вякі.

Цяпер грызі за локці ці крычы,
Не загамоніць попел страшны гэты,
І ад яго не родзяцца паэты,
Настаўнікі, аратыя, ўрачы...

Захар пайшоў адгэтуль хоць куды,
Страшэнна пахла мясам чалавечым.
Нібы ўвесь свет упаў яму на плечы,
Свет непатрэбны, створаны з бяды.

Захар нёс думкі горкія свае,
Пра Васілінку думаў ён міжволі:
— Бязлітаснае слова ёсць — «ніколі»,
Ніколі не спаткаю я яе.

Ніколі не пабачу тых людзей...—
І вось цяпер заўважыў, што трымае,
Не, не трымае — моцна прыціскае
Той скрутак да апаленых грудзей.

Ён перастаў праклёны слаць вайне,
Забыўся нават пра свой жаль пякучы,
Раскручваў абгарэлыя анучы,
Шукаў дзіця — хоць ёсць яно ці не?

Ляжаў ён моўчкі, ціхенька, як мыш,
Маленькі хлапчучок белагаловы...
Захара раптам страсянулі словы:
— Няма чаго сказаць? Чаго маўчыш?

— Што, хлопцы? Што? — збянтэжыўся Захар.
А-а... Вось дзе ён!..
На плошчы Перамогі...
Ён, нібы ў сне, не заўважаў дарогі,
Нёс успамінаў жудасны цяжар.

Агледзеўся... Ускладваюць вянкі
Да помніка сівыя ветэраны.
...Штогод вас менш, былыя партызаны,
Вас не шкадуе час, франтавікі...

Захар ступіў да Вечнага агню,
Але прад ім паўсталі тыя ж твары:
— Не хочаш з намі весці тары-бары?
Давай, стары, валі сваю хлусню!

Захар здзівіўся: што за брэх пусты?
— Пра што гаворка, хлопцы? Растлумачце!
— Ах, мы не зразумелі! Ах, прабачце!
Мы разважалі пра такіх, як ты.

Вы ж, нібы вулей з пчоламі, гулі,
А вось мядку — ху-ху! — не нацягалі.
Ну, можа, трохі там паваявалі.
А што далей? Куды нас прывялі?

Захар вушам не верыў. Што за сон?
Вось табе й свята. Вось і Перамога.
Ці ж можна зневажаць так пажылога?
Ці ж несумленна жыў з дзяцінства ён?

Захар збялеў. Як кажуць, завялі,
Нібы ўсхадзіўся зуб струхнелы кутні: —
— Ах вы каты адкормленыя!.. Трутні!.
Дзе ваша праца?.. Вашы мазалі?..

Ларкі?! Валюта?! Дзеўкі?! Каньякі?! —
Захару стала горка і балюча,
Пакрыўджаны, пакрочыў ён рашуча...
...Сябры ўскладалі па сябрах вянкі.

Захар знямогся, перасільваў боль
У сэрцы, у нагах...
Няўжо ад стомы?
Быў сам сабе ён нейкі незнаёмы,
Душы саету грызла крыўды моль.

Ён плёўся, абяссілены, дамоў,
Не слухаліся ногі, нібы з цэглы...
— І што гэта за дзень такі нягеглы,
Дзень несвяточных думкаў і размоў?!

Як быццам адарваўся ад зямлі,
Заплюшчыўся... і — галавой у бездань.
— Прыйду дамоў,
Са злосці чарку рэзну,
Хоць сэрца джаляць раны, як чмялі.

Знайшоў Захар прыпынак, выцер пот
І з асалодай сеў на лаўку з краю.
— Тралейбус ці аўтобус пачакаю,
Адсюль не блізкі свет — аўтазавод.

Дарыла сонца велічнаму дню
Сваю пяшчоту, цеплыню, пашану.
І падалося раптам ветэрану,
Што ён — ля партызанскага агню,

Што з ім сябры і вера ў светлы дзень,
Што з імі падзяляе ўсё Радзіма.
Ім выжыць паасобку немагчыма,
Яны — адно, як сонца і прамень.

«Радзіма без дзяцей — лес без галля,
А дзеці без яе — без дрэва лісце».—
Захарка гэта вывучыў калісьці...
Хто ён цяпер? Зноў човен без руля?

— Вось я сяджу адзін, як нейкі кол,
А хто мяне чакае ў гэтым свеце?
Мая Радзіма сёння — жонка, дзеці,
Мая Радзіма заўтра — волкі дол.

Сагрэла сэрца думка: — Ёсць сябры,
Палешукі, мінчане, гамяльчане...
Ды і яны жывуць... на выжыванне,
І іхні лёс — нагамі дагары.

Прымусіла жыццё прыціснуць хвост.
А вось раней у дзень святочны гэты
То сям, то там заходзілі ў буфеты,
За недажыўшых уздымалі тост.

Цяпер ларкі аж пухнуць ад бурды,
Пі гэту гадасць, хоць распеpажыся,
Але такія цэны — сцеражыся,
Бутэльку купіш — тыдзень без яды.

Ды і абноўкі ім «не па зубах».
А сёння вось падняў чужы акурак...
Развальваецца і трашчыць падмурак,
А гаспадар — увагу ўсю на дах...

Захара думкі б і далей вялі,
Але ў аўтобус ён улез чаканы,
А там — бітком,
Ды ўстаў хлапец з пашанай,
Пачуў, як зазвінелі медалі.

— Сядайце, калі ласка,— мовіў ён,
Памог прайсці ў праходзе цеснаватым
І ціха, з цеплынёй дадаў:
— Са святам!
Захар здзівіўся: можа, гэта сон?

Глынуў Захар няпрошаны камок:
Ёсць у жыцці і дні, не толькі ночы...
З падзякай хлопцу ён зірнуў у вочы:
— А гэта свята і тваё, сынок.

*

З чаго ж ён пачынаецца? Адкуль
Праспект, названы ў гонар партызанаў?
Ці з самай першай смерці, першай раны,
Атрыманай ад самых першых куль?

Ці з першай пасівелай галавы
У васямнаццаць год? — Узрост блазноткі.
Ці з самай першай на вайне сіроткі?
Ці з самай першай на вайне ўдавы?

Ці з мараў Васілінкіных і сноў?
З яе забітых будучых дзіцятак?
Ці з тых, ад гора пачарнелых матак,
Вайне дачок аддаўшых і сыноў?

Бясконца можна пералічваць «ці...»
Бо гора тое — назаўжды, навечна,
Бо подзвіг той — месія чалавецтва —
Другога параўнання не знайсці...

*

Ўсё меней ветэранаў,
партызанаў,
Усё далей мы ўсе
ад той вайны.
Аб кожнай новай страце
нечаканай
Свет абвяшчаюць
памяці званы.

Падзеі зноў
грамадства закруцілі,
«Бліжэй сваё» —
гучала на зямлі.
Мы ўсе любоўю вам
не даплацілі,
Не выказалі шмат,
не дадалі.

А вы жылі з праблемамі —
сам-насам,
І мужна выжывалі —
хто як мог.
Вам запазычанасць
апошнім часам
Вяртаюць нашы сэрцы —
бачыць Бог.

Вы верылі,
што гэты час настане —
Не паміраць жа
памяці жывой.
Вы у дзяржавы —
на пярэднім плане,
Як і ў вайну вы —
на перадавой.

Вас меней, меней...
Сэрца б’е трывогу —
Вунь колькі у свеце
помнікаў, вянкоў...
Не дай нам Бог
адзначыць Перамогу —
Галоўны Дзень
без вас, франтавікоў.

*1990*

# *Зацішша ў Закілішшы*



## Дыспут

У жыцці падзей багата:
Захапленні, праца, святы,
Расставанні і сустрэчы —
Лёс такі наш чалавечы.
Але ў вёсцы Закілішша
Надышло ў жыцці зацішша.
Ну, вядома ж — лета, спёка,
Рыба залягла глыбока,
Не клюе, хоць плач, хоць енчы,
Хоць ты перад ёй укленчы.
Я прадоўжу меркаванні:
Рыба спіць, а паляванне
Забаронена на лета...
Вось усё складзіце гэта,
Ды яшчэ дадайце словы:
Закілішцы — рыбаловы,
І яны, як вы каханне,
Спяць і бачаць паляванне —
Атрымаеце разгадку
Блытаніны, дзе спачатку
Сказ пра тое, як зацішша
Заблукала ў Закілішша.
Не падумайце, што справы
Кінуць тут дзеля забавы,
Пойдуць толькі пасля працы
З вудай ці ружжом цягацца.
А ў зацішша без прычыны
Выйдуць дзецюкі, мужчыны
Проста так — дзяліцца чулым
І пацешыцца мінулым.
Тут пачуеш хлопцаў здольных
Нават з вёсак навакольных.
Сядзем мы ў цяньку, на выступ,
Пачынаем, нібы дыспут,
Успаміны, меркаванні.

Хто пра што — пра паляванне,
Не адно пачуеш слова
Ад калегі-рыбалова.
Вось і сёння селі колам
І над зборышчам вясёлым
Паплыло паволі слова —
Нашай Бацькаўшчыны мова.
Мне сказалі: — Будзеш першым!
Мы — працягнем і завершым.
Першы я ці хто — не дзіва,
Я пачаў расказ праўдзівы.

## Юшка

Антык, Янак, Юзік, Франак
Пасля многіх абяцанак
На маю прыйшлі сядзібу:
— Запрашаем вудзіць рыбу!
Калі хочаш сёрбаць юшку,
Хоць на ноч пакінь падушку.
Каб не траціць час і словы,
Адказаў ім: — Я гатовы!
Я ўсяго сабраў патроху:
Груцы, сыру і гароху,
Бо на гэтыя прысмакі
Трапяць рыбы-небаракі.
І хоць гэта варыш-парыш,
Але ёсць чарвяк — апарыш.
Сам ён белы, круглы, дробны,
На гарошынку падобны.
І хоць ён прыемны воку,
А смурод чуваць здалёку.
Да яго ўсе рыбы ласы...
Трэба ўзяць кавалак мяса
І згнаіць яго — не есці,
Каб чарвей такіх завесці.
Потым — не страляй варону,
Рыбіна клюе з разгону.

*

Хутка сонейка садзіцца,
Вось і рэчка-чараўніца,
Вабіць, нібы стужка ўецца,
Рыбы ў ёй — кішыць, здаецца.
Мы — за вуды ды да рэчкі
І застылі, нібы свечкі.
Рыбаку (пачну гамонку)
Паплавок радней за жонку.
Ён яго пад куст падводзіць,
Ён з яго вачэй не зводзіць,
Сніць начамі, лашчыць, гладзіць,
Штосьці шэпча, нешта ладзіць.
Праўду баю ці хлусню я —
Жонка гэтак не хвалюе.
Але ціха! Жарты ў бокі!
Паплавок пайшоў у скокі,
Даў нырца пад куст кудлаты.
Хвать я! Ёсць... яршок смаркаты.
Ах ты, чортава знаходка!
Ну, нічога, будзе й плотка.

*

Села сонейка за лесам,
Мы скруцілі вуды-лесы,
Кожны падлічыў галовы,
І, гукаючы, як совы,
Адышлі ад рэчкі-стужкі,
Каб гарачай з'есці юшкі,
Антык — з рыбін лупіць кішкі,
Янак — ставіць міскі, лыжкі,
Юзік — бульбу абірае,
Франак — толькі назірае:
— Гэта,— кажа,— вашы справы,
А мае: дадаць прыправы,
Пасаліць, закінуць рысу,
Праглынеце з юшкай місу!

Вось агонь ужо гатовы,
Я — палю, цягаю дровы.
Кацялок, як вочка, поўны,
Франак ля яго — галоўны.
Нешта ўсыпе, штосьці ўкіне,
То апусціць, то падыме,
Паспрабуе, дзьмухне, цмокне...
Мой язык у слінках мокне,
Дый сябры мае чакаюць,
Толькі слінкі палыкаюць.
— Вось і ўсё! — зазначыў Франак.
— Дзякуй Богу! — крыкнуў Янак.—
Вернуць нос твае прыпраўкі.
— Э-э! Папросіце дабаўкі! —
Франак юшкай ганарыцца:
— Цукар з мёдам, не юшыца!
Мы хутчэй да майстра — кучай:
— Дай нам юшачкі пахучай!
Франак нас абсек:
— Без спешкі!
Час прыйшоў для галавешкі.—
Дастае з агню палена,
Боўць у юшку — толькі пена
Узнялася з дымам, з парай.
— Ну, падходзьце з сваёй тарай!
Да агню мы сунем міскі
І пустыя ліжам лыжкі.
Воўк у лесе аніводны
Так, як мы, не быў галодны.
Стала ціха ля агнішча,
Толькі ў цемры лыжка свішча,
Ад пасудзіны — да роту,
Кожны вурзгаў у ахвоту.
Бралі рыбу ў рот кусамі,
Ажно шморгалі насамі,
Жвалі, цмокалі, крakталі,
І таптали, і таптали.

— Што, вы ўсё жыццё не елі? —
Кажа Франак.— Ці знямелі?
Першым Юзік «выткнуў» слова:
— Юшку ты зварганіў клёва!
І таму маўчым у поце,
Бачыш, спраўна як малоцім?
Янак падтрымаў размову:
— Хіба ж будзе месца слову
Там, дзе смак і завіханне?
Але ёсць яшчэ пытанне:
Прасвятлі маю «даўбешку»,
Для чаго ты галавешку
Ткнуў у кацялок з размаху?
Франак хмыкнуў: — То ж для паху!
Там — цыбулька, бульба, рыбка —
Найгалоўнейшая скрыпка.
Потым перчык, ліст лаўровы —
Вельмі важныя галовы.
Рыс і морква — для аздобы,
Соль кладзеш і робіш спробы.
Што падсыплеш, што падкінеш,
А калі надыдзе фініш —
Галавешка робіць справу,
Каб дымком заправіць страву.
— Ну мастак! — Антось зазначыў.—
Бачыў шмат — такіх не бачыў!
— Чараўнік ты, Франак, нейкі! —
Я уставіў тры капейкі:
— Не навар, а проста казка!
Дай дабаўкі, калі ласка...
Змоўклі нашы ахі, охі,
Трэба ж прыдрамнуць хоць трохі,
Бо, як толькі прыйдзе ранак,
Зноў наварыць юшкі Франак,
А для новага навару
Трэба рыбак хоць бы пару.

*

Каля рэчкі — не на печы,
Холад скубці стаў за плечы,
Дрыжыкі пайшлі па целе,
Ўсталі мы, хоць спаць хацелі.
Ружавела ўжо на ўсходзе...
— Ну, сябры, валяцца годзе!
Сцёбнем вудай па вадзіцы,
Зловім рыбкі для юшыцы!
Вунь яна ў карчах гуляе,—
Франак нас усіх натхняе.
Мы, як дзеці-немаўляткі,
Паслухмяна — за манаткі,
Мы гатовы і ў балота,
Так юшыцы нам ахвота.
Мы да рэчкі бегчы рады,
Франак нам дае парады,
Хто для юшкі неабходны.
Мы ў адказ ківаем: — Згодны!
З Франакам не пабазарыш...
Але дзе я дзеў апарыш?
Што за трасца? Быў — і згінуў!
Можа, я ля рэчкі кінуў?
Злётаў — пуста. Я — да Янкі:
— Ты маёй не бачыў шклянкі?
У адказ мне Янка: — Братка!
Іх жа ўзяць у рукі гадка!
Я — да вогнішча, да сумкаў,
Пухне галава ад думкаў...
Падышоў з уловам Франак:
— Праз чарвей згубіў світанак?
— Так, згубіў, браточак Франка...
Ой, прабач! Дык вось жа шклянка! —
Маё сэрца жах кранае:
— А чаму яна пустая?!

Франак шклянку ўзяў у рукі:
— Што за жарты? Што за штукі?
І раптоўна з гэтай шклянкай
Шась — да кацялка маланкай.
Зірк на дно — і стаў зялёны,
Шась назад, нібы шалёны.
Я здзівіўся — што за танцы?
Ажно ў гэткай самай шклянцы
Франак рыс дастаў... Мой Божа!
Ёлкі-палкі!.. Быць не можа!..
— Што ты ўсыпаў замест рысу?
Даць бы шклянкай табе ў пысу!
— Пераблытаў... цемра ночы...
Франак скардзіцца, мармоча.
Да катла цяпер я шаснуў,
Глянуў і ў далоні пляснуў;
Мой апарыш разварыўся...
— Каб ты, Франак, праваліўся!
Чым ты нас карміў? — я плюнуў.
— Гэта ты чарвей падсунуў!
Франак раптам агрызнуўся.
Антык з Янакам вярнуўся:
— Што за спрэчкі? Што за крыкі?
— Гэты повар наш «вялікі»
Накарміў нас чарвякамі,—
Выдаў я.— Зірніце самі!
Во, на дне, магу саскрэбці,
Можа, хочаце даесці?
Антык сіні стаў, як пляма,
Рвала Янака таксама,
Ды і Юзік тузаў жылы.
Я змагаўся з усёй сілы,
Тузгачам я не таварыш,
Як-ніяк — а мой апарыш.
Ну а повар як? Вядома!..
Ён уцёк, зашыўся дома...

## Сакалінае Вока

— Расказаць я меў нагоду
Пра такую вось прыгоду,
Што была ў нас каля рэчкі.
А цяпер адкінем спрэчкі,
Хай раскажа паляўнічы
Пра выпадак маляўнічы.—
Я пры гэтым глянуў коса
На лупатага Фядоса,
Бо яго даўно, з намёкам,
Звалі Сакаліным Вокам.
Што ж, магчыма, хто і верыць,
Што страляў ён птушку, звера,
Гэта ўжо другая справа,
Але іншае цікава:
Слых паміж людзьмі вядзецца,
Што Фядоска спаць кладзецца
З сваёй жонкай-маладзіцай
(Тут няма чаму дзівіцца).
Гэта ж — найсвятая справа,
Ля Фядоса жонка — справа,
Ну а злева — дубальтоўка,
Бескурковая абноўка.
Ён з двухстволкай — неразлучны,
Шанаваў яе выключна.
Словам, у сваім абліччы
Жыў і спаў, як паляўнічы.
Але ёсць на свеце ліха.
І аднойчы ноччу ціхай,
Калі сон вакол павіснуў,
На курок Фядос націснуў.
Сам не мог назваць прычыну:
Ці то ён прысніў дзічыну,
Ці то стрэльбу, а не жонку
Абдымаць палез спрасонку.

Грымнуў стрэл, нібы з гарматы,
Ажно пер’е на ўсю хату,
Разляцелася з падушкі,
Нібы з велізарнай птушкі.
Жонка ў лямант — і пад ложак,
А Фядос ніяк не можа
Зразумець у хваляванні —
Спіць ён ці на паляванні.
Натапырыў пільна вуха,
Бачыць — з пер’я завіруха
Круціцца — не бачна неба.
Э-э! Знайсці падранак трэба!
Пэўна, гусь, бо пер’я многа...
Ён укленчыў на падлогу
І давай шукаць здабычу.
Раптам чуе — нехта кліча,
Гэта ж голас жонкі, Моці.
— Што ты робіш на балоце? —
Закрычаў сярдзіта Федзя:
— Збіты гусь зашыўся недзе!
Лепш ідзі гатуй прыправы,
Няма часу для забавы.
Сапсуеш мне паляванне!
А з-пад ложка: — Во каранне!
Во сустрэлася мне гора! —
Жонка са слязьмі гаворыць.—
Каб з ламачынай сваёю
Больш у хату — ні нагою!..
Мо было калісьці гэта,
Не раскрыў Фядос сакрэту,
Толькі праўду кажуць людзі:
— Дыму без агню — не будзе...
Але мы сышлі са сцежкі.
Чуеце? Прыціхлі смешкі,
Нібы згасла папяроса,
Слухаюць усе Фядоса.

# Скура мядзведзя

Вёска наша, Караваі,
Мае азярцо на ўскраі.
Ну а там, дзе ёсць вадзіца,
Грэшна качкам не вадзіцца.
Дзікіх качак там — як гною,
Цесна ў небе ім, як рою.
Не прамажаш халастымі,
Гора з качкамі мне тымі —
Так абрыдлі — няма спасу,
Ажно верне ўжо ад мяса,
Ды ідзеш туды міжволі,
Паляванне — горш няволі.
Чым сядзець у хаце-норцы,
Лепей на вячэрняй зорцы
Акунуцца ў хваляванні,
Растварыцца ў паляванні.
Я схапіў ружжо з ахвотай
І — на купіну ў балота.
Тут не месца гульням, жартам!
Галавой кручу з азартам,
Ажно стаў каўнер дыміцца,
Шыя пачала таміцца.
Камары даліся ў знакі,
Як шалёныя сабакі.
А «аздобілі» ўсё гэта
Жабы, крыкам на паўсвету.
А вось качкі — як памерлі.
— Ах, каб вас ваўкі пажэрлі
І не выплюнулі косці! —
Кіпячуся я ад злосці.
Злосць — для справы перашкода...
Але вось — узнагарода!
Качар пікірнуў з-пад неба,
А яго ж на мушку трэба!

Зноў азарт я адчуваю,
Ледзь ствaламі паспяваю
За яго няспынным лётам
Над вадою, над балотам.
Толькі ён крутнецца ўправа —
Я за ім ствaламі жвава.
Ён уніз, улева, прама,
Ён за куст — ствалы таксама,
Не спынялі гэту гонку,
Пальнуў я яму ўдагонку.
Пальнуў... і самлеў ад жуду...
Век я памятаваць буду,
Як з куста раптоўна (дзе — што?)
Зараўло страшэнна нешта.
— Ну, аджыў сваё ты, Федзя!
Пэўна, трапіў у мядзведзя.
А мядзведзю — шрот птушыны,
Як укус той камарыны.—
Кінуў стрэльбу і трасуся.
— Выратуй, святы Ісусе!
Не рабі ўдавой Матрону! —
Малю неба, як ікону.
Бог пачуў, прыслаў падмогу.
Дзякуй Богу! Дзякуй Богу!
Там, дзе роў страшэнны нечы,
Чую гоман чалавечы.
А галоўка думку цэдзіць:
— Гуртам збораем мядзведзя!
Але як не памыліцца,
Мясам каб не абдзяліцца?
Трохі дам ім за падмогу,
Скуру ж — кіну на падлогу,
Хай па ёй ступае Моця —
Мрою, седзячы ў балоце.
А ў самога слінкі ў роце,
Бо здагадкаў — цэлы шэраг.

Я за стрэльбу — і на бераг,
Абмінаю куст лазовы,
А за ім — стаіць... карова
І раве з апошняй сілы,
А людзей тут — Божа мілы!
Матка Свента! Тут суседзі...
— Вось ён! Вось! Зладзюга Федзя! —
Да мяне аднавяскоўцы:
— Што ты смаліш па кароўцы?
Лазіш тут з раскрытым ротам,
Ты ж ёй вочы выбіў шротам!
Адняло мне раптам мову...
— Падкруціў жа чорт карову,
Лепей здохла б яна ўчора,
Сёння не было б мне гора! —
Выйшла ўперад (твар суровы)
Гаспадыня той каровы —
Кілашыха — баба-звяга:
— Ах ты, без мазгоў туляга!
Неданосак! — і за грудзі.
Я зароў: — Ратуйце, людзі!
Я раву, раве карова,
Але баба Кілашова
Нас заткнула ў адно месца:
— Хопіць! Не раві нарэшце!
Ты страляў — усім вядома,
На, вядзі яе дадому,
А ўзамен — сваю карову,
І закончым тут размову.
Я стаю самотны, ціхі,
Бо карову Кілашыхі
Ад казы адрозніць цяжка.
Гэта ж вам не наша Машка,
У якой — пад неба рогі,
Вымя — распірае ногі,
Зад шырэй, чым кузаў МАЗа,

Ледзь падымецца, як ляжа...
Але што рабіць? Што толку
Слёзы ліць? Я — за двухстволку,
За жывёліну сляпую
І па вёсцы з ёй шыбую,
Страх маю душу калоціць...
Буду так тлумачыць Моці,
Як прыйду з сляпой да хаты:
— Гэта качар вінаваты...
Мы сядзелі нерухома,
А Фядос сказаў са стомай:
— Вось такія во прыгоды,
Стрэл адзін, а колькі шкоды.
— Ну а Моця як?
— Што Моця!
Языком сабе малоце.
Языком не вернеш Машку.—
І Фядос глынуў зацяжку.
— Але, хлопцы, што за справа?
Вось што вельмі мне цікава:
Ад яды ці выпадкова,
А аслеплая карова
Малака дае па горла...
— Дык яна ж трыбух напёрла!
Ёй цяпер любое смачна,
Пырнік ці сівец — не бачна.
На бычкоў не косіць вокам,
Думкамі ад іх далёка.
Аддзялі цябе ад Моці —
Хутка вырасце жывоцік,—
Так Фядосу мы тлумачым,
Ён згаджаецца, мы бачым,
І збянтэжана гавора:
— Многа малака — не гора,
Але вось у чым турботы —
Малако дае са шротам...

# Пастка

Тут паставіць можна кропку,
Але раптам чуем Сцёпку
(Значыцца, не кропка — коска):
— Горай мне было, Фядоска!
Ты б майго глынуў хоць частку,
Стрэліў я — папаў... у пастку.
І твая, Фядос, прадмова,
І мая — ну слова ў слова.
Ты аблегчыў мне задачу,
Я галоўнае адзначу,
З таго месца пачну, Федзя,
Як пачуў ты роў мядзведзя...
Садануў і я праз голле,
Аж аглухла наваколле
Пасля стрэлу, праз імгненне.
Крык стаіць — няма цярпення!
А раве, брат, не карова,
А дачушка Міхасёва.
Гэта дзеўка-маладзіца
Выгнулася над вадзіцай
І палошча ў ёй бялізну,
Загаліўшы сваю «трызну».
Быў туман над рэчкай слабы,
Не пазнаў я, хлопцы, бабы.
Нешта... шэра-чорна-бела...
Я й не сніў, што гэта цела,
Думаў, плюхаюцца гусі,
Ляснуў я — прабач Ісусе! —
Голас чуецца Пракопа:
— Не з таго ты ляснуў, Сцёпа!
Ты жыўём лавіў бы гуску...
— Гэта будзе на закуску! —
Абарваў Сцяпан параду.
— Кінуў я сваю засаду,

За сабой цягну «ламанку»
І — да беднага «падранку».
Падышоў, нібы да пекла,—
Добра ёй задок пасекла...
Я ж мазіла, што ўжо скажаш?
А вось тут дык не прамажаш.
Крыкі чуючы, галоскі,
Наляцелі людзі з вёскі.
З імі Міхася прыпёрла,
Ён схапіў мяне за горла:
— Ты каго бярэш на мушку?
Ты ж мне сапсаваў дачушку!
А калі прабіў ёй штосьці?
Што тады? — крычыць у злосці.
Я і ляпнуў: — Мо праверым? —
Стаў Міхась страшней за звера.
— Як праверыць?! Ты, глумленнік!
Ці ў турме згніеш, як венік,
Ці бяры яе за жонку
І прыпынім тут гамонку! —
Я з апошнім і згадзіўся,
І з падстрэленай жаніўся.
Але ў нас (усе вы сведкі)
Родзяцца рабыя дзеткі.
Пэўна, шрот дасціпны гэны
Падпсаваў у жонкі гены...

## Грышкавы пакуты

Зноў гучаць без перашкоды
Жарты, рогат, як заўсёды.
— Вашы «трызны», вашы качкі —
Дробязі, бо лёс рыбацкі
Толькі жах і гора дорыць,—
З жарам Грышка нам гаворыць.
— Вашы жахі ўсе — гулянка.

Ажаніўся ж ты, Сцяпанка,
І аддаў сябе малодцы...
Ты ўяві — плыву я ў лодцы
Малады, ды не жанаты,
Ды мужчынскасцю багаты.
Спінінг кідаю паволі
Прама ў горла... горкай долі.
Трапіла блясна у глотку
Шчупаку, памерам з лодку.
Ён у вір як даў без стомы,
Я ў ваду, як куль саломы,
Наглытаўся з перапуду,
Век вады хацець не буду.
Я назад, у лодку, лезці,
Ды заблытаўся у лесцы,
Рукі, ногі, як у сетцы,
Бачу я — шчупак нясецца
Проста на мяне, як куля.
Хваць! Ажно трашчыць кашуля!
Хваць за рукі! Хваць за лыткі!
Скуру рве, як вучань сшыткі.
Абскубаў маё ўсё цела
Гэты дурань звар'яцелы.
Апрытомнеў я ў бальніцы,
Ды няма ўжо з чым жаніцца...
— Жах знайшлі!.. Кароўкі!.. Штучкі!
Ясь ускочыў, як з калючкі.
— Вось са мной было здарэнне!
— Хопіць! — супыніў нас Веня,
Полудзень астыне ў печы...
— Да сустрэчы!
— Да сустрэчы!

*1991*

*Паэма атрымала блаславенне*
*Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага,*
*Патрыяршага Экзарха*
*ўсяе Беларусі ФІЛАРЭТА*

## Храм

На высокім пагорку,
на месцы пачэсным
Пасля крэснага ходу
і службы набожнай,
Першы камень
пасвенчаны быў урачыста,
Першы камень закладзены
Храма святога.

Быў узведзены Храм
не за дзень, не за месяц,
Не за год — не на год
будавалі святыню,
А навечна, бо вечная
прага да Бога,
Як Зямля наша вечная,
вечнае сонца.

Для сябе будавалі,
для многіх нашчадкаў
Тых, што будуць ісці
праз стагоддзі да Храма,
Будуць піць, наталяцца
з гаючай крыніцы,
З той крыніцы,
што верай у Бога завецца.

Прад іконай Прачыстае
Боскае Маці,
Прад іконай Тварца,
перад іканастасам,

Пад высокім і велічным
купалам Храма
Пачалі адбывацца
дзівосныя з’явы:

У знямоглага — раптам
з’яўляліся сілы,
Хто марнеў у адчаі —
знаходзіў надзею,
Хто ад злосці кіпеў —
з дабрынёю пазнаўся,
А ў душы выраставлі
нябачныя крылы.

Да людзей завіталі
спагада і згода,
Прачыналіся ў кожным
любоў і павага,
Пуцяводнаю зоркаю
стала сумленне —
І цягнуліся людзі
у Храм, у святыню.

— Не забі!
— І не крадзь!
— І не сведчы ілжыва!
— Ушаноўвай бацькоў!
— Узлюбі чалавека!
Паважай і зямлю,
на якой нарадзіўся,
І мінулага спадчыну!..—
чулася з Храма.

# Крыж

На званіцы высокай —
амаль што да неба,
Над зямлёю узнёсся
і ззяў пазалотай
Ратавальны, адвечны,
святы, ачышчальны,
Неабходны палацам,
дамам і хацінам.

Буйны вецер сцішаў
перад ім сваю сілу,
Абміналі з пашанаю
хмары-аблокі,
Не краналі яго
перуны-бліскавіцы,
Трапяталі на ім
бясклапотныя промні.

З самых дальніх куткоў —
неабсяжных прастораў
Быў ён кожнаму бачны,
для кожнага значны,
Быў святлом для душы,
быў святыняй для сэрца,
Быў апошняй надзеяй
у багне пакутаў.

Час праходзіў —
ішлі праз вякі пакаленні,
То сціхала зямля,
то стагнала ад болю,
А над часам, над лёсамі
Крыж уздымаўся,
З веку ў век асяняючы
Боскую волю.

## Звон

Ён гучаў са званіцы
на кожнае свята,
Запрашаў на малебен
старога й малога.
І настолькі быў голас
яго мілагучны,
Што душа адгукалася
светлым пачуццем.

Атуляў ён зямлю
векавым перазвонам,
Запаўняла гучанне
паветра да неба,
Быццам Бог самаручна
з вышынь недасяжных
Разліваў над зямлёю
чароўныя гукі.

Са званіцы, бывала,
гучаў ён трывожна,
І на веча склікаў,
і на думную раду,
Ён яднаў прыхаджан
у магутную сілу...
Храм без Звону —
нібыта дзяржава без мовы.

## Вар'яцтва

Кастрычніцкая смута
Крышыла ўсё, раўла:
— Рэлігія — атрута!
Знішчаць!
Паліць датла!

Узняўся сцяг чырвоны,
З трыбуны чуўся крык:
— Няма вышэй закону,
Чым пралетарскі штык!

Кастрычніцкая бура,
Віхор сляпых ідэй —
Знішчала дыктатура
І веру, і людзей.

*

Ішоў усхвалявана
З усіх бакоў народ...
Да велічнага Храма
Збіралі ўсіх на сход.

Збіралі, як на свята,
Пад чырванню сцягоў,
Збівалі «горб» дашчаты —
Трыбуну рэвбагоў.

Паміж людзьмі ціхутка
(Ад іх не уцячы)
Збіралі «факты», чуткі
Рупліўцы-стукачы.

Туляліся, як цені,
Нібыта жахі-сны,
У скураным адзенні
Чэкісты-груганы.

Знайшліся й актывісты —
Усплыў усякі бруд.
Нібыта дух нячысты
Укараніўся тут.

Не Звон збіраў на веча,
Як год ці век назад,
А нечаканы нечы
Пагрозлівы загад.

У нейкім перапудзе
Акамянеў прыход,
Не разумелі людзі:
З якой нагоды сход?

Васіль спытаў Міхала,
Зірнуўшы па баках:
— Адкуль чужых нагнала
Пры зброі, пры штыках?

Міхал усхвалявана
Камечыў бараду:
— Ой, на душы пагана...
Ой, чую, брат, бяду...

Шаптаўся і маліўся
Не, не прыход — прыгон,
А Храм не адчыніўся,
Маўчаў трывожна Звон.

Нарэшце на трыбуну
Пайшоў рэўкамітэт
І ботаў стук табунны
Загрукацеў услед.

Галоўны, пры нагане,
Ужо з уступных слоў
Памножыў хваляванне
Сагнаных жыхароў.

Галоўны, пры нагане,
Узняў уверх кулак:

— Увага, грамадзяне!
Вось наш мандат і сцяг!

Мандат наш — у законе,
Ён справіўся з царом.
Так лупянуў па троне,
Што стаў гаспадаром.

Мандат наш — працавіты,
Бо ён без лішніх слоў
Даб’е ўсіх недабітых
Буржуяў, кулакоў.

У ім — і рэвзаконы,
У ім — і рэвзагад.
Абудзіць лад ваш сонны
Рэвалюцыйны лад!..

Васіль спытаў нанова:
— Што гэта за прыпеў?
У іх найперш за слова
Наперад лезе «рэв».

Міхал сваё кумекаў:
Такога й не прысніць,
Ужо не знойдзеш лекаў,
Каб боль душы спыніць.

Міхал, як у тумане,
Замармытаў услых:
— Чужынцаў пры нагане
Тут больш, чым нас усіх.

Быць буры пасля ветру,
Пазносіць стрэхі з хат,
Зірні, брат, як паветра
Сячэ кулак-мандат...

*

Далейшыя падзеі —
Жах! Як у бездань крок...
І згас прамень надзеі,
І лёг на сэрцы змрок.

Трос кулаком аратар:
— Хто вас круціў у рог?
Буржуй! Эксплуататар!
Збудуем ім астрог!

Дык вось! — сказаў ён строга,—
Мы вас без лішніх слоў
Прымусім жыць без бога,
Прагонім чад з галоў!

І тут, як па загаду,
Чужынцы ў Храм пайшлі —
Дзікунскі штурм-асаду
Званіцы пачалі.

З'явіліся драбіны,
Вяроўкі, тапары,
І толькі хруст звярыны
Чуваць быў угары.

Крышылі Крыж са смакам,
Вяршыню Храма — пік.
— Далоў яго! К сабакам! —
Натхняў з трыбуны крык...

Свой баль спраўляла ліха.
А вернікаў прыход
Стаяў і плакаў ціха —
Шаптаў малітву рот.

Нарэшце Крыж хіснуўся
(Бывай, прастор-абсяг...)
І стогн людзей пачуўся,
І кожны здрыгануўся —
Лунаў над Храмам сцяг.

Чырвоны (Мо крывавы?),
А што пад ім? Астрог?..
У маладой дзяржавы
Не меў пашаны Бог.

— Бязбожнікі! Злачынцы! —
Міхал шаптаў праклён,—
Крыж збілі са званіцы,
За ім скідаюць Звон.

...Звон мілагучны, зычны
Быў чуцен шмат вякоў.
І вось ён, час трагічны —
Час рэвбальшавікоў...

Палёт апошні... Скруха...
Удар... Уздрыг зямлі...
І толькі сэрцы глуха
Ад болю загулі.

І пырснулі асколкі —
Дзынн... Дзынн... і звон патух.
І дзень няўтульны, золкі
Знямеў, аслеп, аглух.

Акамянелі людзі,
Замёрлі, як у сне:
Няўжо ж канца не будзе
Бязбожнай сумятне?

Стаяць, аслупянелі —
Безабароннасць, жах!
Галоўнае, што мелі,
Знішчаюць на вачах.

Знішчаюць нават веру
Святое — па баку...
О не! Няма даверу
Мандату-кулаку!

*

Памёрлі спадзяванні,
Зноў жах зірнуў ваўком:
Чужынцы, нібы здані,
Пайшлі ў Храм ланцугом.

Бітком у Храм налезлі
Пад мацюкі услых,
Адтуль іконы неслі,
Шпурлялі ў гразь святых.

Звалілі іх у кучу —
Апошні час настаў...
І вось агонь пякучы
Па іх затрапятаў.

Узвіўся вінавата,
Ды дзецца дзе агню,
Калі запалка ката
Паліла і радню?

Дым катам лез у вочы,
Дым катаў паглынуў...
Раптоўна крык жаночы
Па слыху разануў:

— Не дам! Сама загіну!
Спалю жыццё сваё!
Не! Боскай маці й сыну
Не дам згарэць! Звяр’ё!..

Агонь апальваў рукі,
І валасы, і твар,
Але яна без гуку
З іконы стрэсла жар.

Схапіла, як жывую,
І цісне да грудзей.
І гэтак уціхую
Пайшла з ёй да людзей.

— Куды?! — і штык халодны —
Да сэрца дабрыні.
— Назад! Замест іконы
Згарыш сама ў агні!

Назад! Да д’ябла ў госці! —
Глушыў жанчыну крык...
Але з трыбуны хтосьці
Спыніў халодны штык.

— Адставіць! Гной, нарывы
Ускрыем, ды не тут.
У нас ёсць справядлівы
Рэвалюцыйны суд!

Судзіць ён здольны строга,
Наставіць сінякоў,
Не будзе болей Бога
Апроч бальшавікоў!

*

Пакуль рэўкамісары
Чынілі свой пагром,
Святы айцец Захарый
Сядзеў за алтаром.

Цяпер гэта — «кутузка».
І вось, пасля ўсяго,
Як кажуць, «на закуску»
І вывелі яго.

З трыбуны «балаганіў»
Прамоўца-вузкалоб:
— Вось той, хто вас дурманіў!
Вось ён, душы мікроб!

Прыход нібы прачнуўся
Ад жаху-нема_ты,
Трывожны гул пачуўся:
— Айцец... Айцец святы...

Святар стаяў ля Храма —
Твар збіты, ў сіняках.
І, як прысуд рэўкама —
Вяроўка на руках.

З трыбуны крыкнуў строга
Знаёмы вузкалоб:
— Чаму ж не клічаш Бога
Перад расстрэлам, поп?!.

Святар расправіў грудзі
І выдыхнуў, як мог:
— Шануйце веру, людзі!
Ёсць Бог! І з намі Бог!

## Чыстка

Бег час...
Прыйшла нядзеля —
Дзень вольны завітаў.
Міхал, нібы з пахмелля,
Хадзіў, стагнаў, крактаў.

То — з хаты,
То — у хату,
То сяк, то так — паўдня.
Нібыта ў вушы вату
Запхнулі...
Цішыня!

Знік звон...
Маўчыць званіца...
Прайшоў праз Храм пагром.
Прыходзіцца маліцца
Ля абразоў.
Тайком.

Міхал для жонкі кінуў
У дзверы — на хаду:
— Во сум, каб ён загінуў!
Да Васіля пайду...

Васіль жыў недалёка,
Праз некалькі двароў...
— Прыйшоў праветрыць вока.
Здароў, Васіль!
— Здароў!

Міхал свой боль даверыў
Суседу: — Быць бядзе!
Ішоў, вачам не верыў —
Нікога! Анідзе!

Ты помніш, брат, па святах —
Кіпіць, гудзе жыццё!
Цяпер — усе па хатах...
Ёсць у людзей чуццё!

Васіль, дыхнуўшы цяжка,
Сказаў, каб сум адбіць:
— А можа трэснем пляшку?
Давай... А што рабіць...

І пацякла гаворка,
Сябры — як спарышы.
І стала двойчы горка
У роце, на душы.

*

Ці ладзіў хто інтрыгу?
Ці лёс скруціўся сам?
Паклікалі Ядвігу
Чагосьці у рэвкам.

Рэвкам...
А калі гэтак —
Дагледзела кароў,
Пакінула двух дзетак
На мужа і свякроў.

— Бывай, Алесь, Анютка! —
І цмок іх у шчаку,—
Не крыўдзі іх, я хутка! —
Сказала мужыку.

— Ты ж для мяне — апора,
Няхай спрыяе Бог!
Я хутка! — і бадзёра
Ступіла за парог.

У кабінеце важна
Сядзеў той «рэвзакон».
— Я рэвупаўнаважаны! —
Сказаў скрозь зубы ён.

Жанчыне закаціўся
У горла жах клубком:
«Дык гэта ж ён хваліўся
Мандатам-кулаком.

З трыбуны ім кувалдзіў,
Крышыў і Крыж, і Звон...
Здаецца, сон мой спраўдзіў
Пра груганоў, варон...»

— Ну? Як нарыў? Турбуе?
Аблегчым, пусцім гной!..
Ядвіга гэта чуе
Ці не?.. Сцяна сцяной...

Свае ледзь чуе словы,
Як праз туман плыве...
— Які нарыў? Пра што вы?
Пачуўся крык суровы:
— Нарыў, што ў галаве!

Нарыў, што ў думках носіш,
Ён надта ўжо свярбіць!
Нічога, піць папросіш,
Ды слёзы будзеш піць!

— За што? Віна якая? —
Ядвіга ў плач.— Ці ж я...
Але чэкіст спыняе:
— У чым віна твая?!

Твой дом — кулацкі, сыты,
А побач — жабракі.
Ты — вораг недабіты,
Прайшлі твае дзянькі!

Ядвізе стала жудка,
Надзеі промнік гас...
«Алесечка, Анютка,
Ці дасць Бог бачыць вас?..»

— Кажы! Нашто ікону
З агню цягнула? Га?
Пайшла супраць закону?
Што, па цару туга?

— Яшчэ што прыпляціце! —
Не ўмоўк Ядвізін рот,—
Гарэла маці з дзіцем...
Сама я маці... Вот...

— Няхай кляла цара бы,
Абрэхваў нас твой крык!..
— Дык баба ж я! А ў бабы
Пярвей мазгоў — язык.

— Та-а-к...
І зявок працяжны
Пачуўся з-за стала.
Спытаў упаўнаважаны:
— Ну што? Рэўкам кляла?

Ішла супраць закону?
— Дык я ж...
— Заткні свой рот!

Напомніць пра ікону?
Што? Бунтаваць народ?

Ты хто? Нарыў! Балячка!
Аджыўшага багаж!
Каровы дзве — кулачка!
Ёсць думкі — вораг наш!

— Дык я ж... Дык я...
— Не веру! —
Скрывіўся «рэвзакон»,—
На, падпішы паперу,
І скончым пустазвон!..

Жанчыну агарнула
Надзея... Без прадмоў
Ядвіга крэмзанула.
— Ну, а цяпер... дамоў?

— Дамоў?! З такой паперай?
З ёй — толькі на клады!
Глынеш ты поўнай мерай
Турэмнай баланды.

Ядвіга з табурэткі
Ускочыла:
— О не!
Мяне чакаюць дзеткі!
Сям'я! Дазвольце мне...

— Сям'я? Не-е! Ты, а потым
Займёмся і сям'ёй.
Там, за калючым дротам,
Шмат месца — хопіць ёй!

*

Рэвкам стаў перайначваць
Усё на новы лад.
Каб лепей «раскулачваць»,
Стварылі прадатрад.

— Буржуяў недабітых
Пад корань! Пусцім кроў!..—
І трэслі працавітых
Сумленных жыхароў.

Знішчалі перашкоды,
Праз лёсы — напралом.
Цягнуліся падводы
З награбленым дабром.

Мяхі з мукой і збожжам
Згружалі ў Храм — у склад.
— Прымай дарункі, божа! —
Жахлівы чуўся жарт.

Васіль у гэтым «складзе»
З вінтоўкай, са свістком,
Як кажуць, пры парадзе —
Служыў вартаўніком.

Кляў лёс, падзей аблогу:
— Служу бальшавікам...
Я тут маліўся Богу,
Цяпер вось — пацукам...

Калі ж раптоўна «ў госці»
Паклікалі ў рэвкам,
Сказаў: — Наблытаў хтосьці!
Нашто ім дзірка ў мосце?
Што я забыўся там?

Прыйшоў і — прама ў рукі
Спрыяльнасці самой.
— Ну, як сям'я? Унукі?
Як праца? Як настрой?..

Васіль вушам не верыў,
Заззяў і пасмялеў:
«А я душу ашчэрыў
Супраць прыстаўкі "рэв"...

А я — на крайчык лавы,
Рашыў, што мне — канец!
А ён такі ласкавы,
Як той святы айцец...»

— Жыву я...
— Ды не трэба!
Мы ведаем пра ўсё:
Ты маеш, апроч хлеба,
Карову, парасё.

Далі табе работу,
У хаце — цераз край...
— Я ж не шкадую поту!
— Мы бачым. Спажывай!

Скажы... А ты ж не можаш
Унукаў не любіць?..
Таму — нам дапаможаш...
— Я вам? А што зрабіць?

— Ды так... Амаль нічога...
Мазгамі варушы!
І раптам кінуў строга:
— На! Гэта падпішы!

Васіль вачамі «бэкаў»,
А сэрцам піў адчай.
Чытаючы, кумекаў:
«Дык вось ён, долу край!..

А я раскрыў хлябала,
Грэў байкамі душу...
Я ж загублю Міхала,
Ледзь толькі падпішу».

— Не! Як вас — пан? Таварыш?
Такога не было!
— Глядзі! Зашмат гутарыш!
Сам лезеш у сіло!..

— Міхал не зваў да зброі!
Міхал не плёў інтрыг!..
А кат сядзеў і мроіў,
Зяхаючы.
Услых.

— Ну што?
Дачку і сына,
І жонак — круць ці верць —
Сустрэне дамавіна...
Тады — і ўнукам смерць.

Усё, што меў — насмарку.
Што? Пшык — на старасць год?
Апішам гаспадарку,
Ды і цябе — ў расход...

Васіль збялеў, затросся,
Дыханне заняло,
Язык з зубамі зросся,
У галаве гуло.

«Ласкавы» ткнуў паперу:
— На! Не жартую я!
Вось зараз і праверу —
Каго шкадуеш? Хеўру?
Ці даражэй сям'я?

— Сям'я!..
Васіль абвіснуў
І падпісаў прысуд...
Чэкіст вачамі бліснуў,
Ён «з'еў сабаку» тут.

Калі Васіль рухава
З рэвкама «ногі нёс»,
«Ласкавы» неласкава
Прамармытаў пад нос:

— Эх, прастата якая!
«Здаў кроў» — і будзь здароў?
Не! Гэтак не бывае!
Кот мыш не адпускае
Надоўга з кіпцюроў!

*

Наводзілі «парадак»
На бальшавіцкі лад,
Такі, каб і нашчадак
Аглядваўся назад.

Людзей з пасцелі бралі,
На працы, на бягу,
Нявечылі, каралі —
Адныя — паміралі,
Другія — у чаргу.

«Прасеяных», бязвінных —
Бітком у цягнікі,
І хуценька, няспынна,
Штоноч — на Салаўкі.

Цялятнікі-вагоны —
Не родны дом — каюк.
Хто не дажыў да зоны —
Ляцелі пад адхоны,
Як хлам, пад колаў стук.

Скідалі трупы тлустым,
Пражэрлівым ваўкам.
І тыя вылі з густам
Хвалу бальшавікам.

Не! Тым не «білі ў ладкі»,
Хто будаваў, араў,
А тым, хто без аглядкі
Страляў, знішчаў, караў...

Раздолле вам, свабода,
Магільныя крыжы!
За крыж — узнагарода!
— Ёсць ворагі народа?
Не спі!
Чакай!
Дрыжы!

*

Міхал жыў не багата —
Які там багацей?
На дзве паловы хата —
Сабе і для дзяцей.

Хляўчук ды варывенька,
Кароўка, парсюкі...
«Багацце» мераў жменькай,
А пот — у дзве рукі.

Меў «грэх» — сказаць мог прама,
Што, як і для чаго.
І стукачы ля Храма
Падслухалі яго.

Вось і «статут варожы».
Таму такіх, як ён:
«Знайсці! Злавіць! Знічтожыць!» —
Заклікваў рэвзакон.

Не з прынцыпаў маралі,
А каб было страшней,
Міхала ноччу бралі —
Злачынцам змрок радней.

Загрукацелі ў дзверы,
Вінтоўкі — круць з плячэй.
Звярыныя намеры
Свяціліся з вачэй.

Прыклад бесцырымонны
Штурхаў і біў яго.
Людзей скруцілі сонных
Усіх, да аднаго.

Міхал пачуў раптоўна,
Хоць жах грыз да касцей,
Як за сцяной гвалтоўна
Знявольвалі дзяцей.

Да сэрца далятalі
Жаночы крык і плач...
З нявінных кроў смакталі,
Каб чырванеў кумач.

Міхал стагнаў: — Вар’яты!
Злачынцы! Груганы!
У чым я вінаваты?
А жонка? А сыны?

Хоць бабам дайце волю!..
А крык, як ад сцяны —
Ні жалю, ані болю
Не ведалі *яны*.

*

Ёсць супадзенні-з’явы,
Іх не мінуць ніяк:
Папаўся той «ласкавы»,
Як на кручок шчупак.

Яму й не вінаваты
Сябе «разаблачаў»,
Ён шмат упёк за краты,
Ды значна больш знішчаў.

Выслужваўся рэвкаму,
Са скуры лез, не спаў.
І трапіў сам у яму,
Што для другіх капаў.

На допыце пазнаўся
З тым, чым другіх губіў —
І сам ва ўсім прызнаўся,
Чаго і не рабіў.

І вось ён пад канвоем
Ішоў і боль глытаў,
А следчы ўслед героем
Глядзеў і мармытаў:

— Эх, прастата якая!
Піў кроў — і будзь здароў?
Не! Гэтак не бывае!
Кот мыш не адпускае
Надоўга з кіпцюроў.

## Кланірванне

Мы ўсе — прагрэсу сведкі.
Навука прэ ўгару...
Авечцы з яе клеткі
Зварганілі сястру!

— Дзве кроплі!
— Як блізняты!
— Вось гэта дык сястра!
— Звышцудам лік пачаты!
— Сенсацыя!
— Ура!..

Мы моўчкі неўзлюбілі
Сенсацыі чужой.
Так. Адкрыццё ж зрабілі
Не ў нас, а за мяжой.

Якое кураслепства!
У нас не менш ідэй!
Авечкі дзве — не кепска,
А як наконт людзей?

Нам ёсць чым ганарыцца
І скажам, нібы тост:
— Адстала, заграніца!
Пардон, падцісні хвост!

Падумаеш, там нейкі
Авечы эмбрыён!
Вы — з клеткі. Мы — з ячэйкі.
Вы — дзве? Луска! Капейкі!
Мы — не адзін мільён!

Падумаеш, жывёла!
Навука ў нас свая:
У нас — ячэйка школа,
Ячэйка камсамола,
Ячэйка — і партшкола,
Ячэйка — і сям'я.

Людзей, як пад капірку,
Размножваў палітплан.
— Ах, ты не «за»?
І дзірку
Рабіў у лбе наган.

І вось ужо ў калонах,
У шэсцях шматмільённых,
На зборышчах чырвоных,
На з'ездах — толькі «за».

Мы — «за!»...
Згасілі спрэчкі
Семдзесят год турмы.
Як тыя дзве авечкі,
Аднолькавыя мы.

За «я» — каралі люта,
Натоўп — замест людзей...
Кастрычніцкая смута,
Віхор сляпых ідэй...

— Дык гэта ўсё ў мінулым!
— О не! Яшчэ раз не!
Мы думаем «агулам»
І сёння...
«Мы» — ў цане.

Жыве *той* час прадажны,
Гудзе *той* вечны бой,
Не сціх *той* стогн працяжны...
І цень чырвонасцяжны
Мы бачым над сабой.

## Пакаранне

Чалавек забывае,
                ствараючы ліха,
Што ад суднай гадзіны
                ніхто не ўратуе...
...Да людзей на Зямлю,
                непрыкметна і ціха
Бог спусціўся:
                Ці любім мы веру святую?

Ведаў Ён і пра смуту
                бязбожніцкай эры,
Бачыў мора крыві,
                незлічона забітых,
І мільёны адступнікаў —
                здраднікаў веры,

Змардаваных людзей
і правіцеляў сытых.

Што было — ці сплыло?
А што сёння за змены?
Бог спусціўся да нас,
каб засведчыць урок:
Ці вяртаецца вера,
ці д’яблавы гены
Запалонілі нас,
асляпілі наш зрок?..

ПАВАЖАЙ І ЛЮБІ
СВАІХ БАЦЬКУ І МАЦІ...
Не, не ўсе мы засвоілі
мудрасць вякоў,
Што не будзе парадку
ў дзяржаве, у хаце,
Дзе на старасць плююць,
зневажаюць бацькоў.

НЕ ЗАБІ!..
Гэта запаведзь
сёння крывавіць
Мноствам ран і аблогай
заўчасных смярцей.
Сёння куля і нож
баль крывавы свой правяць
На забітым жыцці,
на сіроцтве дзяцей.

І НЕ КРАДЗЬ!
Наплявалі на запаведзь гэту.
Сёння крадзеж —
гарантыя «швецкіх сталоў».

Я табе — а ты — мне,
прайдзісвет — прайдзісвету,
Вось і крадуць, і рвуць —
ад вяршынь да нізоў.

НЕ ЖАДАЙ ЖОНКІ БЛІЖНЯГА! —
Запаведзь раіць,
Але розум нібыта
сышоў з галавы,
Бо ў жыцці, на экранах
распуста буяе —
У крывога люстэрка
адбітак крывы.

Гэта запаведзь кліча:
НЕ СВЕДЧЫ ІЛЖЫВА!
Не да кожнага сэрца
даходзіць яна —
І гуляюць па свеце
прадажнасць, нажыва,
І, як цень, наплывае
на праўду мана.

Забіваюць і крадуць,
а крыжык на шыі,
Прыкрываюцца верай
стваральнікі драм...
На пасадзе высокай,
душою сляпыя,
Пратакольна, без веры
прыходзяць у Храм.

Бог ішоў сярод нас,
думкі нёс, нібы хмары:
«Сёння чуецца рэха
крывавых падзей.

Як на гэтай зямлі
утрымацца ад кары,
Не абрынуць свой гнеў
на галовы людзей?..»

Просім, Божа, прабач!
Мы сябе пакаралі,
Зачарсцвелі мы,
сталі без душ, без галоў.
Нелюбоў і любоў
Ты паклаў нам на шалі,
Але большасць
абрала сабе нелюбоў.

Нелюбоў да Радзімы,
да продкаў, да мовы,
Нават слова «свабода»
сышло з галавы.
Мы сабе прыгавор
падпісалі суровы
І ніхто не адменіць яго!
Толькі мы!..

Бог падняўся на неба.
А мы засталіся
Сярод смутку, жабрацтва
і брудных уцех.
Даісноўваем, плачачы,
зрэдзь — смеючыся,
Ды і то прабіваюцца
слёзы скрозь смех.

# Малітва

Слава Ойцу!
І Сыну!
І Духу Святому!
Ды адхлыне смуга!
                    Ды пачуе нас Бог!
Ды засвеціцца
                    кожнаму лёсу і дому
Усявышні, хто смерцію
                    смерць перамог!

Сёння вера святая —
                    святло сярод ночы!
Паратуе яна,
                    дапаможа ў бядзе.
Той, хто з верай жыве,
                    той ніколі не збоча
З пуцявіны, якая
                    да Бога вядзе.

Хай ачысціць нам душы
                    высокая вера,
Каб адкрыліся сэрцы
                    святлу і дабру,
Каб ніколі не глянулі
                    поглядам звера
Вочы брата — на брата,
                    сястры — на сястру!
Дай нам мужнасці, Божа,
                    назад азірнуцца,
Каб заблытаны час
                    зразумець, ацаніць,
Памянуць убіенных
                    і шчыра жахнуцца,
І пакаяцца так,
                    каб па-новаму жыць.

Тым, хто блудзіць яшчэ,
Дай ім, Бог, разуменне,
Што дарога да Храма —
дарога з дарог.
Ды аблегчыць
збалелыя душы маленне!
Ды ўваскрэсне любоў!
Ды пачуе нас Бог!

*1994*

Прачнуўся я ў добрым настроі —
І ў ванну, пад душ— любата!
А пырскі сярэбраным роем
Зляталі з грудзей, з жывата.

Абцёрся!
Абветрыўся фенам!
Бадзёры — на кухню. А тут:
Жульен і цяляціна з хрэнам,
І піва з арэшкамі.
Цуд!

Духмяную каву з вяршкамі,
Паміж дарагіх цыгарэт,
Маленькімі выпіў глыткамі,
Каб чуць непаўторны «букет».

Настрою спрыяла надвор’е,
Вясна і блакітнасць нябёс.
З усмешкаю выйшаў на двор я —
Нібыта анёл мяне нёс.

Спрыяльнасці водар запрудзіў
Дзяржаву! Куды ні зірні —
Зусім незнаёмыя людзі,
А колькі ад іх цеплыні!

Старыя, малыя — без спешкі,
Паволі насустрач ішлі.
Усмешкі!
Усмешкі!
Усмешкі!
Мільёнамі кветак цвілі!

З усмешкай — і погляд ласкавы
Праменьчыкам ззяе, гарыць.
Хацелася добрыя справы
Для кожнага і для дзяржавы
Рабіць і ад сэрца дарыць.

На свеце — не мала гадоў я.
І стаў заўважаць, што для нас
Галоўны здабытак — здароўе,
Яно пераадольвае час.

Дзівосна было б, алагічна,
Каб людзі хварэць пачалі —
Звышчыста, звышэкалагічна
На нашай заможнай зямлі.

І нібы каштоўны гасцінец —
Апошняя знікла турма,
Бо словаў «злачынства», «злачынец»
У слоўніках нават няма.

І крочым мы, хуткасць набраўшы,
Таму што, апроч усяго,
Працуе, не еўшы, не спаўшы,
Урад для народа свайго.

*

Сярод чорна-белых, ружовых
Адпушчаных Госпадам дзён
Мяняе уклад наш жыццёвы
Адзін гэты дзень. Толькі ён!

Чакаеш яго набліжэнне
І верыш, што ён прынясе
Другое тваё нараджэнне —
І скончацца клопаты ўсе.

«Свой» дзень прычакаў я нарэшце,
Ішоў да яго праз гады.
Хоць біце мяне, ці хоць рэжце —
Адкрыўся мне свет, сапраўды.

На пенсіі я!!! І не дзіва,
Што цешуся, нібы дзіця,
Што дзень распачаўся імкліва
На новай ступені жыцця.

Што мой кашалёк не парожні,
Бо рупіўся, лынды не біў,
Што я працаваў, як і кожны —
На старасць сабе зарабіў.

Цяпер — падарожжы, круізы,
Якія не бачыў і ў сне!
Любыя жаданні-капрызы,
Дальбог, падуладныя мне.

Ішоў я шчаслівы і марыў,
Ствараў таямніцы пячаць:
— Спачатку махну на Канары!
А можа, з Таіці пачаць?..

Ды голас унутраны точыць
Мне сэрца, як шашаль сцяну:
— А мо у Парыж лепш падскочыць?
З Парыжа у Рым сігану!

Другі голас, дзёрзкі і звонкі,
Звініць і звініць, як камар:
— Ты лепей пачні з Амазонкі!
Экзотыка! Тропікаў жар!..

А трэці сказаў: — Што ты скачаш?
Усюды паспееш — павер!
Усё, што захочаш, пабачыш.
Ты— вольны! Ты— пенсіянер!

Збірайся ў дарогу! Не баўся! —
Унутраны голас дзяўбе.—
Ля ног тваіх свет распластаўся,
Ляжыць і чакае цябе!

Свярбелі ад пругкасці ногі —
Віват, Адысея мая!
Далей я ішоў сярод многіх,
Такіх жа шчаслівых, як я.

Убачыўшы краму, вітрыну,
Зайшоў у «Марскія дары».
Купіў на абед асятрыну,
Крэветкі, грам трыста ікры.

Затым, па дарозе дахаты,
Купіў вінаград, ананас.
Каб кожны быў сыты, багаты,
Клапоцяцца зверху аб нас.

*

Азвалася жонка звягліва:
— Ну, хопіць гультаіць! Не спі!
Вазьмі вось бутэлькі з-пад піва
І здай... ды хоць хлеба купі.

Пужліва разбегліся мары.
Ляжаў я на ложку старым...
Кудысьці прапалі Канары,
Уцёк за Парыжам і Рым.

Няма ад цяляціны й духу —
Міраж каляровы растаў.
Адкінуўшы з коўдраю скруху,
Я з ложка скрыпучага ўстаў.

З тых мараў, што бачыў я сёння,
Са мной засталося адно —
Не мара, а горыч штодзёння:
На пенсіі я — і даўно.

Збіраю апошнія крошкі,
А голад прыходзіць і ў сны.
Ад вопраткі — рожкі ды ножкі,
З абутку — падэшвы адны.

З маленства і самааддана
Ішачыў, а бедны, як мыш.
Мне з'ездзіць у вёску складана,
А што ўжо казаць пра Парыж?

Ішоў я, пабразгваў шклатарай,
Выпіхваў гаркоту з грудзей.
І бачыў пад чорнаю хмарай
Патухлыя вочы людзей.

Ні смеху, ніводнай усмешкі —
Як кажуць, схапілі пад дых.
Цяляціна,
З півам арэшкі,
Жульены,
Ікра —
Не для іх.

Сумленныя — рады скарынцы,
З канцамі не зводзяць канцы.
Затое жыруюць злачынцы
І living рознага роду «спяцы».

Чарнобыль, хваробы лютуюць,
Жыццё скарачаюць, гады,
А гора не бачаць, не чуюць
Стваральнікі гэтай бяды.

Бутэлькі задзынкалі...
Дзе я?
Няўжо апусціўся на дно?
Ах, гэта ж мая Адысея!
Шукаю я хлеб — не руно.

*1988*

Ён чуў яе гарачае дыханне:
— Я зноў з табой!
— І я чакаў спаткання!
Ён піў і піў яе крынічкі-губы,
Казалі ночы:
— Любая!
— Мой любы!
Зямлі не стала раптам пад нагамі,
Яны плылі над лесам, над лугамі:
— Адзіная мая!
— Жаданы! Мілы!
Да зорак неслі іх кахання крылы.
І толькі сэрца — сэрца адчувае:
— Мая галубка! Кветка веснавая!
— Мой родны! Без цябе жыцця не трэба!
Быў свет малы ім, стала цесным неба.

*

Міхась не спаў, варочаўся да рання:
— Дык вось якое першае каханне!
Дык вось чаму паэт складае вершы
Больш пра каханне й пацалунак першы!
Дамоў прыйшоўшы, не заснула й Галя,
За хваляй набягала ў сэрца хваля
Пачуццяў незвычайных, успамінаў,
Нібыта ў сэрца хто агню падкінуў.
Агонь той губіць нас і ажыўляе,
Дае надзею і ў адчай шпурляе.
Агонь той — нашы крылы, нашы путы,
Ён — святкаванні нашы і пакуты.
Агонь кахання неслі й нашы продкі,
Ён горкі, і пякучы, і салодкі.
Ён дорыць шчасце, але й слёз не мала,
Ды толькі без яго жыцця б не стала.
Міхась і Галя мелі сэрцаў згоду,
Агонь кахання нёс ім асалоду,
Яны на крылах патаемнай мэты,
Як матылькі, ў агонь ляцелі гэты.

*

Гуло вяселле, як раёк пчаліны,
І цешылася з Міхася, з Галіны.
Радня глядзела і бацькі ўлюбёна:
— Якая пара! Богам благаславёна!
Вяселле — гэта свята! Дзякуй Богу!
У вёсках загароджваюць дарогу,
Як маладыя едуць з сельсавета,
Ім хлеб і соль. Ці ж дрэнная прыкмета?
Тады ўжо свату трэба не скупіцца,
Прасіць дазволу ехаць, адкупіцца,
Тут пару пляшак выставіць — не меней,
Ды і цукерак даць з кішэні жменяй.
А вось і вёска, дзе стаяць ля хаты
Сярод гасцей дзве мамы і два таты.
І зноў хлеб-соль, зноў чаркі, хваляванні,
Бацькоўскія парады-віншаванні.
Бацькі завуць у хату ўсіх з надворку.
Кульнулі — прыкусілі! «Горка! Горка!»
А бабы ля дзвярэй стаяць да ночы,
Спяваюць пра нялёгкі лёс жаночы:

А куды ж ты, Галечка,
Зазбіралася
З хаты сваёй мамачкі,
Свайго татачкі?
Будзеш ты ўставаць
Раней за сонейка,
Будзеш мужу служкаю
Паслухмянаю...

У маладзіцы замакрэлі вочы —
Бывай, мой бесклапотны лёс дзявочы!
— Хай на вяселлі плача,— кажуць людзі,—
Затое усё жыццё вясёлай будзе...
Гуло вяселле без канца, без краю,
Гасцей прасілі ўсіх да караваю.
Хто колькі даў? Хто што паклаў? Цікава!
Дарэнне йшло і весела, і жвава.

А як яда не лезла ўжо за шчокі,
Тады распачыналі танцы-скокі.
А хлопцам колькі гонару і шчасця,
Як маладую здолеюць украсці.
Ад смеху можна лопнуць, надарвацца,
Бо Міхасю прыйшлося таргавацца.
І малады ўжо «злодзеяў» тых просіць:
— Ну колькі, хлопцы? Тры бутэлькі хопіць?
— Ты што, Міхась, так жонку слаба цэніш?
З бутэлькамі трымя й ката не жэніш!
Бяры вышэй! Бо пойдзе жонка ўпрочкі
І не захоча нават першай ночкі!
Хоць гэта жарт, ды хопіць зубаскаліць,
Таму Міхась хутчэй Галіну хваліць:
— За любую сваю, за маладую —
Гарэлка што — жыцця не пашкадую!
Зноў жарты, танцы, скокі, выкаблукі —
Адзін перад адным, задраўшы рукі,—
Ажно дрыжыць, здаецца, скача хата.
І раптам рогат — абступілі свата.
Пакуль ён тут з усімі тоўкся ў зале,
На ім ручнік ціхутка развязалі.
Які то сорам — бо ручнік для свата
Аднолькава, што зброя для салдата.
Гуло вяселле весела і шпарка,
Куды ні ткніся — чарка, чарка, чарка,
Але бывае з горкасцю пахмелле,
Хай крые Бог... Тры дні гуло вяселле.

*

Ёсць прыказка: прымачы хлеб — сабачы.
Міхась не прызнаваў той хлеб прымачы,
Каб зваць ката на «вы» ў бацькоў Галіны,
Ды цешчы ногі мыць, ды слухаць кпіны.
Але і ў Галі гонар быў жаночы —
Перад свякрухай не апусціць вочы,
Паўслоўца, дзе і трэба, не саступіць,
На пальчыках ні перад кім не ступіць.

Што ж — маладыя свае думкі мелі,
І грошы ёсць — дарылі ж на вяселлі,
Ды дзякуй Богу — сваякоў багата —
Як цеста ў дзежцы, вырастала хата.
Ледзь ачунялі ад вяселля трохі,
А тут, як кажуць, зноў лезь у панчохі.
Ўваходзіны! — імчыцца вестка птахам.
Дай Бог вам ладу пад уласным дахам!

*

Хоць пад вянцом слязу пусціла Галя,
Ідзе жыццё затое як па сале.
І з Міхасём усё талкова, гладка,
І гаспадарка ў іх свая, і хатка.
І сам Міхась не кідаў час на вецер,
Вяселле змоўкла — Галя ўжо ў дэкрэце.
Сябры жартуюць: — Хутка ўзяў на мушку!
Але каго — сыночка ці дачушку?
Даў Бог «на мушку» трапіла дзяўчынка,
Як мама, сінявокая Ірынка.
Бацькі заўсёды сэрцамі адчуюць,
Што дзеці родняць іх, сям'ю мацуюць.
Міхась рад вельмі дзіцяню маломў,
Ён з працы ані ўбок — бягом дадому,
Дачку люляе, пяючы прыгожа,
Сваё паробіць, жонцы дапаможа.
Ў калгасе ён ці дома гаспадарыць,
А пра сыночка патаемна марыць.
Расла пра сына думка і дужэла,
І хутка зноў Галіна пацяжэла.
— Ну, хто цяпер? — пыталіся ў Міхася.
Ён у адказ: — Цяпер? Сыночак Вася!
У гонар бацькі дам імя такое,
Сынок мне будзе праваю рукою! —
Як кажуць, не маніся, а маліся...
Зноў ад знаёмых жарты пачаліся:
— Глядзі, каб зноў не падкачала Галька! —
А ім Міхась: — Ёсць нянька — будзе лялька!

І ўсё ж было ў душы сумненне-шпілька.
Было — сплыло. Радзіўся сын Васілька!
Жыццё другім зрабілася адразу,
Расце сынок — усё як па заказу!
Сябры віншуюць: — Стаў, Міхась, замочку,
Каб шчасцейка было твайму сыночку!
Адзін віншуе, пяты і дзесяты —
Бяжыць Міхась «пад градусам» дахаты.
Прыскоча, сына тузае, рагоча,
Ды сп'яну на пасцель — рабіць не хоча.
А калі што і зробіць — як калека,
Цяп-ляп. Як падмянілі чалавека.
Ўстрывожылася не на жарты Галя:
— Міхась, не пі! — Ён толькі зубы скаліць:
— Я ж за... я ж па...— і запляліся словы.—
Я ж толькі каб Васілька быў здаровы.—
Паплача Галя ў хустачку ў куточку:
— І што за дурань выдумаў замочку?
Якія ад яе ў жыцці пакуты,
Ад гэтай самай чортавай атруты!

*

Ірынцы — два, а Васільку — гадочак.
Не падлічыць трывог, бяссонных ночак,
А ноччу муж — не надта ўжо падмога.
Жанчына й да грудзей бярэ малога,
За ноч разы са тры пасцель мяняе,
А то зусім вачэй не закрывае —
Кране за лоб, паслухае дыханне
І б'ецца, б'ецца над малым да рання.
Жаночы лёс ідзе па слізкай сцежцы,
Не скардзіцца, калі душа на месцы.
Любы цяжар цягнуць жанчына рада,
Была б у хаце згода і парада.
А Галіна душа адчула хібу,
Забілася, як матылёк аб шыбу.
Яе Міхась ад хаты адвярнуўся,
Піў кожны дзень, як кажуць, уцягнуўся.

Заліў мазгі «чарнілам» і сівухай,
Гулялі кулакі, як быў пад мухай.
Улезлі ў хату лаянка, пагрозы,
А быў такі пакладзісты цвярозы.
Ды жонка што? Баяцца дзеці таты,
У хату ён — шукаюць вугал пяты,
Крычаць у сне, зусім замкнёны сталі.
І стыла, камянела сэрца ў Галі.

*

Напэўна, менш іголачак на елцы,
Чым светлых душ, што згінулі ў гарэлцы.
Ды, пэўна, й рэчак меней ёсць на свеце,
Чым вашых горкіх слёз, жанчыны, дзеці.
Гарэлка ў хаце — як па сэрцу тарка,
З яе расце сіроцтва, бойкі, сварка.
Атрута, бруд, а сіл няма адкінуць,
І п’юць яе, і гінуць, гінуць, гінуць.
— Міхаська, родны! — моліць Галя мужа.—
Ты глянь, якая паміж намі сцюжа,
Ты ж нас усіх у багну цягнеш гэтак,
Мяне не любіш — пашкадуй хоць дзетак.
— Зноў завялася! Толькі гэта й чую!
Я што — не зарабляю? Не працую?
Я што — святы? — Міхась аж кіпяціцца.—
Вас не трымаю — можаце каціцца!
— Ты што, Міхаська, стаў гарачы нейкі?
Цябе ж гарэлка цягне ад сямейкі!
Апамятайся, любы, азірніся,
На дзетак глянь.
Міхась зароў: — Заткніся!
І перастань сачыць за кожным крокам,
Бо хутка запалю «ліхтар» пад вокам.
Прыцiснула дзяцей да сэрца маці,
І пацямнела на душы і ў хаце.

*

Прыйшла бяда. Няма чаму дзівіцца,
Не можа без канца вяроўка віцца,
Не можа сябраваць каса з травою,
Як не сябруе і агонь з вадою...
Канчаўся дзень, у вокнах стала шэра,
Астыла, адубела ўжо вячэра.
З трывогай Галя ў вокны паглядае,
Чакае мужа, дзетак укладае.
Муж, дзеці, хата — а жыццё не міла.
Ступіла да люстэрка і застыла.
Прыцягвае люстэрка і пужае:
— Ці ж гэта я? Жанчына ў ім чужая.
Куды падзеўся светлы твар дзявочы?
Ад едкіх слёз павыцвіталі вочы,
Маршчыны пераносіцу пасеклі...
Дзе ж гэта я? Ці замужам, ці ў пекле? —
І слёзы густа ўсыпалі падлогу:
— Чым гэта я не дагадзіла Богу?
Я ж да сям'і, да гаспадаркі прагну.
І раптам нехта моцна ў дзверы мягнуў.
Міхась стаяў, хістаўся ля парога:
— Заходзьце, хлопцы! Вось мая бярлога!
А гэта жонка — хатняя пасада.
Што лупы дзьмеш? Гаспадару не рада?
— Цішэй, Міхаська, дзеці ўжо паснулі,
А ты штовечар робіш п'янкі-гулі.
— Цябе не запытаўся! Во страшыдла!
Ты ж мне як рэдзька горкая абрыдла!
Ля печы Галя порацца, таўчэцца,
Закуску робіць — а куды ж ёй дзецца.
А сэрца разрываецца ў адчаі.
У вір бы галавой ад гэтай зграі.
Не бачыла б нічога на тым свеце,
Ды толькі вось адно — трымаюць дзеці.
Паставіла на стол яду, што мела,
І ля сваіх крывінак ціха села...

*

Імчыцца час за чаркай, як маланка,
Таму ўсю ноч раўла гулянка-п'янка,
Нібыта ў лесе звар'яцела бура.
Сядзела Галя ля дзяцей панура.
У сэрцы лёд, сціскае скроні спёка,
Не варухнецца — думкамі далёка.
Няўжо далёка? А здаецца, ўчора
Пачуцці крылы неслі іх да зорак.
Яшчэ й не нажыліся ў новай хатцы,
У іх узросце — толькі мілавацца...
— Мая галубка!
— Любы мой! Адзіны!
Скавалі іх любоў гады-ільдзіны.
— Жаданы! Мілы!
— Кветка веснавая!
Застыла Галя, нібы нежывая.
Яе вадзіла памяці дарога,
Як маці водзіць за руку малога.
Яе круціла думкаў завіруха:
— Якая ж укусіла цябе муха?
Ты ж так любіў, Міхась, дзяцей і жонку,
Цяпер грызеш нас, нібы воўк галёнку...
Міхась устаў, як бы пачуў папрокі:
— Ты што — набрала нематы за шчокі?
Ты што — сябрам паказваеш распусту?
Ці сябрукі паненцы не па густу?
— Табе сябры? — Ажно затрэсла Галю.—
Да родных дзетак ты не маеш жалю.
Ты ж цягнешся дамоў заліўшы вочы,
Танцуй вакол цябе тут сярод ночы.
Сябры? — Не можа Галя супыніцца.—
Сяброўства ваша — толькі каб напіцца,
Адпіць мазгі — усе вашы патугі.
Ты глянь, хто за сталом з табой! П'янюгі!
Міхась ударыў моцна і знянацку:
— Трымай! Я хутка супыню гарачку!

А гэта — за сяброў! — І зноў ударыў.—
Ну як, сябры, кулак мой пагутарыў? —
На жонку глянуў і скрывіўся кісла.
А Галя над Ірынкаю абвісла,
Крывавая зачырванела пляма,
Загаласілі дзеці: — Мама! Мама!
У Галі ў галаве гуло і выла,
Але на ногі ўстаць — знайшлася сіла.
Не, толькі не ляжаць, не гнуць калені,
Ці ж перад ёю людзі? — Злыдні! Цені!
А розум у такіх, вядома, ззаду...
— Ну што, Міхаська, паказаў уладу?
Над кім ты сілай цешышся? Над бабай.
Заблытаўся, звязаўся з жукам, з жабай.
— Ты што, Міхась, у доме для пацехі? —
Сябры цкуюць.— Дабаў ёй на арэхі!
Заткні ёй грызла! Распачла тут спрэчку...
Міхась раўнуў штосілы: — Марш за печку!
Для мух распачынай там тары-бары! —
І зноў кулак размазаў кроў на твары.
Як сноп, упала Галя на падлогу —
Ні гуку. Прыйдзе хто на дапамогу?
Міхась звярэў. Цяпер нагам даў волю.
А Галя ўжо не адчувала болю,
Яна не чула, як крычалі дзеткі,
Не бачыла, як збеглі злыдні-сведкі.
Не бачыў і Міхась, што іх не стала,
Ён біў і біў — здавалася, ўсё мала,
Ён біў і біў, ажно спіна ўспацела,
Як ашалеў, качаў нагамі цела.
— Ну, хлопцы як? Ці многа, ці не многа?
Крутнуўся да стала, а там — нікога.
Зірнуў вачамі дзікімі пад ногі —
Ляжала Галя тварам да падлогі.
А дзеці дзе — Ірынка, Васілёчак?
Чаму яны забіліся ў куточак?
Чаму так ціха? Дол гэта ці хата?
У скронях біла нешта, як гармата.

Напруг мазгі, нібы рашаў задачку:
— Ну хопіць, Галя, Ну спароў гарачку!
Ну чалавек п’яны — дурны, вядома...
Але ляжала Галя нерухома.
Сцярог глыбокі адпачынак цела,
І, пэўна, ў рай душа яе ляцела.
Адмеран быў для Галі век кароткі,
І стала ў Бога больш на дзве сіроткі...
Ляжала Галя, нібы ліст апалы,
Як быццам спала, рукі распластала.
Жаночы лёс з ёй абышоўся крута.
І дасталася ёй бяда-атрута.
Ляжала Галя ціха, халадзела...
...А як жа трапятала гэта цела,
Палала як ля цела Міхасёва,
Яно было на ўсё, на ўсё гатова.
У ім цякла любоў без перапынку,
Яно насіла, берагло Ірынку,
Яно было калыскай Васілёчку,
Яно сустрэла мужна й гэту ночку..

*1987*

Сымон, хаця і быў набожны,
І ў храм святы хадзіў, маліўся,
А скрытна, як жанацік кожны,
Завёў каханку — «прыжаніўся».

— Я,— жонцы кажа,— ў лес па дровы.
А сам — «налева», да каханкі.
Назаўтра зман знаходзіў новы
І ладзіў новыя гулянкі.

На словах жонку так узносіў,
Мазгі хлуснёй туманіў жонцы:
— Я ж так люблю цябе, Хаўрося!
Я ж без цябе, як дзень без сонца!

Цябе як бачу, дарагую,
Не можа душанька не ёкнуць!
Табе пазней усё скажу я,
Бо трэба мне па дровы скокнуць...

*

Хто ж ладу хатняга не прагне?
Ды лёс не ўсіх ласкава гладзіць.
Калі мужчыну з хаты цягне,
Хай жонка на сябе паглядзіць.

Хаўрося ж — чорт. І ўся гамонка.
Жыве нячыстая ў ёй сіла.
У горле скула, а не жонка,
Характар — крапіва ці шыла.

Пілуе беднага Сымона,
А той: — Мая ты чараўніца!
Мая душа! Мая ікона!
Я згодзен на цябе маліцца.

І так лагодзіць, так хітруе,
Што тая ўсюды слых разносіць:
— А мой жа пень сказаў: «Памру я
Без сонца яснага — Хаўросі».

А як жа трафіць мне і годзіць —
Са скуры выскачыць гатовы.
Праз дзень у лес па дровы ходзіць
Мой закаханы, безгаловы.

*

Святар у вёсцы — Бог на небе,
Вяскоўцам шчыра душы гоіць.
Ён прыме па любой патрэбе,
Параіць ён і супакоіць.

Нягодна жыць без Боскай веры,
Без Усявышняй дапамогі,
Таму ў святога храма дзверы
Людзей вядуць усе дарогі.

Хаўрося думку-план шануе,
Нібы курыца яйка носіць:
Яна айцу руку цалуе,
Яна яго набожна просіць.

— Да Вас, святы айцец, прашэнне!
Няўжо рабе святар адмовіць?
Зрабіце ў службе парушэнне —
Пусціце да сябе на споведзь!

Наш з мужам шлюб — даўно ў законе,
Мы з ім адно — куды падацца?
Хачу пачуць, як мой Сымоне
Прад Вамі будзе спавядацца...

Айцец махнуў рукой запальна:
— Ты што, дзіця? Здымі пытанне!
Святая споведзь — гэта тайна,
Не для чужых вушэй прызнанне!

Хаўрося — цмок руку айцову:
— Якая тайна? Дурань кожан
Пачуў, што муж мой безгаловы
Каханнем, нібы конь, стрыножан!

Ды ён мяне іконай лічыць!
Яго душа я! Чараўніца!
Ды муж мой на маё аблічча
Гатовы дзень і ноч маліцца...

Паскроб айцец крыжом за вухам:
— Ты ж будзеш потым балаболіць...
— Ды я клянуся Свентым Духам
Маўчаць, як сыч! — Хаўрося моліць.

— Пры мне Сымона спавядайце!
Няўжо я чалавек староннi?
Адно пытанніца задайце:
Ці есць пачуцці да Хаўроні?

І Вам, айцец, праз гэту спробу
Карысна чуць са спавядання,
Як любіць муж маю асобу,
Што значыць палкае каханне!

Айцец размяк: — У грэх уводзіш...
Ото ўжо з бабамі мне ліха!
Тады цішком у келлю зойдзеш —
І там, як мыш, зашыйся ціха.

*

Сымон не надта ўжо і верыў,
Што здыме грэх, душу загоіць,
Але ішоў у тыя дзверы
Крыху сумленне супакоіць.

Даволі рэдка спавядаўся,
Хаця грашыў часцей намнога.
Грашыць — грашыў, а аглядаўся
І на Хаўросю, і на Бога.

Сымон наставіў жонцы рожкі
І неяк кажа ёй са смакам:
Пайду да споведзі, Хаўрошка,
Хаця грахоў — як кот наплакаў.

— Схадзі, схадзі! Ды да драбніцы
Усё айцу скажы там, Сёма!
— А што сказаць, мая царыца?
Я ж як анёл — усім вядома.

Іду — дзеля высокай веры,
Каб не гнявіць цябе і Бога...
Хаўрося — ціхенька за дзверы
І ў келлю ад свайго парога.

Сымон памыўся, пагаліўся,
Надзеў чысцюткую кашулю,
Ля абразоў перахрысціўся:
— Ну, я пайшоў, мая красуля!

Хаўрося! Дзе ты?.. Во пачвара!
Ужо ў суседак зубы скаліць.
Ці ж гэта жонка? Звяга! Кара!
Хай табе чорт язык падсмаліць!..

Вось так Сымон зваліў у кучу
Душы здабытак унікальны.

І з хаты прэч пайшоў рашуча
Да ачышчальнай спавядальні.

Зайшоў у цесную кабіну,
Сабраўся з думкамі натхнёна...
— Пара з душы спіхнуць цагліну! —
Мільгнула ў галаве Сымона.

Да спавядальнай дзіркі ротам
Сымон прыліп, як да кілішка.
Хаўрося ж пад халодным потам
Сядзела за айцом, як мышка.

— Я тут, айцец! — Сымон узнята.—
З душы саскрэбці грэх хачу я...
— Смялей, мой сын, бо споведзь — свята!
Над намі Бог — усё ён чуе!

— Пачну з таго, што п’ю не мала...
— Усе мы, сын мой, выпіваем.
— У пост вялікі ем я сала...
— І мы жывот свой «запраўляем».

— Люблю загнуць я на рабоце
Крутым, шматпавярховым матам...
— А для чаго язык у роце?
І гэты грэх лічу я знятым!

— Яшчэ, айцец, украў я зранння...
— Ды кінь ты, сын мой, драбязіцца!
Ты раскажы мне пра каханне —
Якая ў сэрцы чараўніца?

Ці гэта, сын мой, падалося,
Ці праўду слых нясе па хатах,
Што вельмі любіш ты Хаўросю,
Што прыклад ты для ўсіх жанатых?..

Сымон аж заскрыпеў зубамі:
— Каго? Хаўросю? Жабу гэту?!
Айцец! Хай будзе паміж намі —
Другую маю я кабету!

Яе абдымкі, пацалункі
У сэрцы моцна прыжыліся,
Нібы ад Бога падарункі...
Святы айцец зароў: — Заткніся!

Сымон абсеў: — Дык гэта ж споведзь...
Я ж Вам, айцец, як на падносе...
Святар спыніў: — Пра глупства хопіць!
Скажы, што любіш ты Хаўросю!

— Каго? Хаўросю? Гэту язву?!
Хай ліха з печы яе скіне!..
Айцец абсек: — Змяні ты назву
Сваім расказам, грэшны сыне.

Скажы: — Люб-лю! Хаў-ро-сю! Жон-ку!
Адзіную і дарагую!..
— Мне споведзь гэта есць пячонку —
Люблю! Люблю!.. Але другую.

Сымон ускочыў з табурэткі,
Ды і святы айцец завёўся:
— Ды як жа ты, бязбожнік гэткі,
Тайком з чужой жанчынай сплёўся?

Сымон яшчэ вышэй падскочыў,
І заскрыпелі зноў пашчэнкі:
— А сам?! Куды габлюеш ноччу?
Вядома — да чужой сукенкі!..

І раптам тут — прамой наводкай —
Хаўрося з крыкам і з разгону —

Грудзьмі ў сцяну, ў перагародку!
І толькі пыл у твар Сымону!

І толькі трэскі, як асколкі,
І толькі рот паветра ловіць,
І словы жонкі, як іголкі:
— Ану дамоў! Працягнем споведзь!

*

Ад ачышчальнай спавядальні
І аж да хатняга парога
Хаўросін гнеў непрадказальны
Прыгнаў Сымона ледзь жывога.

— Заходзь! — і грозны тон Хаўросі
Спужаў Сымона, як грымоты.
Ён сеў у кут і з лавай зросся,
Скруціўся ўвесь — глядзеў на боты.

— Ну што?! — Хаўрося рукі ў бокі.—
Давай! Выкладвай! Спавядайся!
Чаго маўчыш, надзьмуўшы шчокі?
Працягвай споведзь! Не стыдайся!

Язык Сымонаў гнуўся слаба:
— Хаўросечка... ды я гатовы...
— А-а! Я Хаўросечка, не жаба! —
Сымона лупянулі словы.

— Якая жаба? Любка! Краска!..
Але Хаўрося абсякае:
— Пакінь для той лахудры казкі!
Ану выкладвай — хто такая?

Сымон насупіўся, надзьмуўся,
Маўчаў, сядзеў бялей паперы...
І зноў Хаўросін крык пачуўся:
— Не скажаш?! Лбом адчыніш дзверы!

Сымон прыкінуў: — Прэч прагоніць —
Там — ні кала, ні гаспадаркі,
Адны вуглы — хай Бог бароніць,
Ні малака табе, ні скваркі...

Сымон усхліпнуў вінавата:
— Хаўроська... гэта... гэта — Туся...
Хаўрося ўголас на ўсю хату:
— О-ёй! Ад смеху задушуся!

Яна ж — аблезлая варона!
Што кот збасцяны без дагляду.
Вось гэта пара для Сымона —
Ні лытак, ні грудзей, ні заду!

І ты мяне?! Мяне, Хаўросю,
Змяніў на тую верхаводку?!
Сымон загаласіў, затросся:
— Давай забудзем гэту плётку!

— Забудзем? Ах ты, валацуга!
Мне што, маліць: кахай, Сымонка!
Я хто тут — жонка ці прыслуга?
Сымон ускочыў: — Жонка! Жонка!..

Хаўрося хоць трымала марку,
А ведала цану мужчыне.
Мужчына правіць гаспадаркай,
Без мужыка — агмень астыне...

Прагнаць Сымона — самагубства,
Не трэба гнаць — і слова раніць,
Парну Сымону ў самалюбства...
І вось Хаўрося мужу маніць:

— Калі ўжо споведзь паміж намі,
Дык ведай, што і я не спала,
І я з мужчынскімі штанамі
У шуры-муры пагуляла.

Не ты адзін з узнятым носам
Свой гонар грахаводны цешыш...
Сымон зірнуў на жонку скоса,
Прамовіў з недаверам: — Брэшаш!..

— Брашу? Ты ў лес, а тут — Іванка,
Мужчына — не табе раўняцца...
Назаўтра ў хату — шусь Сцяпанка,
І з ім табе не пацягацца...

— Ды як жа ты? — сказаў не строга
Сымон і стаў бялей парошы.—
Ды як жа ты пасля такога
Глядзіш у вочы мне, Хаўроша?

— Я спавядаюся, Сымонка!
Прабач — псую настрой мядовы.
Куды мужык — туды і жонка,
Вось ты — у лес, а я — па дровы!

Сымон раз-пораз хліпаў ціха.
І тут, зусім неспадзявана,
У хату, як на гэта ліха,
Дасужы чорт прыпёр Івана.

Раней Іван у гэту хату
Нагою не ступаў ніколі,
А тут, як кажуць, збэсціў свята,
Прыйшоў, сыпнуў у рану солі.

Сымону ён сваім прыходам
У сэрца накідаў каменняў,
Ды і Хаўрося стала лёдам
Ад слоў сваіх і супадзення.

— Спакой і мір гнязду і птахам!..—
Ніхто не адказаў Івану.—
Ішоў, гляджу — дымок над дахам,
Дай, думаю, у хату гляну...

Іван пакашляў, патаптаўся,
Зняў шапку і на цвік павесіў.
— Цябе, Сымон, не спадзяваўся
Застаць, бо ты — часцей у лесе...

Сымон падскочыў да Івана,
Схапіў за грудзі: — Памаўзуеш!
Спісаў мяне занадта рана,
Знічтожу за Хаўросю! Чуеш?

Іван збялеў, ніяк не ўцяміць,
За што яго таўкуць у грудзі...
— Ты што, Сымон,— пасеяў памяць?
Пры чым тут я? Ратуйце, людзі!..

Сымон зароў: — І ты, прыблуда?!
Бо тут Сцяпан зайшоў нядбайна...
...Хай пакрычаць — спыняць не будзем,
Святая споведзь — гэта тайна.

*1987*

Лагойшчына! Зямля маіх бацькоў!
Тут і майго жыцця бруіць крыніца.
Тут першы крок і першая любоў —
Якая ўсё жыццё хвалюе, сніцца.

Любоў да белай, снежнай цішыні,
Да пахаў веснавых, птушыных спеваў,
Да лецейка, пяшчоты-цеплыні,
Да восеньскіх, у сум адзетых дрэваў.

Прыйду сюды — і адпачне душа,
Я тут не госць, я тут невыпадкова:
Тут жыў Купала і Ядвігін Ш.,
І тата з мамай. Тут гучыць іх мова.

Адны — з узнёслых слоў вянок плялі
Натхнёна, незабыўна, непаўторна.
Ступалі, як і ўсе мы, па зямлі,
А шлях праклалі велічны і зорны.

Другія ж — а я іх не менш люблю,
Як тут смяюцца, з іншай соскі ссалі.
Глядзелі больш, сагнуўшыся ў зямлю,
І на раллі свой летапіс пісалі.

Слязьмі пісалі, потам і крывёй,
Рукамі ў мазалях сухіх і жылах,
Худой, заўсёды згорбленай спіной,
Якая і не марыла аб крылах.

Як той казаў, на твары дзве шчакі:
Адна на сонцы, а ў цяньку — другая...
Я вам зайздрошчу, продкі-землякі,
Хоць ваша доля горкая, благая.

Хоць давялося вам служыць панам
І на чужой зямельцы гнуцца крукам,
Але ніхто не пазайздросціць нам.
Ды што ўжо нам? Ні дзецям і ні ўнукам.

Хто сёння або заўтра праглыне
«Гасцінец», што паслаў нам лёс учора?
Бяда не ў тым, ядзім мы хлеб ці не,
Які мы хлеб ядзім? — у гэтым гора.

*

Ідзе па лесе чалавек з кашом,
Хоць зрання падпсавалася пагода.
Спагадна восень пырскае дажджом,
Ды дожджык грыбніку не перашкода.

Ў другой руцэ не спіць, працуе нож,
Зразае ножкі нізка ля зямліцы.
То скокне падасінавік у кош,
То махавік за ім, а то — лісіцы.

Да іх усіх — пашана і любоў,
Але яны, як кажуць, люд прыдворны.
Трапляе часцяком і цар грыбоў,
Надзьмуты, важны, з галавой аж чорнай.

Гасцінцаў не шкадуе шчодры бор —
Таўстух, радовак, курак, сыраежак.
Ідзе грыбнік — ідзе мой дзед Рыгор,
Не абмінае запаведных сцежак.

А што за смак узяць грыбок зімой
З алеем і цыбулькай ці смятанкай!
Такая смакацішча, Божа мой!
Не горай нават, чым бліны з мачанкай.

А як духмяна пахне грыб сухі!
Аж нос дрыжыць — той пах зімой ацэніш.
Нібыта Божа адпусціў грахі,
Як баравік у паліўцы сустрэнеш...

Ідзе мой дзед, нясе грыбкі ў кашы —
Пацешыць чалавека восень здольна,
Хоць сыпле дождж, а светла на душы
І думкі ў галаве цякуць павольна.

Адхлынулі ад цяжкай працы дні,
Ралліца гноем пад зіму накрыта.
І бульбачка ляжыць у варыўні,
Цапы даўно абмалацілі жыта.

Не сыплецца, вядома, цераз край,
Ды, дзякуй Богу, на стале не пуста.
Не зводзіцца і хлеба каравай,
І бурачкі, і морква, і капуста.

Ды гэта ўсё, як той казаў, муштук,
Бо моцны дым толькі цыгарка родзіць —
Перад зімой заколецца парсюк,
Кароўка да ацёлу падыходзіць...

Ідзе мой дзед... Даўно гэта было,
На твар падзей ляглі гады-маршчыны.
Ды што было — на жаль, яно сплыло,
Пакінула нам думкі-успаміны.

Зямліцай стаў і сам мой дзед Рыгор —
Прабач, дзядок, што твой пакой парушыў.
Чаму ж мяне мой успамін прыпёр
Да тых гадоў? Зрабіць я гэта мусіў.

Ці ж дзіва ў тым, што дзед збіраў грыбы?
Што бульбу елі? Шчаўе ці брусніцы?
Аб стравах тых не мелі б мы журбы.
Хіба ж мы мала маем ад зямліцы?

І я збяру грыбы, і кожны з вас,
І малачко з’ядзім, і журавіны,
Ды вось бяда — ад іх праз хуткі час
Нам свет закрые века дамавіны.

І з’есці гэты грыб я быў бы рад,
Гародніну бяру — душа трасецца.
І ем — а што рабіць? — глытаю яд,
Куды, скажыце, кінуцца, падзецца?

Мы ў зоне забароненасці ўсе,
Мы і ахвяры, а не толькі сведкі.
На жаль, яна яшчэ нам прынясе
Свае плады, бо гэта — толькі кветкі.

Цяпер ніхто не есць за дзве шчакі,
Раку жыцця перакрываюць мелі.
Быў больш пакутны час, калі грыбкі,
І ягады, і шчаўе — толькі й елі.

Ды і цяпер без іх хоць не жыві,
Руку адсекчы лепей бы згадзіўся.
Ў жыцці яны з дзяцінства, у крыві
Для кожнага, хто ў вёсцы нарадзіўся.

А мы раслі пад гоман баравы,
Качаліся ў пяску, як парасяткі.
Нас сёння заклінаюць: — Хто жывы,
Ў лясы ні кроку! Бойцеся травы!
Бяжыце ад зямелькі без аглядкі!

Во дажыліся пад сваёй страхой!
Нас лёс далейшы ставіць на калені.
Зайздрошчу я табе, мой дзед з сахой,
Як мы, свайго ты не баяўся цені.

Свой доўгі век пражыў без дактароў,
Больш мудра і надзейна лёс размераў.
Такіх, як мы, ты не сустрэў «звяроў» —
Ні стронцыя, ні цэзія, ні бэраў.

Не чуў ты, мой дзядуля, пра кюры,
Як кажуць, не панюхаў гамафону.
Ці ж мог ты ведаць, скуль тыя «звяры»?..
А я іду з Лагойшчыны — у зону.

Іду адзін, прабач і ты, чытач,
Да чорта ў зубы, бо няма там Бога.
Там будзе жудасна, там енк і плач,
Там небяспечна для ўсяго жывога.

*

Ад смакацішчы слінак повен рот,
А тут яшчэ казыча нос жывіца.
Праз столькі намаганняў, столькі год
Даў Бог у новы дом перасяліцца.

І двор прыбралі, выграблі смяццё,
Кіпіць у печы, смажыцца аж зранку,
Бо пачынаюць новае жыццё —
Як не сабраць суседзяў на гулянку?

Аж ломіцца ад рознай стравы стол.
І не галодны мог бы падзівіцца.
Якія агуркі! Які засол!
І кумпячок, і нават паляндвіца.

Заквашана капуста ў качанах
І крышаная побач — калі ласка!
Падсмажанае сала — на блінах,
А на патэльні аж пішчыць каўбаска.

Гатова ўсё, хай госцікі ідуць,
З людзьмі патрэбна й радасцю дзяліцца.
А бульбачку пад парай пададуць,
Яна стаіць за засланкай, дыміцца.

Прабачце, даражэнькія мае,
Цікава вам — а ці ж гарэлка будзе?
А як жа абысціся без яе?
Хто ж гэта хоча жыць не так, як людзі?

Апісваў бы я гэты стол далей,
Бо выглядае ён і больш багата,
Ды гаспадар памкнуўся да дзвярэй,
Пачуўшы голас Бізуна Кандрата.

Кандрат, хоць у гадах, а быў жывы
І жвавы, як агеньчык папяроскі.
А звалі яго проста — Канцавы,
Бо жыў ён у канцы, аж з краю вёскі.

Кандрат жа пра сябе даў знаць з сяней:
— Ўваходзіны і гэты стол аж сніцца.
Дай, думаю сабе, пайду раней,
Да добрай чаркі не дай Бог спазніцца.

Віншую вас! — раскланяўся Кандрат,—
Цябе, Сцяпанка, і цябе, Антося!
Каб вы былі здаровы, так я рад,
Каб вам тут і жылося, і вялося!

... Кандрат адзін застаўся. У жыцці
Адзін пад старасць нехта застаецца.
Яму раней і рупіла прыйсці —
Сярод людзей хто хочаш засмяецца.

За ім Кастусь ступіў цераз парог
З сваёю жонкай Лідай, як калодай:
— Жывіце, даражэнькія, дальбог,
З грашыма меней, а найбольш — са згодай!

Прыйшоў Іван, сусед — рукой падаць,
Уперад жонку прапусціўшы — Гэльку.
І кожны, ледзь закончыць віншаваць,
З кішэні важна дастае бутэльку.

З гасцямі й падарункі тут як тут —
Хто капу, хто карніз, хто табурэтку.
Васіль ікону начапіў на кут:
— Жывіце з мірам! Будзе Бог за сведку!..

Дом будавалі ўсе — хто чым памог.
І тут амаль усе аднавяскоўцы.
Адзін без аднаго — ні за парог,
Адзін з адным — як у ахапцы дроўцы.

Падняўся гоман, смех не без прычын —
Узрушыліся ад яды-спакусы.
І ад бутэлек розных у мужчын
Ужо даўно, відаць, свярбелі вусы.

Антося да Сцяпана падышла:
— Кінь размаўляць! Каго накорміць казка?
Людцы, суседзі, просім да стала!
Частуйцеся, сядайце, калі ласка!

Ніхто не стаў чакаць, каб лішні раз
За стол прасілі, ды і селі шпарка
Бліжэй да чаркі, скваркі і каўбас,
І слова папрасіў сусед Захарка:

— Я свой кілішак за гаспадароў
Напоўніў да краёў, пакуль лілося.
І ты, сусед Сцяпанка, будзь здароў!
Ніколі не хварэй і ты, Антося!

Такі, мае суседзечкі, і сказ,
Кароценькі, як у зубах акурак.
Я рад за вашых дзетак і за вас,
Што гэты дом — жыцця-быцця падмурак!

Кульнулі ўсе з прыцмокам, нібы мёд,
Занюхаўшы спярша кавалкам хлеба.
Затым пайшла й закуска хутка ў ход,
Працуеш добра — і ў ядзе патрэба.

Зноў налілі і слова ўзяў Кандрат,
Замоўклі ўсе, бо гэты нешта жарне.
Ён і цвярозы — нібы аўтамат,
А як пад мухай — быццам малатарня.

— Сцяпанка, асцюкоў табе ў штаны,
Каб ты квітнеў з кабецінай Антосяй!
Вы ў гэтым доме з ёю, як паны,
Бог вока затрымаў на вашым лёсе.

Каб мне, Сцяпанка, не мінуць кілы,
Я вам жадаю яшчэ лепшай змены.
Ў кішэні — грошай, шчасця — у вуглы,
Здароўя вам з Антосяй ва ўсе члены!

І зноў пачуўся за сталом прыцмок.
— Да дна,— крычыць Сцяпан — бо я пільную!
І тут прыйшоў пазней за ўсіх Змітрок.
— Штрафную! — закрычалі ўсе.— Штрафную!

Жадаў хто што, працягвалі гуляць,
Ў жыцці такіх выпадкаў небагата.
Сям'я з дзяцьмі змагла на ногі ўстаць,
Ці ж гэта жарт — навюсенькая хата!

Жанчынкі раптам ціха пачалі
Свайго юнацтва песню, зацягнулі.
Мужчыны падхапілі, як маглі,
Бо як гэта, парткі — ды без кашулі?

— Не садзіся, сонейка,
Ды за хмару чорную.
Не хавайся, лецейка,
За зіму халодную.

Не рабіся, долечка,
Сумнаю, няшчаснаю,
Хай надыдзе ранічка,
Хай жыццё вяртаецца...

Паслухай, сэрца, песню, памаўчы —
Адну з жалобных самых калыханак...
Гулялі людзі позна, да начы,
Для іх ніколі не наступіць ранак.

*

І дзень прайшоў, і два пасля гасцей,
На месца ўсё пастаўлена, прыбрана.
Раз вечарам, паклаўшы спаць дзяцей,
Звярнулася Антося да Сцяпана:

— Сцяпаначка, чым сэрца загаіць?
Пра станцыю я чула...
— Пра якую?
— Пра тую, што ў Чарнобылі стаіць,
Пра гэту скулу, Сцёпачка, талкую.

— Дурніца ты! — не вытрымаў Сцяпан.—
Яна ж ад нас за дваццаць вёрст — далёка!
І радыё маўчыць — ці ж гэта зман?
Ото ўжо з вамі, бабамі, марока.

— А хто іх зразумее там, чарцей? —
Працягвала Антося хваляваецца.—
Сцяпанка, я баюся за дзяцей...
— Пакінь, Антося, будзем спадзявацца...

Не вер ты плёткам, нос вышэй трымай,
Каму гэта дурыць людзей цікава?
Учора святкавалі Першамай —
Ці ж дапусціла б да таго дзяржава?

Так і рашылі — жыць як і жылі,
Дасць Божачка — і сціхнуць байкі-плёткі,
Хоць скінуць камень з сэрца не змаглі,
Хоць ім душу, як кажуць, дзёрліköткі.

*

Мікола адслужыў як мае быць,
Сумленна, чэсна два гадкі адбухаў.
І спецыяльнасць там паспеў набыць,
Таму цяпер патыліцу не чухаў.

Ды і калгас рукам працоўным рад,
А тут механізатар — гэта ж шышка.
Шафёр у вёсцы, як сказаў Кандрат,
Патрэбен так, як для заціркі лыжка...

Ляцелі куры з каляін кулём,
Дзяўчаты чырванелі, нібы ружы,
Як бачылі Міколу за рулём,
Калі ён з форсам пралятаў праз лужы.

І ён усіх іх бачыў — не аслеп,
Толькі адну з іх сэрца заўважала,
А як заўважыць — тахкае, як цэп,
Баліць, пячэ і ные, як ад джала.

Прычаравала хлопца, хоць крычы.
І ён, завершыць ледзь сваю работу,
Надзене, наваксуе храмачы,
Прычапурыцца і стаіць ля плота.

Жаніх, сказаць па-праўдзе, хоць куды,
Прыгожы, не разбэшчаны, вясёлы.
Дый дваццаць два гадочкі — малады!
А, вунь ідзе яго Алеся з школы.

Яна працуе ў школе першы год
Пасля сваёй вучобы — інстытута...
Убачыла Міколу ля варот,
Зачырванела, як у полі рута.

— Алеся, прывітанне! Як жывеш?
— Я? Я жыву — нічога... Прывітанне!
А сам, Мікола, ты куды ідзеш? —
Дый больш пачырванела ад пытання,

Бо ведала — чакае ён яе,
Даўно ўжо гэта не было сакрэтам.
Калі любоў гняздзечка ў сэрцы ўе,
Не будзе пуставаць гняздзечка гэта.

*

Ледзь гутарку Алеся пачала,
Міжволі дзеці ўскочылі на ногі:
— Паліць касцёр!.. Варыць яду!.. Ура-а!
Ісці ў паход на свята Перамогі!

Паход!.. Ці ж для дзяцінства існуе
Што-небудзь больш жаданае на свеце?
І клас пачуцці выплюхнуў свае.
Алеся ўстала: — Ціха! Ціха, дзеці!

Машына нас да месца давязе,
Дзе йшлі баі — акопы там убачым.
Адтуль, як кажуць, на адной назе
Ў раённы цэнтр праз нейкі час даскачам.

А там жа краязнаўчы ёсць музей,
Наш родны край пазнаць ён дапаможа.
А шлях дамоў — не з дому, больш бліжэй.
Такім вось будзе наша падарожжа...

Ў машыне ехаць — шык, не на кані.
І хутка зніклі вёсачка і школа.
Быў повен кузаў смеху, піскаўні,
А вёз дзяцінства гэта сам Мікола.

Ён вёз не толькі дзетак, а й любоў,
Аб ёй з пяшчотай марыў і бясконца.
Мікола сёння ехаць быў гатоў
Не да акопаў нават, а да сонца.

Нарэшце заспявалі тармазы,
Застаўся шлях, як кажуць, за спіною.
Алеся з кузава спрытней казы
Саскочыла: — Ну, хто хутчэй? За мною!

І зноў дзіцячы смех, як птушак спеў,
Рассыпаўся, расцвіў пад небам мая...
Чаму ж ніхто сказаць ім не хацеў,
Што іх не сонца — цемра абдымае?

Што нельга ім ламаць, паліць галля,
Што нельга піць атручанай вадзіцы,
Што лес — ім вораг, вораг ім зямля,
Што сэрцы ім пранізваюць «часціцы»?

Хто мог сказаць — не ведаў гэта сам,
Хто ведаў гэта — той маўчаў злачынна.
Шчаслівым гэтым, светлым галасам
Няшчасце слала, слала ноч Айчына.

*

Сцяпан ад жаху нібы звар'яцеў,
Расхрыстаны, на лоб палезлі вочы,
З калгаснага двара дамоў ляцеў,
Бядзе насустрач і насупраць ночы.

Сабакі вылі мо на ўвесь раён,
Ляцелі людзі спераду і ззаду.
Крычалі нешта — штось крычаў і ён,
Бяспамяцтва прыйшло нібы ад чаду.

Сцяпан у дом ускочыў, як віхор,
А трое дзетак між сабой гуляюць...
Падкінула Антосю: — Хто памёр?
Сцяпанка, што з табою?
— Высяляюць...

— Ды што ты мелеш, чортава трапло?
Куды? Каго? Ты растлумач талкова! —
А ў беднага дыханне заняло,
Адсягацца не можа, мовіць слова.

Нарэшце, як закапала з вачэй,
Сказаў — і быў той сказ яго кароткі:
— Збірай, Антоська, дзетак і хутчэй,
Не плёткі то былі, на жаль, не плёткі...—

Абсела жонка, ногі як зануч
І толькі вочы на яго таропіць:
— Сцяпанка, пашкадуй, не рэж, не муч! —
Сцяпан ускочыў як шалёны:
— Хопіць!

Сказалі ехаць так, у чым стаім,
Скарынкі хлеба не бяры ў дарогу.
Такое тут багацце — чорт і з ім!
Мо вернемся сюды — маліся Богу.

— А што багацце? Гэта ж пот і кроў! —
Ў адказ Антося.— Мне шкада і шклянку.
Тут меншы сын закуксіўся, зароў:
— А мульцікі глядзець? А калыханку?..

Грузілі на машыну, як цялят,
Бітком, бачком, бо месца не хапала.
— А ты чаго стаіш, браток Кандрат?
Давай сюды — дзе наша не прапала!

— Куды ўжо мне? Да чорта на бліны?
Ён мне і тут праеў усе пячонкі.
Я хутка, асцюкоў і мне ў штаны,
Нагамі ўперад — на пакой да жонкі...

*

Як рэшата падкідвае муку,
Так і машына кідала і трэсла.
І думкам цесна, як вадзе ў раўку —
Чаму? За што? Куды жыццё панесла?

Дачушка Ганначка, як матылёк,
І сынка Ясь — з Антосяй — аж ад хаты.
А меншанькі сыночак — Васілёк
З Сцяпанам быў — не адарваць ад таты.

Гэта яго, яго лёс — Васілька,
Ад «калыханкі» адарваў знянацку.
Гэта яго нясе падзей рака,
Не дазваляючы ўзяць нават цацку.

А па дарозе лётаюць, снуюць
Машыны, людзі з клункамі, на конях.
Аж захлынаюцца, а гора п’юць —
Ад жудасці б’е малаткамі ў скронях.

Здавалася Антосі гэта сном —
Машыны, крыкі, людзі, мітусніна.
— Куды ж я еду? У мяне ж свой дом.
І ў ім не пуста, і ў хляўку — скаціна.

Чаму ж нас Бог ад шчасця аддзяліў?
Душа ад гора поўная, як вочка...
І раптам Яська ў сэрца болю ўліў:
— Ой, мамачка, я ж не спусціў Пушочка!

— Не бойся, Яська, будзе жыць Пушок,
Ён нашу хатку там пільнуе недзе.
Там ля яго стаіць з ядой гаршчок,
Дый хутка Яська да Пушка прыедзе...—

Прыйшло, паўстала гора ва ўвесь рост
І не саступіць шчасцейку дарогі.
Як той казаў — усё кату пад хвост,
Ўсё чорту лысаму, усё пад ногі.

Ўваходзіны прыпомніў і Сцяпан,
Кандратава «жылося і вялося».
Мінулае закрыў туман-дурман —
Ці ты было, жыццё? Ці падалося?

*

Мікола бачыў кожны дзень жуду,
Людзей вывозіў, як казалі, з зоны.
Вазіў людскую горкую бяду,
Дабіўся сам да ручкі, стаў зялёны.

Туды-сюды, як той чаўнок, гайсаў,
За ноч гадзіну-дзве спаў у кабіне.
Як воўк шалёны, лёс людзей кусаў —
Ўсё чалавек у горы кіне-рыне.

Кідалі ўсё — абжытыя вуглы,
Дзе хлеба пах і цёплыя калыскі.
Вясёлыя й жалобныя сталы,
Абноўкі, шыла-мыла, лыжкі-міскі.

І сэрцы адрывалі ад зямлі,
Як пупавіну, з болем і крывёю,
Дзе прыжыліся некалі, раслі,
Каб даць жыццё — як продкі, стаць зямлёю.

Мікола ў горы, лямантце, журбе
Быў кожны дзень, як кажуць, аж па горла.
Хто ж гэта будзе шкадаваць сябе,
Калі бяда пад сэрца нож падпёрла?

Нібы жыццё паклаў ён на далонь,
Нібы ў люстэрка пaглядзеў крывое.
Жывое сэрца кіньце на агонь,
Яно збаліцца, бо яно — жывое.

*

Ўставала сонца цяжка з-за зямлі,
Як быццам нехаця, як недаспала.
І па гатовай да сяўбы раллі,
І па палях гулялі промні вяла.

І, як ніколі, цяжка ўстаў Кандрат,
Нібы яго адлупцавалі палкай.
Адзін застаўся — гэта думка-яд
Пякла пад сэрцам, як агнём запалка.

— Во гора, асцюкоў яму ў штаны!
Адкуль яно? — і плюнуў на падлогу.—
Хоць бы старая вылезла з труны,
Каго ж яшчэ чакаць на дапамогу?

Ішоў Кандрат, ішоў з канца ў канец,
Атручаную долю нёс праз сілу.
Ледзь ногі сунуў, нібы ў іх свінец —
Ці то праз вёску йшоў, ці праз магілу?

Ішоў Кандрат ля вымерлых двароў,
І думкі ліплі, нібы павуціна...
Сабакі вылі без гаспадароў,
Ў хлявах крычала змучана скаціна.

*

Антося прыціскала вузялок —
Кавалак сальца, яйкі тры пры сале.
Там, за дзвярыма дзесьці,— Васілёк,
Быў ціхі час, да хворых не пускалі.

Антося пачарнела, знемагла,
Панікла, звяла, як трава ў пракосе.
Адна бяда другую ўслед вяла
Па сэрцы, па жыцці яе, па лёсе.

Антося тут ужо не першы раз,
Ляціць сюды праз дзень, праз два дзянёчкі,
Бо бачыць — Васілёк стаў жоўты, згас,
Напоўніліся сумам яго вочкі.

Яна з апошняй сілы цягне воз,
Нагружаны бядой-нудой, пакутай,
І новым словам жудасным — лейкоз,
Які для Васілёчка стаў атрутай.

А думка б'ецца: — Будзе, будзе жыць!
А губы самі шэпчуць: — Гора, гора...
Чакае сэрца беднае, дрыжыць,
Што прычакае? Сына? Прыгавора?

*

А дзе ж людцы гаротныя жылі?
Чаму я вёску не назваў? Навошта!
Хіба іх мала сёння на зямлі?
Ды і да мёртвых не даходзіць пошта.

І сёння выбух жудасна блішчыць
Мільёнамі слязінак, як і ўчора.
На Гомельшчыне гора не злічыць,
Не менш на Магілёўшчыне ёсць гора.

Дый Украіна, й руская зямля
Згубілі лік сваім ахвярам, стратам.
Вось што ў руках «бяскрыўднага» Крамля
Навырабляў «бяскрыўдны» мірны атам.

І ад пустых двароў, дамоў-калек
Тугой-журбой накрыўся край мой родны,
Бо мёртвы дом — што мёртвы чалавек,
Маўклівы, непрыветлівы, халодны.

Убачыш мёртвы дом — і стыне кроў,
Бо ў ім не будуць нараджацца дзеці,
А працавітых гэтых жыхароў
Параскідала гора па ўсім свеце.

Я сэрцам сам да тых людзей прырос,
Я з імі тут дзяліў і смех, і слёзы.
Няхай бы мой адзін — адзін мой лёс
Прыняў усе чарнобыльскія дозы.

Дык не — зляглі Алесіны гады,
Як быццам ад атручанага зелля.
Цяпер ужо надоўга, назаўжды
Халодны дол адклаў яе вяселле.

І сам Мікола занядужаў, злёг,
Хрыпіць, крывёй плюецца — ліквідатар.
Ці дапаможа вычухацца Бог?
Страшэнная хваробішча — не катар.

Знайшлі хваробы і Алесін клас,
Прынеслі горачка, жыццю пагрозы.

Дзіцячы смех, нібы агеньчык, згас,
Ператварыўся назаўсёды ў слёзы.

У смерці сёння стаў дзіцячы твар,
Дзяцінства мусіць у зямельку легчы.
Чаму ж мы гэтых жудасных ахвяр
Не ратавалі, не маглі пазбегчы?

Вось так! Жыві, маніся — трасца ў бок!
Жыццё — ніцінка, зразумеў цяпер я.
Чакаў яечка — курку з'еў шашок,
Як кажуць, нават не пакінуў пер'я...

Адкуль прыйшоў — вяртаюся туды,
Дзе дзед хадзіў мой па Лагойскім лесе.
Бывай, Мікола! Вырвіся з бяды!
І пухам будзь, зямелечка, Алесі.

Бывай, Сцяпан, трымайся, сцяўшы рот,
Мацуйся, хоць душа твая галосіць.
Пасеў быў добры — дрэнны умалот...
Здароўя табе з дзеткамі, Антося.

А што сказаць Кандрату? Дзе ўзяць слоў?
Старое сэрца на кускі парвана.
Ён боль душы прыносіць зноў і зноў
На могілкі, дзе жонка пахавана.

Я заблукаў да вашага агню
Не пачасаць язык аб дамавіны.
Я гора ваша жудаснае сню
З той першай, з непапраўнай той хвіліны.

Я так хацеў вас падтрымаць, людцы,
Пад ваш цяжар і боль плячо падставіць,
Каб перасталі на душы рубцы
Хоць не зусім балець — хаця б крывавіць...

*

Вяртаюся сюды, дзе пачынаў
Пісаць сваю паэму — споведзь гэту.
Тут чалавеча так не застагнаў,
Каб ад гарачых слёз не бачыць свету.

Ён сее хлеб і есць лясоў дары,
Начхаў на бэры, на кюры і дозы.
Але паціху мруць гаспадары.
І ўсё — шчытападобная залоза...

Лагойшчына! Зямля маіх бацькоў!
Стаю перад табой, як сын, схілёна.
Хоць хворая і ты з усіх бакоў,
І тут свая чарнобыльская зона.

Карпілаўка, Дзяніскі, Калачы,
І кінутыя Жабічы, і Дашкі...
Тытунь, гарэлка — вось і ўсе ўрачы
Ад гэтай радыяцыі, лічы,
Жыцця, як той казаў, на дзве зацяжкі.

Затое ліхаманкавых падзей
На кожнага — пад неба, як званіца...
Жыві, надзея! Не кідай людзей!
Жыві, зямля! Жыві, жыцця крыніца!

*1987*

Памёр я. Што тут дзіўнага?
Аджыў — дык памірай.
Вядуць мяне, наіўнага,
Анёлы прама ў рай.

«Ну,— думаю,— пашчасціла,
Прыгрэла, ё-маё.
Жыццё не надта лашчыла,
Хоць тут вазьму сваё.

Не буду знацца з працаю
Да скону ўсіх вякоў...»
Іду, аблокі мацаю,
Анёлы — з двух бакоў.

Гляджу на іх удзячна я,
У правы, левы бок...
Унізе ледзьве бачная
Зямля — грахоў клубок.

А думкі патаемныя,
Як крылы за спіной:
— Якое ўсё нікчэмнае
Жыло-было са мной!

І згодна сэрца чулае:
«Бедлам зямны, бывай!
Бывай, усё мінулае —
І прывітанне, рай!».

І вось вяршыня! Самае
Узвышша ўсіх аблок.
Наверсе бачу браму я,
За ёй — святы куток.

За брамай — патаемнае.
І вабіць з-за яе
Мелодыя прыемная —
Імпэту паддае.

І чуецца нягучнае:
«Жыві і не грашы...»
Спяванне мілагучнае,
Як мёдам па душы.

За брамаю кудлаціцца
Шыкоўны райскі сад.
Плаціць не трэба, траціцца —
Хто ж гэтаму не рад?

Там, кажуць, толькі крыжыкі,
Што Бог дае — ў цане...
Ад нецярпення дрыжыкі
Пайшлі гуляць па мне.

Шчыміць душа гарэзліва,
Да брамы — толькі крок.
Але анёлы ветліва
Адводзяць мяне ўбок.

— Няўжо мне ў рай зачынена
Дарога? — я панік...
Гладжу — стаіць будыніна,
Чытаю — «Прапускнік».

— А-а! Вось чаму мы збочылі!
Баяцца тут — ну што ж? —
У рай каб не праскочылі
Ні таракан, ні вош.

Яны не па наіўнасці
Сюды мяне вялі,
Бо ведаюць, што «жыўнасці»
Хапае на зямлі...

Зайшоў — сабраўся з сіламі,
Гляджу — сядзіць гурток.
Усе — у белым, з крыламі,
Наперадзе — дзядок.

Вітаюся ледзь чутна я,
Схіліўшы галаву...
Калі ж дадуць прысутныя
Нябеснае ЦУ?

Стаю, дрыжу,— зняслаўлены —
Агнём яно гары!
Нарэшце зацікаўлена
Пытаецца стары:

— Знамо якія пацеры?
Хай сын іх назаве!..
«Ну й ну! Кедрэні мацеры!» —
Мільгнула ў галаве.

Спацеў, увесь узмылены,
Аж лужына ў нагах.
Напруг свае я звіліны —
Капаюся ў мазгах.

Назад гады адкручваю,
Далей, глыбей палез...
Успомніў і агучваю:
— Слава КПСС!..

Як серада на пятніцу,
Скрывіўся раптам дзед...
Відаць, не ў рай, а ў з.... у
Мне выпішуць білет.

Пытанне чую новае:
— Гарэлку піў ці не?..
Зноў цішыня суровая
У рог баранні гне.

Раптоўна стала млосна мне,
Кручуся — пык ды мык:
— Я... як сказаць... і так, і не,
Крыху мачаў язык...

Але здзівіў дзед чарамі,
Махнуў сваёй рукой
— І, аж бітком, шклатараю
Напоўніўся пакой.

А, матухна! А, свентая!
Я ў думцы ледзяной:
«Няўжо армада гэтая
Асушаная мной?!»

Тут — хлебная, сялянская,
(Эх, піў яе даўно!)
Гарэлачка, шампанскае,
Каньяк, лікёр, віно...

Зноў пуста... Позна каяцца,
Маўчу, пачырванеў...
Дзядок далей пытаецца
З усмешкай, нараспеў:

— Хачу пачуць галоўнае,
Скажы, адкінь ману:
Ці меў грахі любоўныя?
Ці ты кахаў адну?

Зноў пот паліўся па спіне
Што хочаш выбірай.
Апошні шанец выпаў мне
Прабіцца ў гэты рай...

Адну! Адну-адзіную!
Нібы ручай раку!..
Дзядуля з кіслай мінаю
Узняў уверх руку.

Махнуў, як бы няхочучы...
І раптам у пакой,
Сакочучы, рагочучы,
ЯНЫ пайшлі ракой.

Худыя, таўстабокія
Заходзяць — пруць і пруць,
Малыя і высокія —
Налезла — не дыхнуць.

З ухмылачкамі мілымі
Крутнуліся яны,
Цалуюць тых, што з крыламі,
І дзеда — за штаны.

Дзед шыкнуў: — Згінь нячыстая!
І навалач сышла...
Сляза мая празрыстая
Шчаку мне апякла.

«Во, ёлкі-палкі, “слаўлюся”
На ўвесь, на іншы свет.
Куды цяпер адпраўлюся?
Што выдумае дзед?»

Пачухаў я за скронямі,
Як у жахлівым сне.
Заляскаў дзед далонямі,
І вывелі мяне.

А тут ужо пякельныя
Чакаюць пасланцы...
Што ж, жахі не смяртэльныя,
Бо я «аддаў канцы».

*

У пекла, з Боскай караю
Вядуць далей яны.
Іду паміж пачварамі
Туды, дзе перуны.

Іду не к Богу ў хату я,
Не ў райскую пасцель.
І чарцюкі лахматыя
Таўкуць мяне ў каршэль.

Такія ўжо гарачыя —
Да трох не гавары.
І вось вароты бачу я
На чортавай гары.

І зелле пустароднае
Расце, як лес, сцяной.
На браме той — бясплодная
Трава, адходы, гной.

За брамаю параднаю —
Палын, бур'ян парос.
А ад смуроду чаднага
Адвальваецца нос.

Ні яблынькі, ні дзічачкі,
Пустэчы палягліі.
Куды ні глянь, ва ўсе бакі
Нібыта на зямлі.

Вядуць мяне бязбожнага
Чарцюгі-спарышы.
Туды — пускаюць кожнага,
Адтуль — ані душы.

Падводзяць да галоўнага,
А той — паверх галоў,
Без лішняга, умоўнага:
— Ганіце да катлоў!

І зноў мне — у патыліцу
«За дзякуй» надзяўблі.
І надрывацца, жыліцца,
Гарбаціць павялі.

Міруся з безвыходнасцю,
Што зарабіў — глытай.
Але шыбую з годнасцю —
Не зломак, не гультай.

Ды як ісці без гонару,
Калі людзей — кішыць?
Ад тлуму і ад гоману
Аж галава трашчыць.

А гэты люд — «працэджаны»:
Хто — у смале кіпіць,
А хто — у воз запрэжаны,
Над кожным чорт не спіць.

Тут марна час калдобіцца,
Вакол — ні ўзяць, ні даць,
Тут нешта быццам робіцца,
А толку не відаць.

Іду, між іншым думаю:
«Ну пападзі я ў рай —
І што? Ламай душу маю,
Да панства прывыкай.

А тут — усё знаёмае,
Прывычнае, маё.
А тут — як быццам дома я,
Не-е! Кожнаму — сваё!»

Відовішча раптоўнае
Нагнала ў сэрца жах:
Сябры мае з Вярхоўнага
Кіпяць тут у катлах.

Усе крычаць, не слухаюць
Чужых, уласных слоў,
Нагамі ў сцены бухаюць
Распаленых катлоў.

— Калегі па парламенце,
Катлы — не мікрафон!
Дарэмна гарлапаніце,
У д'ябла — свой закон...

Адкінулі абструкцыю
І тут — адной сям'ёй
І хто ствараў карупцыю,
І хто змагаўся з ёй.

І тыя, што забыліся
Пра свой адвечны род,
І тыя, што бажыліся
Памерці за народ.

Пякуцца, як карасікі,
Аж дым ідзе ўгару...
Ой! Ой! Дык тут і «класікі» —
Калегі па пяру!

Пісалі, час не трацілі,
Быў кожны з іх, як Бог,
А ў рай усё ж не трапілі —
І нават на парог.

Там, пры жыцці шаноўныя —
Маўчком, бачком, спіной.
А тут — усе мы роўныя,
Вітаюцца са мной...

А вось і я прыладжаны,
Маёй душы тут дол —
Закураны, загаджаны
І для мяне кацёл.

Смалой-то ён напоўнены,
(Нашто маніць дарма?),
А дроў не нагатоўлена —
Агню пад ім няма.

Хацеў я скінуць чобаты,
Каб «грэцца» пакрысе,
Крычаць: — Энерганосьбіты
Закончыліся ўсе!

Ад пекла больш драпежнага
Не атрымалі дроў...
І чэрці тут залежныя
Ад розных махляроў.

Назаўтра дровы «выбілі» —
Смалы не знойдуць след.
О-о! Гне ў тры пагібелі
Маіх чарцей сусед.

Мне на Зямлі здавалася,
Што пекла — жах.
Мана!
У ім адлюстравалася
Маё жыццё — да дна.

*1994*

Чалавек — гэта свет —
унікальны, жывы, непаўторны,
Свет пачуццяў і мараў,
імкненняў няспынных, як час.
Чалавек — гэта свет —
каляровы, ці белы, ці чорны...
Каляровы ці чорны...
Ці ж гэта залежыць ад нас?

Бог стварыў Чалавека —
свабодным, з душой незалежнай,
А няволя знішчае
пачуцці, узнёсласць — штодня.
І абламвае крылы,
і душы трапляюць у межы —
У гвалтоўнасці межы,
дзе правяць прымусы, хлусня.

Чалавек — індывідуум,
загадка,
тварэнне,
асоба!
Кожны шлях свой шукае,
нібыта вясной ручаі...
Зэк на зэка падобны —
адно ім: і пайка, і роба,
Цяжка іх распазнаць
у натоўпе, у шчыльным страі.

Чалавек!
Ах якое прыгожае,
светлае слова!
І выходзіць насустрач,
надзеяй напоўнены век.
Але сэрца сціскаюць
гвалтоўнасці межы сурова —
І ў натоўпе знікае,
губляецца ў ім Чалавек.

*

Чалавек...
З нас, шматлікіх,
складаецца наша дзяржава.
Хоць шматлікія мы,
але людзі усё ж — не смяццё.
Мала нашых правоў,
ды губляем галоўнае права —
Права кожнага з нас
на выснову выснаў — на жыццё.

Мала веры цяпер,
але жыць немагчыма без веры,
Бо ў жыцці без яе
апускаемся хутка на дно.
Права ёсць на жыццё...
Толькі дзе яно? Дзе? На паперы?..
У жыцці ж аказалася
самым бяспраўным яно.

Мы пакорна прымаем,
мы моўчкі глынаем гасцінцы,
Што падносіць штодзённа
шалёны, уздыблены час.
Мы прывыклі, што некага
рэжуць, страляюць злачынцы,
Мы — ні слова, ні гуку,
забілі ж суседа — не нас.

Немагчыма ўявіць —
Чалавек да крыві прывыкае,
Гэты вірус нябачны
з'ядае душы дабрыню.
І тады Чалавек —
з чалавека паціху знікае,
І тады можна ўсё —
нават можна на вілы радню.

*

Чалавек — гэта свет,
у якім расцвітае духоўнасць,—
Хай не спіць летуценнік,
лунае паэт і мастак!
Чалавек на Зямлі —
найгалоўнейшая найкаштоўнасць!
Гэта — так... але гэта —
на справе далёка не так.

Растапталі тваю, Чалавек, чалавечую годнасць,
Растапталі не раз —
і свабоду тваю, і правы.
І прыціх ты разуты,
раздзеты, халодны, галодны,
І сагнуўся, зламаўся,
шаптаў: — Дзякуй Богу! Жывы!

І пайшло, і паехала,
і пакацілася ліха,
І натоўп чалавечы
глынуў Чалавека, панёс,
І знішчаліся людзі —
то з гвалтам шалёным, то ціха...
Чалавек — гэта свет,
што згарчэў ад крыві і ад слёз.

Чалавек — гэта свет —
унікальны, жывы, непаўторны,
Свет пачуццяў і мараў,
узнёсласці вечнай, як час.
Чалавек — гэта свет...
вакол нас — чорна белы і чорны,
І крывава-чырвоны,
пужліва-маўклівы — у нас.

Шлях гісторыі нашай —
балючы, жахлівы, крывавы.
З кожным годам спыняўся
хлуснёю заблытаны рух...
Не, не маці Тэрэза
узорам была для дзяржавы,
А п'яніў прыуладных
Малюты Скуратава дух.

І знікалі ахвяры,
а каты — звярэлі ад крыку,
Паціраючы рукі,
з якіх не змывалася кроў...
Мы і самі не ведаем,
сёння збіваемся з ліку —
Колькі ўласнай дзяржавай
забіта дачок і сыноў.

*

Пры жыцці, над жывым —
дамавіны закрылася века,
Быццам травень квітнеючы
саван жахлівы надзеў.
Не жылец Чалавек,
бо не «нюхаў» правоў чалавека,
Жыў чужымі мазгамі,
чужымі вачамі глядзеў.

Бог жыццё падарыў,
а бязбожнік жыццё адбірае,
Нежывы Чалавек —
для яго спакайней, чым жывы...

Беларускі хлапец,
а ў Афганскіх гарах памірае —
Права меў на жыццё...
але ўсе на паперы правы.

Права ёсць на жыццё...
толькі мала з паперы карысці.
Зноў ад нашай бяды
здрыгануўся, жахнуўся Сусвет —
Праз гады немаўлятку
Чарнобыль знайшоў у калысцы —
І патухла жыццё —
непаўторны, загадкавы свет...

Што чакае цябе,
дзіцянё,
немаўлятка,
нашчадак?..
Вунь — заложнікі гінуць,
гуляе тэрор па зямлі,
Там — наводзіцца
«канстытуцыйны» парадак —
Пэўна гены Скуратавы
смерць у Чэчню прывялі.

Тут — змяшаліся лёсы:
ахвяра, забойца, забіты,
Тут — змяшаліся слёзы матуль
і сіроцкая кроў,
Тут — знішчалі адзін аднаго,
«патрыёты»,— «бандыты»,
Тут — цкавалі братоў на братоў
і сыноў на сыноў.

*

Што вы, думкі мае,
паляцелі далёка за межы?
Апусціцеся з неба
на нашу святую зямлю.
Вось — мая Беларусь,
да каторай я цалкам належу,
І з каторай святкую,
з каторай пакуты дзялю.

Тут над нашай зямлёй
небасхіл ад тугі невысокі.
Затаіўся нябачна
«чарнобыль» на нашай зямлі.
Тут гісторыі нашай,
духоўнасці нашай вытокі
Не ў кожнае сэрца
пакуль што патрапіць змаглі.

А без гэтага нацыя
будзе духоўна кульгавай,
І не хутка між нацый
дарогу азначыць сваю.
Толькі ўзнёсласць дзяржавы
кожны лёс аб’яднае з дзяржавай.
Толькі родная мова
згуртуе ўсе лёсы ў сям’ю.

Можна моўчкі пражыць —
і пайсці, не пакінуўшы следу,
Можна вочы закрыць
і — у цемры дамучацца век,
Можна думкай прыкрыцца:
забілі ж пакуль што суседа,
Можна нават забыцца,
што ты, Чалавек,— чалавек...

Так лягчэй існаваць,
ды не дасць існаваць небяспека,
Бо сляпое маўчанне
на шыю вяроўку саўе.
Дзе людзей ababралі —
забралі правы чалавека,
Там Малюты Скуратава
жудасны цень паўстае.

Прад табой, Чалавек,—
патаемнасці лёсу, дарога.
Крок патрэбен адным
для пазнання высноў — адкрыцця.
Прад табой, Чалавек,—
і святога, і бруднага многа.
Каб адкрыліся вочы —
другім не хапае жыцця.

*

Прыгажосць і пачварнасць,
душэўнасць, спагада, звярынасць,
Незвычайная жорсткасць,
пяшчота і зноў прыгажосць,
Дабрыня і чароўнасць,
прадажнасць, няшчырасць, агіднасць
Гэта ўсё — Чалавек.
Чалавек ў штодзённі — як есць.

Чалавек... Чалавек...
Ты стаміўся ад гэтае ношы,
Зачарсцвелы твой розум
з душы выцясняе святло.
Чалавек... Чалавек...
Ты прыдумаў уладу і грошы —
А ці ёсць на Зямлі
для духоўнасці горшае зло?!

Мір табе, Чалавек!
Будзь заўжды міласэрным і шчырым!
Закілзай сваю злосць,
кожны дзень пачынай з дабрыні.
І навокал усё
адгукнецца любоўю і мірам,
І пачнуць свой адлік
па-сапраўднаму добрыя дні.

*1996*

Нядзельным ранкам, на Каляды,
Прыехаў сын бацькоў праведаць.
Даўно не быў — старыя рады,
Пад абразы садзяцца снедаць.

Глядзяць бацькі ўвесь час ласкава,
Патэльню сунуць аж пад грудзі,
Дый весткі выслухаць цікава,
Глынуць навін — жывыя ж людзі.

— Ну як ты там, сынок Сымоне?
Як жонка маецца? Як дзеці?
Пра што народ шуміць-гамоне?
Што ў Мінску новага? Што ў свеце?

У сына рот не закрываўся,
Пацеў, змагаўся над патэльняй.
Нарэшце выдыхнуў, падняўся
І весткай па бацьках як стрэльне:

— Не быў у вас, бо быў заняты
Важнецкай, найгалоўнай справай.—
Бацькі, як тыя птушаняты,
Раты разінулі. Цікава!

— Кажы, сынок!
— Не мучай, сынку!
Сымон паклаў на стол паперу,
Глынуў усхвалявана слінку:
— Во ордэр! Атрымаў кватэру!

— Ну, дзякуй Богу! Дзякуй Богу!
Ах, наш Хрыстосе ўсемагутны!
Хвала й святым за дапамогу!
Мінуў, сынок, твой час пакутны.

Ты ж у чужых хадзіў па нітцы
І грошай заплаціў ахапку.
Цяпер ты, сын, як пан на брычцы,
Ні перад кім не здымеш шапку.

*

І ў прыроды ёсць патрэба
Мяняцца — змен такіх не мала.
Крыху паласкавела неба,
Вясна зіму ў каршэль прагнала.

Заварушыўся пад карыцай
Бярозавік і сок кляновы.
Ідуць грымоты з бліскавіцай,
Стаў вабіць нават куст лазовы...

Старая, зваць яе Аўдоцця,
Да мужа чэпіцца, Юстына:
— Ты ж кожны дзень вісіш на плоце,
Хоць тыдзень пагасціў бы ў сына.

— Ну, ты, Аўдоцця,— Дом урада!
Бог даў разумную галоўку.
Паеду! Добрая парада,
Сымон хваліў трохпакаёўку.

*

І вось ён ля дзвярэй кватэры
(Ледзь адшукаў Паўднёвы Захад),
Скрабецца, стукаецца ў дзверы,
Дыхне і новы робіць захад.

Аж пальцы на руках апухлі,
Ў адказ ні гуку, ні гамонкі:
— Ці спяць яны там? Ці паглухлі?
Няўжо назад, на смех да жонкі?

А, буду лепей ляпаць ботам.—
І грукнуў тры разы з разгону.
Нарэшце чуе: — Хто там? Хто там? —
Юстын пазнаў, пачуў Сымона.

— Я! Я, сынок! — Юстын раскіснуў,
Бо быў загорача адзеты.
— Чаму ты на званок не ціснуў? —
Сымон спытаўся.— Вось на гэты!

Юстын узняў на кнопку вочы,
Хоць пот іх заліваў, як з лейкі.
І раптам ён як зарагоча:
— Званок? Жартуеш — гузік нейкі!

— Заходзь жа, тата! Ты ж з дарогі.
У сына будзь, як дома, смела.
— Ой, стойце! Вы ж разуйце ногі! —
Нявестка бурай наляцела.

— Дык што рабіць? Стаяць? Заходзіць? —
Юстын спытаўся без ахвоты.
— Ай, тата, што яна гародзіць!
— А я сказала: скіньце боты!

Юстын разуўся ля парога,
Скруціў анучы, зняў шкарпэткі:
— А мы з Аўдоццяй молім Бога,
Каб не мінаў ваш вугал, дзеткі.

*

Юстын ішоў дамоў, пляваўся,
У той жа дзень, бліжэй да ночы.
— Во пагасціў, набаляваўся,
Як той казаў, праветрыў вочы.

Аўдоцця моліць, аж згарае:
— Ну што? Ну як? Чаму так хутка?
Юстын абсек: — Маўчы, старая,
Дай уздыхнуць — стаміўся жудка.

— Ну што ты скажаш? Што зазначыш?
Што бачыў поглядам мужчынскім?
— Паедзь сама, усё і ўбачыш,
Але разуйся... перад Мінскам.

— Ай, вот плявузгаеш, дурніца,
Пашлі такую во халеру.
— Ты ўжо разумная — курыца!
Дзяцей я бачыў і кватэру.

— Ну як кватэра? Даспадобы?
— Трымай ты, баба, думкі ў роце.
Я ў ёй нажыў бы ўсе хваробы,—
Юстын адказвае Аўдоцці.

— Як я цаню куток свой, хатку
Пасля вандроўкі гэтай горкай.
Усё я раскажу спачатку,
Ты толькі языком не торкай.

Разуўся я каля парога,
Хоць і ў царкву заходжу ў ботах.
Вось так на цыпках, басанога
Прайшоўся па пакоях-сотах.

Агледзеў іх — прыгожа, міла —
І сеў ад стомы на канапу.
Нявестка як загаласіла,
Ды як раскрыла сваю ляпу:

— Куды вы селі?! Гэта ж з Польшчы!
Вы ж сапсуеце пакрывала.

Я сеў у крэсла — лямант большы,
Нявестка лётала, злавала.

— На крэслах з Аўстрыі накідкі,
Яны скамечацца, патруцца! —
Крычыць, ажно трасуцца лыткі.—
Ці ж нам яны дарма даюцца? —

Стаю, як бусел на балоце,
Куды ступіць? Дзе ратаванне?
Зрабілася аж горка ў роце —
Расінкі не было ў ім зрання.

— Напэўна, з голаду апухну,—
Услых падумаў жартаўліва.
Тут, праўда, кліча сын на кухню,
Іду маўкліва, баязліва.

На кухні нібы ў нейкай яме,
Стол, табурэткі, сцісла, кучна.
— Нявестка што, не сядзе з намі?
Без гаспадыні, сын, нязручна.

— Мы па чарзе ядзім тут, тата,
У зале нельга — крошкі, плямы.
Нічога, калі цеснавата...
Я папрасіўся з кухні-ямы:

— Скажы, сынок, куды з газетай
Вы бегаеце ў адно месца?
Бо людзям ад патрэбы гэтай
І не сядзіцца, і не есца.

Тут, тата, побач з кухняй. Вона!
Я з кухні ў тыя дзверы — ходу.
Крычыць нявестка на Сымона:
— Правер за ім, бо дасць смуроду!

Мне кажа сын: — Вада як чухне —
Ды зліжа ўсё, глядзі — цікава!
А я яму: — Яда вось, кухня,
І тут жа, побач,— гэта справа.

А ў жываце — грымотна-хмурна,
Ды ну яго к ядронай маці.
У нашай вёсцы некультурнай
Ніводны кот не сядзе ў хаце.

Кажу я сыну і нявестцы:
— Прабачце, мо пляту благое,
Павінны людзі ў адным месцы
Ці есці, ці рабіць... другое.

А мне карціць другое болей,
Таму падзяка за ўгашчэнне,
Я, дзеткі, воляй ці няволяй
Пайду дамоў — няма цярпення.

Вось так, Аўдоцька, мая рыбка,
Я ўшанаваў дзяцей кватэру.
Цяпер за хлеў я скокну шыбка,
А ты ідзі, гатуй вячэру.

*1991*

Вецер гнаў разарваныя хмары,
Ціснуў іх да зямлі. І абшары
Сталі шэрымі, выцвіла глеба —
Дзе зямліцы мяжа, а дзе неба?
Вецер выў, як нячысцік прыблудны,
Пырскаў дождж непрыветлівы, нудны,
Гразь раз’ела, глынула дарогі,
Гразь усюды — не выцягнуць ногі.
Дзе канец гэтай змрочнай пагоды?
Нібы сонца зайшло назаўсёды,
Быццам свет раптам перавярнуўся,
Быццам Бог ад людзей адвярнуўся.
Вецер, холад, хлюпота — без меры,
Нават носа не высунуць за дзверы,
А надвор’ем такім, ходзяць чуткі,
І сабаку не выцягнуць з будкі.
Але што гэта? Ноччу глыбокай,
Калі цемра — хоць выкалі вока,
Прапаўзлі цяжка, з ровам машыны,
І запоўніла гразь каляіны.
Па-ранейшаму з неба лілося...
А машыны дзе? Мо падалося?
Ды такое магло і прысніцца —
Разгуляліся ноч, навальніца.
А адтуль, дзе машыны расталі,
Гукі дзіўныя ледзь далятталі:
То загады, а то праз імгненні
Стук рыдлёвак аб жвір, аб каменне.
Зноў ні гуку, ні слыху ні духу,
Стогне вецер напружана, глуха,
Плача вецер і вые шалёна.
І раптоўна, з-за цемры-заслоны,
Стрэл пачуўся прыглушаны, жорсткі,
Першы стрэл — чорных спраў адгалоскі.
Першы стрэл — як прадвеснік злачынства,
Слёз, крыві і сіроцтва-дзяцінства.
Гэты стрэл ці пачуў век дваццаты?!
Курапаты... Маўчаць Курапаты...

*

— Та-та-та! Ты забіты! Я стрэліў!
— Тах-тах-тах! Ты — раней! Я пацэліў!
— Ай, Талян, так не чэсна! Здавайся!
— Сам, Андрэйка, вылазь, не хавайся!
З палак хлопчыкі так і стралялі,
«У вайну» з захапленнем гулялі,
Пазбягалі геройскі «палону»
Побач з Мінскам, ля мікрараёна.
— А давай мы, Андрэй, возьмем колік,—
Сябруку прапаноўвае Толік,—
І ў пяску ім, заместа лапаты,
Зробім файны акоп, як салдаты.
І ўзяліся сябры за работу,
Нібы тыя краты — у ахвоту.
Паглыбляўся акопчык-равочак,
Быў падатлівым жоўты пясочак.
Каб хутчэй падысці ім да мэты,
Паддавалі задору, імпэту
Толік — палкай, Андрэйка — рукамі,
Ды раптоўна ім трапіўся камень.
Раскапалі яго і дасталі
І з ратамі раскрытымі сталі —
Зубы вышчарыў камень так званы...
— Глянь, Андрэй, хтосьці тут пахаваны!
— Вось яшчэ косці!.. Вунь акуляры!..
Жах зірнуў у хлапечыя твары.
З раскапанай зямлі-таямніцы
Чарапы іх пужалі, вачніцы.
Ад вачніц гэтых, поўных гіпнозу,
Стыла кроў, як вада ад марозу.
Нібы ў сне зачарованым нейкім
Заставаліся Толік з Андрэйкам —
Ні міргнуць, ні крануцца, ні гуку...
Можа, тут сёння собіла ўнуку
З дзедам, некалі зніклым, спаткацца,
«Вочы ў вочы» — і не адарвацца...
Хто ж вы? Хто вы, ахвяр гэтых каты?
Курапаты... Маўчаць Курапаты...

*

Разнарадка... Страшэннае слова.
Ад яго абядняецца мова,
Бо душы ў гэтым слове — нікольki,
Як нябожчык яно — холад толькі.
Слова гэтага мёртвыя гукі
Адлюстроўваюць гора і мукі.
...Чорным ценем фашызм узыходзіў,
Гітлер «новы парадак» наводзіў.
Для будоўлі такога парадку
Ён задумаў сваю разнарадку:
Знішчыць частку народаў, а частку —
У ганебны палон, як у пастку,
Хай у рабстве гарбеюць іх спіны —
Лёс для многіх людзей — лёс скаціны...
Час ляціць, не стаіць нерухома.
Сёння многае стала вядома.
Прыпадняў час завесу былога,
І мінулага бачна дарога...
У ліхім, даваенным тым часе,
Як і сёння, рабілі ў калгасе,
Хто — на фабрыцы, хто — на заводзе.
Але стаў варушыцца ў народзе
Слых пра нейкія там завірухі
І што людзі знікаюць, як мухі.
...І машыны раўлі цёмнай ноччу,
Калі цемра — хоць выкалі вочы,
І пужалі людзей ноччу стрэлы,
І закопвалі мёртвыя целы.
Зноў павесткі праз пошту ляцелі,
А каго — забіралі з пасцелі,
Зноў машыны раўлі, ракаталі,
Зноў стралялі, стралялі, стралялі.
Па-ранейшаму з неба лілося...
Не, на жаль, гэта не падалося.
Хто страляў? У каго? Вось загадка!
Кажуць, зверху прыйшла разнарадка —
Пазнішчаць нашых ворагаў кроўных.
І людзей забіралі працоўных.

Забіралі сялян, і студэнтаў,
І ваенных, і інтэлігентаў.
І раўлі з цяжкім грузам машыны,
І зраўноўвала гразь каляіны...
Гора, смерць да людзей едзе ў сваты...
Курапаты... Маўчаць Курапаты...

*

За стагоддзем мінае стагоддзе,
Ўсё ўзаемазалежна ў прыродзе.
Чалавечы наш век — век кароткі,
Пакідаюць і сёння нас продкі,
Перадаўшы другім эстафету —
Сэнс жыцця, як галоўную мэту.
Ці ж маглі б мы на свет нарадзіцца,
Каб не тыя, хто сёння ў зямліцы?
Мы — галінкі, мы — парасткі, ўсходы,
І мінулае з намі — заўсёды.
Хай заўжды яно з намі і будзе!
І аднойчы сабраліся людзі,
Каб пранесці жыцця эстафету
(На Дзяды адбывалася гэта),
І паволі пайшлі ў Курапаты,
Бо Дзяды — памінанне, не свята.
І пайшлі да адвечнай крыніцы —
Адышоўшым з жыцця — пакланіцца,
Нашых продкаў успомніць шаноўна...
А дайсці не змаглі, бо раптоўна
Шчыльна стала міліцыя строем.
— Хто дазволіў успомніць былое?!
І закручвалі рукі за спіны,
Як злачынцаў, цягалі ў машыны.
Зноў, як некалі «ворагаў кроўных»,
Мастакоў і паэтаў шаноўных,
Юнакоў, і старых, і дзяўчатак
Зневажалі і гналі, як статак...

А з высокіх трыбунаў — дэбаты...
Курапаты... Маўчаць Курапаты...

*1987*

Мітынгуюць пры сустрэчы
Ясь і Ян — бясконца.
Кожны кпінай мые плечы
Сябруковай жонцы.

— Ды стрынож ты, як каня,
Сваю жонку, Янка!
У яе ў мазгах —
гульня,
І ніжэй —
гулянка.

Янка праглынуў укол,
Кінуў сябру кпіну:
— Задзяры сваёй падол,
Знойдзеш там мужчыну.

— А твая і з-пад замкоў
Уцячэ «налева»,
Бо яна да мужыкоў,
Як кара да дрэва.

Янка зноў адбіў напад:
— Не кудахтай,
сціхні!
Ты крутні дамоў, назад —
Будзеш трэці-лішні.

Раптам Ясь сказаў: — Ды я
Спрэчцы дам развязку,
Падкачуся —
і твая
Мне падорыць ласку.

— Ты? Маю? Казляк руды!..
— Ну, Янусь, трымайся!
Заўтра з хаты пойдзеш ды
За акном схавайся.

*

Жонцы Ян без лішніх слоў:
— Не чакай к абеду.
Прыпазнюся я дамоў —
У раён паеду.

Сам за вугал, пад акно,
Бо заклад — не жарты.
— Зараз пагляджу кіно —
А чаго ж я варты?

Ушчаміўся Янка ў бэз,
Крышыць з думак сечку:
«І навошта я палез
У дурную спрэчку?

Недадаў, напэўна, Бог
Мне пад шапку клёпак.
Што мне, не хапае рог?
Пень я, недацёпа...»

Тут варотцы — скрып — цішком
(Нож у сэрца Янку),
А праз іх маўчком, бачком
Крочыць Ясь да ганка.

Пагаліўся, аж блішчыць!
А для форсу, пэўна,
Чуб начэсаны тырчыць,
Нібы грэбень пеўня.

Янка закіпеў — злуе:
— Во пупыр! Во глупства!
Возьме ды яшчэ саб'е
Жонку з адналюбства...

Янка ледзьве не пабег
Сябру наўздагонку,

Ды падыме ж Ясь на смех:
— Мала веры ў жонку?!.

Згорбіў плечы, сціснуў рот,
У здагадках будзе:
— Во пусціў казла ў гарод!
Ладна... будзь што будзе...

*

Ясь ступіў цераз парог,
З ног абутак скінуў.
Не, ён на чужы пірог
Рот свой не разінуў.

Але спрэчка, іх заклад
Ясю ў гонар джаліць,
Дый не вернешся назад —
Янка ж зубы скаліць...

— Прывітанне ўсім, хто ёсць! —
Грымнуў Ясь разуты.
— Гэта што за ранні госць? —
Чуе смех Дануты.

— Ой, Данутка! Ты адна? —
Ясь лісой азваўся.—
Дзе ж твой Ян?
— Ён давідна
У раён падаўся.

— Эх, шкада! Мне трэба ён...
Ясь зрабіў замінку.—
Можа, не прагоніш вон?
Адпачну хвілінку...

— Што ты, Ясю! Як прагнаць
Дарагога госця?! —
Янка ў бэзе стаў стагнаць
Ад шалёнай злосці.

Ясь рашыў пусціць у ход
Слоў прыгожых чары.
Не паспеў раскрыць ён рот,
Як Данута шпарыць:

— Што ты, Ясь, як малады?
Ты бліжэй да справы!
Ты чаго прыйшоў сюды?
Ясна — для забавы!

Муж — ад’ехаў. Мы — адны!
Ты ж ужо разуўся,
А цяпер — скідай штаны...
Ясь аж папярхнуўся.

— Ты збянтэжыла мяне...
Я аж млею, Данка...
А у бэзе свет кляне
Небарака Янка.

Ён хрыпіць, нібыта звер,
Ранены ў бярлозе:
— Бабе ў хаце век не вер,
А каню ў дарозе!

З кім я век пражыў?! Змяя!
Без мазгоў сарока!
І табе, мой сябар, я
Смаляну пад вока!..

А тым часам Ясь заззяў
І з кішэні важка,
Фанабэрыста дастаў
«Белавежскай» пляшку.

— Перад тым як зняць штаны,
Справім чынна госці!
Стаў, Дануська, стаканы́
І загрызці штосьці.

У Данутьі аж гарыць
У руках работа.
Ёй гасцінны стол накрыць —
Дробязь, не турбота.

Раптам кажа Ясь:
— Прыму са стала я лішкі,
Нас жа двое, а чаму
Ставіш тры кілішкі?

Тры відэльцы для каго?..
Стала Данка хмыкаць:
— Трэба ж Яначку майго
З-пад акна паклікаць.

Ушчаміўся, бедны, ў бэз —
Матухна святая!
Што ў яго за інтарэс —
Падыду, спытаю.

Адчыніла ў сад акно,
Мужыка гукае:
— Яначка!
Цябе ж даўно
Сябар твой чакае.

Янка ўстаў, мармыча ён:
— Фу ты, д'ябла сіла!
Не паехаў я ў раён —
Штось жывот скруціла...

А пазней, як узнялі
З «Белавежскай» чаркі,
Ясь і Янка загулі,
Прыпяклі цыгаркі.

— Данка!
Лялечка мая! —
Ян да жонкі лезе.—
Як дазналася, што я
Затаіўся ў бэзе?

— Эх ты, цеста на вадзе! —
А сама рагоча.—
Жонка мужа абвядзе
Столькі, колькі хоча.

Э-э! Я ж бачу вас наскрозь,
Янакі ды Яські!
Ты, Ясь, тут, а там Антось —
У тваёй Параскі...

Ясь як даўся з хаты прэч,
Без абутку, босы,
Галавы не бачна з плеч,
Вецер свішча з носа.

— Во нагамі гразь сячэ,
Мільгаціць, стрыкоча! —
І Данута больш яшчэ
Наўздагон рагоча.

Янка з жалем: — Месіць гразь...
— Я ж пажартавала!
Ды няхай не блудзе Ясь
З кім і дзе папала!..

Зноў у Янкі з жонкай лад,
Ды шчыміць пячонка:
— Хто з нас выйграў той заклад?
Я ці Ясь?.. Ці жонка?

*2000*

Я нясу, як гару на плячах,
Перажыты скамечаны час.
Што з табой, чалавек? У застылых вачах
На пытанне шукаю адказ.

Аб сустрэчныя твары людзей
Позірк б’ецца, як птах аб сцяну.
Што мне трэба зрабіць? За вяртанне надзей
Заплачу я любую цану.

Калі трэба, жыццём заплачу,
Толькі б з багны праклäсці масты...
Твары-маскі вакол — мільгаціць уваччу,
Шчыльна сціснуты зубы, раты.

Дзе мне, дзе апынуцца дало?
Жах бязлітасна сэрца дзяўбе.
Тут я раптам зірнуў у вітрыннае шкло
І адскочыў — убачыў сябе.

Тая ж маска і сціснуты рот,
Той жа погляд халодных вачэй.
Я спужаўся сябе, горкі выступіў пот,
Я пабег ад вітрыны хутчэй.

Выгляд мой страху ў сэрца нагнаў,
Жах папоўз па касцях, хоць крычы.
Божа мілы! Людцы! Я ж сябе не пазнаў,
Думка б’е бізуном: — Уцячы!

— Уцячы? Што ты, шкоднік-дзіця?
Ці злачынец — стваральнік бяды?
Уцячы ад каго? Ад сябе? Ад жыцця?
Ад уласнага лёсу? Куды?

Стой, браток! Не дурней без пары!
Звар’яцелы свой бег супыні!
Скінь з сябе гэту мёртвую маску, здзяры,
Рот расцісні, паветра глыні!

Можа, ты гэта толькі прысніў?
Можа, маскі вакол — міражы?
Мой унутраны голас мяне супыніў
Ля вар’яцтва, на самай мяжы...

*

Сэрцы радуе час веснавы,
Разамлела пад сонцам ралля.
Дзесь у небе жаўрук, як званочак жывы,—
Развіталася з снегам зямля.

О жаданы, хвалюючы час!
Час пачуццяў, надзей, адкрыцця,
Час вяртання жыцця і кахання да нас
І вяртання ўсяго да жыцця.

Так і хочацца ўсюды паспець,
З небам, з ветрыкам, з сонцам дружыць.
Проста хочацца крылаў і хочацца пець,
І смяяцца, і марыць, і жыць.

Прачынаецца разам з зарой
Мноства спраў, спадзяванняў, падзей.
І натхнёнасць душы, і цудоўны настрой,
Галасы самых розных людзей.

Тых людзей — поту й працы сыноў,
Што калісьці жылі ды былі...
Вунь стаяць... Як гаворыцца, родная кроў —
Дзед з унукам на цёплай раллі.

Іх развагу-размову лаўлю
Праз сцяну доўгіх год, праз вякі:
— Глянь, унучак, як сонейка лашчыць зямлю,
Карагод завялі ручайкі!

Адыходзіць зямелька ад сну.
Чуеш? Дыхае, мроіць, жыве!
Пойдуць плуг з бараной па зямлі-дзірвану,
Нібы грэбеньчык па галаве.

Многа бачыў я розных праяў...
А вось тут, дзе з табой мы стаім,
Я, маленькі хлапчук, нібы ўчора стаяў
На зямлі гэтай з дзедам сваім.

Ён таксама вучыў паважаць
Нашу маці-зямлю — Божы дар:
Хто ўзарэ і пасее, той будзе і жаць,
Той і з хлебам, і той — гаспадар.

— Ой, дзядуля, а я ж не ару
І не сею пакуль што, не жну.
— Ты, унучак, сваю прычакаеш пару,
Ты жыцця сустракаеш вясну.

Сёння ты — як вада ручайка,
Станеш рэчкай, надыдзе твой дзень...
Хлопчык крылы адчуў, у вачах хлапчука
Гонар бліснуў, як сонца прамень.

— Ну, чаго, галубок мой, прыціх? —
Дзед ласкава смяецца.— Смялей!
Справы бацькавы, дзедавы, продкаў усіх
Заўтра ты будзеш несці далей.

— А скажы мне, дзядулька, калі
Можна сеяць? Як згадваеш ты? —
Дзед з пашанай набраў у далоні зямлі...
А тлумачыць не меў магаты.

Атрымаў наш дзядок па руках:
— А, абжыўся! Пусціў карані! —
Апынуўся стары ажно на Салаўках,
А адтуль не вяртаюцца людзі ў шаўках,
А адтуль, хай хоць слёзы цякуць па шчаках,
Роднай хаты не ўбачыш агні.

Спаць унучак не можа, дрыжыць,
Нібы сэрца сціскае лядок:
— Мамка, татка! А як без дзядочка нам жыць?
Ці ж у чым вінаваты дзядок?

Зноў не спіць ён, «скажы» ды «скажы»:
— Хто кароўку забраў і свіней? —
Уздыхаюць бацькі: — Спі, сыночак, ляжы,
Кажуць, раніца — ночы відней.

Толькі раніца — тая ж сцяна.
І бацькі ўжо шукаюць адказ:
За якія грахі ад цямна да цямна
Гоняць іх кожны дзень у калгас?

Задарма воз для некага пхнеш,
Хоць бы сонца зірнула з-за хмар.
Ты арэш у калгасе, і сееш, і жнеш,
А ці ж ты на зямлі гаспадар?

— Слухай, жонка, гарыць хай яно!
Заўтра з хаты пайду на зары.
Трэба брата праведаць, не бачыў даўно,
У дарогу што-небудзь збяры.

Як там горад пры бальшавіках?
Гляну вокам, як брат мой жыве...
Бедны брат — атрымаў, толькі не па руках,
А мудрэй нават — па галаве.

Меў ён краму, уласны дамок,
Гандляваў, працаваў з году ў год...
— А, папаўся, ад'еўся, гандляр-крывасмок! —
І, як кажуць, пусцілі ў расход.

І вярнуўся вясковец «з гасцей»,
Горкіх думак прынёс цэлы рой:
— Недзе бацька прапаў — ні касцей, ні вясцей,
Недзе брат у зямельцы сырой.

Гора ж — новае гора вядзе.
Ноччу зноў прыляцеў «варанок»,
Зноў пытанне, як нож: — Мама! Татка наш дзе?
І чаму ён так доўга да нас не ідзе? —
І скрозь слёзы адказ: — Спі, сынок...

Чалавек стаў, прабачце за грэх,
Як чарвяк нейкі — быў і няма.
Сталі песні сціхаць, зніклі жарты і смех —
Што ты лёс наш? Турма — не турма?

Дык няўжо ні з таго ні з сяго
Засцілаюцца вочы слязьмі?
Сталі людзі баяцца адзін аднаго —
Жарты? Ворагі ёсць між людзьмі!?

Хтосьці знікне. І згубіцца след.
Як тут дыбам не ўстаць валасам?
Вораг — родная маці, і брат, і сусед,
Вораг — бацька, і жонка, і сам.

Кожны ў маску хаваў свой пагляд,
Каб не бачылі твару, душы.
Закруціўся жахлівы кашмар-маскарад
Ў гарадах, у вясковай глушы.

*

Хутка час робіць справу сваю
Сыпе дні, нібы дождж па страсе:
Стаў унучак мужчынам і мае сям'ю,
Крылы зломлены — крыж свой нясе.

Ён пакінуў зямельку, дзе рос,
Дзе згубіў бацьку, дзеда свайго,
Дзе ярма акрамя, акрамя думак-слёз
Не чакае нішто ўжо яго.

Сэрца страціла радасць, спакой,
Нібы нейкай атруты хапіў.
Да каменнай і чаднай душы гарадской
Рунь вясковай душы прышчапіў.

Камень з парасткам — дрэнны гібрыд,
І не гораду, і не сялу.
Не, не грэе сялян гарадскі краявід,
Ён вяскоўцам — як клетка арлу.

Ды такіх бедакоў не злічыць,
Горад ім і не люб, і чужы.
Вось і наш, хоць смяецца, а вока блішчыць
Ад нявысахлай смуты-слязы.

— Нібы звязаны, спутаны я,—
Думка точыць, як шашаль кару,—
Хата — праца, а вечарам... праца — сям'я,—
Вось ланцуг мой, на ім і памру.

Але ў жонкі «ланцуг» быў даўжэй —
Крамы ёсць, а прадуктаў няма.
Не накорміць сям'ю — цягнуць пасак тужэй
Муж, і дзеткі яе, і сама.

Вось язык на плячо і кладзе,
І па крамах — знайсці б што, купіць.
І праходзіць у пошуках час, у нудзе,
У нервовасці сэрца кіпіць.

Сумкі цягне дамоў на гарбе,
Але ледзь пераступіць парог:
— Дзе ўжо чэрці так доўга насілі цябе?
А яна, ледзь жывая, бароніць сябе:
— Харч шукала, каб ты хоць не здох!

Ад нялюдскіх жыццёвых умоў
Сваркі ў сем'ях часцей і часцей.
Топчуць сэрцы, пачуцці, знішчаюць любоў,
Раняць, жорстка калечаць дзяцей.

Не адно пакаленне прайшло
Праз сячкарню бяздушша, хлусні.
Не гарыць, не бывае ў магіле святло,
Як спакою няма ў мітусні.

Мы ад песняў прыйшлі да нуды,
Чорны сум нашы душы распяў,
Нашы вёскі знямелі, маўчаць гарады,
Дзе вы чулі, каб хтосьці спяваў?

Хто злачынству аддаў увесь час,
Хто на «белага» скочыў каня.
Нас пакінула годнасць, і погляд наш згас,
І павага з пяшчотаю збеглі ад нас,
Знікла з нашай душы дабрыня.

Але ёсць і больш жудасны жах —
Абыякавасць п'ем мы да дна.
У душы, у мазгах, у вачах, у вушах
І, што горай, у сэрцы яна.

Гляньце б'юць чатырох аднаго,
А зявакі стаяць, як слупы.
Кожны ціхенька думае — што мне з таго,
Я — глухі. Я — нямы. Я — сляпы.

Мы ў такім асяроддзі жылі,
Нам дзяўблі: — Ты — дурны, ты — нямы.
Нашы маскі даўно ўжо да нас прыраслі,
Мы забыліся нават — хто мы.

Сном душы разбураем сям'ю,
Ад мінулага вернем свой нос.
Здратавалі ушчэнт самабытнасць сваю,
Роднай мовы знявечылі лёс.

Жах з дзіцячых глядзіць вачанят,
Нас наведвае жорсткасць ваўкоў.
Маці кідае, душыць дзяцей-немаўлят,
Дзеці б'юць, забіваюць бацькоў.

Ці ж то грэх — са смяшком на губе
Кішкі брата падняць на ражон?..
Кожны сам па сабе. Кожны сам за сябе —
«Карнавал» набірае разгон.

*

Колькі розных тут масак! Ого!
Белых, жоўтых, худых, як шкілет.
Ну, на тое і баль. Я — удзельнік яго,
Маска — мой запрашальны білет.

Я змірыўся — свой выгляд цярплю,
Ля люстэрка магу не крычаць.
Я на твар свой гляджу, як на тую зямлю,
На якой запусцення пячаць.

Ну а што на астатніх відаць?
Хто ты, маска? А тая? А той?
Хоць бы гук у адказ. Паспрабую ўгадаць —
Вунь іх колькі, снуюць пехатой.

Гэта хто? Абтрапаны каўнер,
Плечы згорблены, погляд патух.
Як яго не пазнаць? Гэта — пенсіянер,
Ён, як кажуць, загнаны ў катух.

Сілы, мары аддаў, маладосць,
Не шкадуючы нават крыві.
І цяпер яму ў старасці кінулі косць,
Сказ кароткі — як хочаш жыві.

Сёння старасць у нас не ў цане,
Ды і цэны даюць ёй пад дых.
Ці кусаюць яны? Не кусаюцца, не,
А грызуць, асабліва старых.

Ён жыве адным днём: з плеч — у печ,
Ён ідзе, ледзь нагамі дзяўбе,
Пажылы чалавек — як нікчэмная рэч.
Хай хоць Бог падтрымае цябе...

Вунь ляціць, аж паветра сячэ...
Гэту маску не ў сілах забыць,
Бо язык на плячы, пот па твары цячэ:
З працы ў краму,— знайсці б што, купіць...

Гэта маска хавае ад нас
Маці, жонку, дачку ці сястру.
У доўгіх чэргах марнуюць здароўе і час —
І на кухню, як крот у нару.

Дзе ўжо ім захаваць прыгажосць
І паходку лябёдкі-красы?
Лёс таксама ім кінуў нядолю, як косць,
Без пары пабяліў валасы...

Сам да маскі наступнай іду,
Бо крануцца не можа яна.
А яна аплявала сваю бараду
І рыкае мне ў твар: — Па-шо-шоў! Ду-ду-ду!
Ды каціся адсюль, ажно на...

Чым і як гэты вірус стрымаць?
Захварэлі малы і стары.
Нашы вушы апухлі ад «маць-перамаць»,
І працягвае п’янка жыццё нам ламаць,
Лезе лаянка ў хаты, двары.

Вось і гэты сумленне адпіў,
Гуж сямейны цягнуў — ды не дуж.
Чалавечую годнасць у п’янках тапіў,
Ён жа бацька дзяцей, нейчы муж.

Ён уломіцца ў дзверы, як жах,
Ён расправіцца хутка з сям’ёй.
Будуць дзеці і жонка стаяць «на вушах»
Аж да раніцы ў хаце сваёй.

Але я на яго й за яго.
Хто з маленства ў ім годнасць ляпіў?
І які ён браў прыклад тады і з каго?
Ці ў юнацтве чытаў ён Шэкспіра, Гюго?
Багдановіча, Пушкіна сніў?

Ці за ручку вадзілі туды,
Дзе Чайкоўскі ці Моцарт гучаў?
Сярод «маць-перамаць» ён праводзіў гады,
Гэту страшную школу канчаў.

П’яны мат, п’яны крык, п’яны svіст
Хопіць слухаць, разявіўшы рот.
Вунь ідзе, як зжаўцелы асінавы ліст,
Нехта хворы, падцяўшы жывот.

Лепей погляд яго не лавіць,
Колькі ў ім безнадзейнай тугі.
Ні здароўе вярнуць, ні яго аднавіць,
Ні падтрымкі знайсці, ані лекаў купіць —
Плаціць ён за Чарнобыль даўгі.

Я стамляцца пачаў пакрысе,
Але сам усміхнуўся мой рот,
Погляд мой — на цяжарнай жанчынцы-красе,
Што ў сабе па зямлі цуд вялікі нясе,
Там, пад сэрцам, не маска, а плод.

Там працяг вас, людцы, і мяне,
Там жыццё — дай Бог крылы яму!
Але твар у жанчыны — як цень на сцяне,
Замест погляду — крыўда. Чаму?

Заклапочанасць дзе ёй схаваць?
Днём хвалюецца, ноччу прысніць:
Чым дзіцятка карміць, чым яго спавіваць,
Ад Чарнобыля як бараніць?

Вось чаму, мае родныя, вас
Сустракаем радзей і радзей...
Колькі ты надрапежнічаў, жудасны час!
Ненароджана колькі людзей!

І смярцей стала больш, чым радзін,
Хто ўратуе жыццё на зямлі?
Два памруць, а народзіцца толькі адзін —
Гэта што? Мы знікаць пачалі?

Як балюча каціцца ніжэй,
Але неяк пачуў ад мужчын:
— Ва ўсім свеце нічога няма прыгажэй,
Чым цяжарнасць чароўных жанчын...

Розум ёсць, мужыкі! Малайцы!
Грудзьмі ўперад пара, не бачком...
Ой, каго напаткаў я, святыя айцы!
Сам злачынец — і позірк ваўком.

Але стой! Не злавіў за руку,
Слова «злодзей» пакуль не кажы.
Можа, й трэба павесіць яго на суку,
Ды спачатку злаві, дакажы.

А ваўком мы глядзім ледзь не ўсе,
І спрасонку — ад нас хоць крычы.
А злачынец такую ўжо маску нясе,
Вунь усмешка, як сонца ўначы.

Гэта маска — для многіх сіло:
— Вы культурны, як цэлы Парыж;
Ай, з якім чалавекам сустрэцца дало;
Вы ж такі гаварлівы, а ўсім заняло...—
І трапляюць у пастку, як мыш.

Зноў драпежнік жыве да пары
Ў сціплай масцы з прыветлівых слоў.
Ён знянацку пакажа свае кіпцюры,
З-пад якіх цякуць слёзы і кроў.

Як вяроўцы не віцца, а ёй,—
Чуеш маска? — надыдзе канец!
Хто жадае крыві — захлынецца крывёй,
А праклёны цяжэй за свінец.

Спіш ты добра — упэўнены я,
Ты ж стаміўся, вярнуўся з «начной».

Уяві на хвілінку, што маці твая
Над тваёю галосіць труной.

Ты не хочаш! Матулі шкада?
Ці сябе? Ты ж такі малады.
А ў матуляў другіх ці ж не слёзы? Вада?
Што табе да тых слёз, да бяды?

Ці задумаўся ты хоць на грош,
Што бяда можа выбраць пару,
І такога ж злачынца ці куля, ці нож
Тваю маці заб’е ці сястру.

Ці такія ж, як ты, па чарзе
Будуць гвалціць дачушку тваю...
Хай сумленне цябе да магілы грызе
За адну толькі думку: — Заб’ю!..

Што, плюеш на сумленне? Хлусня!
У сумлення амністый няма...
Ну, злачынец, прабач — вунь ідзе дзіцяня,
Не падман, а наіўнасць сама.

Падыду да яго, падбягу,
Можа,гутарку з ім распачну.
Адагрэюся сэрцам, развею тугу,
Захварэлай душой адпачну.

Ўсё! Змагацца не маю больш сіл,
Лез я ўверх — апынуўся на дне.
У дзіцяці не твар, а начны небасхіл,
Як у кожнага з вас ці ў мяне.

Нашы ж горкія думкі нясе
Праз нядолю, нястачу, кашмар;
Заклапочанасць вочы дзіцячыя ссе,
Нібы клешч, як галодны камар.

Дзе рухомасць і прага забаў?
Дзе на шчочках румянец зары?
Хто дзяцінства яго пакалечыў, украў?
Хто састарыў яго без пары?

Ці ж бяздушнасць — маленству радня?
Ранак сціснуты грудамі хмар.
А не будзе світанку, не будзе і дня,
Будзе змрок над усім уладар...

А вакол мяне маскі снуюць,
Хто цішэй, хто праскочыць жыўцом.
Тут дзяўчынкі-падлеткі, што кураць і п’юць,
І ля іх юнакі са шпрыцом.

Заўтра ім па жыцці класці след,
Яны ж сёння атручваюць кроў.
І каго яны потым народзяць на свет?
Нездаровых, без рук, без галоў.

Хоць бы скончыўся жах-карнавал,
Трацім марна свой час мы — шкада.
Калі ёсць карабель — быць павінен штурвал,
Калі баль — недзе ёсць тамада.

Як жыве ён? Як мы ці танней?
Ці на версе мо плечы прыгрэў.
Кажуць, ён на трыбуне любіў быць раней,
А цяпер злез з яе — пахітрэў.

Усё мяняецца — праўда, мана,
Час бясконцы цячэ, як вада.
А стаяла ж на плошчы людская сцяна,
Крык ляцеў: — Тамада! Тамада!

Не скажу ані я, ані вы,
Колькі прыказка гэта жыве:
Кажуць людзі, што рыба гніе з галавы,
Во хлусня дык хлусня! Гэта ж хвост ледзь жывы,
Што рухомасць дае галаве.

Што рабіць нам, папаўшы ў бяду?
Жыць у ёй ці адужаць яе?
Ці мяняцца самім? Ці мяняць тамаду?
Незаменных жа не існуе...

Хух! Стаміўся ў гайданцы-хадзьбе!
Мітусня мне абрыдла да слёз.
Кожны сам па сабе. Кожны сам за сябе.
Кожны з нас пад сябе ў гэтым смецці грабе
І — ні з месца агульны наш воз.

*

Можа, надта ўжо я? Чорны снег...
Чорны ранак... Нямыя раты...
Але ж ёсць сляпы зрок, замураваны смех
І душа пад ільдом глухаты.

А ад чуласці, ад дабрыні,
Ад пяшчоты, павагі — шматкі.
Як жа хочацца крыкнуць: — Вярні ўсё! Вярні!
Толькі хто нас пачуе, браткі?

Нам жа трэба ўсяго — сабой стаць,
Ад бяздушша праветрыць дамы.
Як ніхто, мы ж умелі сустрэць, прывітаць,
Абагрэць. Ці ж забыліся мы?

Круціць нас мітусні калаўрот —
І свядомасць, і думкі растрос.
Чорту лысаму верылі, гледзячы ў рот,
І цыруем, цыруем свой лёс.

Час узʼюшыўся, Бог барані,
Заюрыў, як свіння на гукі,
Ломіць дрэва жыцця, аж трашчаць карані.
Скінем маскі! Наеліся, досыць грызні,
Беларусы, мае землякі!

*1991*

Сядзеў на прызбе побач з бабай дзед,
Смаліў тытунь, штосвет
свой лёс «кулачыў»:
— Адвекаваў... Чаму я не паэт?
Я ж столькі пеWhile ражыў і перабачыў.

І вось адгасцяваў — пара «дамоў»,
Замест узнёслых кніг — адчай і стома,
Бо лёс навыкрасаў на шмат тамоў,
А не пакіну ні радка, ні тома.

Адвечны лад — не дзецца нікуды,
Лапцяжны век — быў іншы час і мэты.
Сышлі ў нябыт мае бацькі, дзяды,
Узнёслыя душой, ды не паэты...

О-хо-хо-хо... Што ж, вінаваты сам,—
І дзед у неба ўперыўся вачыма,
Нібы хацеў убачыць продкаў там,
Якія штосьці параілі б, магчыма.

А ў небе — ні душы і — цішыня,
У задуменні і зямля сырая.
Спакой пануе на зыходзе дня,
Ды цішыню парушыла старая:

— Вушам сваім не веру — смех і грэх!
Які з цябе паэт? Курам забава!
Ужо і памяць, як дзіравы мех,
І словы спатыкаюцца кульгава.

Устаў, напэўна, не з тае нагі,
Гаворыш, нібы галаву адпіўшы.
Надумаўся аб чым сушыць мазгі,
Адной нагой у іншы свет ступіўшы.

Гарбаціў ад цямна і да цямна,
Здароўе надрываў зімой і летам.
Усё жыццё то плуг, то барана —
Пра што б ты мог пісаць,
каб быў паэтам?

Пра гной? Пра ненавісны бруд і пот?
Ці пра вайну — пра баль крывавы звераў?..
Стары акамянеў, раскрыўшы рот,
Цяпер ужо і ён вушам не верыў.

— Астынь ты, баба! Кінь ты пот і гной!
Ці ж я і ў маладосці горбіў плечы?
Ці ж не свяціла сонца нада мной
Усё жыццё, ад першых дзён малечых?

І прыгажосць вясны жыла ўва мне?
І марыў я, а ты мне гной на вілах...
Ты думаеш, што я малым у сне
Не лётаў птахам казачным на крылах?

Дзіцячы век — падобны да каня
Крылатага — маланкава-імклівы.
А голад, хоць і грыз дзяцей штодня,
Не мог перапсаваць той час шчаслівы.

Таму жыццё прыемна распачаць
Ці сонечны усход, ці ранак золкі.
Здавалася, што крылы нас імчаць
Па промнях, ад вясёлкі да вясёлкі...

Дзед зацягнуўся, дымам кракануў,
Расцёр акурак, зноў агледзеў неба.
І на старую ціхенька зірнуў —
Ці ёсць у спавядальшчыку патрэба?

А ў бабы быццам поўны рот вады.
Натурылася, як дажджом варона.
Распавядальшчык вырашыў тады
Працягваць больш запальна і натхнёна.

— Маленства што?.. Калі яно было?
Яно і мне штогод слабей маячыць.
Сцяжынкі тыя часам замяло,
Падзеяў тагачасных не пабачыць.

А вось пазней, у сіле маладой,
Ярчэюць фарбы і мацнеюць пахі.
Падзеі наплываюць чарадой
І ажываюць успаміны-гмахі.

О, гэта самы яркі ўспамін,
Хвіліна — на усё жыццё жывая:
Ідзе дзяўчына, у руках язмін,
Ды і сама, як краска веснавая,

Як яблынька квяцістая ў маі,
Не вусны — ружы, грудзі — два пагоркі
І локаны, нібыта ручаі,
А вочы — ў небе пазайздросцяць зоркі.

Ідзе насустрач, хутка праміне,
Зямлю, здаецца, ногі не кранаюць.
І сэрца здрыганулася ў мяне,
Ды і дрыжаць калені пачынаюць.

У роце — суш, у горле — нейкі ком,
Апошні шанец, рызыкнуць бы трэба.
І я сваім драўляным языком
Спытаўся у яе: — Няўжо вы з неба?!

Я на зямлі такіх не сустракаў,
Не бачыў гэткіх чараўніц ні разу!..—
Я змоўк — не дыхаў, лыпаў і чакаў,
Мой лёс залежаў ад яе адказу.

Тады хвіліна — вечнасцю цякла,
Я адчуваў, што ўсё ўва мне згарае...
Тут дзед пачуў:
— І хто гэта была?
Спыталася напружана старая —

Каму ты ўзбаламуціў галаву?
Каго спыніў сваім «драўляным», шкоднік?
Вярцеў хвастом, а я з табой жыву,
І век свой дажываю, грахаводнік.

Што, грэх той сёння па душы скрабе?
Яму шлеш пакаянне наўздагонку?..
— Дык гэта ж я тады сустрэў цябе!
Дзед хмыкнуў і абняў ласкава жонку.

— Мяне?! Тады?! — і бабін прэч спакой,
І вочы засвяціліся шчасліва,—
Ты не маніў?.. Ці ж я была такой?
А што было далей? Цікава! Дзіва!

Дзед паглыбіўся ў думкі:
— Што далей?..
Мы свой агульны лёс распачыналі,
Начамі пеў над намі салавей,
Зямля пад намі — мы над ёй луналі.

І сэрцаў двух агульнае святло,
Агонь кахання, пацалунак першы...
Дзед зноў пачуў:
— Няўжо гэта было?
Ты праўду кажаш ці складаеш вершы?

— Складаю вершы? Не, я не дарос,
Я чалавек зусім другога звання...
— Як не дарос! Ты ж гэтак нас узнёс,
Мяне, сябе — і нашае каханне!

Агеньчыку ў грудзях прастору дай! —
Цяпер і баба мовіла ласкава,—
Вяршуй, кажы далей, распавядай,
Вяртай падзеі даўніны!
Цікава!

Дзед моўчкі закурыў чарговы раз:
— А потым новых радасцяў пачатак.
Твая цяжарнасць аб'яднала нас
Яшчэ мацней праз будучых дзіцятак.

О як я замілоўваўся тады
Тваёй фігурай, незвычайна годнай.
Ты ў сэрцы засталася назаўжды
І самай блізкай мне, і самай роднай.

Ты быццам з абразоў пазней сышла,
Якія на куце вісяць у хаце —
І з нашым дзіцем на руках была,
Нібыта Багародзіца з дзіцяцем.

Не абміналі й святы родны кут,
Пад нашым дахам —
      згода і пяшчота...
Старая не змагла стрымацца й тут:

— Яно дык так, але ж была беднота.
І зноўку дзеці, новы недахоп,
Выпрабаванні, новыя напасці...
Стары з балючай мінай зморшчыў лоб:
— Дык шчасце ж і сярод нястачы — шчасце!

Я згодзен — і пад сонцам знойдзеш цень.
Агонь і лашчыць, ён і апякае.
Але ж прыемна ўспомніць светлы дзень,
Чым сажу ночы, дзе усё знікае.

Вось ты кранула языком вайну,
Крывавы баль той доўгай чорнай ночы.
Жахліва, ды яе не абміну,
Бо сам з ёй сустракаўся —
вочы ў вочы.

Але салдата лёс — хто быў жывы —
Наперад і — ці смерць, ці перамога.
А вы тады? Як выжывалі вы
У пекле — ад старога да малога?

Вось пра каго пісаць, складаць вяршы,
Ці, мабыць, вершы — хай мяне паправяць.
Я і пісаў іх фарбамі душы,
І многія радкі яшчэ крывавяць...

Прабач жа мне, што адчыніў засоў
І суму напусціў з часоў смяротных.
Я думаю — паэты ўсіх часоў
Не толькі балявалі бесклапотна.

Што можна скласці ад жыцця ўбаку?
Упэўнены — нічога і ніколі.
І кроў была, і смерць на іх вяку —
Нават булён — і той бурда без солі.

З адценняў розных складзены Сусвет,
Хай крые Бог, каб быў ён чорна-белы...
Старая ўстала:
— Глянь! Дык ты ж паэт,
Не гледзячы на твой узрост ссівелы!

Стары перахрысціўся:
— Не дурней!
Камусьці скажаш — пальцамі запорацць.
Змікіціўся я, жонка, а даўней
Я чуў, як кветкі між сабой говорацць.

Я з лесам мог на роўных гаманіць,
Я чуў, як луг пяе без перадыху,
І чуў, як ноччу зорачка звініць —
Адна, другая — і усе пацíху.

Мне знічка паспявала перадаць,
Што разам з ёй душа яе згарае...
О-хо-хо-хо...— памкнуўся й дзед устаць.
— Як ёсць паэт! —
пацвердзіла старая.

*

Назаўтра дзед не ўстаў...
— Я занямог...
Кудысьці збеглі сілы, дыхаць цяжка...
— Ты не дурней! Ці ж нас пакіне Бог?
Падымешся! — сказала баба важка.

— Я й кніжку прычакаюся тваю,
Ты будзеш, галубок, вялікай шышкай!
— О не! Не напішу, бо ўжо стаю
Прад Госпадам з сваёю доляй-кніжкай.

Рыхтуйся, бабка, не сумуй, не плач,
Мы — ўжо баласт, у новы век — заслона.
З табой мы аджылі — вакол пабач,
Прапусцім моладзь — хай ляціць натхнёна..

Ты пахавай мяне не там, дзе цень,
А там, дзе крайчык могілак, на ўзгорку.
Хачу, каб першы сонечны прамень
Мяне наведваў, вёў са мной гаворку.

Ды не спяшайся след за мной туды
Я пачакаю — часу там хапае,
Твае ўсё ж маладзейшыя гады,
Хоць смерць бярэ й дзяцей — яна сляпая.

— Ты што, радзімы! Не пужай мяне.
Адпіхвай ноч, пакуль душа жывая.
Дасць Бог — і гэта немач абміне,
Ды й хто мяне праводзіць, пахавае?..

— Я ж ноч не спаў,— дзед павініўся зноў —
Я ўчора марыў — не пладзіў какецтва.
Навошта я табе у вушы ўвёў
Пра плач душы і пра сваё паэцтва?

Забудзься, плюнь і разатры нагой,
Я, й праўда, не паэт — ці ж гэта гора?
— Ты што стары? Ты гутаркай сваёй
Не збэсціш тое, што адкрыў учора.

Я веру, ты — паэт, хоць трэсці ў лоб!
Даў Бог тваім мазгам такую клёпку!..
Але стары ужо не чуў... Захроп,
У споведзі-жыцці паставіў кропку.

*2010*

Як люблю я цябе, беларус!
Як люблю!
Ёсць падставы табой ганарыцца.
Кроў твая, пот і слёзы паілі зямлю —
Бачыш, брат? Прыняла іх зямліца!

О-о-о! Зямелька — жывая і чуе яна,
Ці ты плачаш, браток, ці святкуеш,
Ці туга над табой ад цямна да цямна...
Сёння стогне карміцелька... Чуеш?

Не! Не бачыш, не чуеш... Аслеп і аглух,
Лёд пад сэрцам выстуджвае грудзі.
Згодзен, згодзен... для статка патрэбен пастух,
Дзякуй Богу, не статак мы — людзі.

Я і ты — як блізняты, дзве кроплі вады,
Хоць між намі — хлусні землятрусы.
Мы з табой — гістарычна навек, назаўжды
Ад адзінай зямлі — беларусы.

Ты і я — гэта тое адзінае мы,
Што адным перахрышчана горам,—
Не ўваскрэс родны край, ён і сёння — нямы,
Бо на месцы вытупваем... Сорам!

Як наблытаў скразняк у тваёй галаве,
Быццам ты выпіў залпам штрафную...
Зразумеем! Ачнёмся! Надзея жыве!
Я нашу яе ў сэрцы, шаную.

*

Як бывае ў сям'і?
Калі хто занямог —
І астатнія ходзяць пад горам,
І яны дзень і ноч аж збіваюцца з ног,
Непакояцца, б'юцца над хворым.

Ціха тут — весяліцца ля хворага грэх.
І хоць гэта зусім не жалоба,
Тут не чутны ні жарты, ні песні, ні смех,
Аж пакуль не адступіць хвароба.

Сёння нешта падобнае бачна і ў нас,
Заядае нас смутак мацёры.
Ані песняў, ні смеху не чутна ўвесь час —
Хтосьці з нас... несвядомасцю хворы.

Ах! Якая хваробішча — Бог барані!
Светапогляд — як лёд нерухомы.
Як яго растапіць, калі ён — у цяні?
Чым узрушыць спакой несвядомы?

Гэта жах — непатрэбна сляпому святло,
А глухому — птушыныя спевы...
Несвядомасць бяздумна, як тое быдла,
Падратуе любыя засевы.

Многа нас захварэлых, усіх не злічыць,
Час патрэбен і паразуменне.
Цяжка нас ратаваць, несвядомасць лячыць,
Але ўсё ж лёд растопяць праменні.

*

Кажуць — першым усё ж такі слова было,
Ў свеце цешацца роднаму слову.
Слова — той жа выток, слова — тое ж святло...
Што ж, давай пагаворым пра мову.

Мы чужымі зрабіліся самі сабе,
Адцураўшыся роднага дома.
І тады ўжо, як граблі нам трэснуць па лбе,
На хвіліну падумаем: «Хто мы?»

Але думка-маланка згасае. І зноў
Мы — не мы, мы — пусці павалюся...
Колькі нас несвядомых дачок і сыноў
Адцураліся ад Беларусі?

Помніш, брат, калыханку? Гаворку бацькоў?
А маленства? Няўжо і не сніцца?
Слова продкаў — з далёкіх, мінулых вякоў
Прабівалася ў свет, як крыніца.

Нам бы ўзяць ды расчысціць крынічны выток,
Мы ж — забрудзілі гэта бруенне...
Што мы маем цяпер? Ратавальны глыток,
Ды і той пад пагрозай знішчэння.

Мова — крылы душы, мова — ў цемры маяк,
Мова — гэта й жыцця адчуванне.
Нам без мовы сваёй не ўзляцець аніяк,
Нам без мовы — у цемры блуканне.

І паўзём — не ляцім. Пры святле — слепакі,
Бо чужыя ў нас розум і мова.
Мы, калісьці адно, сёння — толькі шматкі,
Як сабраць, чым з’яднаць нас нанова?

*

Што ўсё я гавару? Што маўчыш ты, мой брат,
Мой зямляк, суайчыннік, таварыш?
Я цябе папракаў — кінь папрокі назад,
Кажуць, кашы без спрэчкі не зварыш.

Паспрачайся са мной, памяркуй, падкажы
Можа, ісціну знойдзем за кашай.
Паміж намі няма аніякай мяжы,
Акрамя несвядомасці нашай.

Ты маўчыш, я замоўкну, замоўкнем усе,
Як матор непатрэбны, іржавы.
Азірніся, куды гэта плынь нас нясе,
Глянь на сімвалы нашай дзяржавы!

Зазірні ў мае вочы, а я — у твае,
Вочы — люстра душы, слоўнік думак.
Паразважым, чаго нам з табой нестае,
Абмяркуем далейшы кірунак.

Мы ад заклікаў стлелых ачысцім свой слых,
І на зоркі зірнем, не пад ногі.
Мы ад лозунгаў нежыццяздольных старых
Адштурхнемся да новай дарогі.

Вунь і сонца ўзыходзіць — наперадзе дзень,
Аднавіцца катораму рупіць.
Расчыні сваё сэрца й мінулага цень
Промням жыццясцвярджальным саступіць.

Аднаўляе зямлю пасля доўгай зімы
Хто?
Вясна прыбярэ ўсё, расцвеціць.
Хто адновіць наш дом — Беларусь?
Толькі мы!
Беларусі нязломленай дзеці.

Будуць святы пісьменства у нас, кірмашы,
Будуць конкурсы песень, пленэры!
Адладкуем умовы для ўзлёту душы —
Будзе ўсё — не губляй толькі веры!

Раптам чую адказ: — Ды пайшоў ты адсюль!
Ажно пырснулі слінкі скрозь словы.
Вось і ўвесь дыялог... Пошук ісціны — нуль...
Размінуліся нашы галовы.

— Што ты, маць тваю, чэпішся тут да людзей?!
Чую збоку другога «дарадцу».—
Ты заместа сваіх непатрэбных ідэй
Кілбасу нам вярні па руб дваццаць!..

Вось і ўвесь дыялог...
Ды пачуе глухі!
Ды убачыць сляпы! Дай, Бог, сілы!
Адпусці ненаўмысныя нашы грахі —
Хай у кожнай душы будуць крылы!

*

«А пайшоў ты адсюль...» — чую словы-нажы.
Не прымаю я іх, не міруся.
А куды беларус з Беларусі, скажы,
Можа йсці? Толькі да Беларусі!

Нас і так падзяляюць на «свой» і «не свой»,
Падазронасці клін паміж намі.
Хопіць нам ужо думаць чужой галавой —
Паварушым сваімі мазгамі!

Вернем мову сваю, жыццяздольны настрой,
Скарацім паміж намі адлегласць...
Як шкада, што не собіла сёння з табой
У размове крануць незалежнасць.

Незалежнасць — яна даражэй каўбасы,
Берагуць незалежнасць, шануюць.
За свабоду спрадвек, ды і ў нашы часы
Ва ўсім свеце жыцця не шкадуюць...

Мы маглі б абмяркоўваць, каб ты дапамог,
Існасць лёсу і дзе яно, выйсце.
Але ты не схацеў падтрымаць дыялог,
З маналога — не многа карысці.

«Ды пайшоў ты адсюль...» — зразумела куды.
Крыўдна слухаць — ды я не крыўдую.
Трэба біцца з хваробай хоць год, хоць гады...
Я люблю цябе, брат, і... шкадую.

*1991*

# Горкая кропля



Што хавае слязінка
На шчацэ у матулі,
У старэнькай матулі,
Што сядзіць задуменна
Ля мяжы непазбеглай?..
Колькі ў кропельцы гэтай,
Што блукае ў маршчынах,
Недаспелага шчасця,
Пераспелага гора?
Колькі гэта слязінка
І адчаю ўвабрала,
І надзей безнадзейных,
І няздзейсненых мараў?..
О маленькая кропля,
Ты —
бясконцае мора!

*

Пакацілася кропля
Па шчацэ, як па лёсе,
Цэлы свет пакаціўся,
Што слязінка ўвабрала:
Пакаціліся мары,
Спадзяванні, пакуты,
Пераспелае гора,
Недаспелае шчасце...
Не дай, Божа, сарвецца,
Гэты свет таямнічы
Разаб’ецца, загіне,
Неспасцігнуты намі!
Ды слязінку спыніла,
Затрымала маршчынка —
І маленькая кропля,
Як бязмежнае мора,
На маршчыне павісла,
Не скацілася ў бездань...

Што ж — сляза і маршчынка
Нібы родныя сёстры,
І адна, і другая —
Дзеці горкай нядолі.

*

Шлях да першай маршчынкі
Кропля хутка праклала.
Гэты шлях быў кароткі,
Як усмешка маленства,
Як юнацтва світанак,
Што згарае імгненна...
Затрымалася кропля,
На маршчыне павісла —
Адзвінела дзяцінства,
Як капеж сакавіцкі,
Як ручаік апошні
Пасля талага снегу.
Адбруілася радасць
Залатога юнацтва
І на твар небасхілу
Наплываць сталі хмары.
Закрывалася сэрца
Іх бязлітасным ценем,
Адкрываліся вочы
На бязвыхаднасць лесу.
І ад паншчыны квапнай,
І ад едкага поту
Ні спіна, ні кашуля
Не прасохлі ні разу...
Да канца далягляду,
Колькі бачыла вока,
Шлях жыццёвы цягнуўся —
Неабсяжная багна.

*

Неспакойна слязінцы,
У маршчыне няўтульна —
Здрыганулася кропля
І паціху, паціху
Падалася да новых
Перакрэсных маршчынак,
Каб асіліць, адолець
На шляху перашкоды...
Як падобна слязінка
На матуліну долю,
Што праз жорсткасці часу
Прадзіралася мужна...
Як я ведаю многа,
Як я ведаю мала
Пра напоўнены болем
Свет празрыстай слязінкі.
Тут, у кропельцы гэтай,
І калгаса прымусы,
І гвалтоўнасць улады,
І пакуты бяспраўя.
Тут, у кропельцы горкай,
У маленькай слязінцы —
Велізарнае гора
Сорак першага года,
І пакуты, і жахі
Аж да дня вызвалення.
Тут, у кропельцы сціплай,—
Пяць дзяцей пахаваных...
Не дай, Божа, нікому
Перажыць сваіх дзетак...

*

Як я ведаю многа!..
Аддавала матуля
Ратавальны, апошні
Нам глыточак булёну,

Каб астатнія дзеці
Засталіся жывымі.
Хоць вайна і сканала,
Ды пакінула голад —
Ад яго анікому,
Анідзе не схавацца.
Як я ведаю мала!..
Я сачу за слязою,
Што па маміным твары
Ціха-ціха сцякае,
Як па маміным лёсе.
Колькі ў ёй, гэтай кроплі,
Неадзначаных святаў,
Недапетых мелодый,
Нерасцвіўшага смеху?!
Я сачу за слязою...
А слязінка раптоўна
Пакацілася хутка,
Не ўтрымала цяжар свой
І сарвалася ў бездань,
Нібы зорачка з неба,
Як гарачая знічка...

*

Я ласкава спытаўся:
— Што ты, мама, прыціхла?
Быццам лёгкія крылы
Узнялі цябе ў неба
І панеслі далёка
Над нялёгкім мінулым
Да празрыстай крыніцы...
Што ты ўбачыла сэрцам
З вышыні успамінаў?
Мама цяжка ўздыхнула:
— Зазірнула я ў тое,

Што убачыць магчыма
Пасля доўгага веку
Ля апошняе рысы,
Што пяром не апішаш,
Хоць пяро залатое,
Што не выкажаш словам
Нават самым яскравым...
Я пацiснуў з пяшчотай
Яе добрыя рукi,
Зазiрнуў ёй у вочы:
— Многiх год табе, мама!..

*

Так, ад кропелек горкiх
Твае выцвiлi вочы,
Слёз не бачыў нiхто —
Нi чужы, нi радня.
Ўпотай плакала днямi,
Цiха плакала ночы —
I было ад чаго
Да апошняга дня.

Аджылося табе
Значнай большасцю ў горы.
Не палепшыць былое —
Крычы не крычы.
Колькi слёз, каб сабраць?
Пэўна, рэкi i моры.
Колькi кропелек горкiх?
Як зорак ў начы.

Але чуўся i смех,
Як ад гора заслона.
Але й песнi гучалi,
I святы былi.

Атуляла сям’ю ты
Пяшчотай штодзённа...
Сёння слёзы і смех твой —
У маці-зямлі.

Сэрцу сёння майму
Горка не без прычыны —
Я з табой сустракаюся
Толькі у сне.
Успаміны жыцця,
Слоў тваіх успаміны —
І ад горкае кроплі
Не пазбавіцца мне.

*1990*

## Пашана

Як кажуць, падгаілася ўжо рана.
Ці варта сёння ўспамінаць нам пана
Ды варушыць мінулы час далёкі?
— Паны ж — рабаўнікі і крывасмокі,
Яны ж як скула ў горле, як кароста,—
Вось так немудрагеліста і проста
Вучылі нас.— Смуродны і памыйны
Наогул час той дарэвалюцыйны,
А ўжо пасля сямнаццатага года
Адразу крылы выраслі ў народа...
Не будзем тузаць «ісціну» за грудзі,
Ва ўсе часы жылі пад сонцам ЛЮДЗІ
Не горшыя за нас. Таму пашану
Выказваю карпілаўскаму пану.

## Вучоба

Дваццаты век ужо быў на парозе,
А ён — аж у Бутырцы, у астрозе,
Юнак, якога клікалі Антосем,
Юнак з трагічным і цікавым лёсам.
...Антон Лявіцкі з беларускай вёскі
Падаўся ў свет чужы, няблізкі, Боскі.
Ён прагнуў ведаў, іх шукаў у свеце —
І стаў студэнтам ва ўніверсітэце,
Аж у Маскве пачаў Антось вучыцца.
Бацькі і сам ён гэтым ганарыцца.
— Вось вернецца сынок пасля вучобы,
Дасць Бог адхлынуць ад людзей хваробы.
Ён на ўрача там вучыцца старанна...—
Бацькі казалі ўсім, але зарана.
Там, у Маскве, дзе ўсё нібы прыстойна,
Было сярод студэнцтва неспакойна —
Кіпела моладзь, як на моры хвалі,
Там лепшых перамен патрабавалі,

Але не стой, як кажуць, на дарозе.
І хлопцы апынуліся ў астрозе,
А з імі ў гэтай непрыветнай зоне
І наш знаёмы беларус — Антоне.

## Астрог

За допытам распачынаўся допыт...
— Тут, у астрозе, набываеш вопыт
Маўчаць, маўчаць і зноў маўчаць упарта,
Хоць бачыш, як шалее следчы, варта,
Хоць зграя тая разарваць гатова,
А ты ў душы смяешся — і ні слова.
Дарэмны брэх, не на таго напалі,
Не схіліце майго сумлення шалі! —
У думках жарт падтрымліваў Антона,
Бо вартаўнік турэмны — не ікона.
А вечарам, а то і сярод ночы
Ад непазбежных слёз шчымелі вочы —
Не спалі ўсе, наперакор ахове,
Спявалі песні на расейскай мове,
На польскай мове і па-украінску...
І крыўдна стала юнаку з-пад Мінску,
Што роднае тут не гучала слова,
Ніхто не чуў, што ёсць такая мова...
— Балюча сэрцу, што цябе не чулі,
Гаворка-мова роднае матулі,
Што й дома ты для многіх — чужаніца,
Душы невычарпальная крыніца.
І шчыры беларус душою шчырай
Ляцеў з астрога да Радзімы мілай.
І па начах Антось шаптаў: — Клянуся:
Жыццё аддам да кроплі Беларусі!

# Вяртанне

Дамоў Антось вярнуўся без пашаны,
Ды больш свядомы і загартаваны.
Карпілаўка пасля бутырскай зграі
Здавалася цудоўным ціхім раем.
Чакала й смута-вестка ў роднай хаце —
За час «вучобы» заўдавела маці.
Запанавалі хмары ў яго лёсе,
Далей што? Выращаць яму прыйшлося.
І ён у Радашковічы падаўся,
Бо цяжкасцей і працы не баяўся.
Там, у аптэцы, працаваў штодзённа,
Начамі ж мала спаў, карпеў бяссонна,
Пісаў, пісаў — душы патрэбны крылы,—
Пра край свой бедны, непаўторны, мілы.
Даў Божа быць Антосю ў іншым стане —
Не абмінула і яго каханне,
Гнатоўская Луцыя — плод спакусны,
Танюткі станік, пухленькія вусны,
Ад погляду яе — няма спакою —
Хто ж з хлопцаў устаіць перад такою?
Не доўга маладыя разважалі
І неўзабаве пад вянцом стаялі.
Лявіцкі акрылёны быў любоўю,
Ды раптам пахіснулася здароўе.
Сціскала грудзі, быццам абцугамі,
Бывалі дні — не мог ступіць нагамі.
— Антосічка,— Луцыя моліць мужа,—
Што ж так працуеш ты? Ці не задужа?
Днём у аптэцы душнай, змрочна-шэрай,
А па начах карпееш над паперай.
Ну хоць часова скінь з душы турботы,
Усёй не пераробіш ты работы.
Каню й таму патрэбен адпачынак...
Антон і сам адчуў — наспеў прыпынак.
Ён з жоначкай без спрэчак і без сварак
Ад’ехаў у карпілаўскі фальварак.

І тут, сярод вясковай прыгажосці,
Адчуў прыліў і сіл, і маладосці.
Але ж ці мог марнець ён у фальварку?
Не! І Антось пакінуў гаспадарку.
Зноў ён, як вецер вольны, у дарозе!
Ці ж мог ён здрадзіць клятве, што ў астрозе
Даваў на вернасць Беларусі роднай?
Ён не забыўся мары аніводнай:
— Ісці ў гушчар жыцця з ідэяй новай...
— Запальваць сэрцы беларускай мовай...
— Будзіць свядомасць, годнасць, славіць волю...
— І абяздоленым палепшыць долю...

## Мінск

У Мінску булкі — а жывеш галодны,
Мінск рады ўсім — а ты яму не родны,
Мінск вас ашчасціць — гэта забабоны.
Тут свой уклад жыцця, свае законы.
Антон не аддаваўся тут забаве,
Хутчэй хацеў ён быць карысным справе,
Ён адчуваў, што не пісаць не можа,
Што толькі словам мове дапаможа,
Што нельга моўчкі за другіх хавацца —
Пісаць! І зноў пісаць! І друкавацца!
Ён працаваў без сну, без адпачынку
У двух часопісах — «Саха» й «Лучынка».
Ён жыў-гарэў актыўна, вулканічна,
Удзельнічаў у сходках палітычных,
Усюды паспяваў дасціпна, квапна,
Пра ўсё пісаў таленавіта, трапна.
А вось пра дабрабыт свой думаў мала,
Не меў свайго вугла — жыў дзе папала,—
Часцей у тых жа рэдакцыйных сценах...
Аб іншых думаў ён, аб лепшых зменах.

## Сіроцкі прытулак

Непрадказальныя жыцця дарогі...
У Мінску, ў Таварыстве дапамогі
Ахвярам першае вайны сусветнай —
Ён быў асобай значнай і прыкметнай,
Боль адчуваў любой жывой істоты.
Ён з жахам бачыў, як жывуць сіроты
Бяздомна, без дагляду, без пяшчоты,
І ён прымае на сябе турботы —
Аж пяцьдзесят дзяцей вязе ў фальварак...
Прыкіньце, колькі ў дзень патрэбна скварак?
А колькі бульбінак? А колькі хлеба?
А ўсякага ўсяго ім колькі трэба?
А трэба ж спаць укласці не без казкі,
Ды даць галоўнае — бацькоўскай ласкі.
А дома ж і сваіх чацвёра дзетак
(Сучасны пан наўрад зрабіў бы гэтак)...
Луцыя аж да позняй ночы зранку
Ля печы мільгацела, як маланка,
Гаршкі цягала спрытна, у ахвоту.
Сталейшыя ўпрагаліся ў работу,
Палолі грады, пасвілі жывёлу,
Асвойвалі сумеснай працы школу.

## Карпілаўскія сустрэчы

Ядвігін Ш. ...Пазней ён так назваўся,
Пад псеўданімам гэтым друкаваўся.
Ён быў ужо чытаемы, вядомы,
Ён жыў жыццём напружана-рухомым.
Карпілаўка, дзе ён пражыў так мала,
Яго і акрыляла, і натхняла,
Куток утульны хваляваў і сніўся,
І з ім душой пісьменнік парадніўся.
О, колькі ён начэй правёў бяссонна,
Тут, як нідзе, пісаў ён многа, плённа.

Было й сустрэч цікавых тут нямала...
Не раз з Акопаў прыязджаў Купала.
З павагай Янка, дваццацігадовы,
З такім аўтарытэтам вёў размовы...
Наскочыў Багдановіч нечакана —
Ядвігін Ш. сустрэў яго з пашанай.
Аб чым яны вялі сваю размову?
Хутчэй за ўсё — пра сэнс жыцця, пра мову,
Пра сэрца, каб у творчасці гарэла,
Пра ўсё, што хвалявала, набалела...
Ядвігін Ш. ...Узнёсласць яго слова
Пачула тут Палута Бадунова,
І Зоська Верас, і Раткевіч Ядзя,
Змітрок Бядуля, Галубок Уладзя —
Вось дык сузор'е! Доўга будзе сніцца
Яно табе, мая зямля-зямліца.

## Лісты з дарогі

Што ні кажыце, а бываюць рэчы,
Якіх не ўбачыш, седзячы на печы.
Зямлю, што распласталася прад намі,
«Памацаць» трэба ўласнымі нагамі.
Тады і сам паразумнееш крышку,
Чытаючы жыцця жывую кніжку,
Ды і другім перадасі свой вопыт —
Такі «тавар» заўсёды мае попыт...
Ці думаў так Лявіцкі — невядома,
А доўга не затрымліваўся дома.
Ён ветру грудзі падстаўляў і скроні,
Ён бачыў ход жыцця, як на далоні.
За сотні вёрст яго насілі ногі,
Адтуль «даслаў» ён нам «Лісты з дарогі»,
Дзе апісанняў таго часу — мора...
Прайшло стагоддзе, а здаецца, ўчора
Мы самі ўсё і бачылі, і чулі,
Настолькі подых даўніны адчулі.

## Трагічны лёс

Такі вось пан... Але ці быў ён панам?
Ён беларусам быў самаадданым!
Сваёй Радзімы быў ён патрыётам!
За хлеб, што еў, плаціў крывёй і потам.
Першапраходзец беларускай прозы
Апісваў лёс людзей, іх смех і слёзы,
Ён спачуваў нястачы і бядноце,
Бо часам сам не меў расінкі ў роце.
Быў звязаны з нядоляй вечным шлюбам,
А заставаўся — чалавекалюбам
І ў гэтым бачыў штосьці найсвятое.
Такі вось пан... А ў чым жа панства тое?
У тым, што ў сэрцы нёс не ноч, а ранак?
Што білася яно, нібы падранак,
Ад крыўды, што жыццё сціскаюць хмары,
Ад болю за загінутыя мары?
Ці панства ў тым, што не было пытання,
Як жыць далей?.. І ён абраў змаганне.
Усё жыццё бадзянні і турботы,
А вынік неўцяшальны быў — сухоты.
Яны прыйшлі прадвеснікам магілы —
І хутка склаў Антон Лявіцкі крылы...
Які ж астатніх лес? Як жонка, дзеці?
Яны былі раскіданы па свеце,
Хапала слёз і гора ў кожным лёсе:
Дачушкі Ванды муж — вядомы Лёсік —
Сасланы быў і дажываў гаротна,
А з ім сям’я жыла добраахвотна.
Ля іх «агню» дало й Луцыі грэцца,
Яна пры іх была — куды ж ёй дзецца?
Сыны Лявіцкіх — Казімір і Вацік —
Не ўбачылі ані сястры, ні маці,
Яны былі цішком арыштаваны
І хуценька, як ворагі, сасланы.
Памёр у ссылцы Вацік нечакана,
І Казік зведаў смерць таксама рана.

Калі вайны грымела кананада,
Быў Казік абаронцам Ленінграда,
У гэта пекла лёс яго закінуў,
Адтуль не выйшаў ён, без весткі згінуў.
Прапаў і сын Лявон — не зведаў спасу,
Таксама трапіў ён у жорны часу...
Няўжо нікога і не засталося?

Жыве унучка іх — Алеся Лёсік,
Жыве ў далёкім Краснадарскім краі,
Сюды, ў гняздо Лявіцкіх, прылятае.
Тут голас продкаў чуецца, здаецца...
І плача тут Алеся, і смяецца.

## Сумны эпілог

Прыгожа, сумна, жудасна тут сёння...
Тут правіць баль бяздушша, беззаконне.
Тут чорствасць, абыякавасць, вар’яцтва
Над Бацькаўшчынай твораць святатацтва.
Тут творыцца глумленне над мінулым,
Усё даўно знішчаецца агулам.
І гіне, задыхаецца ў «агуле»
Магутны, знакаміты дуб-дзядуля,
Якога жорстка вогнішчамі паляць
Вар’яты-пастухі, пакуль не зваляць.
Не раз я ратаваў яго карэнні
І клаў у рану дзёран і каменні...
Здаецца, голлем неба распаролі
Агромністыя волаты-таполі,
А побач ліпаў велічных прысады,
Калекі-дрэвы колішняга саду.
Знявечаны садок і састарэлы
Сям-там і яблык дорыць адзічэлы.
З удзячнасцю самотны плод кусаю
І гарчыню стагоддзя адчуваю —
Перарабіў час яблынькі на дзічкі...

Іду ніжэй, да ветлівай крынічкі,
Якая шчодра кожнага напоіць,
Але душы балючай не загоіць.
Далей вядзе нябачная сцяжына —
Вось і агрэст, парэчкі і шыпшына
Гібеюць у траве, блішчаць нясмела:
Няма гаспадроў — і ўсе змарнела...
Падмурак, што ляжаў у задуменні,
Загінуў — расцягалі ўсе каменні,
Крышылі трактарамі, руйнавалі,
З драпежніцкім імпэтам скарб шукалі.
А ён, Лявіцкі,— дзякуй чалавеку,
Свой скарб «схаваў» не тут —
ў бібліятэку.
— Чытайце, людзі! Вось жыцця выснова:
Нішто не ўзбагачае так, як слова!
...Прыгожа тут, і сумна, і балюча.
Усюды запусценне, смецця кучы —
Што дачнікам да гэтай прыгажосці?
Хто мы ў жыцці? Гаспадары ці госці?
Ці чалавек — няма страшэнней звера?..
Ён адшукаў тут месца для кар'ера,
Угрызся ў прыгажосць, капае, рые.
Няўжо капцы сядзібе? Хай Бог крые!
Стаю ля пакалечанага ўзгорка,
І, падалося,— чуецца гаворка
Купалы, Багдановіча, Бядулі,
Якую тут калісьці дрэвы чулі...
Шчабеча з Бадуновай — Верас Зося...
Зноў стала мёртва, ціха... падалося...
Мая святая, родная зямліца,
Адно магу — перад табой схіліцца.
Твой боль, цяжкі твой лёс, твае нягоды
Нашу ў сабе даўно — і назаўсёды.

*

— Вось тут, дзе сад,
дзе гэты пляц авальны,
Бліжэй да лесу,
вунь ля той крынічкі,
Жыў у свой час
па-свойму унікальны
Ядвігін Ш. па прозвішчу Лявіцкі.

Тады ён й прасталюддзю
нёс спагаду,
Хоць быў пісьменнік,
быў адукаваны.—
Тлумачыў я чыноўніку з ураду.
— Яму б музей адкрыць
у знак пашаны.

— Хто ён такі?
Чаму мне незнаёмы? —
Чыноўніка душа пратэставала.
— Для Беларусі
і для лепшай долі,—
Удакладніў я —
ён зрабіў нямала.

— Знайшоў мне знакамітасць!
Нейкі Ша! —
Чыноўнік скорчыў
напаследак міну...
Здалося мне —
Лявіцкага душа
Адчула на тым свеце
гэту кпіну.

*1990*

Ці тысячы вёрстаў,
ці некалькі крокаў
Адолены — і за плячыма,
Пачатак дарогі —
ад родных вытокаў,
Дзе маці-калыска — Радзіма.

Душа, чым далей ад Радзімы,
ад дома,
За марамі ўслед адлятае,
Тым больш настальгічна,
нязменна,
свядома
Да родных вытокаў вяртае.

*

Ілля скончыў школу,
юрфак за плячыма,
Шчаслівец — працуе юрыстам.
Хоць скокнуць вышэй
галавы немагчыма,
Лічыў сябе максімалістам.

У свет прававедаў
адчынена века,
У мудрую скарбніцу нацый.
І ён літаральна —
правы чалавека
«Высмоктваў» з усіх дэкларацый.

«О, я маю права!» —
магічныя словы.
Ілля ведаў кошт свайму праву —
За права ўварваць
ён валтузіць гатовы
За грудзі жаццё і дзяржаву.

А тое, што ёсць
у жыцці пастаянна
Не толькі правы — й абавязкі,
Хаваўся за жарты,
адказваў туманна:
«Дык гэта ўсё бабіны казкі».

З уласным сумленнем
ён вёў паядынак,
Паклаўшы яго на лапаткі.
Натхняўся дэвізам
нямногіх адзінак:
«Кар'ера — вышэй роднай маткі!»

*

Не склалася штосьці ў жыцці,
не збылося,
За вокнамі май — сэрца ў лютым.
Штодзённа быльнёг
у жыццёвым пракосе,
Штоноч — не душа, а пакуты.

Ці д'ябал заблытаў усё,
ці Ўсявышні,
Ці наменклатурных аблога?
«Я тут не патрэбен нікому,
я — лішні,
Скрывілася лёсу дарога...»

Ад думак такіх
адмахнуцца няпроста,
Хоць лоб расхвашчы, хоць маліся.
Яны да Іллі, як смала,
як кароста,
Прыліплі, у ім прыжыліся.

Жыццё — не жарэбчык,
не схопіш за грыву,
Не падпарадкуеш падзеі.
Туман бессэнсоўя
глынуў перспектыву.
Свет — клінам, крыж-накрыж надзеі.

Ён выйце шукаў
мітусліва, нервова,
Ледзь нёс крыўдай створаны клунак.
Ды той, хто разгублены,
той памылкова
Знаходзіць душы паратунак.

О, сцежка памылак,
амбіцый дарога —
Гарчэй самых горкіх урокаў.
Адводзіце ўбок вы
ад шляху прамога,
Далёка ад родных вытокаў.

Памылак трагічных
няўмольныя краты
Чакаюць нябачна і грозна.
І толькі пасля
беззваротнае страты
Угрыз бы за локці — ды позна.

*

Ах, гэта ўжо «шлюб па разліку» —
кар’ера...
Ілля з кар’ерызмам —
адно, спарышы.
Для хлопца кар’ера —
ікона і вера,
Па сутнасці ж гэта —
хвароба душы.

Хоць ісціна шчыльна
хлуснёю спавіта,
Ды ўсё-ткі, яна —
па жыцці ля руля.
А тое, што белымі ніткамі шыта,
Стракаціць у вочы,
прыкметна здаля.

Звычайнасць і роўнасць з другімі —
злавала,
Дый самаўлюбёнасць
душу абжыла.
Хоць рос ён на працы —
а ўсё было мала.
І сквапнасці крыўда
мацнела, расла.

І думкі, якія цяклі крывабока,
Мацней нахілялі
душы перакос.
Ён, як і задумаў,
ад родных вытокаў
У бок «дэмакратый»
кіруе свой лёс.

Зямля, што яго ўзгадавала —
няміла,
Ён бег, як сябе суцяшаў,
з-пад замкоў.
Ён плюнуў у студню,
якая паіла,
Мінуламу здрадзіў,
зняважыў бацькоў.

*

Ілля ўсе паперы
аформіў «галопам»,
Сабраў ліхаманкава
сціплы багаж.
Нарэшце збылося —
замежжа, Еўропа!
Ён дыхаў свабодай —
харызма, кураж!

Раскоша фасадаў!
Шыкоўныя крамы!
Кафэ, казіно,
рэстараны — штокрок.
Чужая гаворка,
шматквецце рэкламы
П'янілі душу,
зачароўвалі зрок.

Для многіх, звычайна,
канчаецца казка,
Як толькі канчаюцца
грошы ў жыцці.
— Гатэлі? Кафэ? Казіно? —
калі ласка!
Абноўкі? Начныя уцехі? —
плаці!

Усіх не злічыць,
не адведаць прысмакаў
Й «грашовым мяшкам»,
што жыруюць на ўра.
А што, калі грошай,—
як кот той наплакаў?
Ні працы няма,
ні кала, ні двара.

Мацней на Іллю цісне думка,
з каторай,
Хоць сорам прызнацца,
з’яднаўся даўно:
«А дома жылося-былося не горай —
Ці ж там рэстаранаў няма,
казіно?

І там, як і тут,
сонца кожнаму бачна,
Жыццё калярова пульсуе, гудзе...»
Успомніў Радзіму Ілля,
дзе няўдзячна
Паводзіў, хоць жыў
нібы рыба ў вадзе.

Што ж, рана ці позна
кладзецца на шалі
«Учора» і «сёння»,
падзенне, узлёт...
«Заначка» — уласныя «еўрыкі» —
талі,
І ладзіў пратэсты
падцяты жывот.

У пошуках працы
прыцьмянелі мары,
Ніхто не працягваў
падтрымкі руку.
Ілля прававедам быў —
гуманітарый,
А тут і свае —
«на галодным пайку».

І недасканалае веданне мовы,
І, як тут казалі,
драўляны дыплом,
І «іхні» закон выжывання суровы,
Ілля адчуваў —
сталі ў горле калом.

Раскрыліся вочы
на многія рэчы —
Ты свой на Радзіме сваёй.
Толькі там!
І ставілі крыж на надзеі сустрэчы
З людзьмі без Радзімы,
такімі, як сам.

Шукальнікі шчасця
свой дом нелюбімы
Узносяць цяпер
хмарачосаў вышэй.
І кажуць скрозь боль,
што адзінай Радзімы,
Як роднае маці —
няма даражэй.

У пошуках шчасця
ёсць штосьці ад спорту —
Камусьці шанцуе,
а некаму — не.
І ўсё ж эмігранты —
не першага сорту,
Яна, другасортнасць,
адзінкі міне.

І тыя адзінкі,
                    займеўшыя працу,
І грошы, і кут,
                    што сяк-так прыхінуў,
Употай, ды моляцца
                    першаму шанцу,
Які б іх да родных вытокаў вярнуў.

І шанец той стаў
                    падсвядомай патрэбай:
— Назад!
У мінулае!
Толькі туды!..
І жолуд, адною прарошчаны глебай,
У глебе другой
                    будзе жыць не заўжды...

Ілля абураўся:
— Чаго я тут? Дзе я?
Ці зможа тут сэрца прыжыцца?
Наўрад!
І мара,
          і мэта,
                    і супернадзея
Адна засталася —
                    вярнуцца назад!

Каб колісь чытаў
                    у «страшылках» шматтомных,
Што ён дажывецца
                    да чорнага дня,
Калі прыбрыдзе
                    у прытул для бяздомных,
Каб там заначлежыць,
Сказаў бы: — Хлусня!

Ды я — самы-самы!
Ды я — маю права!
Свабода!
Правы чалавека!
Ды я!..
І ўсё-ткі сустрэла яго неласкава
Чужая дзяржава —
чужая сям'я...

А раптам крутнецца
жыцця каляіна,
Скіруе наўзлёт,
не пакіне ў бядзе,
І паразумнеўшага
блуднага сына
Да родных вытокаў —
дамоў прывядзе.

*

Для іншых замежжа —
як маніякальнасць,
Палоніць пачуцці,
атручвае кроў.
Замежжа — не казка,
замежжа — рэальнасць,
З праблемаў —
не толькі са «шведскіх» сталоў.

Замежжа працуе
ад ранку да ранку,
І там не даецца нішто задарма.
А дома, дзе сэрцам
пачуў калыханку,
І роднай зямлі сваёй —
лепей няма!

На жаль, гэта ўсё разумеюць —
ды позна
Шукальнікі райскай
замежнай маны.
Жыццё іх карае
няўмольна і грозна —
Яны сябе самі
караюць — яны!

І плачуць, і стогнуць
па роднаму краю —
Без родных карэнняў
не жыць і галлю.
І слёзы няўцешныя,
слёзы адчаю
Сцякаюць нягучна
ў чужую зямлю.

*2010*

Як добра ў маленстве было,
хоць абклала нястача,
Хоць голад душыў дзень і ноч,
паглынаючы сілы,
Хоць холад пранізваў наскрозь —
рызманы ж — не адзенне,
Хоць рэдка гаіліся збітыя босыя ногі.

Затое маленства штодня
свет па-свойму ўспрымала,
Маленства ніколі
не бачыла чорнае фарбы,
Яно каляровым было
сярод дзён чорна-белых
І верыла свята, што дні маюць
колер вясёлкі.

Пра многія з'явы жыцця
яно й вухам не чула,
Таму не піло сваім сэрцам
атруту пазнання,
Таму не баялася кожнага
новага ранку
І кожнага новага дня —
ён жа быў каляровы.

Адкуль было ведаць маленству...
Нашто яму ведаць?!
Так мала адпушчана Богам
ружовасці гэтай,
Так многа для кожнага лёсу
пакутаў і болю...
Ружовасці кропля,
а чорнага колеру — процьма.

Прачніся, маленства, з усмешкай
на твары нявінным,
Ляці матыльком і купайся
у сонечных промнях,

Пакуль для цябе гэты свет —
каляровае мора...
Паспееш яшчэ наглытацца
пакутаў і гора.

*

Нічога не доўжыцца вечна,
тым болей — маленства.
Яно пралятае імгнення
чароўнаю знічкай,
Яно — як крышталік сняжынкі
на цёплай далоні,
Яно — нібы сон, у якім
можна лётаць без крылаў.

Ідзе чалавек праз маленства
ў жыццёвае мора,
У хвалі-гады — па калені,
па грудзі, па горла.
Глытае салёную, горкую
вадкасць пакутаў,
Якая шпурляе яго,
з галавой накрывае.

І б’ецца, змагаецца з хвалямі ён —
парушынка,
І грудзі сціскае цяжар —
не хапае паветра...
Вярнуцца б у казку назад,
у ружовасць дзяцінства,
На бераг маленства,
ды хвалі назад не пускаюць.

*

Штодзень і штогод аддаляецца
казачны бераг.
І часу, і сіл не хапае
назад азірнуцца...

Адкрыліся вочы на свет,
на людзей, на падзеі,
І сам на сябе чалавек
паглядзеў па-другому.

Дык вось яна — ісціна —
варта расстацца з маленствам,
І ты — ужо частка падзей
і сабе не належыш,
І сееш дабро, а зжынаеш
пакуты і горыч,
І значна радзей прылятае
на вусны усмешка.

Дык што высвятляецца —
сонца стварае і цені,
На свет нараджаюцца людзі,
каб жыць і памерці,
І падаюць недзе
з нябесных вышынь самалёты,
І недзе ляглі параходы
на дно акіяна...

Ствараецца зброя —
не толькі дзіцячыя цацкі,
Ствараецца зброя —
і будуць забітыя дзеці.
Табой, чалавек,
вынаходзіцца новая зброя,
Яе аказалася болей,
чым цацак і хлеба...

Усе пераблытана і —
перавернута намі —
Законы жыцця і адвечная
мудрасць прыроды.
...Чарнобыль, Афган і Чэчня...
Зноў ідзе брат на брата —
І могілкаў колькасць расце,
і яны маладзеюць.

Не дзеці хаваюць бацькоў,
а бацькі сваіх дзетак,
Сівеюць пад цяжкасцю страт
маладзенькія ўдовы,
На вуліцах жах —
аніводнай цяжарнай жанчыны,
Жалобных сталоў стала больш,
чым радзільных адведзін.

Дык што гэта робіцца?
Кроў, як віно, ап'яняе.
Ніводнага дня не праходзіць,
каб кроў не лілася.
Зямлю напаілі мы шчодра
слязьмі і крывёю,
Ды толькі на іх не растуць
ані хлеб, ані радасць.

І ўжо беззаконне — закон,
стала нормай гвалтоўнасць.
Палітык адзін вырашае
лес тысячаў лёсаў.
І ўжо пачынаем баяцца мы
новага ранку
І кожнага новага дня —
ён прыходзіць счарнелы.

*

Мы самі узрушылі
гэтыя мутныя хвалі
І рознаму смеццю
падняцца наверх паспрыялі.
І грудзі сціскае цяжар,
не хапае паветра —
Бывай назаўсёды, знікаючы
бераг маленства...

*1994*

*Каханню і жонцы прысвячаю*

Вусны — як ружы,
Вочы — азёры.
Смех — як крынічка,
Вып’е і хворы.

Бровы — два крылы,
Локаны — хвалі.
Словы ласкавыя
Прычаравалі.

Рукі — пяшчота,
Сэрца — загадка...
Сёння — Таццяна,
Некалі — Татка.

*

Лёгка красуняй
Замілавацца...
Колькі дзяўчыне?
Толькі сямнаццаць.

Звонкі світанак,
Майскія чары,
Ветразь пунцовы,
Светлыя мары.

Сэрца кранае
Подых вясновы.
Свет навакольны —
Толькі ружовы.

Родзіцца кветка
Хутка з бутона.
Цягнецца кветка
К сонцу штодзённа.

Казачны водар
І прадчуванне —
З казачным прынцам
Хутка спатканне.

Хто ж не чакае,
Хто ж не жадае,
Каб закіпела
Кроў маладая?

Хто ж не жадае
Полымя страсці?
Хто ж не чакае
Вечнага шчасця?

*

Хлопец сумуе,
Шчасце шукае.
Сэрца на волю
Ён выпускае.

Лётала птушкай
Сэрца па свеце —
Можа, хто будзе
Хоць на прыкмеце.

Лётала птушкай
Сэрца не мала —
Бачыла многіх,
Ды не кахала.

Кожны сустрэне
Позна ці рана
Тое, што Богам
Наканавана.

*

Сэрцы — шукаюць,
Сэрцы — імкнуцца,
Сэрцы ніколі
Не размінуцца.

Разам ляцець ім
Лётам няспынным.
Стануць два сэрцы
Сэрцам адзіным.

Неспадзявана
Мары збыліся —
Сэрцы сустрэліся,
Лёсы зліліся.

Вочы ў вачах
Раптам расталі,
Нібы малітву
Вусны шапталі:

— Зорачка!
— Месяц!
— Сонейка ўстала —
Я адшукаў цябе!
— Я прычакала!..

Быццам над імі
Хтосьці нягучна
Песню кахання
Пеў мілагучна,

Быццам бы знікла
Усё на планеце.
І засталіся
Двое у свеце.

Сэрца нячутна
Сэрцу казала:
— Я прычакаў цябе!
— Я адшукала!

— Любая!
— Любы!
—Адзіная! Краска!
— Голуб!
— Галубка! Чароўная казка!

Выраслі крылы
Раптам, здаецца.
Недзе унізе
Зямля застаецца.

Недзе Зямля
Міражом застаецца.
Песня кахання
Сэрцам пяецца.

— Родная!
— Родны!
— Пралеска!
— Адзіны!..
Песня кахання
Хлопца, дзяўчыны.

*

Хопіць лунаці
Ім паднябесна.
Трэба й жыццё
Ладзіць сумесна.

Колькі б ні марыць,
Ні мілавацца,
А на Зямлю
Трэба вяртацца.

Тут іх чакаюць
Расчараванні,
Тут сустракаюць
Выпрабаванні.

Век чалавечы —
Не толькі забавы.
Розныя рэчы —
Словы і справы.

*

Колькі ж сумесна
Год «апранулі»?
Дзесяць ці дваццаць?..
Трыццаць мінулі.

Тысячы дзён —
Болей пакутаў.
Трыццаць гадоў
Рваліся з путаў.

З путаў бясхлеб'я,
З путаў бяспраўя,
З путаў бяздом'я,
З сацраўнапраўя.

— Любы, паслухай...
— Слухаю, Татка!
— Хутка у нас
Будзе дзіцятка...

— Будзе дзіцятка?!
Радасць якая!
Што ж па шчацэ
Кропля блукае?

— Дзе потым жыць?..
Вось дык загадка.
Выганяць вон
Нас з немаўляткам...

— Што ты? Не плач!
Знойдзецца выйсце.
Будзе і ў нас
Вугал калісьці...

Хібы жыцця
І павароты...
Песня кахання —
Сумныя ноты.

*

Шчасце прыйшло —
Бог даў дачушку!
Ў сэрцы — святло,
Слёзы — ў падушку.

Не набылі
Вугал жаданы.
Дзе ён спакой
Уладкаваны?

Радасць нясе
Свет гэты боскі.
З ёй пакрысе —
Слёзы, абноскі.

Тысячы дзён,
Дзён паўгалодных,
Жахі, як сон,
Могілкі родных.

Мары і мэты
Гінуць паціху...
І ні прасвету,
І ні прадыху.

*

З першых гадоў —
Смутак, блуканні...
Чуецца зноў
Песня кахання.

— Мілая! О-ой!
Плакаць прыспела?..
— Глянь, што са мной,—
Я пасівела...

— Што ты? То ж снег
Так серабрыцца...
— Кінь ты свой смех!
Мне ж — толькі трыццаць...

— Што сівізна?! —
Сонца ў букеце!
Ты ж, як вясна,
Лепшая ў свеце!..

Песня кахання
Не заціхае...
— Доля ты, доля,
Доля цяжкая.

Доля сляпая,
Доля глухая...
Песня кахання
Не заціхае.

— Любая!
— Любы!
— Мілая!
— Мілы!..
Словы пяшчотныя,
Поўныя сілы.

Як маладосць,
Як ратаванне,
Добра, што ёсць
Песня кахання!

*

Вусны — як ружы,
Вочы — азёры,
Смех — як крынічка,
Гоіць і ў горы.

Бровы — два крылы,
Локаны — хвалі.
Словы ласкавыя
Прычаравалі.

Рукі — пяшчота,
Сэрца — загадка...
Сёння — Таццяна,
Некалі — Татка.

*2000*

Бог справядлівы, а дзеліць няроўна —
Дзе недацісне, а дзе перагне.
У некаторых — паўнюсенька-поўна,
У некаторых — ледзь бачна на дне.

Можа, таму хтосьці мусіць украсці,
Што не ўратуе ад торбы мазоль?
І хоць яно не ў грашах, наша шчасце,
Ды і без іх мы — як голы кароль.

Што тут казаць? Так было, так і будзе,
Нехта — у пекла, а хтосьці — у рай.
Побач з беднотай — заможныя людзі,
Гоцкія з тых, у каго — цераз край.

Што ім спрыяе? Адкуль што бярэцца?
Кажуць цяпер пра такіх — круцізна!
Тут нават чорт не заўжды разбярэцца:
Праўда ў цане ці на хітрасць цана.

Не шыканеш на рубель свой працоўны,
Будзеш скарынку вадой запіваць.
Гоцкіх жыццё працякала шыкоўна,
Ён выскаляўся: — Люблю хіпаваць!

Ён і каньяк каньяком запівае,
Ён і на мяса каўбаску кладзе,
Ён — камерсант (так сябе называе),
Дзе ён, адкуль капітал здабывае?
Можа, і вудзіць у мутнай вадзе...

Нават каб елі з уласнай кладоўкі,
Побач з абноўкамі — дробязь сталы.
Жонка, як лялька,— абноўкі, абноўкі,
Паначапляла на пальцы «брылы».

Самі сабе паддавалі ахвоты
Жонка і муж, як «прадай і купі»,—
Мэбля, шмаццё, «мерседэс-шасцісоты»,
Еш у тры горлы, у тры горлы пі.

Быццам не грошы для Гоцкіх, а смецце,
Што пад нагамі ляжыць на зямлі.
Сыну свайму, да яго паўналецця
Цацку купілі яны — «Жыгулі».

Бацька натхняў: — Самастойным будзь, Рома,
Хочаш, направа, налева круці!..
Ён і да гэтага мала быў дома,
Сцежкай сваёю ішоў па жыцці.

Гнуўся й дагэтуль, як тонкае дрэва,
Кволыя ў глебу карэнні пусціў.
Ну а з машынай круціць стаў налева,
Нават нярэдка начамі круціў.

Вольнаму — воля, а гэтаму «вольна»
Часта высокая кара-цана...
Сына ад Гоцкіх закрылі няўмольна
Грошы, нажыва — нібыта сцяна.

*

Востра ўспрымаюць юнацкія душы
Зло і дабро, нелюбоў і любоў...
Рому з маленства намулілі вушы
Спрэчкі грашовыя — спрэчкі бацькоў.

«Долары», «баксы» — і гэтак праз слова,
Сквапныя мары услых пра мільён.
Рому надзейна, штодня, пастулова
Грошы няволілі, бралі ў палон.

Бацька даваў на кішэнныя траты,
Рому ж наведвала крыўды сляза:
— Колькі я буду залежаць ад таты?
Гэта не грошы — луска, драбяза...

Грошай хоць многа, а болей ахвота,
Рома прыкідваў: — Падацца куды?..
Кажуць, свіння адшукае балота
Там, дзе і кроплі не знойдзеш вады.

*

Ноччу машыны — ля кожнага дома,
«Вольвы», «таёты», карчы «Жыгулі»...
Хлопцы-падлеткі, а з імі і Рома
Дзёрлі з машын тых усё, што маглі.

Фары адкручвалі, колы здымалі,
Магнітафоны, люстэркі, чахлы.
Потым каштоўныя аўтадэталі
На перапродаж ішлі з-пад палы.

Ну, а калі ўжо Раман абзавёўся
З бацькавай ласкі сваім «жыгулём»,
Ён да нажывы, як кажуць, не плёўся,
З форсам ганяўся за доўгім рублём.

Ён не баяўся бацькоўскае звягі,
Хлопцаў развозіў прасейваць двары.
Ён ажно ззяў ад сяброўскай павагі.
Ён стаў галоўным — прызналі сябры.

*

Рома прачнуўся, зяхаючы сонна,
Надта настырна званіў тэлефон.
Ён пачамехаўся ля тэлефона,
Трубку падняў — і адкінула сон.

Сэрца затахкала, сэрца заныла,
Ён разгубіўся, стаяў ледзь жывы.
Гэта ж званіў знакаміты «Гарыла» —
Гонар і зайздрасць усёй пацанвы.

Рома прыйшоў у сябе праз хвілінку,
Страх і разгубленасць гонар змяніў:
— Волат заўважыў, знайшоў парушынку!..—
Рома надзьмуўся — усё ацаніў.

Голас у трубцы гучаў мілагучна,
Нават з павагай — не голас, а мёд:
— Трэба спаткацца, Раман... Калі зручна,
То праз гадзіну... кафэ «Карагод»...

Трубку паклаўшы, Раман цераз сілу
Думкі збіраў, у здагадках блукаў:
Ён хоць завочна, а ведаў Гарылу,
Як жа Гарыла яго адшукаў?

Вось дык загадкавасць. Вось азадачыў.
Быццам дзівосны працягваўся сон,
Рому ж Гарыла і вокам не бачыў,
Дзе, праз каго адшукаў тэлефон?

Ды і не сябар ён, не аднагодак,
Сталы мужчына, прайшоў праз агні.
Ён у мінулым зрабіў многа «ходак»,
Выйшаў на волю — цяпер «на кані».

Ён, як казаў, не сумуе па «зоне».
— Хопіць! Паставіў паўвека на кон!
Перакаваўся! Жыву па законе!..
(Хто для яго напісаў той закон?)

Жыў па законе ці не, а шыкоўна,
У рэстаранах абноўкі «мачыў»,
Меў і адзенне, і «опель» каштоўны
Ды і капейкі, відаць, не лічыў.

Жыў у «мільтонаў» пад носам, пад вокам,
І не дало спатыкнуцца яму,
Бо і яны абыходзілі бокам
Гульні яго — невядома чаму.

І да такога вось аўтарытэта
Рома ішоў: — Ці не сню гэта я?!
...Кожнага вабяць і мара, і мэта,
Толькі у кожнага мэта свая.

*

Рому сустрэла ў кафэ «знакамітасць»
Ветліва, шчыра: — Наш столік вунь там...
Кінь чырванець, пагаворым адкрыта,
Будзем сябрамі!..
Шампанскага нам!

Цяжка Раман пераадольваў ваганні:
— Не разумею, адкуль вы знайшлі...
— Вып’ем шампанскага! Кінь ты пытанні,
Чуткі між намі жывуць на зямлі...

— Чуткі? Якія? — Раман схамянуўся.
— Зноў ты пытанні! Цікаўнік які! —
Раптам Гарыла да Ромы нагнуўся:
— Мы — як дзве кроплі. Браты. Сваякі.

Эх, маладосць! Вам бы з лёгенькай ношай,
Ды па сухому ісці, ды бліжэй!
Прагнеш раскошы, хочацца грошай —
Рызыка трэба і ноша цяжэй!

Рома хацеў штосьці выдыхнуць з жарам,
Ды з субяседніка пёр маналог:
— Трэба прастора, каб здзейсніцца марам,
Ты ж драбязішся, збіваешся з ног.

— Гэта ж «навар»!
— Кінь ты! — хмыкнуў «настаўнік».—
Гэтак і практыку можна згубіць!
Гэткі навар, што рассохнецца страўнік,
Трэба сапраўдную справу рабіць!

— Дзе яе знойдзеш? — паскардзіўся Рома.
Сумна Гарыла кіўнуў галавой:
— Мне-то адна, скажам, фірма знаёма,
Можна пагутарыць — кораш там свой...

Рома падскочыў: — На ўсё я гатовы,
Толькі б падвоіць навару памер!
Зрушыў Гарыла пакутліва бровы:
— Ох, як нялёгка даецца давер...

— Я паўтараю: гатовы на ўсё я!
Бровы Гарылавы зноў павяло:
— Што ж, памажы нам зрабіць сёе-тое...
Рома нябачна трапляў у сіло.

— Хутка з табой кампаньёнамі будзем...
Рому ад гонару кінула ў жар.
— Горы пазрушваем, столькі навудзім,
Ты і не сніў пра сапраўдны навар...

Словы п’янілі, як водар салодкі,
Хітры Гарыла ў душу хлопцу лез:
— Чуў я, Раман, што багатыя продкі
Маюць між іншага і «мерседэс».

— Маюць! — Раман аж заззяў, як люстэрка.
Шыкнуў Гарыла: — Цішэй ты! Цішэй!
Вось і заданне табе, і праверка:
Зробіш мне ціхенька злепкі ключэй.

Потым, з ключамі — усё як па масле,
Раз — і гатова. Машына — у нас!
Ззянне Раманава раптам прыгасла:
— Я не магу зразумець нешта вас...

Будзеце красці машыну? У таты?!.
Хмыкнуў Гарыла: — Ды выплюнь ты жах!
Бацька твой выжыве! Бацька — багаты!
Купіць другую, а мы — пры грашах.

Ты ж паглядзі — у цябе «жыгулёнак»,
Мне нават сорамна — зменіш «каня»,
На іншамарках амаль што з пялёнак
Носіцца розная зелень-фігня.

Ды і прыкінь — гэта ж першая спроба,
Потым — ляжы на лаўровых вянках!
Будзеш, як я,— незалежнасць, асоба!
Ну, кампаньён, па руках?..
— Па руках!

*

Гоцкі схапіў тэлефон, як шалёны:
— Гэта 02? Памажыце! Ало!
Мой «мерседэс»!.. Нумар? Колер? Зялёны!..
Дома... Абедаў... З гадзіну прайшло...

Моўчкі стаяла разгублена жонка.
Гоцкі крутнуўся, са стогнам зароў:
— Панаплядзілі падонкі падонкаў!
Вешаць бы выродкаў! П'юць нашу кроў!..

Гоцкі-старэйшы крычаў, хоць і змогся,
Гоцкі-малодшы «не чуў» гэты крык,
Ён уключыў тэлевізар, улёгся...
Чуліся стрэлы, ішоў баявік...

*

Сумна, балюча —
і ўсё гэта брыдка,
Вірус глыбока
пусціў карані.
З дзённіка выкрэслі «двойкі»,
са сшытка —
Вучань не паразумнее. Ні-ні!

Правіць душу —
далікатная праца,
Душы ж падлеткаў —
як сонечны верш.
Часу каноны
не хочуць мяняцца,
Трэба мяняцца —
грамадству найперш.

*2000*

Жыццё няўмольна прабяжыць —
Не затрымаць.
Застаўся час, але не жыць,
А дажываць.

Наперадзе — падзей парад,
І свет надзей,
Ды азіраюся назад
Усё часцей.

Няўжо дзяржаўнасці каюк
Ад пугаўя?
Твайго я чую сэрца стук,
Зямля мая.

Было тут вольна між дубоў
Лугам раллі.
Ад розных ягад і грыбоў
Лясы гулі.

Маглі натхнёна працаваць
Тут, як нідзе,
Умелі сэрцам спачуваць
Любой бядзе.

Былі без клямак дзверы тут
І без замкоў,
Ды напаткаў мой родны кут
Бальшавікоў...

Цячэ, на месцы не стаіць
Рака падзей.
У іншым часе мушу жыць,
Без тых людзей.

Без той пяшчотнай дабрыні —
Зусім адзін.
Куды ні кінься, ні зірні —
Усюды — клін.

Няма дубоў, на звод пайшлі —
Калгас памог.
Растуць на колішняй раллі
Палын ды мох.

Замкі, завалы на дзвярах,
Не дом — браня.
Жахліва днём, уночы — жах,
Дзе ж дабрыня?

Бяда чужая — не бяда,
Бліжэй сваё.
І кроў ліецца, як вада,—
Між нас звяр’ё.

Ад працы адвучылі нас
За сацгады.
І зноў нас цягнуць у «калгас» —
У нікуды.

*

Глядзець наперад быў бы рад,
Нібыта Ной,
Ды свет закрыў «старэйшы брат»
Сваёй спіной.

Хоць грэе нас, як Боскі дар,
Любоў радні,
Малодшы брат — не гаспадар —
Калені гні.

Тут нехта надта нахітрыў —
Во прахіндзей!
А Бог жа роўнымі стварыў
Усіх людзей.

Даў рукі, ногі, галаву,
Зямлю бацькоў.
І з гэтым многія жывуць
З глыбінь вякоў.

Жывуць! Бо іхняя радня
Жыве праз плот.
Жывуць! Бо не глядзяць штодня
Суседу ў рот.

Ні перад кім там чалавек
Не гне спіну,
Бо кожны ведае спрадвек
Сабе цану.

*

Душа ў адчайнай барацьбе
Сама з сабой:
Няўжо мы ворагі сабе?..
Лёс губім свой.

Нас не мяняе мудры час,
Хоць трэсні ў лоб.
Адзін разумны сярод нас,
Ды не Эзоп.

Рэвалюцыйны запавет,
Як летам град.
Наперад час, наперад свет,
А мы — назад.

За нафту нейчую і газ —
Каленьмі ў гразь...
І зноў нас цягнуць у «калгас» —
У твань залазь.

Няўжо згадзіліся мы ўсе —
Жыццё ў адхон?
Няўжо мы ў сэрцы не нясем
Жалобны звон?

ГУЛАГі, краты, Салаўкі,
З касцей зямля —
Тварэнне «бацькавай» рукі —
Рукі з Крамля.

Было ж не ў сне, а на вайне —
Лілася кроў.
І слалі ў цынкавай труне
Бацькам сыноў.

Афганістан не навучыў,
Не засцярог —
Крывавы дождж тады змачыў
І наш парог.

І вырашаў «старэйшы брат»
Усё за нас:
Каго ў кішэнь, каму — пад зад,
Хто — пад абцас.

*

Пішу, пішу адкрыты ліст —
Радкі надзей.
Не, я не нацыяналіст —
Люблю людзей.

Зірну на захад і на ўсход —
Усіх люблю,
Ды больш люблю з дзіцячых год
Сваю зямлю.

Хачу, каб не была яна
Чужым шчытом,
Бо сёння зноў паўзе мана
У кожны дом.

І маці нават, хоць дзіця
Забіў душман —
У горы
І ў канцы жыцця
Прымае зман.

Не на гульню,
Не на парад
(Чакай вясцей),
А ў пекла слаў «старэйшы брат»
Чужых дзяцей.

І хоць прайшло не мала год
І знік ЦК,
І сёння палец дай у рот —
Бывай рука.

*

Багата ў нас азёр, бароў,
Хлеб з соллю ёсць,
Адкрыта сэрца для сяброў —
Нам кожны — госць.

Сапраўдны сябар кроў не ссе
З сяброўскіх ран,
За пазухай не прынясе
Свой камень-зман.

Прыстойны госць — паесць, пап'е,
Спяе — і спаць.
Ён не пачне правы свае
Чужым качаць.

Такіх гасцей, такіх сяброў
Сярод людзей,
Сярод цароў, правадыроў —
Усё радзей.

Хачу гасціць і сябраваць —
І злосць міне,
З любым суседам гандляваць —
І нараўне.

Руплівы птах за год-другі
Гняздо саўе...
У кожнай рэчкі берагі —
Заўжды свае.

*

Твайго я чую сэрца стук,
Мая зямля...
Зноў пад сабой ссякаем сук,
Каб жыць з нуля.

А час ляціць, жыццё імчыць,
А мы стаім.
Праспанага не надтачыць,
Хоць плач па ім.

Мы — па-за часам, за мяжой
Свядомых спраў.
За што нас галавой чужой
Бог пакараў?

Цяжар на сэрцы душыць, гне —
Сцішай хаду.
Ісці наперад цяжка мне —
І ўсе ж — іду...

*1989*

Раптоўна стала ціха на Зямлі,
Спыніліся і справы, і забавы.
Тэлеканалы працу пачалі
Не, як заўжды, а з экстрэннай аб’явы.

Здавалася, што й сам тэлеэкран
За кожным словам плакаў непрыкметна:
«Пайшоў з жыцця апошні ветэран
Жахлівай той вайны — Другой сусветнай...»

Хто? Дзе? Калі? Якой дзяржавы сын? —
У кожным сэрцы трапяталі словы.
Як прозвішча? Няўжо ён быў адзін?..
А ў слове «быў» — заўсёды сэнс суровы.

Не стала пермоўжцы... І Зямля
Застыла ў нейкім сне зачараваным,
Як быццам жыць збіралася з нуля,
Расстаўшыся з апошнім ветэранам.

Свет аб’яднаўся гэтай навіной
І з болем зразумеў маштабы бедства —
Так, быў ён сынам, толькі не адной
Дзяржавы — сынам чалавецтва.

...Каб не патухла памяці святло,
У будучыню зазірнуць не шкодзіць.
Было гэта... у невядомым годзе,
Дакладней, будзе... Лепш бы не было.

*

Свет новы нараджаў у сэрцы кожным
Далёкі сорак пяты, пераможны.
Трыумфаваў і плакаў сорак пяты
Ад перамогі і вялікай страты.
І хоць святло і цень ляглі на шалі,
Усенародна свята адзначалі.

І радавацца ад чаго было —
Павержана бязлітаснае зло.
Ідзе жыццё рытмічна й арытмічна,
А гэты дзень святкуюць гістарычна,
Вялікі дзень Вялікай Перамогі —
Не зарастаюць памяці дарогі.
Вайна далёка, у мінулым дзесьці,
І з кожным годам ветэранаў шэсці
Мацней сумленным людзям сэрцы грэюць,
Ды толькі шэсцяў тых рады радзеюць,
Як пасля доўгай той вайны праклятай,
З якой не ўсе вярнуліся дахаты.
Звані, Сусвет, няспыннымі званамі —
Ўсё меней ветэранаў паміж намі,
Ідуць яны ў апошнюю дарогу,
Свет сірацее — сэрцы б'юць трывогу.
Надыдзе дзень — і нікуды не дзецца,
Калі на ўсёй планеце застанецца
На ўсе народы і на ўсе краіны,
Адзін! Апошні ветэран!
А-дзі-ны!
Ці будзе ён заўважаны, ці не?
Ці чалавецтва гэта праміне
І знікне ён, апошні, непрыкметна,
Як першы паўшы на Другой сусветнай?
А быў ён, першы, на франтах ці ў тыле,
І спіць у першай на вайне магіле...
Як гэта важна ў мітусні штодзённай,
У грамадзе сусветнай шматмільённай
Вялікі подзвіг шанаваць нязменна
І ведаць пераможцаў паіменна,
Бо Перамога — вечная святыня,
Святло яе не згасне, не астыне.

*

О, колькі сонца над зямлёю сёння!
Якое неба — сінява, бяздонне!
Які прастор, размах палёў жытнёвых!

А колькі гарадоў і вёсак новых!
Жывуць тут мірна і працуюць плённа,
Упэўнена, духоўна і натхнёна.
Не ганарыцца гэтым немагчыма,
Бо гэта — наша светлая Радзіма!
Паспелі адрадзіцца ўсе і ўсюды —
Парыж даўно ачысціўся ад бруду,
Які зваліўся з ботаў акупантаў,
І зноўку у Парыжа выгляд франта.
І Лондан, дзякуй Богу, не загінуў,
Адбудаваўся з попелу й руінаў,
Змагаўся, як салдат сапраўдны, мужна —
І зноў жывуць тут незалежна, дружна.
— Ура салдату-вызваленцу! Слава!
Не стрымлівала радасці Варшава,
І памятала, як ад шчасця плакаў,
Уратаваны ад знішчэння Кракаў...
Напэўна, часта сняць часы ліхія
Адноўленыя Будапешт, Сафія,
І прыгажуні Прага й Брацiслава —
І зноў салдату-вызваленцу — слава!
Тады салдату выпала на долю
Любой цаной вярнуць Еўропе волю...
Жывуць так вольна, без ярма на шыі
І ў Беларусі нашай, і ў Расіі,
Ва ўсёй Еўропе і за акіянам —
Паклон за гэта нізкі ветэранам,
Хто, без вагання, смерці выклік кінуў,
І памяць тым, хто на вайне загінуў.

*

Дзень Перамогі крочыць па Зямлі,
Наперадзе — франтавікі сівыя.
І побач з ветэранамі ішлі
Штогод сябры іх, вечна маладыя.

І сёння побач з імі тыя тут,
Каго спаліў вайны смяртэльны подых,
І сёння кветкі й велічны салют
У гонар іхні — і жывых, і мёртвых.

У гонар тых падлеткаў і жанчын,
Хто ў тыле фронту ладзілі падмогу.
Усе тут сёння крочаць — як адзін,
Хто набліжаў святую Перамогу.

Тут сёння, ў гэтым шэсці ўвесь Сусвет.—
Канцлагераў шматлікія ахвяры,
Тут спаленыя крылы светлых мэт,
Забітыя душы юнацкай мары.

У шэсці тут — сумленне ўсіх краін —
Даніна незабыўнай той нягодзе,
І той, апошні, чалавецтва сын,
І страта страт... у невядомым годзе.

Ідуць рады былых франтавікоў,
Хоць засталося іх не вельмі многа.
З паклонам чалавецтва з двух бакоў,
За імі — бессмяротная дарога.

*2010*

На ўсё адказ шукаю я адчайна,
Куды ні глянь — сядзіць на тайне тайна,
Ды зверху новай тайнай паганяе —
І гэта ўсё хвалюе і натхняе.
Таўкуцца дні з начамі, нібы мошкі,
І ўжо не разумееш ані крошкі:
Ці ты прысніў дзівосныя праявы?
Ці сапраўды былі такія справы?
Сярод шматлікіх таямніц-загадак
Быў незвычайны і са мной выпадак,
А можа і прыснілася начамі?..
Я лепей раскажу — мяркуйце самі.

*

Нарэшце я ўзляцеў на творчай хвалі —
Мяне ў Саюз пісьменнікаў прымалі!
Павёў свайго Пегаса я на Раду,
Каб паказаць і спераду і ззаду.
А паказаць было каму, бо ў зале —
Пісьменнікаў, як п’яніц на вакзале.
І кожны з іх — гурбяк, не лыкам шыты,
І кожны класік — самы знакаміты,
У кожнага пад шапкай — не даўбені...
Я ледзь стаю, затрэсліся калені,
Баюся, што засядзе ў горле слова.
Пачаў і мой Пегас дрыжаць нервова —
Яму б на волю, даць прастору марам,
А тут — курцы і цягне перагарам.
Ды што рабіць?
Відаць, у кожным часе
Пакутуюць Тарасы на Парнасе...

*

Старшынствуючы паглядзеў наўкола:
— А гэта што з табою за жывёла?
А-а! Гэта, пэўна, птушка — бачу крылы,
Хоць галава і хвост, як у кабылы.

Другі — сівы, задумлівы, высокі,
Прамармытаў, надзьмуўшы важна шчокі:
— Падумаеш, здзівіў!
Знайшоў істоту!
Я на такой пагойсаў у ахвоту.
У нашым жа раёне, у Лагойскім,
Вось гэтая істота стала свойскай —
На ёй сяляне возяць гной і дровы...
Тут хтосьці крыкнуў:
— Пень ты безгаловы!
Ты ж праціраў штаны на дохлай клячы,
А мы тут прыгажосць такую бачым!
Але сівы прыўзняў густыя бровы
І агрызнуўся:
— Сам ты безгаловы!
Ты папракнуў мяне канём бязродным,
Але й на клячы можна стаць народным.
Наступны з «гурбякоў» — паэт Кічлівы —
Праз губы праслінявіў ганарліва,
Узняўшы рукі плаўна, як паненка:
— А я і без каня, як Еўтушэнка!
Як Вазнясенскі, я стаю на сцэне!
Бо я даўно, ад нараджэння, геній!
Зноў крыкнулі:
— Не трэба самазванцаў!
Тумань мазгі ты жонцы ці каханцы,
А мы сабаку з’елі без прыправы,
Хоць дзве адразу не займалі лавы...
— Калегі! Ціха! — Бражкін просіць слова.—
Ну хоць бы растлумачыў хто талкова,
Што за стварэнне?
Што за звер чартоўскі?..
Гляджу — устаў вядомы ўсім Гархоўскі:
— Каго я бачу — вучняў першакласа?
Вы што, сябры? Не бачылі Пегаса?
Дык вось чаму буяюць рыфмаплёты!

Часцей падзенні — і радзей узлёты,
Часцей таптанні — і радзей разбегі...
Забранзавелі.
Сорамна, калегі!..
Ускочыў Цыс — паэт таленавіты,
Які не раз і ні за што быў «біты»:
— Ды тут, у зале гэтай ганарыстай,
Палова пела песні камуністам,
А потым дружна гэтая ж палова
Гарланіла:
«Ура! Перабудова!»
Былі ў ЦК, а сёння ў дэмакратах —
Па ветры жвава круцяцца на пятах...
— Заткні сваё хлябала, хрэн пярчоны! —
Імгненна агрызнуўся Беззаконны.
Старшынствуючы абсякае кпіны
І лупіць кулаком каля графіна:
— Ды хопіць абмываць чужыя пяты!
Навошта ж мы выносім смецце з хаты?
А ты, брат Цыс, хоць малады, ды ранні,
У нас чарга па прэміі і званні —
І прыкусі язык...
А Цыс сярдзіта:
— Так... Тут стаіць для выбраных карыта...
Чарга. Заслугі — словы ўсе пустыя,
Вядома ўсім — рука руку тут мые...
Гархоўскі кажа:
— Мы тут заначуем!
Вось кандыдат — давайце абмяркуем,
Ды падтрымаем рыфму маладую,
Ды павіншуем...
Я — рэкамендую!
Пачуўся голас:
— Ён мне падазроны!
І нос нятворчы нейкі — не чырвоны,
І пад вачамі не «мяхі», а гладка —
Тут асцярога трэба і аглядка...

Наступны голас адазваўся строга:
— Я цалкам згодзен: трэба асцярога!
Ёсць важкая прычына для адказу —
Я, як і кожны, з ім не піў ні разу...
Устаў чырвонатвары і лупаты
Паэт, які назваўся Плагіятам.
Абраў ён гэткі псеўданім дзівосны,
Каб прыбяліць булён свой творчы посны.
І вось гаворыць гэты твар чырвоны:
— Ну што вы наляцелі, як вароны?
Няхай дастане і пакажа з сумкі,
Магчыма, памякчэюць нашы думкі.
— Дастань!
— Дастань! — крычаць наперагонкі.
І я дастаў... пацёрты сшытак тонкі,
Хацеў пачаць чытаць у хваляванні,
Ды Плагіят спыняе:
— Кінь старанні!
Хапае ў нас свайго дабра такога —
Не тое ты дастаў!
Пабойся Бога!
І падказаў мне Плагіят ахвотней:
— Ты выцягні што-небудзь... паістотней!
Тут я зачырванеўся і прызнаўся:
— Я да паэм пакуль не дакранаўся,
Таму істотней вершаў — анічога...
Зноў крык і гвалт:
— Ды трэба гнаць такога!
— У нас даўно у горле перасохла!
— Ды каб твая жывёліна падохла!
— Малакасос!
— Такому мала веры!..
З Пегасам падаліся мы за дзверы,
Далей ад залы, дзе гучаць праклёны.
Бывай, Саюз!
Бывай, Парнас хвалёны!

*

Загадка коле, нібы цвік з абцаса:
Няўжо я сапраўды зляцеў з Парнаса,
Бо не ў цане на тым Парнасе слоўкі,
Бо той Парнас распаўся на групоўкі,
І невядома, што там верхаводзіць?..
Ды не!
Жыццё такога не народзіць!
Хутчэй за ўсё, прысніў я сон жахлівы —
І зноў ажыў спакой мой палахлівы.

*1995*

Мы — дзеці не сонца, а ночы.
Хто скажа — ці вернецца дзень?..
У страха вялікія вочы
І ўсёпаглынаючы цень.

Яго не прагнаць адным махам,
Бо жыў шматмільённы народ
Пад страхам нібыта над дахам,
Нібыта пад жудасным гмахам
Амаль што стагоддзе — не год.

За доўгія дзесяцігоддзі
Не меншыўся груз на плячах,
А большыўся, жыў у народзе
Драпежны, пражэрлівы страх.

І людзі баяліся збочыць,
І страх распаўзаўся па іх,
Баяліся вочы — у вочы,
Баяліся думак сваіх.

А цемра — хоць выкалі вока,
А страх людзям сэрцы смактаў.
І толькі аднекуль звысоку
Ці брэх, ці то крык далятаў:

— Зямля — сялянам!
— Фабрыкі і заводы — рабочым!
— Мір — народам!..

Хлусня гэта пахла злачынствам,
І кожны адчуў нездарма,
Што за «пралетарскім адзінствам» —
Галеча, жабрацтва, турма.

І страх адчувалі мільёны,
Баяліся роднай зямлі.
Тады за «шнуры» і загоны
Сялянства знішчаць пачалі.

Жыцця на зямлі не давалі
(А зверху брахаў правадыр),
Людзей ад зямлі адрывалі,
Народы зганялі, ссылалі
Раптоўна, гвалтоўна ў Сібір,

Ажно распаляліся рэйкі...
А тым, хто прыціх у цяні:
Рабочым — адныя капейкі,
Сялянам — адны працадні.

Жылі селянін і рабочы —
Ні крок, ні паўкрока ў бакі...
У страха вялікія вочы,
У новай улады — штыкі.

*

Адзін, нават самы рашучы,
Не здольны рашыць усяго...
Адольфы, Іосіфы, Дучэ —
Ахвяры дыктату свайго.

Дыктат — гэта краху прадвеснік,
Ды, часам, адцягваўся крах,
Бо быў у дыктата намеснік —
Надзейны, правераны страх.

І страх не сустрэў перашкодаў,
Калі з дня на дзень, з году у год
Бязлітасны «бацька народаў»
Знішчаў свой уласны народ.

Дзяржаву трымаў пад абцасам,
З дзяржавы вяроўкі круціў
І ёй кіраваў, як калгасам,
Якіх наствараў, напладзіў.

Ды лопнула гнойная скула,
Хвароба жахлівых гадоў.
І гэтае ліха мінула —
Сканаў уладальнік вусоў.

Пракляты ахвярамі тройчы,
На кожнае мове — праклён...
У страха вялікія вочы —
А што калі вернецца ён?

А што, калі новыя хвалі
Усіх нас крывёй заліюць?
Бо сёння і Гітлера хваляць,
І Сталіну гімны пяюць.

*

Трашчэлі мазгі ад здагадак:
Ці праўда, ці гэта я сню,
Што «канстытуцыйны парадак»
На танках вязуць у Чэчню?

Вязуць, каб ад вольнай дзяржавы
Не збег ні адзін чалавек...
А потым ад бойні крывавай
Жахнуўся шмат бачыўшы век.

І страшна ад думкі-маланкі —
Куды нас дарогі вядуць?
А што, калі нечыя танкі
«Парадак» і ў нас навядуць?

А што, калі нехта ўбачыць
І ў нас вальнадумства грахі
І сілай пачне перайначваць
І нашы «нізы», і «вярхі».

А робіцца гэта ўсё проста —
Пад страхам «сумы і турмы»
Мы буферам сталі, фарпостам,
Ахвяры, заложнікі мы.

Фарпост — вось і ўся незалежнасць,
Ні крок, ні паўкрока ў бакі...
Няўжо гэты лёс — непазбежнасць?
Няўжо гэты страх — на вякі?

*

Напэўнае, чулі і дзеці,
Што моц здольна страху служыць —
Хоць слон самы дужы у свеце,
А ён перад мышшу дрыжыць,

Раве перад ёю, трасецца,
Аж вочы вылазяць на лоб.
Ад шэрай і мокрага месца,
Каб слон толькі чхнуў, не было б.

Ды не! Слон на мыш не наскочыць,
Хоць бі па хвасце бізуном...
У страха вялікія вочы —
І скаліцца мыш над сланом.

*

Мінулае вучыць, прарочыць,
А мы — як сляпое дзіця.
У страха — вялікія вочы,
І ён — разбуральнік жыцця.

Заўжды чалавек быў няшчасны,
Хто ценю баяўся свайго.
А чорт не такі ўжо і страшны,
Як, часам, малююць яго.

Таго не пужаюць дарогі,
Хто выбраў свой шлях, далягляд,
На сонца глядзіць, не пад ногі,
Наперад глядзіць — не назад.

І тыя жыцця не баяцца,
Хто здольны і ў цёмнай начы
Над страхам сваім пасмяяцца,
Прагнаць яго, перамагчы.

Былое — памылка чужая,
Мінуламу — мы не указ.
Былое няхай не пужае,
А вучыць, спалоханых, нас.

Гавораць: — Што хочуць, то й бачаць,
Хто — ноч, а хто — мора святла...
Гісторыю — не перайначыць,
Якаю б яна ні была.

*

Не, страх —
ён далёка не штучны.
То ўдалечы ён,
то — за крок.
А людзі —
прылежныя вучні,
Іх гены
засвоілі ўрок.

Вунь гром —
з Уладыкам гутарыць.
Далёка!
Які ўжо тут страх?
Маланка ж —
знянацку ударыць —

Не тое, каб збегчы,
 прышпарыць,
А часу не будзе на «Ах!»
Сярод успамінаў, бяседаў
Сівых ветэранаў вайны
Гучала:
— Хто страху не ведаў —
Найперш палягалі яны...

Бясстрашных няма —
 ёсць гатоўнасць
Імкнуцца да мэты —
 праз страх.
А смеласць
 праз страх — рызыкоўнасць
І самаахвярнасць —
 праз страх.

Страх стрымлівае
 звышадчайнасць,
Бо й рызыка
 ломіць вясло.
Страх студзіць
 экстрым-безагляднасць,
Ды лепш бы
 яго не было!

*1999*

Дзіўная рэч — ад пасады, прафесіі
Можна залежаць не толькі ў жыцці.
І пахавальныя нават працэсіі
Маюць ранжыр — дзе тут праўду знайсці?

Ёсць — мнагалюдныя —
многачынушныя,
Тут — і вянкі,
і натоўп, як сцяна.
Ёсць і бяздушныя —
звышпаказушныя —
«Вольвы», «таёты» вакол — круцізна.

Сёння працэсія крочыць звышсціплая —
Кветкі — у слоіку, два-тры вянкі,
Жонка нябожчыка, з гора асіплая,
Побач — яго нестарыя бацькі.

Следам брыдзе «аднадумства» вясковае,
Хто здольны кратацца — жменька ўсяго.
Людзі, якія паменшыць гатовыя
Гора любое — і дзеляць яго.

Спераду ў кузаве, хвояй аздобленым,
Троссе нябожчык у чорнай труне...
Лёс Беларусі, бядой перароблены,
Плач і жалоба — яго не кране.

Гэту бяду «памяншалі» няпраўдаю,
А расцягнулі яе на вякі.
Праўду душылі хлуслівай блакадаю:
«Дрэвы хай гінуць — ратуйце сукі!»

Бог ім суддзя!..
Наглытаемся гора мы,
Многа разоў пабрыдзём за труной,
Будзем аплочваць і душамі хворымі,
І нашым будучым — страшнай цаной.

*

Могілкі блізка ад вёскі засмучанай —
Вунь ён, пагорак, і дрэваў чубок.
Могілкі... вёска...
Бядою атручаны,
Туга заблытаны лёсу клубок.

Шмат пакаленняў у смутку таўпехала
Гэту адлегласць — туды і назад...
Колькі вяскоўцаў сюды пераехала!
Больш чым у вёсцы жыве сёння...
Шмат!

Могілкі... вёска...
Адзінае цэлае,
Ператвараецца ў сон мітусня.
Вечныя колеры — чорнае, белае
З кожным штодня — да апошняга дня.

*

Знялі з машыны труну тую чорную
І асцярожна па свежых камах
Моўчкі паднеслі да долу прасторнага —
З гакам капалі — сялянскі размах.

Цяжка нябожчыкам зваць расквітнелае —
Твар малады, а гады — маладзей.
Колькі злягло ў гэта сэрца скалелае
Згаслых пачуццяў, імкненняў, надзей...

Вось старшыня сельсавета завучана
Слова сказаў: — Не паможаш бядзе.
Спраўна, адвечна спраўляюць заручыны
Смерць і жыццё — і не дзецца нідзе.

Перад хваробай і долам — мы роўныя...
Шмат чаго вылушчыў рот старшыні,
Ды не сказаў ні гугу пра галоўнае —
Мусіў працягваць блакаду хлусні.

Як і чаму ратавальнай іконаю
На пахаванне прыбыў старшыня?
Сёння ж хаваюць не шышку раённую,
Ды і нябожчык яму — не радня.

Просты адказ: кіраўніцтва — за працаю!
З верху да нізу спусцілі загад:
«Выбіць з мазгоў у людзей радыяцыю!»
Вось і на могілках сёння дагляд.

Той, хто памёр, сустракаўся з рэактарам,
Сёння — разлік, хоць раві тут раўма.
Многа пазней ён бы стаў «ліквідатарам»,
Сёння — такога і слова няма.

Сёння пра гэта й шаптаць забаронена,
Хоць беспрасветна абклала бяда,
Хоць пагражае паветра, гародніна,
Поле жытнёвае, ў студні вада.

Сёння хварэць абы-чым не дазволена —
Ад радыяцыі — смех паміраць.
І медыцына пісала зняволена —
Смерцю Чарнобыль не здольны караць!

Вось і ляжаў у труне «прастудзіўшыйся»,
А па-сапраўднаму — злёг у труну,
Першых, гарачых часцінак «напіўшыся»,
Той, хто не ўдзячнасць займеў, а ману.

Зноў сутыкнуліся праўда з няпраўдаю —
Гінуць нявінныя — страсці кіпяць...
Фёдар — ахвяра, бо цэзію, радыю
Сэрца падставіў — пражыў дваццаць пяць...

Загрукацеў малаток, забіваючы
Ў века цвікі,— як апошні салют...
Лёс, не заўжды справядліва караючы,
Зноў не таму аб’явіў свой прысуд.

Хутка Таццяну абклала бяздонная
Багна пакутніцтва, страты дрыгва.
Лёсу капрыз — нібы бура шалёная:
Жонка — учора, а сёння — ўдава.

— Вось і адна...— Сэрца болем азвалася.
Боль яшчэ большы сказаў: — Не адна...
Шчасце мінула — яна ж рыхтавалася
Доўжыць жыццё — «ў палажэнні» яна.

*

— Горка! — крычала застолле падпітае.
«Горка» — на ім пацалункаў пячаць.
«Горка» адвечнае і знакамітае
Будзе на кожным вяселлі гучаць.

Фёдар з Таццянай амаль не садзіліся —
«Горка» плыло над сталамі, гуло.
І маладыя усмак маладзіліся,
Вуснам не горка — салодка было.

Іхняе горкае ліха жыццёвае
Блізка было.
А пакуль што яны
Песню кахання сумесную, новую
Сэрцамі пелі ў абдымках вясны.

Дні замільгалі хвілінамі хуткімі,
Дні, як блізняты, шчаслівыя ўсе...
Раптам дыхнула трывожнымі чуткамі,
Быццам Чарнобыль пакуты нясе.

А неўзабаве павестка дасужая
Федзю паклікала ў ваенкамат.
І пакацілася доля замужняя —
Доля бязмужняя — у заняпад.

Мужа схапілі, яе не спытаўшыся,
Для ваенкома: сям'я — не сям'я.
Цяжка адной, з гаспадаркай застаўшыся,
Ну а цяжарнай — цяжэй удвая.

Фёдар праз месяц вярнуўся «скамечаны»,
Не, не вярнуўся — прывезлі яго.
Сіл не было, пажаўцелы, прыгнечаны —
Ператрымалі ля пекла таго.

Фёдар згараў на вачах, прымірыўшыся
З тым, што спісалі яго дактары.
Ён і ляжаў як «наскрозь прастудзіўшыйся» —
Ёсць жа загад, што спусцілі згары.

Час, нібы плынь небяспечна-бурлівая,
Лодку жыцця разаб'е — хоць чыю...
Доля шчаслівая і нешчаслівая —
Кожны сустрэне — толькі сваю...

— Федзечка... Федзя...
Да скону — ніколі мы
Разам не будзем, хоць сэрцам крычы...—
Гэтыя думкі Таццяну няволілі
З ранку да вечара, днём і ўначы.

Ад успамінаў — шчымлівага водару —
Сёння ў Таццяны трашчыць галава.
Боль свой нясе на магілу да Фёдара...
Сёння — пяць год, як Таццяна ўдава.

Могілкі... Вёска...
Дарога знаёмая —
Сувязь між імі адвечная ёсць.
Нехта ж зазначыў — на могілках дома я,
Тут, на зямлі,— чалавек толькі госць.

Раптам Таццяну сынок яе — Яначка,
Што завіхаўся за ёй па пяску,
Збіў з успамінаў: — Стаміўся я, мамачка!..
Маці ўзяла хлапчука за руку.

— Хутка ўжо тата?..
Во доля праклятая...
Помнік стаў татам для Янкі даўно.
Хіба ж у гэтым дзіця вінаватае
Што свайго тату не знала яно?

Бацька і сын праз мяжу апынуліся.
Сын — падыходзіў, а бацька — пайшоў...
Толькі паўгода... Яны размінуліся,
Каб не сустрэцца да скону вякоў.

Помнік глядзеў фотакарткаю татавай,
Янку здавалася — тата жыве.
«Хутка ўжо тата?..» —
Як выбух набатавы,
Зноў у Таццяны гуло ў галаве.

Татава ласка, як сонейка яснае,
Збегла ад Янкі, зайшло за гару.
Доля шчаслівая... доля няшчасная...
Раптам хлапчук пацягнуўся ўгару:

— Мама! Якая вясёлка прыгожая!
Погляд Таццяна ўзняла ад зямлі —
Хмары, нібыта навала варожая,
Цяжка, маўкліва, навобмацк паўзлі.

Ціха ляжала зямелька дакорная,
А над зямлёй сапраўды ў вышыні
Ззяла вясёлка...
— Сынок! Яна чорная! —
Вырваўся крык у Таццяны...—
Зірні!

— Мамачка! Што ты? Яна — каляровая!
Вунь яна ззяе! А чорная дзе?..
Маці хіснулася, як нездаровая,
Ўсё паплыло, як кругі па вадзе.

Янка збянтэжыўся... Ціха ўжо, нанава,
Мовіў нясмела:
— Вясёлка... пабач...
Боль перасіліла сэрца Таццяніна:
— Пажартавала я, сынку... Прабач...

*

Сёння пажар той бяды не патушаны,
Страх, невядомасць — за кожным акном.
Непрадказальны Чарнобыль, раз'юшаны,
Кружыцца над галавой груганом.

Кружыцца гэта драпежнасць нябачная,
Цэліцца ў нас кіпцюрамі, а мы —
Ранак сустрэнем — і, Богу удзячныя,
Ноч напаткаем — і свет наш — нямы.

Раніцу хоць сустракаем — ды золкую —
Доля няшчасная... Доля-нуда...
Неба смыліць невясёлай вясёлкаю,
Чорнай вясёлкай прыходзіць бяда.

Параспаўзалася гора — і плодзіцца,
Слепа і жорстка — да горла з нажом.
Чым чалавек ад яго адгародзіцца?
Помнікам і надмагільным крыжом.

Й слых распаўзаецца, некім падкінуты:
«Як нам без атама ў атамны век?..»
Гэта — плявок у бязвінна загінутых,
Гэта — знявага цябе, чалавек.

Ты, Беларусь, ад выцця памінальнага
І ад жалобы, ад мноства смярцей —
Іншая — права не маеш маральнага
Атам хваліць на магілах дзяцей.

Тхне ў нас агіднацю гора прыблуднае,
Як ні глядзі — са шматлікіх бакоў.
«Мірнаму атаму» песні — падсудныя,
Клятыя будуць да скону вякоў.

*1988*

Мы следам габлюем за модай,
Мяняемся з часам... Мусім.
Не праўда, што мы з асалодай
Да новага цягнемся...
Хлусім!

Мінулае — ў нас застаецца,
Хвалюе нас, лечыць і раніць,
Бо хто ж над маленствам смяецца?
І хто ж маладосць сваю ганьбіць?

Мінулае — сэрцу апора,
З узростам няўмольна палоніць.
І ўжо даражэй нам «учора»,
Чым «сёння», што сумна штодзённіць.

Душой мы плывем супраць ветру,
Далёка назад заплываем.
І слова нязграбнае «рэтра»
Часцей і часцей ужываем.

*

Калісьці і мы будзем — рэтра,
І дасць нам адзнаку час новы:
— Адмовіліся ад паветра —
Ад роднай бацькоўскай мовы.

Яны ад яе адвыклі,
Другой мове неслі лаўры,
А самі як нацыя — зніклі,
Як некалі дыназаўры.

Ад волі яны адракліся,
Хоць елі *свой* хлеб учора.
З аджыўшым мінулым зліліся,
Нібыта ручай і мора...

*

Я з часам — хачу спрачацца:
— Нахлынуўшае — адхлыне!
Сумнення твайго зачацце
Няхай у зачацці і згіне!

Гарачы я! Ой гарачы!
Аж злосць засцілае вочы —
Гатовы даць Богу здачы
І часу, што ў твар рагоча.

Схапіў бы я час за грудзі,
Але да яго — павага.
Ён ведае лепш, што будзе,
Ён мудры — і тут перавага.

*

Няўжо мы не знойдзем спасу
І час, як прарок, не хлусіць?
Няўжо падуласны часу
І лёс маёй Беларусі?

Душы неспакой — во стварэнне!
Пакутую, як ад нарыву.
І цяжка стрымаць абурэнне,
Нібыта каня за грыву.

І мушу сабе супярэчыць,
Губляць і знаходзіць меру:
Камусьці скажу — час лечыць,
А сам гэтым лекам не веру.

Не веру ў яго прароцтва —
Адкуль часу ведаць, што будзе?
І росквіт жыцця, і банкруцтва
Стварае не час, а людзі.

Дарога да праўды — крывая,
Скрыўляюць яе наўмысна.
Час мудрым тады бывае,
Калі мы жывём карысна.

*

Дык хто і каму падуласны?
Зняволеныя — няволі?
Ці лёсу свайму — няшчасны?
Ці лёс няшчаснаму — болей?

Панавыдумлялі словы —
І молімся часу, лёсу.
Свой грэх ім спіхнуць гатовы
Галодны, раздзеты, босы.

Давайце назад азірнемся,
Узважым сваё, ацэнім —
Па тых жа слядах таўчэмся,
Аджыўшае век свой — цэнім.

Як мудра усё ў прыродзе:
Вясновы дзень — году варты.
А мы — амаль што стагоддзе
Зглумілі — вось гэта дык «жарты».

Знявечанага — па вушы,
Зламанага — больш, чым жывога,
Згубіўшыя веру душы,
Маліліся д'яблу — не Богу.

Спрабуюць цяпер тлумачыць:
«Такі ўжо нам час дастаўся...»
Як можна глядзець і не бачыць
Таго, хто ў душы таптаўся?

А час — ён аднолькава роўны
Усюды — для «белых», «чырвоных»...
Хто — ўперад ішоў паслядоўна,
А хто — лютаваў шалёна.

*

Няўжо гэта быў пасля ночы
Світанак?..
І зноў зашарэла...
Гляджу Беларусі ў вочы —
Пяць год — і ты пастарэла.

Узлёт!
Незалежнасць!
Крылы!
Не многіх сагрэюць словы...
Нічога не мела сілы,
Пад чым не было асновы.

Нічога не будзе мець сілы,
Пакуль не прачнецца розум.
І толькі брат брата на вілы
Падыме...
Навошта роздум?

Як хутка ты пастарэла,
Садзішся ў чужыя сані,
Якія імчаць ашалела —
Куды?..
Не ведаюць самі.

У санях чужых няўтульна —
Ні будучыні, ні дому.
І будзем глядзець агульна
Пад «венік» каню чужому.

*

Схапіў бы я час за грудзі,
Ды ён — сапраўды прарочыць...
Ужо над абрывам людзі —
Уніз засталося скочыць.

Стаяць, мітынгуюць актыўна,
Аж слінкі ляцяць праз зубы.
І самі з упартасцю дзіўнай
Сябе ж падпіхаюць да згубы.

— Палітыкі! — просіць вёска.
І гораду — тыя ж гульні...
Адзіная ў нас прычоска,
Бо грэбень на ўсіх — агульны.

Палітыкі — больш, чым работы.
Палітыкі — больш, чым хлеба.
Адсюль — і жыцця павароты
І тое, што нам не трэба.

Няведама што — галубім,
Атрута — заместа лячэння...
Калі мы свой дом загубім —
Не будзе нам век прабачэння.

«Сябры» — чатырохбакова,
Ты крайняя ў гэтым спісе.
Ад кожнага з іх — умова,
І кожнаму — пакланіся.

Ад кожнага ў нечым залежыш,
Для іх ты — радня-беднота.
Калі ты сябе не ўзвежыш,
Затопчуць цябе ў балота.

Было так заўжды, і ў «рэтра»,
Пара ўжо сарваць з іх маску.
Ды ну іх, чужыя нетры!
Ды к чорту чужую ласку!

На ўласных адвечных карэннях
Мы росцім свой хлеб, не салому.
Не бачыць цябе на каленях,
Мая Беларусь, нікому!

*1996*

Залітая сонцам прастора
Тут з першага дня.
Святла і ружовасці — мора,
Вакол чысціня.

Ні воблачка ў небе, ні хмаркі,
Ні ценю нідзе.
І час тут вясёлкава-яркі
Адлік свой вядзе.

Такую б гармонію ў свеце
Стварыць — быў бы цуд.
Суладдзе, сугучча, суквецце
З'ядналіся тут.

Усё тут у ладзе і згодзе —
Спрыяльнае нам.
І вось у такім асяроддзі
Узводзіцца храм.

Задумана Богам не дрэнна —
Ён мае чуццё,
Бо вырасце храм не імгненна —
За век, за жыццё.

Чакаюць наперадзе дзесьці
Дажджы і снягі —
Паспець бы падмурак узвесці
Цяпер, да смугі.

Паспець бы...
А шмат не паспела
За доўгі свой век,
Бо часта нядбайна, няўмела
Жыве чалавек.

То мэты мяняе, то збоча
І лезе ў гушчар,
То не разумее, што хоча —
Ці сонца, ці хмар.

Пра храм тут няма і гаворкі...
Вянец доўгіх год —
Хаціна, цямнеча, падпоркі,
Смяццё і смурод.

А вось і канец.
І памінкі.
І мары ў труне...
Свой храм адбудуюць адзінкі,
Астатнія — не.

*

Загадак на свеце не мала
І з’яў, і падзей.
Галоўнай загадкаю стала
Душа у людзей.

З маленства яна — на далоні,
Між дзён залатых.
Пакуль што душа не ў палоне
Жыццёвых інтрыг.

Ні воблачка ў небе, ні хмаркі,
Ні ценю нідзе.
І час тут вясёлкава-яркі
Адлік свой вядзе.

Пакуль што ў душы верхаводзіць
Святло і давер.
І кожны тут храм свой узводзіць
На ўласны манер.

Чакаюць наперадзе дзесьці
Дажджы і снягі.
Паспець бы падмурак узвесці
Цяпер, да смугі.

Ці ведае творца палаца,
Куды забрыдзе?
Што гэту штодзённую працу
З маленства вядзе?

І што не вярнуць ні хвілінкі,
Хоць Богу пішы?
Што хуткія дні, як цаглінкі,
Для храма душы?

Што ў храме злаба — як хвароба?
Нянавісць — бяда?
Што добрыя справы — аздоба?
Благія — брыда?..

Здавалася б, сонца — з запасам,
Не бачна цяней.
Жыве чалавек, але з часам —
Душа ўсё цямней.

Яе здратавалі падзеі —
Крывавіць, баліць.
І толькі агеньчык надзеі
Да скону смыліць.

*

Прабачце, сучаснік, нашчадак —
Напружце ілбы:
Калі у душы беспарадак —
Жыццё — на дыбы.

Калі у душы прыцямненне —
Жыццё — уначы.
Калі у душы сутыкненні —
Жыццё — хоць крычы.

Трапеча душа, мітусіцца —
То ўніз, то ўгару.
Яна дазваляе прыжыцца
І злу, і дабру.

Прытуліць і чорнае з белым,
І з праўдай хлусню.
Яна здольна дзёрзка і смела
Аддацца агню.

Душа, кажуць,— прыцемкі...
Мабыць.
Ды толькі яе
Прастора нябесная вабіць
Ў абдымкі свае.

Спрыяе душы распрасцерці
Пад сонцам крыло
Святло, што мацней нават смерці,—
Надзеі святло.

*

Удзячны я Богу і маме
За доўгі мой век,
За тое, што здзейсніўся ў храме
Маім чалавек.

Канаў, пераадольваў благое,
Нясцерпнае грыз,
Адно падпіраў, а другое —
Валілася ўніз.

Завалы адцягваў штодзённа
Ад вечных высноў,
Святло ратаваў ад палона,
Ад хмар кажаноў.

Не ўсё ў гэтым храме збылося —
Шчымліва ад страт,
Бо часу не шмат засталося
І сілы — не шмат.

І з горыччу зноў адзначаю
Дыханне нягод.
І крышаць хвіліны адчаю
Напружанасць год.

І хочацца крыкнуць: — Мой Божа!
Чаму так імжыць?
І веру — святло пераможа.
Дажыць бы! Дажыць!

*

Храм вабіць малога й старога
Нязменна — вякі.
Ды Храм, як вядома, без Бога
Не Храм — скразнякі.

Ды Храм, як вядома, без веры —
Сваячыць з нарой.
Без сонейка й дзень будзе шэры
І змрочны настрой.

Намоленасць Храма, іконы,
Лампад фіміям...
І вернікаў шчырых мільёны
Спяшаюцца ў Храм.

Ці думаў з іх хто, хай не кожны,
Што Храмы, званы,
І свет гэты дзіўны, набожны
Ствараюць яны?

Што кожны — духоўнасці дойлід.
На святы, ў бядзе,
У пошуках лепшае долі
Да Бога ідзе.

Што кожны Стваральнік таксама
Не іншых — сябе,
Што ён уладальнік і Храма,
І Бога ў сабе.

З душэўных агеньчыкаў веры —
Свет звышвелічынь.
І ў Храм не зачыняцца дзверы
Ніколі!
Амінь!

*1985*

Людзі вякамі ламалі галовы,
Сёння ламаюць — і будуць ламаць:
Дзе той адзіны напрамак жыццёвы?
Дзе адшукаць яго? Як распазнаць?

Ткнуцца ў адны... у дзесятыя дзверы...
Там — не патрэбен, а там — не тваё.
Па чалавеку, згубіўшаму веру,
Лупіць і лупіць жыцця пугаўё.

Рэдка каму адшукаць удаецца
Тое, адзінае месца ў жыцці.
Не адшукае — сагнецца, сап’ецца,
Будзе бязвольна па ветры брысці.

Будзе дамучвацца — гэтак не гэтак —
І не пытацца — за што і чаму?..
Гэта — дарослы... А кволы падлетак?
Як берагчыся ад бруду яму?

Многіх жыццё сустракае сурова,
Цягне да лёгкага хлеба, псуе.
Сталых падтрымка — і прыклад, і слова,
Як паратунку для іх нестае.

Вунь іх «настаўнікаў» колькі, дарадцаў,
«Бітых» равеснікаў, цёртых не раз.
Хутка «памогуць» яны разабрацца,
Знойдуць на ўсё і расказ, і адказ.

Самых складаных пытанняў абойму
З ходу, як семкі, яны лузгануць.
Што і адкуль — растлумачаць па-свойму,
Груба, нядбайна, а сэрца крануць.

*

Вера марнела пад цяжкасцю долі,
Гэтая ноша — з гадамі гарчэй.
З мужам, здавалася, з'елі пуд солі,
А разышліся — не стала лягчэй

Ён, хоць і піў, а напіўшыся — біўся,
Але спачатку хоць штосьці рабіў.
Потым — збадзяўся, зусім апусціўся,
Сам даканаў і сям'ю загубіў.

Цьмяна смылелі гады, як лучына,
Сёння — больш цьмяна і чадна смыляць...
Вера — яшчэ маладая жанчына,
Росквіт жаноцкасці — ёй трыццаць пяць.

Праўда, на выгляд — сталейшая значна,
Росквіт з'ядала жыццё на ходу.
Кожнаму з першага погляду бачна —
Мае ў кішэні на хлеб і ваду.

Не, не намуляў кішэні ёй лішак,
Вецер завёўся там — наадварот.
Стала заглядваць жанчына ў кілішак,
Лёс паляпшала, як кажуць, праз рот.

Людзі ж вакол, і яна —
                    не пустэльнік,
Вечар — знаёмства,
                    наступны — ізноў...
Хутка знаходзіўся ёй сабутэльнік,
Стала штовечар цягаць іх дамоў.

Вера спачатку вяла іх нясмела,
Дома нязручна — адзін быў пакой,
Дома тырчала дачка яе Эла,
Потым... махнула на гэта рукой.

Эла шаптала, чужых баючыся:
— Мама... урокі вучыць... позні час...
— Марш да сябровак! Ці ў кухні зашыйся!
Злосцю напоўнены чуўся адказ.

Эла на кухні не раз начавала,
Рукі — на стол, а на іх — галаву.
Ды скрозь дрымоты ёй чуліся з залы
Шоргаты, цмоканні, шум «рандэву».

*

Эле — пятнаццаць, а ў ёй прыжыліся
Рысы, якія жаноцкасць дае:
Пругкасцю грудзі яе наліліся,
Сталі акруглымі бёдры яе.

Не закахацца ў яе немагчыма,
І хоць яна прыгажэла штодня,
З выгляду толькі была як дзяўчына,
А у астатнім — амаль куранят.

Праўда, і чула, і бачыла многа —
Відзікаў — мора, а тэма — адна.
Ды і ад маці сваёй «дапамога» —
Вочы раскрыла на «ён і яна».

Што ўжо казаць пра сябровак са школы?
Тут ні праблем, ні сакрэтаў няма.
Тыя шапталі, гулі, нібы пчолы:
— Ты паспрабуй!
Будзеш ведаць сама...

Чуліся ў гуле, у шэптах, у словах
І захапленне, і зайздрасць, і злосць:
— Можна балдзець кожны дзень ад абновак!
Нам бы, Эліна, тваю прыгажосць!..

Элу краналі намёкі, прадмоўкі,
І хвалявалі, і пхнулі ў пасцель.
Потым пачула ад лепшай сяброўкі:
— Хочаш мець шмоткі? Ідзі на панель!

*

Корпус гатэля жаўцее вашчынай,
Збоку — рэклама агнямі крычыць.
Сумна стаіць ля ўвахода дзяўчына
І сарамліва вачамі блішчыць.

Сціпласць — у вопратцы бачна, ў дзяўчыне,
Ды не схаваць прыгажосць ад вачэй:
Стройныя, доўгія ногі з-пад міні
Могуць любога пазбавіць начэй.

І азіраюцца, косяць вачыма
І захапляюцца краскай-вясной.
Хто малады — з чыстым сэрцам, магчыма,
Хто пры гадах — пэўна, з думкай адной.

Вось пачынае кляваць на «нажыўку»
Той, хто гады не схавае свае,—
На галаве, ад ілба да загрыўку,—
Лысіна, хоць ты глядзіся ў яе.

Выйшаў з гатэля, прайшоў, азірнуўся,
Стаў, пакруціўся, цішком пакурыў —
І да дзяўчыны рашуча вярнуўся,
Пуза адставіўшы, загаварыў:

— Вечар цудоўны... Туга, адзінота...
Я ў вашым горадзе — упершыню...
Эла адчула пад сэрцам дрыгвоту:
— Што гэта? Праўда — ці я гэта сню?

Гэта — як чорны, бязлітасны гумар —
Прэч ад кашмару! Прачнуцца хутчэй!..
Голас даносіўся: — Зойдзем у нумар,
Там пагаворым без лішніх вачэй...

Эла ішла за «пузатай кадушкай»,
Ззяла ад лысіны лямпаў святло.
Білася сэрца падраненай птушкай,
Ногі дрыжалі, у скронях гуло...

Ліфт расчыніўся ў канцы вестыбюля,
Крок — і захлопнецца пастка. Капцы!
Эла з гатэля рванулася куляй,
Вусны скрывавілі зубы-шчыпцы.

Эла імчала ад бездані бруднай,
Слёзы сляпілі, душылі, пяклі.
Некуды збочыла з вуліцы шумнай —
Страшна — прытулку няма на зямлі.

Жудасна гэта адчуць у пятнаццаць...
Сэрца — без мары, без дому — дзіця.
Ветразь пунцовы пачаў аддаляцца,
Гінуў світанак у хмарах жыцця.

Дзе ён, той прынц з незабыўнае казкі?..
Кола замкнулася. Шчасце — мана.
Дома — няма ні парады, ні ласкі,
Ды і навокал — глухая сцяна.

*

Лёсу дарога — нярэдка крывая,
Зменіць напрамак не раз на вяку,
Зверне да бездані — хто падтрымае?
Хто ўратавацца працягне руку?

Недзе пад сэрцам — забітая мара
Горкага лёсу нябачнай рукой.
Вера — ахвяра і Эла — ахвяра,
Сталі ахвярамі маці з дачкой.

Колькі такіх — аднакрылых, гаротных,
Не узляцела, як маці й дзіця?
Колькі іх ранена ў сэрца смяротна
Неўладкаванасцю, змрокам жыцця?

Шлюбы — не гульні, любоў — не забава...
Многія думаюць — наадварот.
Стала даўно аднакрылай дзяржава,
Хоча ўзляцець —
Ды не хутка на ўзлёт...

*1993*

# Лёс лесу



Лес быў колісь — мора гушчароў,
Шмат ён рэчак прытуліў, рачулак,
Многа розных прытуліў звяроў,
Безліч птушак тут знайшло прытулак.

Дрэвы ў сіле, нават маладняк,
Падпіралі неба, як званіца.
І мацнелі, і раслі «у смак»,
А пад імі — ягаднік, грыбніца.

Там, дзе ёсць грыбніца — ёсць грыбы,
Ягаднікі ёсць — і ягад мора.
Гэта ўсё расце і без сяўбы,
Тут шчыруюць фаўна і флора.

Ёсць і тут падставы «для грызні» —
Каб не быць апошнім зачухонцам,
Не гібець зародкам у цяні,
Трэба замацоўвацца пад сонцам.

Ну, вядома — у дубоў няма
У святле і сонцы недахопу.
Дуб магутны самы нездарма,
Ён заўжды праб’е «акно ў Еўропу».

Бор сасновы — на манер травы,
Нібы ён расчэсаны з пяшчотай.
Шчыльна — галава да галавы
Ён расце і ззяе пазалотай.

Лёгка бор хваліць на ўсе лады,
Бо не тоіць ён другім пагрозы.
Можа й елка завітаць сюды,
Часта карагодзяць тут бярозы.

Іншае зусім — яловы лес,
Ля яго карэнняў — ноч, здаецца.
Калі хтосьці з дрэў пад елкі ўлез,
Той ужо да сонца не праб’ецца...

Так ці сяк, а дрэвы ўсё ж раслі,
Тут усё жыло, што жыць хацела.
Ды вятры знянацку загулі,
А за імі й бура наляцела.

Хто — ламаўся ўшчэнт без барацьбы,
Хто — чапляўся за зямлю адчайна.
Гінулі і многія дубы,
Што паўкараняліся нядбайна.

І зрадзелі, паляглі лясы,
І зямлю пабілі плехі-плямы,
І не бачна ўжо былой красы
Пасля гэтай буры, смуты-драмы.

Карані вакол ды кучы дроў —
Ім не адрадзіцца, не падняцца...
І на месцы тых гаёў, бароў
Зараснік пачаў укараняцца.

Беспародных парасткаў — сцяна
Ды быльнёг, аж блытаюцца ногі —
Усё тое, грош чаму цана,
Адным словам, краявід убогі.

*

Што ж — нашкодзіў вецер-ліхадзей,
Знішчыў лепшы — горшы лес пакінуў...
Варта ўжо сказаць пра тых людзей,
Хто ў «агонь няшчасця» дроў падкінуў.

Ім бы песціць лес з усіх бакоў
Круглы год — ці маразы, ці спёка.
Так, размова тут пра леснікоў,
Іх дэвіз: — «За кожным дрэвам — вока!»

... Леснікі. Ці ж выйсце — леснікі?
Лес да дырэктываў неўспрымальны.
Той жа лес, пасаджаны ў радкі,
Штучны нейкі і ненатуральны.

Але што спрачацца? Ёсць загад!
(Быў бы куст — а знойдзецца варона).
Загадалі: — Лес — гэта не сад,
Што з ім абыходзіцца ўлюбёна?!

Вымахае й так, што не прайсці,
Прыжывецца й на каменнях! — кажуць.—
Ды не там павінен ён расці,
Дзе захоча, а куды пакажуць!..

І садзілі дрэвы пад шнурок,
І ламалі дрэвы — іх жа многа,
І ссякалі дрэвы — ўсім урок,
І сачылі за парадкам строга.

Часта, леснікам наперакор,
Дуб ці ясень, без высокай згоды,
Там раслі, дзе сонца і прастор,
Але ўсе траплялі пад тапор,
Хоць былі каштоўнае пароды.

...Леснікі. Ці ж выйсце — леснікі?
Хто іх спыніць? Дзе на іх управа?
Хутка з іх нячыстае рукі
Лес пайшоў налева і направа.

І такі набрала гэта ход,
Што ляцелі трэскі і ашмёткі.
Дрэвы, дрэвы, дрэвы йшлі ў расход:
— Пад пілу! Пад корань! — сказ кароткі.

Лесніку — хоць не расці трава,
«Выраслалі» пні хутчэй маланкі —
Прадаваў за пляшку дрэва-два,
А бывала — й цэлыя дзялянкі.

Заняпала ў тых лясах жыццё,
Прытаіўся краявід зялёны.
І ляцелі трэскі, ашмаццё,
І знікалі з лесам эшалоны.

Некалі шумлівы, гаваркі,
Лес зрабілі ворагам — губілі...
Дык якое ж выйсце леснікі,
Калі так яны лясы «любілі»?

І пладзілі пусткі леснікі,
Хоць на словах іх душа балела.
Багацелі й розныя дзялкі,
А зямліца на лясы бяднела.

Ліха забяры іх, леснікоў!
Прыадчынім покрыў таямнічы.
Бачыце? Натхняў вартаўнікоў,
Правіў вакханаліяй — ляснічы.

*

Тое ўсё даўным-даўно было...
Кажуць, глянь назад — паразумнееш,
Там убачыш і добра, і зло.
Можа, болей сам дабра пасееш.

Мудрасць гэта шмат гадоў жыве
І стагоддзі будзе жыць, здаецца.
Ды яна не кожнай галаве,
Як падзеі сведчаць, паддаецца.

Не, я думку-рану не салю,
Кожны мае погляд свой уласны...
Спусцімся давайце на зямлю —
Як жывеш ты сёння, лес сучасны?

І хоць зноў у нашыя лясы
Залятаюць тапара пагрозы,
Бачны елак вострыя насы,
Сосны ёсць, дубы, кляны, бярозы.

Многа й іншай дробязі, але
Драбяза праб’ецца без дагляду.
Лес жыве з ляснічым «на чале»,
Што казаць — даходная пасада.

Ён рухавы, малады яшчэ,
Ён ламае, крышыць перашкоды.
Новае — па-новаму цячэ,
Ісціна — у новым не заўсёды.

Стаў ад леснікоў патрабаваць
Наш ляснічы праз свае загады:
— Лес мясцовы й надалей збываць,
А з замежных дрэў садзіць прысады!

Аж са скуры лезуць леснікі,
Бо ляснічы — нібы бацька родны...
І куды ні глянь — на ўсе бакі,
Лес узрос замежны, іншародны.

Вось табе і родная зямля,
А для дрэў тутэйшых месца мала.
Дык няўжо звядзецца да нуля
Лес, які зямелька ўзгадавала?

Дык чаму наш лес, мясцовы, свой,
На Радзіме ў пасынкі трапляе,
Самабытнасць страчвае, губляе,
А чужак — з узнятай галавой?

Родны гай прыціх і родны бор,
У трывозе змоўклі пералескі...
Але ціха! Чуеце тапор?
Дык няўжо, жыццю наперакор,
Зноў ад лесу застануцца трэскі?

*1989*

Іду па жыцці — па дарозе бясконцай,
Нібыта ў тумане плыву,
І бачу, як хутка да захаду сонца
Схіляе сваю галаву.

І бачу канец той «бясконцай» дарогі,
І дол, і бязлітасць яго,
І бачу, што ўшчэнт акрываўлены ногі,
І кроў цячэ з сэрца майго.

Хаду я сцішаю, іду ў задуменні
Па лёсе гаротным маім.
Я ногі нявечыў, збіваў аб каменні,
А сэрца скалечана кім?

Каб сэрца параніць патрэбна так мала
У шалёным жыццёвым віры.
Ёсць словы — як куля,
ёсць погляд — як джала,
І дзеянні — як кіпцюры.

Я рану-душу і ў браню не схаваю,
Хоць будзе браня ў даланю.
Чаму ж бестурботна сябе адчуваю?
Таму, што ўсё гэта — я сню.

Дык дзякуй жа Богу, што ўсё гэта сніцца,
Во жах! Я ж не кончыўся ледзь.
Аддыхацца можна цяпер, супыніцца,
Спачатку ўвесь сон паглядзець...

*

Прыемна і сэрцу, цікава і воку
Спаткацца з мінулым даўно,
Сачыць за сабой і жыццём сваім «збоку»,
Убачыць, якое яно.

З чаго ж пачынаецца гэтая драма?
Ва ўсіх і ў мяне — з аднаго:
Спявае ласкава, схіліўшыся, мама,
Прысеўшы да ложка майго:

Люлі-люлі-люлі,
Прыляцелі гулі,
Селі на варотах
У чырвоных ботах.
Сталі сакатаці —
А што гулям даці?
Даці, даці грэчкі,
Каб няслі яечкі.
Даці, даці бобу,
Каб няслі памногу.
Будзе яек кадка,
Спі, мае дзіцятка...

Я ведаю — ёсць больш складаныя творы,
Тут — іншая песні цана.
У самым страшэнным і жудасным горы
Над намі гучала яна.

Напевы матуляў не ведаюць межаў,
Надзея ў іх, боль і нуда.
Яны для дзяцей, як паветра, як ежа,
Нібыта жывая вада.

Святло непагаснае ў іх і пяшчота,
І крыўда ў іх сэрцайка ссе.
І слухае гора і голад-беднота,
Куточкі абжыўшы усе.

Бярэ мяне мама павольна на рукі,
А ў поглядзе боль і любоў.
Уліваюцца ў сэрца маленькае гукі
Узнёслых і просценькіх слоў.

І суслу-анучку дае замест соскі,
З пажванай скарыначкай мне.
Ляціць калыханачка ў свет гэты Боскі —
Ці славіць яго, ці кляне?

— Здаровым расці і шчаслівым, дзіцятка,
Пакутны наш лёс абміні.—
Матуліна песня, як дзіва-зярнятка,
Пускае ў душы карані.

У кожнае сэрца зярнятка кладзецца,
Ці дасць яму Бог узысці?
Люляе матуля мяне, спадзяецца,
Што шчасце спаткаю ў жыцці.

Спявае матуля спагадна, пявуча,
Як сонейка, лашчыць цяплом.
І я засынаю, спавіты ў анучы,
Шчаслівым і казачным сном.

*

Дзяцінства...
Ты — кожнага лёсу світанак,
Ты — першы паветра глыток,
Ты — толькі ўваход у будынак, не ганак
Ты — рэчкі жыццёвай выток.

Дзяцінства маё!
Лёс табе слаў нястачу,
Зганяў з тваіх сцежак святло.
А я па табе, абяздоленым, плачу,
Вярніся такім, як было.

Вярніся нямытым, нячэсаным, горкім,
Галодным, халодным прыйдзі.
Цягні мяне лётаць па лесе, па ўзгорках,
Штурхай мяне, клікай, будзі.

А як летуценна было і цікава
Пад небам дзяцінства майго!
Нічога, што лёс сустракаў неласкава.
Што лёс! Ці было да яго?

Ні зернейка ў полі, у хаце пустэча,
Каці хоць шаром па стале.
Ды толькі дзяцінства ўсе гэтыя рэчы
Ўспрымала ў ружовым святле.

Раслі мы без розных прысмакаў, без хлеба,
Ды Бог так зрабіў нездарма:
Пра што мы не ведаем — тое не трэба,
Яго нібы ў свеце няма.

Для нас не было ні бялізны, ні мыла,
Ні цацак прыгожых, ні кніг.
Затое як сонейка дзецям свяціла,
Яно замяняла нам іх.

І цёплага ветрыку лёгкія хвалі,
І птушачкі, і матылькі
Былі нам сябрамі, і мы іх прымалі,
Як ласку нябачнай рукі.

Ад лета шалелі мы — не супярэчу,
І ўсё-такі — больш ад зімы.
Худым рызманом прыкрывалі галечу —
Штодня маглі коўзацца мы.

Ледзь сажалка толькі паспее накрыцца
Танюсенькім першым ільдом,
Гукае і кліча зіма-чараўніца:
— Э-гей! Пакідайце свой дом!

Мы беглі насустрач марознай пагодзе,
І кожны быць першым хацеў.
І я, як падсмалены, лётаў па лёдзе,
Бо ён прагінаўся, хрусцеў.

Ды толькі падводзілі спрытнасць, адвага,
Дало праваліцца і мне.
Тады ўжо «гуляла» бацькоўская дзяга
Па мокрай і голай спіне...

Аднойчы прыклалі мы ўсе намаганні,
Каб штуку ўпаліць сярод дня —
Успёрлі на горку вялізныя сані,
Ў якіх запрагаюць каня.

Сталейшыя селі і мы, падшыванцы,
Набілася — пальца не ўткнуць.
Як кажуць, галодныя і абарванцы
Рашылі хоць раз шыкануць,

Хто самы дасціпны — наперадзе селі,
Аглоблі трымаць, кіраваць.
І з той высачэзнай гары паляцелі
Ці з’ехаць, ці шыі зламаць.

І раптам ад страху мы ледзь не памёрлі,
А жах нашым крыкам спрыяў —
Бязмозглыя сані знянацку папёрлі
На дуб, што ў нізіне стаяў.

Наш крык, як шалёны, імчаўся за намі,
Ратунак шукаў, хто як мог.
Кулём выпадалі, скакалі зайцамі
І пырскалі ў снег, як гарох.

Мы ўсе паляцелі на снег праз імгненне,
Хто нос аблупіў, а хто пуп.
А сані — во злыдні, во д’ябла насенне! —
Без нас абмінулі той дуб...

Звычайная то для дзяцінства праява,
У кожным дзяцінстве іх шмат.
Даруйце, калі ўжо каму нецікава
Чытаць, азірацца назад.

Чаму ж я куфэрак сваіх успамінаў
Для ўсіх адчыніў — на паказ?
Напэўна, таму, каб бясследна не згінуў
Складаны, гаротны той час

Галеча і голад — маленства зямляцтва,
Жахлівае рэха вайны.
А як не крануць ва ўспамінах юнацтва,
Што й сёння ружовіць мне сны?

Юнацтва — маланка! Яго ледзь убачыш,
Імклівы, няўрымслівы госць.
Здаля азірнешся і сэрцам адзначыш
Яго чысціню, прыгажосць.

У драме жыцця — найкароткая дзея,
Нібыта адзін толькі дзень.
Юнацтва — каханне, юнацтва — надзея,
Юнацтва — шчаслівы прамень.

Юнацтва за ўсё даражэйшае ў свеце,
Ды я да маленства «прырос».
Яшчэ і таму, што сучасныя дзеці
Прыдбалі Чарнобыльскі лёс.

І сёння на нашых прыціхлых абшарах
Дзіцячых магіл не злічыць.
Як быццам сам час ад Чарнобыльскай кары
Уцёк на клады адпачыць.

Шалёны шабаш свой спраўляе злачынства,
Лёс кожны кранае і дом.
З зачацця калечыцца сёння дзяцінства
Пад радыяцыйным крылом.

Прабач, чалавечак маленькі, сучасны,
Дажыўшага да сівізны,
Цяпер, праз паўвеку,
        ты стаў больш няшчасны,
Чым мы тады — дзеці вайны.

Ад гэтага горка, і крыўдна, і сумна,
Як камень на сэрцы ляжыць...
Чаму ж так бязбожна, бяздушна, бяздумна,
Злачынна працягвалі жыць?

Прабач, чалавечак, малое дзіцятка
З хваробай у кволай крыві.
Для будучых дзетак сваіх, для нашчадкаў
Мацуйся, трымайся, жыві!

*

Бязмежней, бяздонней за ўсё —
                                        успаміны,
Няўрымслівыя,
                        як дзіця...
Пачні свой раман
                        ці расповед «былінны» —
Ссівееш, не хопіць жыцця.

Каб кожны,
хто колісь у вечнасці згінуў,
І кожны,
хто сёння жыве,
Па кніжцы
сваіх успамінаў пакінуў,
Няхай бы —
хаця па главе.

Мы ведалі ўсё б
і пра ўсіх — да драбніцы,
Пайменна —
як дбалі, жылі.
Стаялі б са скарбам
духоўным паліцы
Вакол неабдымнай зямлі.

І кожны «ўспамінец» —
пісьменнік-аматар
Уславіў бы род свой і край.
Стварылі б з духоўнасці
новы экватар —
Бяры!
Ўзбагачайся!
Чытай!

*1988*

*Сяргею Грахоўскаму прысвячаю*

Хочацца сонечных фарбаў і мараў —
Гіну ў імгле.
Чыстых, празрыстых, блакітных абшараў
Прагну...
Але

Быццам у заўтра — замкнёныя дзверы —
Нішчу душу.
Чорныя думкі на чорнай паперы
У цемры пішу.

Мушу глядзець не на сонца — пад ногі —
Цемра-турма.
Зводзяць у чорную бездань дарогі —
Спасу няма.

Ці не адзін я ў пакутах блукаю?
Колькі тут нас?
Цені ці людзі навокал? Гукаю —
Ціха ў адказ.

*

Крылы — адвечная мара-патрэба,
Казачны ўзлет.
І чалавек углядаецца ў неба
Тысячы год.

Штучныя крылы — штучная воля,
Бразгат замкоў.
Штучная воля не разняволіць
Нас ад акоў.

Толькі яны разнявольваюць душы —
Крылы душы.
Ісціну гэтую век не задушыш —
Як ні душы.

Што ім нягоды, тым душам крылатым?!
Іх не зламаць!
Не супыніць катавальням і кратам
І не стрымаць.

*

Хата. Калыска. Дзіця-немаўлятка.
Ноч настае...
— Спі, падрастай, залатое дзіцятка! —
Маці пяе.

Ранак настане, з калыскі ты ўстанеш!
Маці пяе.—
Вылеціш з хаты і ў небе расправіш
Крылы свае...

Дзіва! У хаце галеча, нястача,
Бед повен рот,
А калыханка над дзіцем не плача —
Славіць узлёт.

Ведае маці, што чуе крывінка
Песню ў цішы,
Што паратуюць ад неба з хусцінку
Крылы душы.

*

Хмурым, халодным, няветлівым ранкам
Шмат я хацеў:
Я адштурхнуўся ад той калыханкі —
І паляцеў.

Як я баяўся ляцець супраць ветру —
Горкі сюрпрыз...
Мала свядомасці — мала паветра —
Бразнуўся ўніз.

Цяжка плысці па паветраным моры,
Цяжка ляцець.
Крылам душы неабходна апора —
Мала хацець.

Што ўжо казаць пра мяне, пра малога?
Лёс даў урок...
Новым, нязведаным вабіць дарога —
Першы быў крок.

*

Сёння — пакутлівы груз за плячыма.
Дзе яго дзець?
Брыдка паўзці — не ляцець немагчыма —
Трэба ўзляцець!

Цяжка ляцець супраць ветру, адзначу,
Горш, чым калі.
Хворае, кволае, роднае бачу
Цела зямлі.

Крылы стамляюцца, цяжка ім несці
Гмахі-гады.
Сілы губляюцца, толькі б не сесці
Мне назаўжды.

Тут, на зямлі, зноў дратуюць падзеі
Існасць жыцця,
Топчуцца лёсы, законы, надзеі —
Бог нам суддзя.

*

Сонца знікае ці сам я знікаю?
Жудасны час.
Людзі ці цені навокал? Гукаю —
Чую адказ.

Малагалосны адказ і не гучны —
Многа глухіх,
Зрок нейкі сонны, сон нейкі штучны —
Крыўдна за іх.

Крыўдна! Развальваем родную хату —
Рабства ў цане.
Сёння ахвяра галосіць па кату —
Іншых кляне.

Хто ж адштурхнуўся ад той калыханкі,
Ветру на злосць?
Сэрцы нязломленых, душы-падранкі —
Ёсць яны! Ёсць!

*1994*

Усё, што вякамі ствараў чалавек,
Што скарбніцай, спадчынай нашай завецца —
Духоўнасць і годнасць, павагу, любоў,
Усю мудрасць продкаў — мы ўсё растапталі.

Мы столькі грашылі, бязбожна жылі,
Хлуслівымі, жорсткімі, чэрствымі сталі.
У рэчышча шчырасці зніклых вякоў
Паток нашых спраў уліваецца брудны.

Бязбожжа, бязлітасць, злачынства, хлусня,
Да нашай гісторыі звышнепавага —
Усё, чым апошні мы час абраслі,
Усё супраць нас павярнулася разам.

Мы выйсце шукаем, грыземся штодня,
Мы ўсіх вінавацім, крычым, мітусімся,
Мы зноў спадзяемся на правадыра,
А нас уратуе адно — пакаянне.

*

Дык што не дае нам наперад ісці?
Што парасткі кволай свядомасці губіць?
Чаму глухата, слепата, немата
Знявечылі нас, у палоне трымаюць?

У кожнага свой на пытанне адказ:
— Бязглуздыя лічаць сябе мудрацамі,
— Сляпыя правідцамі лічаць сябе,
— Хлуслівыя — першакрыніцаю праўды...

І стала ўсё гэтае звычным для нас,
Сапраўднага, іншага мы не ўспрымалі.
Хлусілі мы дзецям, дарослым, сабе,
Дурнелі, а выгляд разумны рабілі...

А хто гэта — мы? Гэта — ты, гэта — я,
І ты, суайчыннік, і ты, мой сучаснік.

Мы — збітыя з толку, загнаныя ў зман,
Сляпыя, глухія, нямыя ахвяры.

Злачынец... Ахвяра... Адной мы зямлі,
Але ад злачынцаў усе нашы беды.
А што нас чакае ў жыццёвым віры?
А тое, што ўсім не мінуць пакаяння.

*

Я чую, як моляцца ў розных кутках
Зямлі нашай змучанай розныя людзі.
Іх сэрцаў знявечаных чуецца плач,
Я чую малітвы, малітвы, малітвы:

«...О, праведны Божа! Скажы, для чаго
Усіх нас сагналі з уласнай зямліцы?
Чаму замест хлеба даюць працадні
І пухнуць ад голаду нашыя дзеці?
Агульнае ўсё — а нічога няма,
Былі мы людзьмі, а зрабіліся статкам.
Цяпер без дазволу і рот не адкрыць,
Мы нават маліцца не маем дазволу...»

«...О, Божа! Няўжо ты заснуў ці аслеп?
Зірні на знявечаных, невінаватых,
Мы ў змрочных бараках жывымі гніём,
Тут кожны з нас гіне як “вораг народа”.
Мы штосьці будуем на ўласных касцях,
У чым вінаватыя мы — невядома.
Адчай, безнадзейнасць, пакуты, туга
І смерць наша з намі за дротам калючым...»

А вось шматмільённае: — «Божа, ратуй
Жыццё наша горкае, нашу зямліцу,
Не дай нашым дзеткам загінуць, згарэць
У полымі жудкім вайны ненавіснай!
Чаму ты разгневаўся, Божа? За што?
Ці ж мала ты гора нам слаў і пакутаў?

Паслухай, як жудасна стогне зямля,
Як маці рыдаюць і плачуць сіроты...»

«... Адзіны сыночак, крывінка мая
Далёка ад роднага дому загінуў.
Што мы там згубілі, шукалі там што?
Якую ідэю мы там баранілі?
І што беларускі юнак і душман
Маглі падзяліць між сабой? Невядома...
Ці будзе нарэшце злачынствам канец?
Ты, Божа, і сам не адкажаш на гэта...»

«...На гэтай зямлі пакідаем усё —
Дзяцінства, юнацтва, каханне, надзеі,
І вечную роспач, і вечны наш боль,
І цёплыя ложкі, і могілкі родных...
Зямля, што заўсёды, спрадвеку была
Сагрэтая працай, палітая потам,
Якая карміла і продкаў, і нас —
Ужо не зямля нашых продкаў, а зона.
Жывыя і мёртвыя — хто мы цяпер?
Мы — выбуху цені, ахвяры сістэмы.
Мы зніклі — ні нас, ні жыцця тут няма,
Як помнік злачынству — ёсць мёртвая зона.
О, злітуйся, Божа магутны, скажы,
Няўжо й радыяцыі нам не хапала?..»

*

Малітвы... малітвы...
Мы ўспомнім пра іх,
Як грымне на небе, як гора падкоціць...
Маліліся толькі ахвяры адны,
Маліліся ціхенька і патаемна.

А тыя, што слалі пакуты і боль,
Сябе за адзінага Бога лічылі,
Маліліся самі яны на сябе
І ўсіх на сябе прымушалі маліцца.

Была і малітва ў злачынцаў — хлусня,
Было і паломніцтва ў іх — да карыта,
Раскоша была, і палацы былі,
А вось аднаго не было — пакаяння.

Няма пакаяння — не будзе дабра,
І жорсткасць жыве — як няма пакаяння.
Ёсць толькі злачынствы — злачынцаў няма,
І будуць злачынствы — не будзе злачынцаў.

*

Мы часам апошнім пайшлі да царквы,
Да Бога звяртаемся — і без патрэбы,
І крыжыкі сталі на шыях насіць —
Няўжо прага веры? Хутчэй, гэта — мода.

Бліжэй мы да Бога? Баюся, што не,
Інакш не разбеглася б слова са справай.
Хто мае сумленне — раней ці пазней
Ўваскрэсне — ачысціцца праз пакаянне.

Прыйдзі, пакаянне, да кожнага з нас,
Магчымасць нам дай, каб наноў нарадзіцца.
Стаміліся сэрцы, пачуцці, зямля
Без чуласці і дабрыні чалавечай.

У розных кутках нашай маці-зямлі
Няхай загучаць з новай сілай малітвы
Не з крыўдай-слязой, не з балючай душой,
А з радасцю светлай, з падзякай да Бога!

Пакаемся шчыра — і станем чысцей,
І жыць станем годна, сумленна, па-людску
Пакаемся, хто вінаваты — усе!
І памятаць будзем — браты мы і сёстры!

*1987*

Дарога...
Дарога — ад Бога й да Бога,
З калыскі да веку старога,
Дарога ў Сусвет ад парога,
Ад казкі да долу сырога.
Дарога...
Адзінае, мабыць,
Што век скарачае, а вабіць
За край-далягляды свае,
Стамляе і сілы дае.
Дарога —
І не адхіліцца,
Хоць бездані, хоць навальніцы,
Хоць адбранзавелі куміры
І згублены арыентыры.
Адзінае — край-далягляд,
Наперад — ні кроку назад.
Надзеі, даўно нежывыя,
Нібыта слупы верставыя
Знікаюць штодзень за плячыма
І іх ажывіць немагчыма.
І зноўку шукаеш вачыма
Наперадзе новы міраж —
З надзеяў і мараў калаж.
Дарога...
Свет дзіўны, далёкі,
Стук сэрца агучвае крокі,
Пранізліва стукае ў скроні,
Нібыта падковамі коні,
Хто першы дапне ў вечны змрок,
Апошні стук сэрца ці крок?
Дарога —
Жыцця таямніца,
Здарожыўся, ды не спыніцца,
Бо доўжыцца рух без прыпынку,
Не спыніцца ні на хвілінку.
І нават хто скуты ў астрозе
Ці бачыць хто сны —
ўсе ў дарозе.

*

Дарога...
Калі ўжо дарога,
На ёй спадарожнікаў многа,
Яны — адзіноты пазбавяць,
А часам — падножку падставяць,
Каб не вытыркаўся «разумны»,
А быў, як натоўп гэты тлумны.
Той стане натоўпам да скону,
Хто «масы» абраў за ікону,
Хто мысліць чужымі мазгамі,
А думкі свае — пад замкамі.
Складана ад кпін бараніцца,
Праз шчыльнасць натоўпаў прабіцца
Таму, хто не «левай», а «правай»,
Хто неабнатоўпен дзяржавай,
Хто «я» не аддаў грамадзе,
Сваёю дарогай ідзе.
Дарога...
Знясілле, знямога,
Дарога — не пляц, не падлога,
Дзе хоць вытанцоўвай, круціся,
Не стужка-асфальт, хоць каціся,
А непрадказальнасць штодзёння
І расчараванні бяздонне.
Здараюцца дні, нібы ночы,
Нібыта завязаны вочы,
Нібыта ідзеш супраць плыні,
Якая ўсю сілу абрыне
На грудзі, на ногі — і валіць,
Каб здужаць,зламаць, падначаліць.
Здаецца — ні кроку, ні метра,
І ўжо не хапае паветра,
І рот канвульсуе тады,
Як рыбіна, што без вады.
Дарога...
Для многіх дарога —
Чужых перашкодаў аблога,

Чужога атрутнага бруду
Ад гэткага ж бруднага люду.
І іх, перашкодных, хапае,
Хто яму для іншых капае.

*

Спрадвек і да нашага веку
Складана прайсці чалавеку
Свой шлях, захаваць сваё сола
Сярод шматгалосся наўкола.
Бо глушаць салістаў-тытанаў
І бубны бяздарных шаманаў,
І вокрык апрычнікаў строгі,
І прынцыпы ідыялогій.
І хоць не спрыяецца ім,
Ідуць яны шляхам сваім.
Ёсць летапіс светлы, ёсць чорны,
Калі бездухоўнасці жорны
Знішчалі асоб знакамітых,
Духоўных і таленавітых
І іх абрывалі дарогу.
Ды час не знішчаў, дзякуй Богу,
Тварэнняў душы і рукі,
Праносячы іх праз вякі.
Дарога...
Слата, бездарожжа...
Дабро альбо зло пераможа?
Уласнае «я» ці сістэма? —
І гэта — адвечная тэма,
Якую ствараюць удвух:
Фізічная сіла і дух.
Дарога...
І толькі дарога
Адкажа, за кім перамога,
Чые ў няўміручасць сляды,
Чые праляглі ў нікуды.

А гэта даўно не сакрэт —
Адзінкі трымаюць Сусвет,
І тых, каго дух не цікавіць,
І тых, хто бяздушнымі правіць.

*

Дарога?
Не страшна! Нічога!
Упэўненасць— ці ж не падмога?
Якія быць могуць ваганні?
Прачнулася звонкае ранне,
Азваліся першыя птушкі —
Сыходжу з асфальтавай стужкі,
Бо хто па асфальце шыбуе,
Нагамі зямлю не адчуе.
І вось пад нагамі зямля!
Дарога — спачатку, з нуля.
Пачатак — не з крылаў, а з крылак,
І не з перамог, а з памылак.
І перапаўняюць адразу
Пытанні і пошук адказу...
Адказы й адказнасць — сугучча,
Прымаю адказнасць рашуча,
Рашучасць — галоўнае крэда,
Рашучасць і прага да ведаў,
Імкненне да звышперашкодаў,
Да значных адкрыццяў, прыгодаў,
Любоў да Радзімы, свядомасць —
І ўся у дарозе «маёмасць».
Наперад! Ні кроку назад!
За сонцам!
За край-далягляд!

*2010*

Ледзь толькі зароў самалёт мнагатонны,
Узмыў, адарваўся ад стужкі бетоннай,
У Сёмы звалілася з сэрца завала,
А жонка Ілона ад шчасця рыдала.
Да гэтай хвіліны, да гэтага ўзлёту
Спакою не мелі яны ні на ёту.
Не нервы — спружына, не сэрцы — ільдзіна,
Не думкі, а джалы,— адна мешаніна:
— А раптам сарвецца? Не будзе дазволу?
Аматараў шмат палкі сунуць у колы,
Квітнеюць жа бюракратычныя нетры.—
Ды мукі — ў мінулым, яны — у паветры.
Як птушкі яны, акрылёныя воляй,
Мінулае — жудасны сон і не болей.

*

Дзяцінства любое — як спеў салавейкі...
Рос Сёмка ў сям'і, дзе не трэслі капейкі,
Таму не чакалі, як Бога, палучку.
У сем'ях такіх водзяць дзетак за ручку
У яслі, садкі, пасля школ — інстытуты.
Ён быў не галодны, адзеты, абуты.
Наогул, дзяцінства, юнацтва, вучоба
Спрыялі Сямёну, каб рос як асоба.
Сямён ганарыўся жыццём асабістым —
Не піў, не курыў,
марыў стаць праграмістам.
І мара збылася — дыплом інжынера
Прад ім адчыняў запаветныя дзверы,
Бо «атамны век» сталі зваць
«электронным»,
А раз такі век — карты ў рукі вучоным.
І хоць інжынер стаць вучоным маніўся,
Жыццё ёсць жыццё — і Сямён ажаніўся.
Сустрэў, пакахаў прыгажуню Ілону,
У клопаты ўскочыў, як кажуць, з разгону.

Свой хлеб хоць смачнейшы —
ды сіл патрабуе,
Да хлеба ідзе чалавек, не шыбуе,
Не ўлегцы ідзе, а ў штодзённай рабоце,
Бо хлеб прарастае на працы, на поце,
Бо хлеб ад вякоў з мазалямі сябруе.
Што ж, хлеб — галава, ён усюды кіруе.
Сямён з нараджэння гатовае «хрумаў»,
Адкуль што бярэцца — не надта і думаў.
Памёр раптам тата, не стала і мамы,
Сямён разгубіўся — ёсць чэргі і крамы,
Ёсць нізкі заробак, высокія цэны...
Як ноч пасля сонца — жыцця перамены.
Ды створаны з літасцяў свет гэты Боскі —
Ёсць жонка Ілона, бацькі яе з вёскі,
Таму «маладняк» шмат чаго не купляе,
Яно ім на стол нібы з неба трапляе.

*

О век інфарматыкі! Век электронны!
Ты знішчыў заслоны хлусні, забароны,
Ты высмеяў творцаў «жалезных заслонаў»,
Ты ўліў вальнадумства ў пакорнасць
мільёнаў.
А колькі ты лёсаў узняў і скалечыў?
Ты догмы ствараў і сабе ж супярэчыў,
Ты жудасна-штучны, ты звышнатуральны,
О век-пабудоўнік! О век разбуральны!
Плыве час, як хмары, цячэ, як вадзіца,
Дало ў гэты час многім нам нарадзіцца.
Нас носяць, валтузяць жыццёвыя хвалі,
Мы страцілі многа, а менш захавалі.
Працягваюць новыя догмы стварацца,
Не многім пашчасціць у іх разабрацца...
Сярод тых людзей, тых маўклівых мільёнаў
Жылі-існавалі Ілона з Сямёнам,

Яны не ступілі й нагой у пакуты,
А ў сэрцы выношвалі мары-атруты.
І мары раслі, набывалі бязмежжа —
Прыцягвала, вабіла казка-замежжа.
І відэакліпы, і тэлерэклама
Былі пра замежжа, як родная мама,
Яны грэлі сэрца Сямёну, Ілоне,
І цешылі іх, і трымалі ў палоне.
Ніхто іх не зверне з задумкі-дарогі!
Штодзённа яны абівалі парогі
У розных інстанцыях нашых, замежных,
Ішлі напралом да «краін незалежных»,
Свайго не ўпусцілі — і гэтак бывае,
І кволая кропля валун прабівае.
Яны нездарма «прыніжаліся ў поце»,
Галоўнае — вынік, яны ў самалёце.

*

Сядзіць — не міргне, не кранецца Ілона,
Застыла, як тая святая ікона,
Прайшла першарадасць, настaлі хвіліны,
Калі чалавек сам сабе — Бог адзіны.
Мы, людзі, дзівосныя надта стварэнні,
Ад продкаў сваіх адрываем карэнні
І ў роспачы можам пытацца ў Сусвету:
— Чаму мы такія — радня пустацвету?
Але не пра гэтае думкі Ілоны —
Якія яшчэ карані? Забабоны!
Няўжо ёй журыцца па вёсцы, па хатах?
Яна ж будзе жыць аж у Злучаных Штатах!
Яна і па Мінску не вельмі бядуе,
Бо новыя планы на заўтра будуе.
А словы якія? Амерыка! Штаты!..
А кажуць жа: — Дурань у думках багаты...
Ляцелі Сямён і Ілона свядома
Далей і далей ад Радзімы, ад дома.

*

Зрабіў самалёт дазапраўку ў Шыноне
І зноў — у паветры. Не спіцца Ілоне,
Сямёна таксама кусаюць сумненні,
Хоць выгляд і робяць,
што ўсё ім «да фені».
Каб неяк адбіцца, прагнаць роспач крыху,
Яны ні пра што размаўляюць паціху:
— Ці ўсе пры табе дакументы-паперы?
— Правер, ці на месцы ключы ад кватэры.
— Якія ключы? Мы ж здалі іх з кватэрай.
— Ну як табе «віскі» пайшлі за вячэрай?
— Па праўдзе сказаць, яны пахнуць сівухай.
— Маўчы! Ну і цемра! Ты пі і не нюхай!
Прыемныя словы спынілі гаворку:
— Праз сорак хвілін
прызямлімся ў Нью-Ёрку,
Узяць прашу рэмні і ўсім прышпіліцца...
Салон, прыдрамнуўшы, пачаў варушыцца.
Да вокнаў прыліплі, прыціхла гаворка —
Амерыка!.. Гэта ж не Мар'іна Горка.

*

Чаму, Беларусь, твае родныя дзеці
Раскіданы, як чужаніцы, па свеце?
У чым тут прычына — задумацца трэба,
Няўжо людзі едуць у пошуках хлеба?
Глыбей і складаней прычына-загадка —
І кінуць шкада, і глытаць, кажуць, гадка.
Па прымаўцы гэтай жывём мы ганебна.
А што чалавеку з маленства патрэбна?
Галоўнае — каб не на словах — на справе
Сябе адчуваць неабходным дзяржаве.
Такую дзяржаву ніхто не пакіне,
Тады эмігрантаў не будзе ў паміне.

*

Асноўныя клопаты ўсіх эміграцый —
Прыладзіцца, уладкавацца на працу.
Што гэта надзвычай складана — рэальнасць,
На першым тут месцы стаіць спецыяльнасць.
Другое і важнае — веданне мовы,
Не, тут не ў пашане «кульгавагаловы».
Сямён быў упэўнены, што інжынеру
Не цяжка зрабіць у Нью-Ёрку кар'еру,
Лічыў, што ў камп'ютарах штосьці кумекаў
Ды і па-англійску ён збольшага бэкаў.
Лічыць-то лічыў, ды, відаць, памыляўся,
Тут цэнт дармавы анідзе не валяўся,
Дыплом наш з мясцовым дыпломам — не роўні,
Іх веды на значна вышэйшым узроўні.
Сямёнаў дыплом выклікаў тут ухмылку,
І ён зразумеў — не паправіць памылку.
Хоць многа і ведаў, выдатна вучыўся,
Ён, як эмігрант, другасортным лічыўся.
Шыкоўныя крамы і горад цудоўны
Закрэсліла слова адно — беспрацоўны.

*

Нью-Ёрк фантастычны — уражанняў мора!
Глухі і нямы ён да нейчага гора.
Тут долары правяць, узносяць і губяць,
З кішэняй пустой тут нікога не любяць.
Шуміць і гамоніць Нью-Ёрк шматмільённы,
Чужы, непрыветлівы ён для Ілоны.
Цяпер і сабе ёй не проста прызнацца,
Што гіне, марнее без грошай, без працы,
Што стала дзічэць тут нібыта ў пустыне,
Што сэрца абклала туга па Радзіме.
Туга па Радзіме... Не простыя словы...
Адзін прыпаўзці да Радзімы гатовы,
Каб толькі ў зямельцы сваёй пахавалі...

(Навошта вы ў студню старую плявалі?)
Другі — на чужбіне надломлены духам,
На шыю пятлю і... Зямля яму пухам...
Ілона адчула з бязлітасным жахам,
Што сэрца з грудзей вырываецца птахам,
Каб толькі ляцець да Радзімы адзінай,
Бо тут сапраўды стала камнем, ільдзінай,
Яму немагчыма без роднай старонкі —
Там з ветрыкам недзе гамоняць рамонкі,
Там роднае неба, там родная хата,
Маленства, юнацтва... Там — мама і тата...
А тут неўспадзеўкі ад'елі вантробы —
Трушчобы, людзей мітусня, небаскробы.

*

Сямён суцяшаў, абнадзейваў Ілону:
— Без моцных udараў не будзе і звону,
Вось нас і штурхае жыццё напачатку,
Усё будзе добра пазней, у парадку.
Ілона са стогнам, праз слёзы: — Даволі!
Я гіну! Мне тут не прыжыцца ніколі!
Манхэтан, Брадвей,
гэта пойла з ільдзінкай,
Усё ненавіджу апошняй крывінкай!
Сямён разгубіўся: — Давай памазгуем...
І нешта прыдумаем, нешта сплануем...
Мо праца ляжыць дзесь, як кажуць,
пад носам?..
Ілона куснула: — Над кім будзеш босам?
Над венікам? Ці над карэлай анучай?
...І змоўклі абодва ад крыўды балючай.
Нарэшце Сямён дачакаўся «узлёту»,
Ён выхадзіў, вымаліў, вырваў работу.
Павінен устаць ён ранюсенькім ранкам,
Калі горад спіць і не пахне світанкам.
Яны ўчатырох і працуюць па парах,
Смяццё, што ў мяшках на усіх тратуарах,

Маланкай хапаюць, аж ломяцца спіны,
І хуценька — да прыбіральнай машыны,
Якая «паўзе» перад імі няслынна —
І ўсё гэта подбегам, бесперапынна.
Мяшкі — ледзь падняць,
                    не турысцкія ранцы...
— Во янкі! Во чортавы амерыканцы!
У нас бы мяшок і за год не сабраўся,—
Сямён мармытаў, але ўсё ж завіхаўся.
— У Мінску ўвесь час чым заняцца шукаеш,
Рабіў не рабіў, а палучку чакаеш...
Цяпер не да сораму і не да поту,
Я згодзен на ўсё, на любую работу...—
Цягалі смяццё ў прыніжэнні і скрусе
Тры негры і наш інжынер з Беларусі.

*

Ілоне і той дасталося не мала,
Нікога, нічога яна не ўспрымала,
Не ведала мовы, не мела занятку.
— Ці ж можна жыццё адбудоўваць спачатку?
Няўжо можна сэрца дастаць і адкінуць?
Дык памяць жа ёсць — успаміны не гінуць.
У Мінску ўсё проста было, зразумела,
Работу, сяброўак, занятак свой мела,
Машына была — хоць якія калёсы,
Не ў роскашы,— а не галодны, не босы.
Чакалі суботу, збіраліся ў вёску...
А тут хоць разбіся, расплюшчыся ў дошку,
Ты — прывід, ты — цень,
                    ты — нікчэмнасці частка.
Не лёс — а пакуты, не горад — а пастка.
Туга па Радзіме... З табой не расстацца,
Плач сэрца не можа ні з чым параўнацца,
Душа ні багацця, ні лекаў не прыме,
Адно толькі выйсце ёсць —
                    жыць на Радзіме...

Ілона ішла — уваччу было цёмна,
Ішла па Нью-Ёрку амаль беспрытомна,
Без мэты ішла, без надзеі, міжволі,
Заплюшчыла вочы — і вось яна ў полі,
Ідзе па сцяжынках сваёй маладосці
І чуе, як раптам заве яе хтосьці.
А-а, гэта ж матуля дачушку гукае,
Якая адна ў чыстым полі блукае...
Расплюшчыла вочы — машын надта ж многа,
І раптам — удар... І не стала нічога...

*1991*

Зрабіў узлёт тэхнічнай эры
Прывычнымі у нашы дні
Жалезарудныя кар'еры,
Сталеплавільныя агні.

Затым — і розум электронны
З жалеза й розных мікрасхем,
І безліч неадушаўлёных
І аўтаматык, і сыстэм.

І злосны чалавечы геній
Прымусіў сталь страляць, калоць —
Было б жалеззе, а мішэнню
Яно заўсёды знойдзе плоць.

О, колькі геній той знявечыў
Жыцця, людзей — «наламваў дроў»
Забыўся геній чалавечы,
Што сам смяротны — плоць і кроў.

Але і ён з таемным жалем
Паказвае ўгару маўчком:
Палітыкі кіруюць балем,
Славутым «спускавым кручком».

Як проста ўсё — шахцёр, вучоны,
Палітык і... жалезны смерч.
І завіхурыць баль шалёны,
І смерць мільённа родзіць смерць...

А на другім баку планеты,
Зноў, пачынаючы з руды,
Плугі народзяцца, ракеты —
Вытокі працы і бяды.

І ў іх свае праблемы-мукі,
Не толькі на карысць людзей.
І там не дрэмлюць, склаўшы рукі.
А вынаходзяць шмат ідэй.

І паліва для розных мэтаў,
і электронны інтэлект,
І, сёння ўжо няма сакрэту,—
Знішчальна-ядзерны праект.

І там, у логаве драпежным,
Ракеты прагнуць дня свайго...
На спускавым кручку замежным
Напругся палец —
Хто каго?

*

Пакуль у слоўніках замежных
І ў нашых слова ёсць «вайна»,
У свет рэальны непазбежна
Ўварвецца некалі яна.

Пакуль ствараюць людзі зброю
І ўдасканальваюць яе,
На усёй зямлі, усё жывое,
Недаўгавечна існуе.

Адстойваць чалавецтву трэба
Апошні выжывання шанц,
Бо зброі сёння больш, чым хлеба,
А гэта страшны дысбаланс.

Калі ўжо свет дыхне спакойна,
Адкіне недавер, адчай?
Зямля стамілася ад войнаў,
Крыві напілася «праз край».

І зноў бяруцца за старое —
І вострацць за халяву нож.
Зноў назапашваецца зброя
Для войн знішчальных — для чаго ж?

Нявечыцца зямля без жалю,
І рвуць са стомленай зямлі
Руду, жалеза, суперсталі —
І крохкі мір кладуць на шалі
Й ракеты, танкі, караблі.

Ды там, дзе тонка, там і рвецца,
На валаску вісіць Сусвет.
Зямля ж карміцелькай завецца —
Не парадзіхаю ракет.

*

Што б ні казалі, а жывое
І ў нежывым жыве, відаць.
Таму бязлітасная зброя
Павінна чуць і адчуваць.

Руда і кожная травінка,
Лясы, жытнёвыя палі,
І зброя ўся — зямлі часцінка.
Адкуль яны? Усе з зямлі.

Зямля — выток дабра нязменны,
А калі так, усё, што ў ёй,
Нябачна, на узроўні генным,
Напоўненае дабрынёй.

І ўсё ж жывецца без турботаў
Зямлі й зямлянам да пары —
Ракеты ў шахтах, самалёты,
Нібы перад кідком звяры.

Вачамі смерці пільна, грозна
Глядзяць на свет пакуль жывы.
І ген знішчэння — рана, позна,
Курок націсне спускавы.

*

Зямля — для ўсіх жывых — надзея,
Тых, хто імкнецца да святла.
Зямля, як казачная фея,
Усё ж паўстала супраць зла.

І, каб не спрацаваў ніколі
Звышзасакрэчаны сакрэт,
Зямля сваім магнітным полем
Змяніла коды ўсіх ракет.

Ператварыла ў вояў сонных
Радары розных далячынь,
Аўтапілотаў электронных,
Санары донных субмарын.

Ваенны арсенал магутны,
Хоць выгляд застрашальны меў,
А ўсё ж нябачна і нячутна
Стаў, нібы папяровы леў...

Настала «рана альбо позна»
Для ўсіх жывых і для зямлі,
Калі палітыкі бязбожна
Ваенным загадалі: — Плі!

Але не рынуліся роем
Ракеты ў чорнай вышыні.
Таму зямля і ўсё жывое
Не зніклі ў ядзерным агні.

І ранак новы над планетай
Распачынаў дарогу дню,
А зброя ўсіх радоў і мэтаў
Ператварылася ў гульню.

Пайшла на пераплаў нанова,
Нібыта непатрэбны лом,
Каб хтосьці зноўку безгалова
Не трызніў спускавым кручком.

А медыцына ўсяго свету
Без адпачынку і без сна
Шукала, як бы знішчыць гэту
Бацылу з назваю «вайна».

Ды дзе знайсці такія лекі,
Каб свет пазбавіць ад пагроз,
Спыніць крыві бязвіннай рэкі,
Каб не ўпадалі ў мора слёз?

*

О, мары!
Мары чалавецтва!
Здзяйсненні вашы, як заўжды,
Побач з нязбытнасцю — суседства,
Кругі ў люстранасці вады.

О, мары!
Чалавецтва мары!
Вы знічкай падалі не раз.
Затоеных трагедый хмары
Супраць здзяйсненняў, супраць вас.

Вядуць у зман людзей мільёны
Аракулы: — Вайне шабаш!
А зброя — спрэс для абароны,
Яна — надзейны сябра наш.

І хоць хлусліўцам мала веры,
Не меншыцца яна — як гмах.
Нас мары кволыя, хімеры,
Трымаюць на сваіх руках.

Рэальнасць страху наганяе,
Урокі ўсіх часоў — не слых,
Што зброя не абараняе,
А без разбору забівае
Чужых, сваіх, малых, старых.

О, мары!
Мары чалавецтва!
Як верыць вам
                    зямны наш шар!
Суседства з зброяй —
                              гэта бедства
Для чалавецтва і для мар.

*2010*

Восеньскі дзень непрывычна кароткі,
Адзелянела вакол, адцвіло.
Нізкіх, нявётлівых хмараў ашмёткі
Мурзаюць неба, глытаюць святло.

Дзівяць надвор'я штодзённыя зрухі:
Сонца, дажджы — па калені вады,
Ранні зазімак і белыя мухі,
Зноў пацяпленне і — зноў халады.

Восенню ў горада — сумны адбітак,
Шэрасць, нявётлівасць кожнага дня,
Дрэвы пакорна гібеюць без світак,
Смецце, макрэча, вакол мітусня.

Вечарам, ноччу — не сум, а жахлівасць,
Хтосьці пабіў на слупах ліхтары,
Людзі, як цені, снуюць палахліва,
Цемрай пужаюць пад'езды, двары.

*

Шурка нервова курыў без жадання,
Дым цыгарэтны знікаў угары.
Лаўка — звычайнае месца спаткання,
Хутка павінны сысціся сябры.

Холадна... страшна... ды сорам прызнацца...
— Што я малы? — супакоіў сябе.
Шурка — падлетак, няпоўных шаснаццаць,
Думак пакуль што не бачна на лбе.

Ды і адкуль гэтым думкам з'явіцца?
Кніг не чытаў, школу кінуў даўно.
Верыў, што доўга вяровачцы віцца,
Веру ўзмацнялі гарэлка, віно.

Грэлі і цешылі грошы ў кішэні —
Смачнае пі, дарагое куры...
Раптам да Шуркі нырнулі, як цені,
З цемры халоднай падлеткі-сябры.

Пяць іх ці шэсць, з цыгарэткаю кожны,
Бачна, што розум і іх абмінуў...
— Што ты тут, кораш, сядзіш, як набожны,
Быццам ты толькі што хрэн праглынуў?

Шурка ад кпінаў адбіўся пытаннем,
Каб вінаватым не быць без віны:
— Дзе вас насіла нячыстая зрання?
Самі дзе шасталі вы, пацаны?

— Ну заманаў! Па-харошаму зычым:
Піць трэба меней, халява, фуфло!
Мы ж прадавалі начную здабычу,
Кожны стараўся, збываў барахло.

— Хопіць брахаць! Каб не пікнуў ніводны! —
Спрэчку спыніў самы дужы.— Лады?
Сёння мяняем раён! Неабходна
Не засвяціцца, заблытаць сляды.

Хлопцы закрылі раты паслухмяна —
Сіла — закон, а важак ёсць важак.
Тут паважалі рашучасць Руслана,
Слова яго і жалезны кулак.

Вось і цяпер кожны ціха паводзіў,
Кожны вагу сваю ведаў і стаж...
Сёння Руслан, як заўсёды, праводзіў
«Перадпрацоўны» агляд-інструктаж:

— Шурка — ахвяру спыняй, як і ўчора,
Мы — нечакана наскочым з бакоў.
Эрык — страхуе. На шухеры — Жора.
Без адхілення! Без лішніх мазгоў!

*

Лена ішла з інстытута паспешна,
Бо затрымалася — позна было.
Ноччу будынкам зрабілася цесна,
Вісла над горадам цемры крыло.

Пахла зімой у паветры халодным,
Холад і страх падганялі дзяўчо.
Лена была у скураначчы моднай,
Сумка з канспектамі — цераз плячо.

Лена жыла у раёне працоўным,
Можа, таму тут не шмат ліхтароў?
Рэдкі прахожы вынырваў раптоўна
З цемры, як здань, і знікаў між двароў.

Ззаду пачуліся нейкія гукі...
Страшна... дзяўчыну аж кінула ў пот.
Раптам халодныя нечыя рукі
Лену схапілі, заціснулі рот.

Рукі другія здзіралі скуранку,
Хтосьці зашыкаў: — Хутчэй ты цягні!..
Лена змагалася бесперастанку,
Зубы ўпіліся у край далані.

— Сука! — на Лену абрынуўся Шурка.—
На! — і зваліў кулаком яе з ног.
Лена абмякла — з плячэй яе куртку
Шурка сцягнуць свайму сябру памог.

Недзе бязрадасна блiснулі фары
І аддаляцца, знікаць пачалі.
Хлопцы рванулiся прэч ад ахвяры,
Што засталася ляжаць на зямлі.

Шурка крутнуўся назад бліскавіцай,
Лену знайшоў: — Толькі пікні — хана!
Вушы намацаў, рвануў завушніцы,
З мясам рвануў — застагнала яна.

З рук у дзяўчыны пасцягваў пальчаткі,
Глянуў наўкола і — зноў да сяброў.
Зграя пабегла далей без аглядкі
Па закавулках, між цёмных двароў.

Мо з паўгадзіны па-воўчы прабеглі,
Гнаў шпанюкоў баязлівы алюр.
Шурка паскардзіўся: — Што, нас запрэглі?
Коратка кінуў Руслан: — Перакур!

І хоць крыху падмарозіла к ночы,
Спіны ўзмакрэлі, з насоў пацякло.
Сквапна свяціліся ў кожнага вочы:
Будзе навар! — ад душы адлягло.

— Так, разыходзімся! Заўтра спатканне
Там, дзе заўсёды,— зазначыў Руслан.—
Я, калі што, намалююся зрання,
Трэба абдумаць, шыкоўны ёсць план.

Хтосьці напомніў: — Пагоня па следзе —
Козыр «лягавых» — атас, пацаны!
Шурка і Эрык — амаль што суседзі,
Шмыгнулі разам у цемру яны.

Моўчкі ішлі, цыгарэткі смакталі.
Тут, каля вуліц,— светлей і байчэй.
Раптам п’янога яны напаткалі,
Зноў загарэлася сквапнасць вачэй.

— Шурка, глядзі! Вунь андатра п’яная!
Шурка насупіўся: — Рызыкі шмат.
Глянь на людзей — колькі нас абмінае,
Шапка не ў радасць, як схопяць за зад!

Эрык са злосцю: — Не будзь ты анучай!
Шурка згадзіўся: — Была не была!
Хлопцы назад падаліся рашуча
За незнаёмцам, далей ад святла.

Той, хоць хістаўся, а крочыў і крочыў,
Быў не у смятку зусім, а жывы.
Эрык знянацку драпежна наскочыў,
Шапку ўшчарэпіў, сарваў з галавы.

Бліснула радасна думка: — Цудоўна!
Эрык крутнуўся, каб даць драпака,
Дый незнаёмец крутнуўся раптоўна —
Хваць! І трымае злачынцу рука.

— А-а, смаркачы! Што, спаткалі дурнога?!
Я вас прыкмеціў даўно, байстрюкі!..
Эрык адчуў, што патрэбна падмога,
Хоць вырываўся адчайна з рукі.

А незнаёмец працягваў тыраду:
— Вось у міліцыю як зацягну...
Шурка спыніў яго словы, бо ззаду
З сілай нажом садануў у спіну.

Постаць мужчыны хіснулася, звяла,
Ён захрыпеў і абсунуўся ў ноч...
Ноч без світанку раптоўна настала,
Доўгая, чорная, вечная ноч.

*

Шуркава маці адчула благое,
Сэрцам адчула не сёння — даўно:
Сын аддаляўся, дзіця дарагое
Гінула, стала замкнёным яно.

Разгаварыць, распытаць не даваўся.
— Я падрабляю! — скрозь зубы цадзіў.
Плакала маці, а ён агрызаўся:
— З вашае ласкі я б голы хадзіў...

Што тут казаць? Маці крыўдна і горка:
— Здзек, не заробак, хоць лямку цягну,
Хоць і кручуся штодня, як вавёрка,
Б’юся, нібы галавой у сцяну...

Маці — да мужа: — Ты ж бацька, мужчына!
Ты ж запытайся ў яго праміком!
Школу пакінуў — ці ж гэта магчыма?
Стукні хоць раз па стале кулаком!

Бацька паморшчыўся: — Хопіць сварыцца!
Стукаў я, грукаў — дайшоў да канца...
Кааператар ці фірма як быццам
Уладкавалі на працу хлапца.

Глянь — прыадзеўся. А школа — пацерпіць!
Толку, што стаў інжынерам я... Зноў
Сёння жыццё мяне круціць і верціць —
Я — то без хлеба, то я — без штаноў!..

Спрэчкі бацькоў прыглушыла штодзённе —
Цэны, няхватка харчоў, мітусня.
Гэта багацце прыдбалі не сёння,
Многа гадоў нажывалі — штодня.

Рана ўставалі і спешна — на працу.
Шурка даўно бездагляднасць пазнаў.
Рэдка ўдавалася разам сабрацца —
Дом не прыцягваў, не грэў, не яднаў.

І набылі мімаходнасць спатканні,
Быццам чужыя — бацькі і дзіця.
Маці радзей задавала пытанні —
Думкі расплюшчыла ноша жыцця.

Бездань між душамі... Дзе тая кладка,
Што аб’яднае абодва бакі?
Продкі — на гэтым, насупраць — нашчадкі,
Дзеці — на тым, а на гэтым — бацькі.

Што хвалявала — амаль не кранае,
Глушыць пачуцці пакутлівы час.
Хутка стамляцца душа пачынае
Там, дзе палоніць бязвыхаднасць нас.

*

Шуркавы ногі імчаліся к дому,
Ён, як маланка, ў пад’езд заляцеў.
Доўга ў пад’ездзе стаяў нерухома,
Здыхацца, скінуць нервовасць хацеў.

Цешыла думка: «Уцёк, адарваўся,
Змыўся, зліняў...» Ад душы адлягло.
А пра астатняе не хваляваўся,
Іншых і іншага — як не было.

Нехта там недзе крывею зыходзіў —
Дробязь! Галоўнае — бух у пасцель.
Шурка спакойна ў кватэру заходзіў,
Каб затаіцца, каб легчы на мель.

Маці не спала. І бацька уткнуўся
Носам у тэлевізійны экран.
Маці азвалася: — З працы вярнуўся!..
І цыраваць перастала кафтан.

Моўчкі іголку у шпульку ўтыркнула,
Моўчкі адклала свой «швейны станок».
Сына ласкава за плечы кранула:
— Ёсць макароны — пагрэю, сынок...

— Насталаваўся у вас, накарміўся:
Хлеб, макароны, булён, маслакі...
Шурка плячыма крутнуў: — Я стаміўся!..
Плечы не ўчулі пяшчоту рукі...

— Грэшна, сынок!.. Хіба ж беднасць — прычына,
Каб адцурацца ад дому свайго?..
Маці заўважыла шапку у сына.
— Справіў абноўку?! Андатра — ого!

Мужа гукнула: — Адліпні ад скрынкі!
Бацька памераў «абноўку», патрос...
— Што ж, малайчына! Стараешся, сынку,—
Я да такога пакуль не дарос.

*1993*

Што ты, мой конік, траву не скубеш?
Цешся, сталуйся. Хочаш аўса?
Калі ласка — паеш,
На, падсілкуйся.

Папрацавалі з вясны мы з табой
Дружна, ў ахвоту.
Бог паспрыяў разабрацца з сяўбой —
Сохні ад поту.

Летам вальней — прывязём воз-другі
Дроўцаў-паленаў,
Выспеюць потым лугі-мурагі —
Будзе і сена.

Адпачывай, бо як толькі засне —
Ссохне бульбоўнік,
Зноў пабрыдзём па адной баразне,
Добры мой конік.

Зноў узмакрэюць спіна і бакі,
Косці заломіць.
Не дармаеды мы, не лайдакі —
Хай Бог бароніць.

Выберам бульбачку, перабяром —
І ў варывеньку.
Пабаpануем і пераарoм
Поле, зямельку.

Стоміцца восень зямліцу мачыць —
Зімка прыблудзе.
Трэба й зямлі да вясны адпачыць —
Сілу набудзе.

Ты прытаміўся — здыму я аброць
І рассупоню.
Служыш ты мне без дубца, самахоць —
Дзякуй, мой коню.

Буду карміць цябе, буду паіць
Чыстай вадзіцай...
Слухае конь мой, у вочы глядзіць —
З розумам быццам.

Раптам пачуў я (няўжо гэта сню?) —
Конь словы шпара:
— Дзякуй табе за тваю дабрыню,
Мой гаспадару!

Згодзіцца ў працы з табой векаваць
Хворы і кволы —
Любіш ты сам, гаспадар, працаваць,
Любіш жывёлу.

— Што ж не скубеш ты, мой конік, траву
Смачна, рупліва?
Што апусціў да зямлі галаву
Сумна, тужліва?

Конь ледзь прыкметна вушмі стрыгануў,
Фыркнуў з уздыхам,
Жаласна ў вочы мае зазірнуў,
Кажа мне ціха:

— Не, не баіцца работы наш род,
Выцерпе й пугу.
Гора з таго, што пайшлі мы на звод,
Конь — на акругу.

Грэх наш які і якая віна?
Што за матывы?
Мы чалавеку служылі здаўна,
Вынік — жахлівы.

Перамалоў нас няўдзячнасці млын —
Век высакосны.
Стаў чалавек ля жалезных машын
Чэрствы і злосны...

Не, не пярэчыў я сябру свайму —
Лыпаў вачыма.
Што б ні казаў, ні тлумачыў яму —
Будзе ўсё міма.

Наша бяздушша на жорсткасць памнож —
Будзе ўсё мала.
Іх наша глупства пусціла пад нож —
Закатавала.

Сумна і сорамна, горка — хоць плач,
Песенька спета.
Ціха прамовіў я: — Конік, прабач...
Праўда ўсё гэта.

*

Ноч я не спаў — паскалолі мазгі
Думкі-іголкі.
Хату пакінуў я, нейкі другі,
Ціха на золку.

Вось і палоскі святла зацвілі —
Ранак ружовы...
Веру й не веру, былі й не былі
Конскія словы.

Хоць сапраўды размаўляў з вараным —
Бойся прызнацца.
Скажаш камусьці — палічаць дурным,
Будуць плявацца.

Потым і праўду палічаць маной —
Станеш манюкам,
Не, хай памрэ гэта тайна са мной —
Лепей — ні гуку.

І агарнулі раптоўна мяне
Сум, адзінота.
Плакала сэрца, як гук на струне
Раненай нотай.

Не! Хто пачуе плач сэрца майго?
З кім падзяліцца?
Стаў я услых ні з таго ні з сяго,
Быццам маліцца:

— Маці-зямелька! Я веру, што ты
Бачыш і чуеш.
Нам у віры глухаты, слепаты
Многа даруеш.

Ты — і калыска, і наш радавод —
Корміш і поіш.
Ты нам і родзіш, і плодзіш штогод,
Годзіш і гоіш.

Помніш галечу дзяцінства майго?
Жахі маленства?
Ты атуліла, як маці, яго,
Як набажэнства.

Тая малітва і сёння ўва мне
Сэнс захавала.
Ты на пяшчотных далонях мяне
Грэла, люляла...

Раптам я чую — нібыта здаля,
Быццам бы з нетраў,
Шэптам травы адказала зямля,
Подыхам ветру:

— Чую я добрыя словы твае,
Голас ласкавы...
Добрыя словы, але нестае
Добрае справы.

Хоць і псаваў мяне тысячы год
Розны народзе —
Большасць прынесла мне шкод і нягод
Ваша стагоддзе.

Хімія, атам —
бягуць з-пад замкоў
Наперагонкі,
Быццам бы людзі не прагнуць вякоў,
А аднадзёнкі.

Быццам бы людзі...
Не вытрымаў я:
— Боская маці,
Злітуйся!.. Досыць, зямелька мая,
Сэрца мне рваці!

Сціхні, зямелька! Душу маю рвеш —
Цяжка мне чуці...
Сонца ўзышло... Не раса на траве —
Кропелькі ртуці.

Чорная хмара з Чарнобля паўзе —
Богу маліся.
Хімію, цэзій ядзім па чарзе —
Во дажыліся...

*

Хутка ляціць ашалелы наш час,
Коціць штодзённа...
Неяк прыехала ў вёску да нас
Шышка з раёна.

Хворы, і кволы, і самы стары
Скінуў задышку,
Каб абступіць на калгасным двары
Гэтую шышку.

— Дзе нашы пенсіі?
— Лекаў няма!
— Хлеб не завозяць!
— Грошы не плоцяць!
— Працуем дарма!
— Дачнікі шкодзяць!

— Зноў на гарэлку паднялі цану!
— Хутка нам — крышка!..
Словы, нібыта гарох у сцяну,
Біліся ў шышку.

З горыччу глянуў ён зверху уніз
І — у машыну.
Спрытна, як быццам кусаў яго гіз,
Хуценька згінуў.

Ці не пачуў ён, ці не зразумеў —
Бліснулі колы.
Доўга яшчэ сам з сабою шумеў
Хворы і кволы.

Конь зразумеў, нават ён даў адказ —
Конь і зямліца,
А кіраўнік... не пачуў сёння нас —
Пыл аж клубіцца.

Атам — убок! Мы заместа яго
Крыўду глыталі.
Можа, таму, што адзін аднаго
Чуць пераcталі?

Многа пытанняў, вялізны клубок —
Перапляліся.
Што мы ні робім — вылазіць праз бок —
Во дажыліся.

*1989*

# «Гарачыя кропкі»



«Гарачыя кропкі» —
на целе Зямлі,
Нібыта крывавыя язвы
на целе Сусвету,
На сэрцы ўсяго Чалавецтва...
І там, дзе «гарачыя кропкі» —
там кроў,
Там смерці разгулле,
Там дзень не адрозніць ад ночы,
І там зараджаюцца новыя кропкі...
А кропка ў славеснасці —
думцы канец,
А кропка —
і сказу ўсяго заканчэнне.
Ці будзе далей,
пасля кропкі працяг?
Ці будзе хоць слова?
А «кропак гарачых»
усіх не злічыць,
На нашай планеце не кропка —
шматкроп'е.
І родзіць шматкроп'е
далейшы працяг
І новай крыві,
І няшчасцяў,
І смерці.

*

«Гарачыя кропкі...»
Адкуль вы? Адкуль?
І хто вас стварае?
Халодныя сэрцы!
І душаў астылых
Халодны разлік —
Інтрыгі,
Палітыка,

Здрада,
Нажыва,
Міжнацыянальны сляпы недавер,
І міжрэлігійнае неразуменне,
Драпежнасць вялікіх дзяржаў
да малых —
У дужага кволы заўжды вінаваты.
А тое, што будуць ахвяры —
Луска!
Кіруюць славутыя
«націнтарэсы».

*

На важнай нарадзе
пытанне адно:
Ці варта «распальваць»
чарговую кропку
За тысячы вёрстаў
ад дому свайго?..
Усе Прэзідэнту глядзелі у рот,
А ён не вагаўся, сказаў сваё:
— Варта!
Там нафта!
Там процьма драгмету!
Там газ!
А вось дэмакратыі там не хапае!
Што скажуць эксперты? —
Устаў генерал:
— Па нашых падліках,
Мы страцім ад сілы
тры сотні салдат,
Ну максімум, пры ўскладненні —
паўтысячы...
І зноў Прэзідэнту у рот паглядзеў.
— Прымальная лічба! —
сказаў Прэзідэнт,—

За нацыянальную
нашу бяспеку
І за дэмакратыю —
трэба плаціць!
Хто скажа яшчэ? —
Тут раптам вядомы
псіхолаг падняўся:
— Паўтысячы — шмат!
Ды і трыста — замнога!
Няхай можа лепей
загіне адзін.
Хаця і адзін чалавек —
цэлы свет,
Сусвет-індывідум,
сусвет — непаўторны...
Удзельнікі сходу раскрылі раты
І зноў павярнуліся ў бок Прэзідента.
А той у псіхолага ўперыў пагляд:
— Ты кажаш, адзін!..
— Так, спадар Прэзідэнт!
Адзін, калі ёсць
ваша згода на тое.

— Ці ёсць мая згода,
пытаешся ты?
Якія быць могуць пытанні!
Я згодзен!
Адзін чалавек — гэта дробязь!
Нішто!
Нішто ў параўнанні
з намечанай мэтай!
Адзін чалавек у вялікай гульні —
У полымі іскра,
яе не заўважыш.
За нацыю скласці сваю галаву,
Упэўнены, кожны
за гонар палічыць.

Я згодзен!
Працягвай!
Выкладвай свой план! —
Цяпер ужо ўсе
павярнуліся ўраз
Не ў бок генералаў —
прызнаных стратэгаў,
А да чалавека,
які абяцаў
Дзівосна пазбегнуць
шматлікіх ахвяраў.
Псіхолаг углыбіўся ў думкі свае —
Навокал напружанасць і хваляванне.
У поглядзе кожным крычала адно:
— Ну што ты прыдумаў?
Выкладвай!
Хутчэй!
Ён выдыхнуў ціха:
— Спадар Прэзідэнт...
Загінуць там трыста,
Пяцьсот,
Нават болей.
Загіне там трыста сусветаў,
Пяцьсот,
А з імі і шмат
ненароджаных дзетак,
Загінуць там мары,
Надзеі,
Каханне,
І знікне...
— Пастой! — ускіпеў Прэзідэнт,—
Спыні сваю лекцыю,
тут не студэнты!
Ты нам абяцаў,
што загіне адзін,
Дык дзе той адзін?
Як адным абысціся?

— Што ж, згодзен, спадар Прэзідэнт,
абяцаў,
Няхай сабе будзе адзін —
ваша воля...
Ўявіце сабе, што загінуў адзін —
Ваш сын, ваша спадчына,
ваша крывінка.
Вы згодны, спадар Прэзідэнт,
што адзін —
Нішто, бо адзін той —
чужы, невядомы,
Зусім незнаёмы —
чужое дзіця,
«Нішто» — і для вас,
і для многіх прысутных.
І трыста — «нішто»,
і паўтысячы — нуль,
Таму, што між нейчых
забітых сыноў
Не будзе, упэўнены,
вашага сына...—
І зноў цішыня агарнула пакой,
І болей ніхто цішыню не парушыў.
Выходзілі з залы нарадцы цішком
І толькі адзін, як абмёр —
не крануўся.
І доўга сядзеў за сталом Прэзідэнт
І думкі пранізвалі сэрца балюча.

*

«Гарачая кропка» — малая вайна,
Малая вайна — ды вялізнае гора,
І безліч ахвяраў,
І безліч сірот,
І новыя «кропкі» —
За кожнай — злачынства,

За кожнай нязменна —
пакуты, бяда,
Інтрыгі,
Палітыка,
Здрада,
Нажыва...
Калі ўжо на гэты
ганебны працяг
Пастаўлена будзе сапраўдная
КРОПКА?

*2010*

О крылы надзеі, душэўнага ўзлёту!
Як лёгка мне з вамі заўжды
Тварыць, працаваць —
аж да сёмага поту,
Адкінуўшы гмахі-гады.

Вы здольныя ўзняць
да вышынь у імгненне
Задумкі, пачуцці мае,
Як быццам бы маці-Зямлі прыцягненне
Увогуле не існуе.

І сэрца пульсуе —
то ў шчасці,
то ў пекле,
То ў промнях,
то ў прыцемку лёс.
О крылы душы!
Толькі б вас не абсеклі,
Не зрынулі ў бездань з нябёс!

*

Вядома здаўна...
Ды, магчыма, нямногім:
Хоць маем з народзін мы ўсе
І сэрца,
І розум,
І рукі,
І ногі,
І хоць нас трымаюць зямныя дарогі —
Акрыленасць ў неба нясе.

Як птушак натхняе
празрыстае ранне,

У час, калі сонца ўстае,
Нас крыліць
маленства,
юнацтва,
каханне
І Вера — бо як без яе!
А потым сталеем...
прыкладваем сілы,
Каб здзейсніць нязздзейсненасць мар.
Ды штосьці слабеюць,
стамляюцца крылы
Пад ціскам нявеtлівых хмар.

І час, як маланка...
І дні, як імгненні...
І сцяты напружаны рот.
То ўзлёт,
то падзенне,
то ўзлёт,
то падзенне,
То... не атрымаўся узлёт.

І сэрца падранкам
скрываўленым б’ецца —
І дзе паратунак знайсці?
Згубіўшаму крылы адно застаецца —
Ісці.
Не зламацца.
Ісці.

*

Між зла і дабра —
нібы між бегарамі,
Плынь кожнага лёсу цячэ.

Адныя — не чуюць зямлі пад нагамі,
Другія — наўзлётку яшчэ.

Камусьці акрыліцца не дапаможа
Ні ўзрост, ні каханне, ні Бог...
Народжаны поўзаць —
не поўзаць не можа,
Быльнёг —
ён і ў жыце быльнёг.

Ану іх, паўзучых!
Узлёт ім нямілы,
Бязкрылым не трэба разбег.
Ды толькі аб іх і абламваюць крылы
Узнёсласць і талент спрадвек.

Ратуй нас, Духоўнасць!
Будзь музай паэтам,
Натхненне нясі мастакам!
Узнось сваіх творцаў
над часам,
над светам,
Як спадчыну новым вякам!

Мацуй нас, надломленых,
Вера святая!
Не дай абяскрыліцца нам.
У сэрцы-падранкі няхай завітае
Святога Пісання бальзам.

Наперадзе свету —
«Спярва было Слова!»
А Слова святое —
сам Бог!

А Слова —
душа,
і славеснасць,
і мова,—
«Свяцільнік для шляху, для ног»[1].

*

Мінула маленства...
Юнацтва мінула...
Каханне...
каханне было.
Душа непаўторнасць палёту адчула,
А ў сэрцы не гасла святло.

Нас крыліць
маленства,
юнацтва,
каханне —
Згаджаюся з гэтым і не,
Бо й сёння,—
ля самай мяжы развітання,
Мой век акрыляе мяне.

Зямля, што дала мне жыццё —
акрыляе,
І шчырасць маіх землякоў.
І памяць, што ў сэрцы насіць дазваляе
Нязгаслыя лікі бацькоў.

Душу уздымае шчаслівай хвілінай
Натхненне —
паветра для крыл,
І повязь з маёй Беларуссю адзінай,
Якой я свой лёс прысвяціў.

---

[1] Псалом 118:105

Ёсць чорныя плямы
будзёння-штодзёння,
Ці варта пра іх гаварыць?
Я Богу удзячны
за кожнае «сёння»,
За дух, за магчымасць тварыць.

Удзячны жыццю за духоўныя сілы,
Што след пакідаюць за мной.
Душа маладая!
А значыцца крылы
Прыемна адчуць за спіной!

*

Акрыліцца кожнае
сэрца гатова —
Патрэбен духоўны штуршок.
Акрыліць усмешка,
сяброўскае слова,
Сінь вод,
белапеннасць аблок.

Галоўнае —
кожную з’яву заўважыць:
Буслоў,
матылькоў,
сенажаць,
Усход —
не пакрыўдзіць,
Вясну —
не зняважыць,
Зямліцы —
пашану аддаць.

І добры душэўны настрой —
тыя ж крылы —
Ляці, чалавек —
вольны птах!
Высокія мары,
духоўныя сілы,
Любоў да жыцця —
кожны ўзмах.

*2010*

# Эва... рэва... люцыя



*Ад вынаходніцтваў сваіх*
*свет неаднойчы здрыганецца.*
С.Д.

Тупік, да болю ўсім знаёмы,
Пытанне ёсць, а дзе адказ:
Хто мы такія?
Ад каго мы?
Хто ў доўгі шлях адправіў нас?

Хоць Дарвін абгрунтоўваў складна
Сваю тэорыю — і ўсё ж,
Хто здольны адказаць дакладна —
Мы не ад малпы?
Ад каго ж?

Які ён, той жыцця зародак?
З вады ён ці касмічны госць?
Так, ён загадкавы, наш продак,
А мы — рэальныя.
Мы — ёсць!

Мы крочым хутка і свядома,
І свет мяняем — на вачах.
Адно дакладна нам вядома —
Наш шлях — эвалюцыйны шлях.

Ён быў эвалюцыйна-роўны,
Няспешна, мудра ўзрошчваў нас,
Бо й плод не выспее раптоўна,
А паступова, у свой час.

Ды час эвалюцыйны збочыў,
Рэвалюцыйны ўзяў разбег.
Усё болей доўжыліся ночы,
Усё меней заўважаўся грэх.

Жыццё мянялася стыхійна,
Рэха падзей гуло над ім.
Гвалтоўна, неэвалюцыйна
Хто быў нікім — рабіўся ўсім.

Духоўнасць нішчылі актыўна,
Над годнасцю чыніўся здзек.
І неяк штучна, дырэктыўна
Ствараўся «новы» чалавек.

«Чырвоны» чалавек, не «белы» —
Усіх крывавы дождж мачыў.
І час, як плод той недаспелы,
Недасканаласцю гарчыў...

Мы крочым хутка, мыслім нова,
Па лозунгу — у кожны дом.
І вось ужо перабудова
Усё варочае ўверх дном.

На доўгім языку прывычна
Імчаць да велічных падзей.
Хаця ламаўся анархічна
Лёс і Радзімы, і людзей.

Час індывідумазнішчальны
І ён — стваральнік шэрых мас.
Ад рэвалюцый разбуральных,
Здаецца, й сам стаміўся час.

*

Рэвалюцыйны час шалёны
Над эвалюцыяй, як крыж.
І вось ужо не людзі — клоны,
Рука — камп’ютарная мыш.

Ужо не людзі — цень каменны,
На спінах скрыўленых — гарбы.
Мутантавыя манекены,
Самаахвярныя рабы.

Рабы глабальнай павуціны,
Аблытаўшай увесь сусвет.
Тчэ павуцінне ён адзіны,
Павук драпежны — інтэрнэт.

Павук, які наўрад ці згіне,
А смокча, губіць душы, час.
Штогод у гэта павуцінне
Ублытваецца болей нас.

І ўжо бязмежны і бяздонны
Магутны інтэрнэт-абшар,
Урад стварае электронны,
Тамы даследванняў, буквар.

І мамаў, татаў электронных
Праз дзень-другі прыпаднясе.
А колькасць душ адушаўлёных
Раздушаўляе пакрысе.

І інтэрнэт усе жаданні
Сплёў-пераплёў адным вузлом —
І віртуальнае каханне,
І кодаў ядзерных узлом.

І сэкс, і «мухі», і «катлеты»,
І ўвесь парнаграфічны жуд,
І ўсе інтымныя сакрэты,
І ўвесь антыдухоўны бруд.

Спраўляе баль усепланетны
Павук дасціпны — «дабрадзей».
І ў гэтым сметніку сусветным
Маленства губіцца дзяцей.

Яны — анёлавыя душы,
Яны — даверлівасць сама,
Улезлі ў інтэрнэт па вушы,
І выхаду з яго няма.

«Стралялак» скрытная драпежнасць,
Гвалтоўнасць віртуальных драм,
Як ад наркотыкаў залежнасць,
Утрымлівае душы там.

Не адпускае павуціна,
Палоніць інтэрнэт-прастор.
І ўжо дзіцяці ўсё адзіна —
Што дзень, што ноч, што манітор.

І высвятляецца страшэннасць —
Рыхтуе дзецям інтэрнэт
Замкнёнасць душаў,
ведаў дрэннасць,
Духоўную непаўнацэннасць,
Агрэсію, хвароб букет.

---

З’еў бутэрброд, затым адрыжка,
Ці ж варта ганьбіць бутэрброд?
Адмоўнае — як дзёгцю лыжка,
Станоўчае — у бочцы мёд.

Станоўчых справаў больш у свеце,
Чым марных спраў, інакш — тупік.
Станоўчае — і ў інтэрнэце,
Ён сёння — дасягненняў пік.

Так, з намі інтэрнэт навечна,
Бо без яго мы — слепакі.
Карысны ён для нас?
Бясспрэчна!
Але ж у палкі — два бакі.

*

Мінула Беларусь развалы
На павароце, на крутым.
Мы не спявалі гімн няўдалы:
«Усё разбурым, а затым...»

Кранула й нас перабудова —
Тупік, няўпэўненасць і страх.
Але нязменна, паступова
Шукала Беларусь свой шлях.

Ішла, як роўная між роўных,
Без рэвалюцый — бачыць свет.
Ішла спакойна і грунтоўна
У новы дзень, да новых мэт.

А інтэрнэт — ён верхаводзіць
Ў галовах, душах, нават снах.
Ён не адну бяду народзіць
І не адзін утворыць жах.

Ён — спраўны рабаўнік нашчадкаў,
Ён разбурае кволы мір,
Ён — на чале ўсіх беспарадкаў,
Ён — рэвалюцый правадыр.

Ён, як казёл, душы гароды
Перакапыціць, папсуе.
Ён свет вядзе — ды не да згоды,
А ў пасткі брудныя свае.

І без яго — свет неспакойны,
Бразг зброі непакоіць слых.
Адновіць ён у свеце войны
«Халодныя» — й не толькі іх...

Прабач мне, электронна-новы,
Тэхнічна-дзіўны, супервек.
Я — ад зямлі, як ёсць — вясковы,
Крыху адсталы чалавек.

Мяне судзіць?
Лепш апраўдайце!
Не падымайце гвалт і крык,
Бо, як сказаў даўно Кандраце[1] —
Між вас я — сапраўды мужык.

*2009*

---

[1] Кандрат Крапива

Жыццёвы вір,
Аднойчы захапіўшы,
Не выпусціць,
Закруціць
У вяроўку —
Не зробіш пад яго
Падныр.
І двойчы
У адну «ваду»
Не ўлезці —
Не нарадзіцца
Зноўку.

*

Вір у вадзе
Тапельніка трымае
«Салдацікам».
І ён
«Стаіць».
Не дзенецца нідзе —
Трывае
І чакае.
Пакуль яго
У дошкі апрануць
І ён з абноўкаю сваёю
У шлях апошні
Пабрыдзе,
Як той Ісус,
Па вечнасці —
Вадзе.

*

Жыццёвы вір
Мудрэй
За вадзяны.
Ён увесь час
Мяняе нашы позы —

І яны
«Салдацікам»,
Толькі жывым бываюць,
І ў тры пагібелі
Нам спіны выгінаюць,
І — на лапаткі!
Дзякуй,
Без труны.

*

Бываюць, і нярэдка,
Экземпляры —
Вышэйстаячых цені.
Яны кладуцца,
Гнуцца,
Ледзь паспяваюць
Ачышчаць калені
Пасля пяску
Начальніцкай падлогі.
Стаяць салдацікам,
І зноў згінаюць ногі,
Пры гэтым
Паспяваюць
І лізнуць,
І на таварыша
Брахнуць.
Для іх жыццё
Не вір —
Ставок, цішэй балота,
Дзе бруд вакол
І сам — брыдота.
Затое — вось
Нага гаспадара,
Дзе можна ціха
Ці на ўра
Куснуць, брахнуць,
Пакорліва хвастом вільнуць.

*

А ёсць такія,
Хто не годзіць
Ні часу,
Ні спакусам,
Ні сабе.
Ляцяць яны вышэй,
Як вольны птах,
І шчырым беларусам
З-пад нябёсаў
Адважна прысвячаюць кожны ўзмах.
Яны на п’едэстал
Нярэдка
Узыходзяць
І гэтак жа
Нярэдка
«У абноўках»
Ідуць
Заўчасна
У апошні шлях.

*

Што да мяне —
Кароткая прадмоўка —
Героя не раблю
З сябе,
З свайго жыцця,
Хоць я ўладальнік
Слоў,
Паперы
І алоўка,
І мог без меры пачуцця
Пісаць партрэт
Анёлка.

За доўгае жыццё
Не раз:
І гнулі,
І ламалі праз калена,
Мянялі праўду на ману
І білі ў зубы,
І ў душу нязменна.
А вось пад зад —
Ні разу!
Бо не паказваў ім
Спіну.
А ці даваў я здачы?
Тут вельмі проста
Адказаць,
Адзначыць.
Яшчэ лягчэй рабіць,
Як Бог вучыў.
Цытую:
Улупілі па шчацэ —
Падстаў другую.
А вось душу
Складаней двойчы біць.
Таму душу
Не вытыркай
Дарма.
Раз стукнулі,
А для другога разу,
Другой душы
Няма.
І ўсё ж душу
Ад ран цяжэй пазбавіць,
Чым зубы.
І душа —
Нябачна, ды крывавіць.

*

Жыццёвы вір...
Даруйце
Трафарэтнасць гэту,
Не вельмі ўдалы
Вобраз.
Але ён —
Не толькі кожнага
Асобна,
І планету,
І ўсё жыццё на ёй,
І нас усіх —
На кон.
Гарыць зямля
Ад цэнтрабежнай сілы
Бяздумных нашых
Спраў,
Дзе безадказнасць —
Норма.
І плача таласцю
Сівая поўнач
Стылая,
І стынуць душы нашы —
Беззмястоўнасць форм.
А вір —
Не жарты,
Цёмных сілаў нетры
Зацягнуць,
Паглынуць...
Каго?
Мяне?
Зямлю?
Яшчэ штуршок наверх!
Яшчэ глыток паветра!
Ратуй мяне...
Ратуй, Бог, нас,—
Ратуй Зямлю —
Малю!

*

Нярэдка —
У жыццёвым
У віры —
Ўвесь рух падзей
Нагамі да гары.
Тады і лёсы —
Да гары нагамі.
І пад пагрозай
Будучыні лёс,
І крочым мы
Не напрамкі —
Наўскос,
І ужо не сонца
Яснае над намі,
А чорных хмар слата
І немата,
І ночы непрабуднай
Чарната...
Вір круціць
Ўсё і ўсіх —
Яго б спыніць,
Уратаваць планету.
Яго бы супакоіць,
Каб разбуральнасць гэту
У плынь стварэння
Пераўтварыць,
Каб словы
Вір,
Віхор,
Вайна —
Ніколі не ўжываць,
А лепш —
Зусім забыць.

*2010*

*И память вонзается в сердце*
*острее ножа,*
*Но лишь искажением фактов*
*оно кровоточит...*
С. Д.

Перад кім на калені
Я стаў бы спярша,
Падышоўшы да чоўну Харона?
Перад памяццю...
Памяць —стагоддзяў душа,
Памяць для чалавецтва —
Ікона.

Хутка я за сабой
Назаўжды зачыню
Лёсу дзверы —
І кім я зраблюся?
Ці Іванам, што з памяці
Скрэсліў радню?
Ці радком
У жыцці Беларусі?

Колькі кропелек «я»
Паглынулі вякі!
Знічкі-душы
Не ведалі спасу.
Ды адзінкі рабіліся
Часткай ракі,
Плынню памяці,
Помнікам часу.

Слова,
Ў камні выява
Ці на палатне
З няўмiручасцю часу —
Сам-насам.

Час няспынна мінаў,
Час няўмольна міне,
А яны застаюцца
Над часам.

І з бяздоння вякоў
Скупа сведчаць яны
Пра змаганне,
Святочнасць,
Будзённе.
І даносяць да сёння
З сівой даўніны —
Хто пракладваў
Сцяжынку ў сёння.

Немагчыма свядома
Без памяці жыць
І адольваць
Жыцця мешаніну.
Рукатворнасць жыве —
Слоўмі ж можна сказіць,
Спляміць памяці
Светлай тканіну.

Што далёка хадзіць!
Сёння жах, хоць крычы,
Чорны змрок
Цень вайны новай вабіць
Трэба свет абудзіць,
Трэба мір зберагчы
Аб бяспамяцтва —
Мір табе, памяць!

Сваёй памяццю
Так і не выйшлі з вайны,

Ў сэрцы носяць
Падзеі ліхія,
Дзеці нашай зямлі,
Чалавецтва сыны —
Пераможцы!
Салдаты!
Месія!

Праз агонь і свінец,
З лютай смерцю на «ты»
Лёс салдата —
Ад бою да бою.
І няма ў той вайне
Аніводнай вярсты
Неасвенчанай іхняй
Крывёю.

Не злічыць убіенных,
Не ўсе дажылі
Да ўсясветнай
Заслужанай славы.
І тады не было
На ўдзячнай зямлі
Аніводнай
Няўдзячнай дзяржавы.

Да мясцін трагедыйных —
Да месцаў святых,
Быццам паўшых жыццё
Завітала,—
Загараліся зоркі
На помніках тых,
Там, дзе памяць
У бронзе ўставала.

Памяць сэрца вяртаецца
Ў тую пару,
Успаміны крывавяць
І раняць...
Ёсць і тыя, хто ставіць
Нагамі ўгару
Гістарычную спадчыну —
Памяць.

Быццам вольны сусвет
Не палоніла зло,
Не стракаціла сонца
Ад куляў,
Быццам попелу
Ад немаўлят не было
Ці з жаночае скур —
Радыкюляў.

Быццам ранак жыцця
Не знішчала жуда,
І зямля не стагнала калісьці.
Быццам кроў —
Не бяда,
Быццам слёзы —
Вада,
Быццам рабства —
Адзінае выйсце.

Так, не мала такіх,
Хто з гісторыі кпіць,
Суд ганебны
Над ісцінай чыніць,
Хто адкрыта
Ці ўпотай
Імкнецца зрабіць
Белым — чорнае,
Зло раззлачыніць.

Здрада памяці —
Здрада таму, што было,
І вякам ненароджаным —
Здрада.
І прадвеснік таго,
Што аднойчы святло
Зноў палоніць
Цямнэча-блакада.

Тым, хто хлусіць,
Скрыўляе гісторыі след —
Суд гісторыі —
Без прабачэння.
Толькі памяць шануе,
Ўратоўвае свет
Ад трагедый мінулых,
Знішчэння.

*

Мір і сонца,
Любоў,
І ўсмешкі дзяцей,
Хлеб надзённы,
Душэўная песня,
І, не чуўшыя гром кананад
Салаўі,
Крылы мар,
Калыханка матулі.

Новы ранак настаў —
Не апошні ў жыцці,
Надышоў новы дзень —
Не апошні.
Дзіўна як!
Закахана квітнее вясна —
Не апошняя!
Колькі вас, вёснаў!

Ёсць дзівіцца чаму!
Хоць які тут дзівос?
У жыцця —
Каляровыя фарбы.
Чалавек уладае
Дзівосным жыццём.
Не апошнім?
Бясцэнным!
Адзіным!

І над гэтым жыццём —
Над бясцэнным,
Адным,
Над усмешкай дзяцей,
Над каханнем,
Над Зямлёю,
Якая для кожнага —
Дом,
Беражніца-ахоўніца —
ПАМЯЦЬ!

*2010*

Народзіны
І смерць...
А што між імі?
Вялікі сэнс жыцця
Ці марнасць намаганняў?
Ці філасофскіх тайнаў
Глыбіня?
Ці ўсё надзвычай
Проста —
За днём прыходзіць
Ноч...
Такая вось банальнасць,
Празаічнасць —
Як вокладка
Паэзіі жыцця.

Народзіны
І смерць —
Падзей падзеі,
Пачатак
І канец,
І мы між імі,
Бо мы і ёсць —
Народзіны
І смерць.

Жыццё —
Ёсць мітусня,
Дзе кожны дзень —
Галоўны,
Дзе справы,
Нібы крыгі на рацэ,
Адна адну
Піхаюць нецярпліва,
Дзе мары, мэты,
Шчасце і няшчасце
Сплятаюцца
Ў заблытаны клубок.

І ўсё ж —
Над імі дзве суперпадзеі,
Тытаны два —
Народзіны і смерць.

Народзіны —
Загадка, таямніца...
Хто скажа, для чаго
Нам дадзена жыццё?
Каб есці?
Піць?
Пладзіцца?
Каб упрыгожваць свет?
Дык мы яго нявечым.
Ды і само жыццё
Нам — не прыярытэт —
Сабе падобных
Нішчым,
Нішчым,
Нішчым!
І, пэўна, з даўніны
Падлік вякоў сівых —
Забітых значна больш,
Чым сёння
Ўсіх жывых...
Ды ёсць вялікі цуд,
Жыцця прычал —
Народзіны —
Не толькі бедаў
І ахвяр патэнцыял,
Народзіны —
Яшчэ і ручайкі,
Прытокі вечныя
Магутнае ракі.

Народзіны...
Загадка і таму,
Што навуковы свет
На жаль, не здольны

Сказаць дакладна:
Адкуль жыццё?
Адказ наўрад ці будзе —
З якіх крыніц
І таямніц
Мы — людзі?

А вынік вынікаў,
Падзей падзея —
Наш таямнічы
Адыход у вечнасць,
У іншы свет.
Дзе, як сцвярджаюць
Знаўцы,
Валхвы ўсіх часоў —
Жыццё прадоўжыцца
У вечнай благадаці...
(Хапіла б месца ўсім.)
Але ж, дзе мы —
Там, пэўна, і ўлада,
Бо без яе — хаос.
І хто нам размяркуе прывілеі?
І на каго маліцца,
Апроч Бога?

Аптымістычны гэты
Варыянт —
Наш таямнічы адыход
Кудысьці,
Мацуе кволых,
Не кранае дужых.
Яго не варта абвяргаць,
Няхай,
Хто сабе хоча,
Думкай багацее.

А навуковы варыянт —
Другі,
Ды ну яго!

Каму ён толькі трэба!
Ён не пускае
Нашы душы ў неба,
А ўсё — ў зямлю,
Ў зямлю —
На спарахнеласць.
Ён прыгнячае
Аптымізм і смеласць.
І ўсё ж я вас
Надзеяй акрылю:
Адсутнасць доказаў
І ў тых,
І ў тых —
Таму заўжды
Ёсць выбар у жывых:
На неба
Ці ў зямлю...

На неба ў бессмяротнасць?
Ці ў зямлю?
Вось тут узважыць трэба,
Бяздумна не хапайцеся
За неба:
Каб так было
І ўсе туды шугалі,
О колькі б там было
Зямных грахоў,
Якія б з намі
Пераваандравалі.
І пачалі б мы зноў
З «нізоў», з «вярхоў»,
І зайздрасць грызла б нас,
І завяліся б грошы,
І зноў няроўнасць —
Хтосьці — з плеч у печ,
А хтосьці — у раскошы.

А што, калі сысці
У чарнату
У немату зямлі...
Хоць там — не рай,
Ды роўныя мы ўсе,
Настолькі роўныя,
Што пазайздросціць могуць
Жывыя на зямлі.
Настолькі роўныя,
Што прах бамжа-бадзягі
І алегарха прах —
Аднолькавыя, побач,
Не адрозніць.

Народзіны
І смерць...
Два словы,
Дзве падзеі,
А колькі ў іх
Грунтоўнасці магутнай.
Каб не яны,—
Два вечных берагі,
Жыцця рака
Не пацякла б
Ніколі.

Не можа плынь жыцця
На месцы стаць —
Мы будзем нараджацца
Й паміраць.
Мы будзем паміраць
І нараджацца,
Мы — дзеці ўсіх часоў
І розных нацый.
Дзвярэй не абмінуць,
Хоць круць,
Хоць верць,

«Ўваход» і «Выхад» —
Народзіны
І смерць...
Падзяка вам,
Заступнікі святыя,
За унікальны дар —
Прайсці праз дзверы тыя.

*2011*

Прысеў на аблачыну Бог,
На свой лунаючы парог
І горкай думкай агарнуўся:
«Няўжо я памыліцца мог,
Стварыў не тое, прамахнуўся?
О-о! І ў мяне нялёгкі хлеб...»
І сумна лысіну паскрэб.

*

Што ж так расчаравала Бога?
Не есць, не п’е — шкада старога.
Схуднеў, зжаўцеў пад думкай-ношай,
Як той пенсіянер без грошай,
Як той бядак у маладосці,
Што да крыві грызе пазногці
Ад мары па любімай справе,
Ад непатрэбнасці дзяржаве.
Але вяртаюся да Бога
Ад набалелага зямнога,
Ад нашых заскарузлых путаў
Назад, да Богавых пакутаў.
Калісьці Бог адклаў забавы
І вырашыў: «Пара за справы!
Што за жыццё — то ем, то сплю,
Ствару спачатку я Зямлю,
На ёй — лясы і рэчак стужкі,
На ёй — звяры, кузуркі, птушкі.
Няхай шчырэе свет жывы!»
І, закасаўшы рукавы,
Зрабіў усё, што планаваў,
І зноў прылёг — запанаваў.
Спачатку добра ўсе жылі,
Хапала месца на Зямлі.
Зямля карміла і паіла,
Усіх сагрэла, прытуліла.

Але раптоўна жах падкраўся,
Бо творца-Бог перастараўся —
Узяў, зварганіў чалавека...
Вось тут памылка-недарэка,
Бо на Зямлі прапала згода —
Што ж, ёсць казёл — няма гарода.
Ну, а далей чаму дзівіцца?
Жывое прагне распладзіцца —
І столькі стала чалавекаў,
Што Бог жахнуўся, закумекаў:
«Я тут жыву сабе высока,
А там за кожным трэба вока,
Іх столькі ўжо, што не злічу,
Ці ж я за кожным усачу?..»
Адна бяда другую водзіць —
І сталі людзі грахаводзіць.
Ад прахіндзейства і маны
Забыліся — адкуль яны...
За пакаленнем пакаленне
Расло без мэты, без сумлення,
Не стала веры — анічога,
І адвярнуліся ад Бога.
Каб неяк душы ратаваць,
Задумаў Бог пабудаваць
Такі куток на месцы новым,
Дзе можна жыць на ўсім гатовым.
Табе пітво тут і яда,
Вакол — анёлаў чарада,
Якія тут замест абслугі,—
Адпачывайце без напругі!
Ні ў чым адмовы тут няма.
І ўсё, да крошкі — задарма.
І гэты кут назваў Бог Раем...
Такое й на Зямлі мы маем.
Той, хто пры ўладзе і багаты,
Даўно абжыў пансіянаты,
Спецсанаторыі і многа
Ўсяго, чаго няма і ў Бога.

Але адсюль, з Зямнога раю,
Вышэй, да Бога, запрашаю.
Ён людзям ладзіў гэту ўцеху,
Каб заахвоціць жыць без грэху,
Каб скарыстаўшы заахвоты,
Зямлю ачысціць ад брыдоты.
І вось нарэшце Рай гатовы!
Бог рады, падбірае словы,
Якімі ён сустрэне першых,
Шчаслівых, без грахоў памершых.
Стаіць, хвалюецца ля брамы —
Хто ён? Які ён, першы самы?!
Але не ўсё ўдаецца з шыкам,
О, каб так смыкам, як языкам!
Бывае, не шанцуе й Богу.
Каго паклікаць на падмогу?
Ён, бедны, рупіўся, стараўся,
А ў Рай ніхто не завітаўся.
Ён думку думае, гаротны:
«Няўжо там кожны бессмяротны?
Няўжо ніхто не памірае? —
Інакш не абмінулі б Рая...»
Зірнуў у Пекла — гразь, балота.
Кіпіць смала, кіпіць работа,
Людзей — як на Зямлі той люднай,
Яшчэ й чарга ля брамы бруднай...
Вось Бог і сеў на аблачыну,
Падпёрся і шукаў прычыну.

*

І як не шкадаваць тут Бога?
Ствараў для лепшых душаў Рай,
Стагоддзі йдуць, а ў ім — нікога,
Ані старога, ні малога,
Хоць сам кладзіся, памірай.

Ніхто яго не паратуе...
Сядзіба райская пустуе,
Нікога ля крыніц празрыстых
Ні ў садзе, ні ў пакоях чыстых,
Яда з напоямі псуюцца,
Анёлы над старым смяюцца.
Усхліпнуў Бог цішком, нясмела,
Зірнуў вакол пасалавела.
Ён з аблачыны нахіліўся,
Засоп, прыснуў і ўніз зваліўся.
Прачнуўся на Зямлі, між чаду,
Сярод разгулу і разладу,
Сярод разрухі і раздраю —
О-о, тут тутэйшым, не да Раю.
Хто — крадзе, хто — гарэлку п'е,
Хто на пасадзе лынды б'е,
Адзін працуе — сто кіруюць,
Нізы пасцяць — вярхі жыруюць.
Ускліпнуў Бог: «Знайшоў разгадку!
Тут, на Зямлі, няма парадку.
Адкуль яны, святыя душы,
Калі ў грахах усе па вушы?..»
Раптоўна чуе крык слаты:
— Памёр! Памёр!
— Святы! Святы!
Надзея агарнула Бога:
— Хутчэй назад! Сустрэць святога!

*

Не верце ў даўгавечнасць. Плёткі!
У чалавека век кароткі.
Ледзь набярэ жыццё разгон,
І ўсё канчаецца, як сон,
І мы — мінулае, мы — продкі.
Але й набожны і бязбожны
Сустрэне непазбежнасць. Кожны!

І той пузач спецсанаторны,
І той жабрак, ад працы чорны,
І той, хто кроў чужую ссе,
І той, хто кроў дае... Усе!
Вось так дажыў свой век ушчэнт,
Падвёў жыцця апошні вынік
І, як звычайны суайчыннік,
Памёр — дзяржавам апанент,
Якім выказваў недавер,—
Быў звышапазіцыянер,
Не раз, забыўшы на аглядку,
У вочы рэзаў праўду-матку.
Памёр, пакінуўшы слядоў,
дажыўшы да сівых гадоў.
Адвіраваў, адгвалтаваў
І фінішны шнурок парваў.
Чапаць не будзем небараку,
Бо прыйдзе час і лепш за нас
Усё узважыць, дасць адзнаку,
Але шуміць, гудзе народ,
У кожнага — уласны рот,
А рот дурную мае звычку,
Ды ў кожны рот дзе ўзяць затычку?
Таму і шум, і гвалт, і тлум,
Таму і плач, і смех, і сум.

*

Ля брамы ў Рай, адзеты чыста,
Стаіць узнёсла, урачыста
Сам Бог магутны — не хлушу,
Чакае першую душу.
(Тут я дасціпным нагадаю:
Каб прыляцець з Зямлі да Раю
Патрэбен час, ды каб не збіцца,
У вышыні не заблудзіцца.)

Пра гэта Богу ўсё вядома.
І хоць стаіць ён нерухома,
Ад нецярпення аж згарае
І на гадзіннік пазірае.
Раптоўна чуе... Што такое?!!
З-за брамы крык ляціць, з пакояў!
А там на крыкі забарона,
Там райскай благадаці лона.
Хто парушае недазволы?
Хто тлум узняў? Няўжо анёлы?
І Бог рашуча — у пакоі,
Усіх заклікаць да спакою.
Цераз парог ступае Божа,
А там... Такога быць не можа!
І мітусні, і шуму поўна —
Душа з’явілася раптоўна,
Ды так крычыць і пратэстуе,
Ды так віруе і кіруе,
Што ад нязвыклых пераменаў
Анёлы ціснуцца да сценаў,
А Бог і сам прысеў на пяткі —
Вось гэта новыя парадкі!
Крычыць душа на зычнай ноце:
— Я што, тут буду ў адзіноце?!
Я хутка Рай ваш перайначу,
Калі па-свойму ўсё не ўбачу!
Мне будзе Рай зямлёй бясплоднай
Без апазіцыі, без роднай?!
Бог адказаў душы: — Яны,
Каго назвала ты, грашны,
Таму даўно ў смале кіпяць,
А ў нас — бязгрэшным благадаць.
Душа прапела ганарліва:
— Адзін бязгрэшны я! Не дзіва!
Вось я і даказаў сваё —
Няхай зайздросцяць мне! Жульё!

Хай у катле пагрэюць пяты,
Ды папрацуюць, дармахваты!
І за мяжою знатакі
Хай ведаюць, хто я такі!
У Бога дух аж заняло —
Адкуль такое прыплыло?
Так маналожыць замыслова,
Што немагчыма ўставіць слова.
Нарэшце Бог падняўся з пяткаў:
— Я не дазволю безпарадкаў!
Я за такі кардыбалет
У Пекла выпішу білет!..
Як кажуць, Бог падсек карэнне,
Бо стала ціха на імгненне.
І толькі ружы, як дзяўчаты,
Аб нечым шэпчуцца заўзята,
Ды ў садзе салавей свіргоча...
І тут Душа як зарагоча:
— Мяне?! У Пекла?! Тут мой дом!
Ды я ствару такі Садом,
Што тое Пекла стане Раем!..
Бог ціха застагнаў з адчаем.
Ён багахульства чуць не мог,
Крутнуўся — і цераз парог.

*

Цяпер настолькі хлусяць гладка,
Што дзівішся: дзе праўда-матка,
Дзе забабоны дзьмуць у дудкі,
А дзе з пустога меху чуткі?
І пасля гэтага чытання
У галаве, як цвік, пытанні:
Дзе? Як? Адкуль? Няўжо было? —
Ну і язык, што памяло!
Наплёў абы чаго, як з лёду...

Ды я не быў манюкам зроду!
Паклаў я тое на паперу,
Што чуў ад... (Ікс), якому веру,
І ён, той Ікс, плёў балаболы
Пра Рай, нібыта ўсе анёлы,
Пакуль Душа ў ім верхаводзіць,
У Пекла збеглі час праводзіць.
Душа ж рыхтуе захад новы —
Праводзіць з Пеклам перамовы,
Каб аб'яднацца нейкім чынам
І быць кіраўніком адзіным...
Хто там і да чаго імкнецца,
Цяпер сам чорт не разбярэцца.
І нам сушыць мазгі не трэба,
Патрапім у свой час на неба,
А ўсё пабачыць і панюхаць,
Намнога лепш, чым байкі слухаць.

*2005*

*Тварыце, людзі,*
*На зямлі дабро!*
М. Пазнякоў

Шмат бурлівых вякоў
На Зямлі існуе чалавецтва
Ў промнях шчырых памкненняў,
У цемры каварнай маны.
Зло й дабро — спадарожнікі,
Антаганісты,
Суседства.
Даўгавечнасць — яны...
Не, хутчэй — няўміручасць яны.

Чалавецтва — дабро!
Чалавецтва, яно ж — небяспека,
Хоць і геніяў шмат,
Ды не менш і вар'ятаў дало.
Можа, Бог памыліўся,
Дарэмна стварыў чалавека,
І пусціў на Зямлю
Назаўжды
Найвялікшае зло?

Немагчыма, на жаль,
Зло ад чорных намераў адвадзіць —
І ў сучаснасць дапяў
Генны вірус сівой даўніны:
Зло — адною рукой
І прылашчыць дабро, і пагладзіць.
А другою — знянацку,
Бязлітасна — нож да спіны.

Мы звяр'я і стыхіі,
Мы хваробаў баяцца амаль перасталі,
Нават час, што жыццё скарачае,
Спакойна ўспрымаем яго,

Бо праблема праблемаў
Пакладзена часам на шалі —
Наша зло і дабро,
Процілегласці дзве —
Хто каго?

Зло тады, калі гора — не гора,
Бо гора — чужое.
Зло тады, калі боль не баліць,
Бо боль той чужы.
Зло — мая хата з краю,
Ці, каб Ноеў каўчэг ратаваў толькі Ноя,
Зло — ад сэрцаў астылых жывых,
Ад бяздушша душы.

Дык няўжо зло ды зло —
І бясконца вяровачцы віцца?
І адкуль столькі жорсткасці,
Столькі крывавых падзей?
Колькі ж зла на Зямлі —
Чалавек чалавека баіцца!
І няўтульна бывае яму
Сярод гэткіх, як сам ён, людзей.

Тут ні Бог вінаваты,
Ні нават дасужы нячысцік
Ў тым, што разам з жыццём
На Зямлі зарадзілася й зло.
Семя першае зла
Хтосьці кінуў у глебу калісьці —
У душу чалавецтва,
І яго не адрынула глеба,
Яго прарасло.

Хтосьці ўбачыў тады
Зла маленькі, ледзь бачны зародак:
— Гэта ж кропелька зла! Усяго!

А дабра акіян — цэлы свет! —
Як жа ты памыляўся,
Далёкі даверлівы продак!
Колькі вырасла зла з кроплі той,
Колькі бед!

Дзень і ноч барацьба...
Дзе падтрымку знайсці?
Дзе падмогу?
І праменіць свяло
У душы — то цямней, то святлей.
Як жа цяжка ў сабе
Над сабой атрымаць перамогу!
Ну, а як чалавецтву?
Яму шматмільённа цяжэй.

Калі ёсць недзе цар,
Будуць там і ліслівыя слугі.
А над тлустым карытам,
Там мухі заўсёды гулі.
Не дай, Бог, каб дабро
Завітала да зла на паслугі —
Меней стане дабра,
Павялічыцца зло на зямлі.

Дэмакратыя — зло ці дабро?
Ці яна — як люстэрка крывое?
Дэмакратыя — ўсё-ткі дабро...
А адкуль той скрываўлены след?
Колькі ў свеце дзяцей
Тых, што знішчыла «дэмакратычная зброя?»
Колькі мірных ахвяраў
Ад «дэмакратычных» ракет?

Шмат іх, сейбітаў зла,
Хоць маленькага зла,
Хоць аднойчы.

Але ж сейбітаў больш у дабра
І ў мінулым, і ў нашыя дні.
Зло й дабро — грудзі ў грудзі,
Зло й дабро, з веку ў век —
Вочы — ў вочы.
Ды, на шчасце, жыццё —
На далонях дабра, дабрыі.

Шлях адолее свой
Той, хто выбраў жаданую мэту,
Хто праз цяжкасці лёсу
Імкнуўся ўвесь час да яе.
Зло не ў сілах спыніць
Рух наперад свядомага свету,
Ды адна лыжка дзёгцю,
Яна — ў бочцы мёд падпсуе.

Нашы ўсе намаганні,
Нашы мары наперад імкнуцца.
Сумны ж летапіс нашых памылак
Застыў на магільных крыжах.
Безліч зла ў мінулым,
Дзе мужнасці ўзяць — аглянуцца?
Але ў будучыню зазірнуць —
Большы жах!

*У сильного всегда*
*бессильный виноват...*
И. Крылов

Беларусь незалежная...
Словы якія!
Колькі дорацць святла —
Хай бы так і было!
Мы залежым ад многіх —
Часы ўжо такія.
«Кожны сам па сабе» —
У нябыт адыйшло.

Пэўна, многія
Знішчылі б нас прынародна
І забыліся б нат,
Што такія былі.
Незалежнасць штодзень
Бараніць неабходна
Словам,
Справай,
Жыццём,
Каб драпежнік ніводны
Кіпцюрыста не пяўся
Да нашай зямлі.

Засталіся ў мінулым,
Як ганьба, ліміты.
І хоць мы ў незалежнасць
Ідзем не з нуля,
Хоць ядзім свой мы хлеб,
Мусім лезці ў крэдыты,
А крэдыты —
На шыі нашчадкаў —
Пятля.

Ёсць і нам чым здзівіць
Гэты свет, Божа правы,
І ад нас хтось залежыць,
Ў нас ёсць казыры.
Круг замкнуўся —
Няма аніводнай дзяржавы
Незалежнай ад іншых
У гэтым віры.

А ці ёсць хоць адзін
Незалежны з нас? —
Казкі!
З веку ў век
Чалавецтва складаецца з нас.
Нас бяруць у палон
Кожны дзень абавязкі,
Нас абставіны круцяць,
Валтузіць нас час.

І мяняецца лёс наш
Нявольна ці вольна,
Нас плануюць і клічуць,
Плануем штось мы
Ці па закліку сэрца,
Альбо пратакольна —
Вось чаму шлях жыццёвы
Ва ўсіх не прамы...

Ў чым яна,
Незалежнасць асобы?
Цікава!
Не знаходзім яе,
Засмучаемся зноў.
Нас псуюць і мяняюць
І грошы, і слава,
Нам бясслаўе і зайздрасць
Атручваюць кроў.

Промні,
Сонца святло —
А залежаць ад хмараў,
Як і здольная праўду
Запляміць мана.
Незалежнасць адно толькі —
Ў думках і марах,
Ды, нажаль,
Віртуальная ў думках яна.

Незалежнасць...
На нашай планеце драпежнай
Нават у «дэмакратый» —
А кроў на руках.
Вунь Амерыка,
Лічыць сябе незалежнай,
А пад фрак зазірнеш —
«Вся в долгах,
Как в шелках».

І глядзяць на чужое
З разяўленым ротам,
І няпрошаным госцем —
З нагамі на стол.
А затым «тамагаўкі»
Драпежна, з налёту
Незалежнасці нечай
Выкапваюць дол.

Вось яна, дэмакратыя,
Ўся незалежнасць —
Насмактацца бы нафты чужой
І крыві.
Дужы кволага нішчыць —
Закон, непазбежнасць,
Дужы нішчыць,
А іншым «качае» правы.

Тут палітыкі нечай
Крутыя замесы
І дэвіз:
«Жостка спіцца, хоць мякка сцялю!»
Тут «славутыя» нечыя
Націнтарэсы,
Што апуталі,
Як павуцінне, зямлю.

Інтарэсы.
Палітыка.
Прыярытэты.
Поле сеяў адзін,
А другі яго зжаў.
І няўмольна мяняецца
Карта планеты,
Незалежна
Ад экснезалежных дзяржаў.

Мы — залежныя ўсе —
І жыцця цэнтрабежнасць
Не адпусціць нікога
За кругі свая.
Незалежнасць?
Хутчэй — узаемназалежнасць,
Лёс далейшы Зямлі —
Наша кожнае «я».

Нават сонца, што свеціць
Штодзённа над намі,—
Гімн жыццю,
І жыццю ж небяспеку нясе.
Землятрусы,
Вулканы,
Тарнада,
Цунамі —

Вось «букет»,
Ад якога залежныя ўсе.

О, каб людзі маглі
Параскінуць мазгамі
І узяцца за рукі —
Ўсвядоміць хоць раз:
Мы — залежныя ўсе,
Толькі «мы» паміж намі,
Толькі «нас» неабходна
Любіць паміж нас.

Вось тады адамрэ
І мысленне старое,
І на ім голуб міру
Гняздзечка саўе.
Вось тады мы ачысцім
Планету ад зброі,
Незалежнымі зробімся
Ўсе ад яе...

Беларусь суверэнная...
Словы-праменні!
Мы на гэтыя словы
Ўсе маем правы.
Не паставіць цябе,
Беларусь, на калені
Пакуль ёсць хоць адзін
З беларусаў жывы!

Яны кіруюць светам,
А, значыцца,—
І намі.
Яны —
Няўстойлівых часоў
Уладары.
Яны ствараюць
Брудных спраў
Цунамі.
Тады жыццё —
У брудзе,
Нагамі дагары.

Нявартых,
Невядомых,
Яны вядуць ва ўладу,
І пад магільны крыж
Яны
Скіруюць шлях.
І благаслаўляюць
Жорсткасць,
Ганьбу,
Здраду
Для славы прагных,
Сквапных
Яны —
Бясслаўя гмах.

Яны —
Казыр дзяржаў,
Яны —
Ў законе.
Хоць шмат
На іх крыві,
Ніхто
Не супраць іх,
Ні той —
Хто пры лапцях,
Ні той —
Хто пры кароне

Ні той —
Хто з «ласкі» іх
У брудзе тоне.

Яны —
Вайна і слёзы,
Яны —
Раскоша.
Яны —
Жыццё і смерць,
Дабро і зло —
Яны...
Яны — банкноты,
Яны — паперкі,
ГРОШЫ —
Злопараджэнне
Продкаў —
Глыбокай даўніны.

Злопараджэнне?
Не!
Для добрых спраў
Яны і на карысць
Часоў і пакаленняў —
Іх прызначэнне.
А тое,
Што змяніўся
Іх «статут» з часамі,
Люстэрка ні пры чым —
Мы ў ім —
Крывыя самі.

Напрыклад, зброя — зло,
Што на яеківаць?..
І зброя здольная
Адна і тая ж
І бараніць жыццё,
І забіваць.
Залежыць лёс яе
Ад рук сціскаючых,

І ад вачэй,
Прыліпшых да прыцэлу,
А, большасцю,
Залежыць ад мазгоў —
Ці светлых,
Ці сшалелых.

Мы —
Лёс змянілі ім,
Яны —
Мяняюць наш.
Што сеем,
Тое й жнём —
Узаемнае псаванне.
Зло — на дабро:
Ў штыкі,
Ў клыкі,
На абардаж!
Зло скаліцца:
— Прыехалі!
Прыміце віншаванне!

Дык хто яны?
Зладзей
Ці добры геній?
Што ім ад нас —
Хвала?
Альбо прысуд-кляймо?
Ці перад імі стаць
Пашанна
На калені?
Ці нас яны,
Без нас
Паставілі даўно?

Хутчэй другое...
Мы —
Ў палоне,
На пасылках.
А яны —

Адмененае
«Право крепостное»
Не адмянялі,
Бо мы — прыгонныя.
А раз мы — у прыгоне,
Яны —
На троне.

Яны —
Не толькі нас,
Гісторыю мяняюць.
Улада іх, уплыў —
Шырэй,
Мацней штогод,
Штопакаленне,
З веку ў век.
Яны —
Наперад рух,
На жаль,
Скрыўляюць
І спыняюць
Чым больш іх у кішэні,
Тым хутчэй
Знікае з чалавека
Чалавек.

Паперка-монстр,
Мы перад ёй —
Шарплюдзік.
Яна —
Як ветразь
Часу-караблю.
Яна — п'яніць,
Мутніць
Цвярозасць думак,
Прыцягвае, трымае,
Як на вудзе —
І непрыкметна,
Паслухмяна
Людзі —

Глыбей у рот удаву —
У пятлю.

Яны —
Уладары,
Цары,
Ды да пары...
Бо надыходзіць час —
І ўжо яны —
Нішто,
Папера,
Непатрэба.
І нават золата —
Смяццё,
Не трэба.
Усё губляе ўладу,
Бо ў жыцця
Ёсць мера,
І душа — ці ў пекла,
Ці на неба...
І нават той,
Хто спаў на золаце,
А на грошах
І піў, і жор —
Не адкупіўся і памёр.

А мой бюджэт?
Сканаў...
Нічога на прыкмеце...
Было й раней
Ні тлуста, і ні густа.
Бязвыйсцем
Пад сабой ссякаю
Лёсу сук.
Я за кішэню —
Мац!
Ў кішэні — вецер,
Пуста.
Хоць грошы — зло,
Без іх я —
Як без рук.

Яны —
І нада мной —
Уладары...
На жаль,
Хутчэй, на шчасце —
Да пары.

Што лепей —
Іх згубіць?
Ці іх знайсці?
Свае — лепш не губляць,
Чужыя — не знаходзіць...
Дык хто яны?
Ці што?
Яны — усемагутнасць у жыцці?
Што нам даюць?
Псуюць нас?
Паляпшаюць?
Шкодзяць?
Адказ вядомы нам —
Даюць амаль усё:
Палацы, яхты,
Ўцехі вынаходзяць.
Усё, што на зямлі
І кратаецца, і расце —
Штодзённа на стале...
Але...

Але — ніхто,
Ні злодзей і ні геній,
Ні цар і ні лакей —
Хоць ты гультай,
Хоць ты руплівы —
Ніколі і ніхто
Праз іх не стаў шчаслівы.
І прымаўка, як рэха у вушах:
«Не, шчасце не ў грашах...»

Жыццё ў зародку,
Жыцця разбег.
І вось ўахвотку
Жыве наш век.

Наш век дваццаты —
Грахоў, спакус,
Жыве прыўзнята,
Не дзьме у вус.

Ні ценю страху —
Дый ад чаго?
Зямля паўшляху
Прайшла ўсяго.

Не конь жа ў мыле,
Не дзед-гарбень.
Зямля — у сіле,
У поўдні дзень...

Кожны з народзін
Між іншым чуў,
Што смерць ніводзін
Не абмінуў.

Смерць не пужае,
Бяда — брыдзе,
Жыццё ж — шугае,
Жыццё — гудзе.

Мы ў гэтым гудзе
Гняздо звілі —
Канца не будзе
Жыццю Зямлі.

*

Жыццё заводзіў
Ў канец, ў тупік
Тысячагоддзяў
Махавік.

Як і прадказваў
Вучоны свет,
Зямлю прыцягваў
Агмень-сусед.

Сусед наш, Сонца, —
Дабро і зло.
Яно бясконца
Расло, расло.

Яно старэла,
Бо час цячэ.
Калісьці — грала,
Цяпер — пячэ.

Праз слой азону,
Праз тоўшчу хмар
Зямля звышфону
Адчула жар.

Жывёла пала,
Палёў няўрод.
Кроў закіпала,
А ў сэрцы лёд.

Канца пачатак,
А ў сэрцы — жах.
І ноч, ў дадатак —
Агністы птах.

Сонцу не рады
Зямлі народ —
Прайшлі мільярды
Шчаслівых год.

Прайшлі ўчыстую,
Нібыта дзень.
І не ратуе
Ні ноч, ні цень.

І адмірае
Ўсё пакрысе.
Усё згарае,
Усё і ўсе.

Жылі нядбала
З пячор, здаля —
Адшчыравала,
Сваё Зямля.

Паўднёвы полюс
Свой гонар меў.
Быў белым колісь,
Ды «аблысеў».

Нібы з разбегу, —
З Зямлі зіма.
Ільдоў і снегу
Нідзе няма.

Зямля, як зона,
Пустэчаў пляц
Травы зялёнай
Нідзе — хоць плач.

Лясоў шкілеты —
Жах-частакал.
Канца прыкметы
Крычаць вакол.

Усохлі рэчкі
З краёў да дна.
Агаркі-свечкі —
Галля сцяна.

Жыццём не дыхаў
Ніводны кут.
Агонь успыхваў
То там, то тут.

Як чад атруты,
Дымы вакол.
Гарэлі трупы
Людзей, жывёл.

Гарэла неба
Й сама Зямля...
О, збегчы б трэба,
Пачаць з нуля.

Па ўсіх памінкі —
Няма жывых.
Зямля у абдымках
У сонца — пых!

Усё, што пела,
Гуло, цвіло,
Усё згарэла —
Як не было.

*

З глыбінь сусвету
(Калі хто ёсць),
Нашу планету
Заўважыў хтось.

І ў іх прывычка —
Вачмі да зор:
— Вунь знічка! Знічка!
Ці метэор!

Згарэла зданню,
Ўжо не відаць —
Нават жадання
Не загадаць...

Няўцям лірычным
Зявакам тым,
Што шляхам знічным
Ляцець і ім.

І ў іх, напэўна,
Штодзень, штогод,
Гучыць напеўна
Жыцця ўсход.

Працяг, здаецца,
Жыцця ў крыві —
Не адпяецца,
Не аджывецца,
Хоць век жыві.

Міргаюць зоркі,
Сузор'еў шмат.
Наш вопыт горкі —
Кату пад зад.

Калі хто ўцяміць
Пра лёс Зямлі?
Ці ўскрэсне памяць,
Што мы былі?

Канец пачатым
Шляхам зямным —
Часцінка, атам —
З нас кожны ў ім.

А час — бясспрэчны
Суддзя-мудрэц:
Нішто не вечна,
Ўсяму канец.

*

Светаўтварэнню
Мільярды год.
Яны ж — імгненне,
Ідуць на звод.

Гадоў прыбудзе
Тады й таму,
Калі іх будзе
Лічыць каму.

Зямлі не стане,
За ёй тады
Летапіс кане
У нікуда.

Мы — частка цыклу.
І дзе адказ —
А колькі знікла,
Як мы, да нас?

Мо лёс іх знічны —
Для ўсіх закон?..
Маўчыць касмічны
Бязмежны звон.

Мы ўсе, як дзеці,
Нас цешаць сны,
Што ва ўсім свеце
Мы — не адны.

*

Страшылка гэта
Нас абміне.
Скканчэнне свету
Такое? Не!

Не, так не будзе,
Нават у снах,
Бо самі людзі
Утвораць жах.

Хоць з сонца бедства
Да нас плыве,
Ды чалавецтва
Не дажыве.

Сам чалавеча
Знікне праз час,
Зямля-пустэча
Згарыць без нас.

Гучыць набатам:
— Праз колькі год
Ваенны атам
Ашчэрыць рот?

І спаліць, знуліць
Ўсё, што было,
І змрок атуліць
Жыцця святло.

А што ўсё ж будзе?
Жыцця вянец —
Ніхто...
Бязлюддзе...
Нішто...
КАНЕЦ...

# Жарты пасля кварты



Выпіў дзед не без прычыны,
Апрыходваў цэлы глек.
Жончыны прыпомніў кпіны:
— Век цябе б не бачыць! Век! —

Сёння, як ніколі, «ела»,
Ну, хоць вушы затыкай.
І хрысціла, як хацела:
— Чашчавік! Гніляк! Гультай! —

Бразнула дзвярмі — і з хаты,
Ажно ў вокнах шыбаў звон.
Дзед адзін — пахмуры, кляты,
І таму хлабыснуў ён.

Ён сабе на нервах грае,
Паўтарае разоў сто:
— Ото ж порхаўка старая!
Усхадзілася за што?

Ці ж не я пра сена баіў?
Ці ж не я скасіў лужок?
Ну а сёння — прыгультаіў,
Не пайшоў складаць стажок.

Дык у Бога ж дзён — як зорак,
Зношвай іх на свой манер:
Не нядзеля — дык аўторак,
Не аўторак — дык чацвер.

Дзед бы «правіў баль» нястомна,
Ды, зірнуўшы у акно,
Аж падскочыў з лавы: — Цёмна!
Жонка ж адыйшла даўно!

Дзе яна? — на ганак выйшаў,
Змрочна, зоркі не гарацьу.
Ён нырнуў у цемру-цішу:
— Паміраць дык паміраць!

Калі так — падамся ў прочкі,
Адгасціў, адбаляваў.
Дзякуй вам, жыцця гадочкі! —
І... уголас заспяваў:

— Пакацілася да схілу
Лёсу сонейка маё.
Ой, не хочацца ў магілу,
Не злятайся, вараннё!

Не рыхтуйце, думкі-хмары,
Для надзеяў пастку-дол.
Не спяшайцеся, пачвары,
Ладкаваць жалобны стол.

Я, калі вось так нап'юся,
Чорт — мне брат, а д'ябал — сват.
Нават смерці не баюся,
Я ёй кухтальну пад зад...

Раптам дзеда жах халодзіць —
Хтось здаля нібы плыве.
Бачыць, постаць падыходзіць,
І башлык на галаве.

За плячмі каса нібыта
Ці трызубца кіпцюры.
Твар цямнэчаю спавіты —
Паспрабуй тут разбяры.

«Смерць!.. А я ж яе зняважыў! —
Думка хвошчыць: — Быць бядзе!..»

Толькі тут стары заўважыў,
Што гусценькі дождж ідзе.

«Вось дык дзіва! Ну й умора!
Ад дажджу смерць пад башлык.
Мне дык па калена мора,
Я да ўсякага прывык.

Пасмялеў дзед і ў запале
Дзёрзкім стаў — «вышэй травы»:
— Стой, няпрошаная краля,
Не спяшайся, я — жывы!

Ведаю — ніхто, ніколі
Ноч тваю не абміне.
Бачу я, што ў чыстым полі
Ты прыйшла забраць мяне.

Не глядзі мне, Смерць, у вочы,
Прытрымай замах касы.
Ты — царыца вечнай ночы,
Лёс мой — кропелька расы.

А пакуль што я не ў пастцы,
Адыдзі з дарогі, збоч.
Зробім так, як у той казцы
«Тысяча і адна ноч».

Ты мне рада, я — не рады,
І, каб аддаліць бяду,
Я, замест Шахерызады,
Пра свой лёс распавяду.

І пакуль я словы шпару,
Я не твой, бо я — жыву.
Не чапай сваю ахвяру,
Змоўкну — з плеч мне галаву...

Постаць — прывід, здань, хімера,
Нерухомая, як ноч.
Дзед змікціў: — «Во халера!
Гэта не адпусціць з воч.

Гэта падла, Смерць-паўчыца,
Не злітуе, хоць крычы.
Ад яе не адмаліцца,
Ад яе й не уцячы.

Дзед узварушыў свой роздум,
Жыць ці не — асобы лік:
Ну, ратуй мяне мой розум!
Выручай мяне, язык!

І пачаў:
— Я нарадзіўся...—
Называе дзень і год,
Дзе хрысціўся, як вучыўся,
А пра тое, з кім жаніўся,
Ажно пырснуў слінкай рот:

— Што маніць? Усе дзяўчаткі,
Як сунічкі, чысты сок.
І мая была спачатку
Мёдам — рот ад слінак мок.

Ну а потым, з кожным годам
Смех атручваўся нудой.
Рот напоўніўся смуродам,
Хата — звягай, лёс — брыдой.

Я скажу насупраць ночы
Шчыра, быццам ты — святар:
Мне табе зірнуць у вочы
Лепей, Смерць, чым ёй у твар.

Ты — маўчыш, яна — звягае,
Ты — са мной, яе — свішчы.
Ты, я бачу, не благая,
З ёй жа я прапаў, лічы...

Ўмомант «Смерць» з плячэй бязмоўна
Хваць «касу», бы ў нейкім сне,
І граблямі трэсь раптоўна
Свайму мужу па спіне.

— Ах ты, чортава каранне! —
Бабін крык агнём пячэ,—
Вось табе за спавяданне!
Вось табе яшчэ! Яшчэ!

Добра, што сустрэў мяне ты,
А каб хто ішоў чужы,
Ён бы ўсе твае «сакрэты»
Раззваніў, хоць прэч бяжы.

Ах ты, спрэлае  палена,
Я табе йшчэ пакажу!
Ты там піў, а я ўсё сена,
Згрэбла, склала да дажджу...

Дзед раскрыў свае ўсе карты,
Ды хітруе: — Не крычы!
Бабка, любка! Гэта ж жарты!
Я ішоў дапамагчы.

* * *

— Не, з табой не будзе зладу,
Ты ўсю ноч у сне бубніў.
Нейкую Шахерызаду
Ўголас клікаў, пэўна, сніў.—

Баба штурханула дзеда:
— Уставай, работа ёсць.
Лежабочыць да абеду
Любіш ты, нібыта госць.—

Дзед устаў: — Не звягай. Квіта!
Не бубніў я, Бог ты мой,
Ноч праспаў я, як забіты,
Без Шахерызады той...—

— Сена перавезці трэба
З забалотнага лужка,
Склала я стажок пад неба,—
Баба рупіць мужыка.

А затым, як пляснe ў ладкі,
Зазірнуўшы у акно:
— Вой! Дык вунь стажок ля хаткі!
Што за цырк? Што за кіно?

Кажаш спаў ты ноччу? Дзіва!
Ноч рабіў, як чорны вол.
Ай ды працаўнік руплівы!
Ай, старэча! Ай, сакол!..—

Дзед, пасля праспанай ночы,
Думку ловіць на ляту:
«Я ж стажка таго у вочы
Нат не бачыў за вярсту.

Ноччу там, дзе луг той дальны,
Й духу не было майго...»
Падыйшоў — стажок ухвальны,
І каса каля яго.

Ды каса, як ёсць, чужая,
Ёй, відаць, цана-цана.

Дзед са страхам разважае:
«Хто ж прыпёр стажок?.. Яна?..

Вось што значыць быць прыветным
І ў бадзёрасці, і ў сне.
Падарункам тагасветным
Ўважыла Яна мяне...»

Нейк ішла старая жвава
Праз лужок свой, муражок.
Плясь у ладкі: — Што за справа?
Што за дзіўная праява?
Тут стажок — і там стажок!

Дзед у вус смяшок хавае,
І старую вучыць жыць:
— Хто сябруе, той і мае,
А ад звягі ўсё бяжыць.

* * *

Што жыло — ўсё аджывае,
Так заведзена спрадвек.
І людзей смерць забірае,
Што ж — смяротны чалавек.

Так было, так ёсць, так будзе,
Лёс нас хіліць пад гару.
І з жыцця сыходзяць людзі,
Хто ў пару, хто не ў пару.

Не мінуў жыцця ухабу,
Не пазбег сваёй бяды
І стары — пакінуў бабу
На зямлі. Сам — на клады.

Дамавіна — не палацы,
І хоць дол — не родны кут,
Тут спакой, ніякай працы
І ніякай звягі тут.

І ні страшна — як ні дзіва,
(Страх пануе пры жыцці)
Ўсё пароўну, справядліва,
Лепей тут, як ні круці...

Вось аднойчы Смерць з пытаннем
Да старога, як у сне:
— Ну, якія пажаданні?
Як асвоіўся ў мяне?

Ды і пра тваю загану
Мне б хацелася пачуць —
Пад адно мне месца зп’яну
Ты збіраўся кухтальнуць.—

Сорамна старому стала:
— Я... Прабач...
— Ляжы, ляжы!
Бачыш, я пажартавала,
А на гэта адкажы:

Ці не тужыш па быломy?
Як ляжыцца? Як настрой?
Ці не хочацца дадому?
Ці не сумна без старой?

Можа, ты па жонцы млееш?
Не хавай, адкрый сакрэт.
Ты і войкнуць не паспееш,
Як я ёй «куплю білет».

Будзеш з ёй тут вочы ў вочы,
Нос у нос, душа ў душу...—
У труне дзед аж падскочыў:
— Што ты? Не дурней! Прашу!

Тут яна ўсё скаламуціць,
Пад сябе ўсё падграбе.
І табе ўвесь фарт атруціць,
Не кажу ўжо пра сябе.

О, яна тут перашкодзіць
Да драбніц усё, што ёсць.
Там няхай паверхаводзіць,
Там няхай растраціць злосць.

Смерць лагодзіць дзеду: — Згода!
Смутку не кладзі на твар.
Мне, дзядок, твая свабода
Даражэй усіх ахвяр.

Да жанчын я — без ахвоты,
БрацЬ бяру, часцей старых.
Бабы — брыдкія істоты,
Згодна — лепш далей ад іх.

Дзед у цемры дамавіны
Усміхнуўся да вушэй:
— Вось чаму жывуць жанчыны
За братоў-мужчын даўжэй.

* * *

Зноў старая дзеда будзіць:
— Праганяй манюкі-сны!
Уставай мачанку вудзіць
На гарачыя бліны.

Дзед не толькі ўстаў — падскочыў:
— Дзякуй Богу, смерць — у сне!
Я пачаў баяцца ночы,
Жах на жаху сніцца мне.—

Жонку дзед абняў ўлюбёна:
— Як жа я цябе цаню!
Лепей звягу чуць штодзённа,
Чым пакуту-цішыню.

*2012*

## Частка першая

# НОВАЯ ЗЯМЛЯ

Па баразне сахі іду «ў пяту»,
На нейкіх сто гадоў назад вярнуся,
Прайду з пашанай кожную вярсту,
Прайсці іх давялося Беларусі.

Вялікае відаць глыбей здаля,
І Беларусь, з сучаснасцю сам-насам,
Без алегорый — новая зямля
У параўнанні з «Коласавым» часам.

Прывыклі мы, даўно не дзівіць нас
Час нашых дасягненняў дзіўна-новы,
Сучасны, звышагратэхнічны час,
Час суперпрагрэсіўны, навуковы.

Вось вам гады...
Мінула нейкіх сто,
А мы ўжо тлуста надзімаем шчокі —
У кожнае сям'і сваё аўто,
Камп'ютар, тэлевізар, мотаблокі.

Імчыць нас па жыцці жыцця кураж,
Мы калясім, завоблачна лятаем.
І нас не дзівіць нават гонар наш,
Што ў космасе свой спадарожнік маем.

Што ў свеце маем свой пачэсны шлях,
Што рух наперад — гэта гімн рабоце.
Наш хлеб расце на нашых мазалях,
І ўвесь наш дабрабыт — на нашым поце.

А дзеці сёння! На руках нясеш,
Як самы дарагі жыцця дарунак:
— Вось гэта пакаштуй!
— Вось гэта з'еш!
— А гэта смакацішча!
— Тут — ласунак!

Адзеннейка на іх, як канфеці —
Шматкаляровасць вопраткі — вясёлка!
Зімой не трэба за шмат вёрст ісці:
Садок — пад бокам,
Праз дарогу — школка.

Расціце толькі — шчасце поруч вам,
Жыцця паветра хутка вас уздыме
На гонар татам і на радасць мам
І, безумоўна, на карысць Радзіме...

А вось яшчэ — дзяўчаты, юнакі:
Гіпотэзы, сімпозіумы, спрэчкі —
Вясновых вод бурлівых ручайкі,
З якіх складуцца будучыні рэчкі.

І кожны выбірае самахоць
Свой шлях жыццёвы — творча, працавіта:
Вунь дзверы ўсе расчынены — заходзь!
А колькі мэтаў вунь — жыццё адкрыта!

Вам кожны дзень штось новае нясе,
Камп’ютар, Інтэрнэт — для вас, як лекі.
Для вас у вольны час — тэатры ўсе,
Музеі, вернісажы, дыскатэкі.

І тут не голад, і не холад тут,
Ды і адзенне па апошняй модзе.
І кожны мае свой прытулак-кут,
Жыве не горка, хай сабе, не ў мёдзе.

Такая НАША новая зямля,
Жыццё на ёй і мы — усё тут нова.
І мне карціць здалёку, спакваля,
«Зямлі» дзве параўнаць невыпадкова.
Вяртаўся я па баразне сахі,
Каб з тых сівых часоў падаць свой голас,
Ды перадумаў... Тут пішу радкі,
Бо апісаў той час Якубе Колас.

Ды апісаў цікава, да  драбніц
Свой твораў твор — ён нам, як запрашэнне,
Каб мы маглі напіцца з тых крыніц
І ўглыб сваёй зямлі пусціць карэнне.

Каб нашы дзеткі, моладзь, усе мы,
Адчуўшы боль пакутаў тагачасных,
Абралі шлях больш светлы, больш прамы,
Без хібаў штучнастворaных, уласных.

Я сёння ТУТ жыву, і я люблю,
Усё і ўсіх, з кім звязаны да скону.
Люблю Радзімы новую зямлю,
Як маці, як святыню, як ікону.

Таму люблю, што сцежкі прывялі
Мой род, мой лёс у гэты свет вялікі
Ад той пакутнай «Новае зямлі»,
Ад Міхася, Антоні, ад Хадыкі.

І сумна мне... Не проста сумна — жуць
Ад думішчы, што юнакі, дзяўчаткі
Новазямельцаў Коласа мінуць
І «Раніцу ў нядзельку», і «Начаткі».

Ім, сённяшнім, ляснікерсным, няўцям,
Хоць прачытаюць, хоць у лоб ім стрэльні,
Як не дадуць мужчыны рады там
Адной, апошняй шкварцы на патэльні?

О не, мы ўсе без Новай той Зямлі
Не зразумеем: Для чаго мы? Хто мы?
І як жа йсці наперад нам, калі
Нашчадку блізкі продак не знаёмы?

Не цяжка сёння дабрабыт хваліць,
Гасціць прыемна за сталом шыкоўным.
Адукаваным, сытым можна быць,
Пры гэтым, заставацца бездухоўным.

Імкнецца ў душы Інтэрнэт-быльнёг,
Нявечаць густ камп’ютарныя «глюкі».
Пасеем бездухоўнасць, не дай Бог,
А што пажнуць за намі дзеці, ўнукі?

Часовае не засяродзіць слых,
А застанецца вечнае нашчадку:
«Адзенне, ежа, грошы — як без іх?
А спадчына духоўная — спачатку».

Прашу на покуць!
Стол я засцялю
Словапытаннем горкім, не абрусам.
— Не прачытаўшы «Новую зямлю»,
Не зразумеўшы «Новую зямлю»,
Ці маем права звацца Беларусам?..

### Частка другая

## ГІСТОРЫІ ЧАСЦІНКА

Вядзе заўжды размову
З сучаснасцю былое,
Ды не заўсёды слова
Кранае за жывое.

Жыве сучаснасць шумна,
Бруіць, гудзе, лятае.
Былое ж, як ні сумна,
БЫЛЬнёгам зарастае.

Сучаснасць — голле, лісце,
Мінулае — карэнне.
Ці прарасце калісьці
Ўзаемаразуменне?

Сучаснасць — мы, жывыя,
Былое — нашы продкі

І ўсе падзеі тыя —
Былога аднагодкі.

Ў былым — і рукатворнасць,
І скарб духоўнай працы.
Ў былым — стагоддзяў торнасць
І мудрасці палацы.

Але й сучаснасць — дока.
Нясе «ума палату»,
Узнеслася высока —
Куды таму Сакрату!

Такая вось «размова».
Але праз год, стагоддзе,
Сучаснасць паступова
Ў мінулае пяройдзе.

Ад часу й мы залежны —
След за юнацтвам — сталасць,
А сталасць непазбежна
Адчыне дзверы ў старасць.

Паспела нарадзіцца
На свет дзіця малое,
Жыццё, як бліскавіца —
Народзіны...
Былое...

* * *

Час вельмі асцярожна
Свае спраўляе ролі.
Былое ведаць можна,
Адчуць яго — ніколі!

Рым...
Троя...
Подзвіг Ноя...

Час рабства...
Сцяг свабоды...
Гісторыя — на тое,
Ды зразумець былое
Даецца не заўсёды.

Дослед — цяжкая праца,
Не ахапіць наскокам.
Нам хоць бы разабрацца
З тым, што «пад самым бокам».

...Прыйшоў з вайны мой тата,
Ды й тут бяда паўстала —
Згарэла вёска, хата —
Вайна закатавала.

Выкопвалі зямлянкі
Ў апаленай зямельцы,
І з дзецьмі ў «кратавянкі»
Жыць лезлі пагарэльцы.

Тады — гэта рэальнасць,
Гаротнасці стасункі.
А сёння — незвычайнасць,
Фантастыка, прыдумкі.

Сучаснае юнацтва —
Еш хлеб, цукерак горы:
— Што гэта за жабрацтва?
— Адкуль галадаморы?
— І што за «звер» шайморы?

Лягчэй у інтэрнэце
Час бесклапотна бавіць.
— Што? Жах гуляў па свеце?
— О, гэта не цікавіць!

— Цары?
— Паны, як скулы?
— Канцлагеры?

— Ахвяры?
— Ну й што? Яно ў мінулым!
— Абрыдлі тары-бары!..

Ў бяспамяцтва раптоўна
Крутнулі перамены.
Ці помнім род свой кроўны?
Ўсяго два-тры калены.

У яму ўпасць — не нова,
Цяжэй вылазіць з ямы.
На жаль, недастатковa
Ні школьнае праграмы,

Ні ведаў па загаду —
Прымус, хутчэй, адвадзіць.
Мо сэрца дасць параду,
Як дыялог наладзіць?

Дык дзе адказ?
Дзе выйсце?
Дзе ўзяць дзівос-насенне,
Каб вырасла калісьці
Ўзаемаразуменне?

Каб нас не паглынула
Сляпой нажывы багна,
Каб кожнага цягнула
Да лёсу продкаў прагна?

І крок, няхай і дробны,
І кропелька-хвілінка,
І кожны лёс асобны —
Гісторыі часцінка.

Жывецца нам заможна,
Ёсць хлеб, яшчэ й — да хлеба.
Адчуць былое можна,
Была б у ім патрэба.

* * *

Зірнуць на лёс «агулам»
Не дасць сумлення вока.
Душой я  у мінулым,
Сучаснае — далёка.

Хто я ў сучасным? Знічка.
Я — плоць... пакуль, жывая.
З мінулым пераклічка
Мне сэрца раздзірае.

Там — большасць сэрцу родных
Людзей, падзей шчымлівых.
Там — шмат гадоў галодных,
Затое больш шчаслівых.

Тут можна жыць разгульна,
Час бавіць шчыра, штучна.
А мне ў былым утульна,
Душы там больш спадручна.

Мы ўсе адтуль — з былога,
Ад першых нашых крокаў.
Мы ўсе туды — да Бога,
Да продкаў, да вытокаў.

*2012*

Мы, дайшоўшы да мэты,
Зноў задумку-ідэю народзім,
Зноў завершым пачатую дзейнасць —
Хвалі клопатаў, спраў, як прыбой.
Ці падводзім мы вынік сваім намаганням?
Падводзім!
То пісьмова, то ў думках,
Перад часам адказныя,
Перад сабой.

Прадзіраемся мы
Праз гушчар нашых спраў, праз уцехі,
Не губляемся кропляй
Ў бязмежнасці, з назваю «час».
Бо, падводзячы вынік,
Астаўляем здзяйсненні, як вехі —
Штосьці з намі знікае,
А штосьці жыве пасля нас.

Набліжаецца лёсу мяжа
Прадказальна ды неспадзявана.
Мэты — недзе ў мінулым,
Надзеі — як прывіды, быццам туман.
Ці падводзім мы вынік жыцця?
Не, бо думкаю цешымся: — Рана!
Вынік — кропка ў жыцці,
Шматкроп'е — наш самападман:

— Мы яшчэ пажывём!
Мы яшчэ наварочаем спраў!
Пагутарым!
Мы яшчэ...
О, як цяжка прыняць: мы «ужо» —
Назаўжды!
Мы ужо — у мінулым...
Нават мары свае

Безнадзейнасцю хмарым:
Мы ужо — да мінулых часоў грамады,
Мы ужо — ў нікуды.

Лёс мой — тысяча лёсаў,
Даволі звычайны і зрэбны,
Ні шаўковы, ні тлусты,
Усё ж — на плаву ні на дне.
Хтосьці скрывіцца кісла з пытаннем:
— Каму ён патрэбны,
Гэты вынік жыцця твой?
Адказ мой упэўнены:
— Мне!

Мне мой вынік жыцця —
Ні падлікі пустыя, ні гукі.
Перад продкамі я, перад Богам,
І перад сумленнем трымаю адказ.
Справаздача дазволіць —
Ці скласці заслужана рукі,
Ці ў труне павярнуцца ад жаху —
Дарэмна патрачаны час!

І хоць час яшчэ церпіць,
Не дыхае восень марозна,
Й супакойвае нешта:
— Не спяшайся, апошні радок не пішы!
Вынік вынікаў свой
Завяршыць лепей рана, чым позна,
Ўсё расставіць на месцы свае,
Быццам чыста прыбраць у душы.

Жыць адным толькі днём —
Значыць праіснаваць безназоўна.
Вынік спраў і жыцця —
Нашых кропелькаў-лёсаў мільён.

Гістарычна мы звязаны ўсе,
Радаводам мы звязаны кроўна,
Узаемазалежныя мы,
Пераемственнасць мы — я, ты, ён.

Мы падводзілі вынікі
Справам жыццёвым —
Прылюдна і строга.
Мы публічна прымалі і поспех,
І лёсу удар.
А чаму ля апошняй мяжы
У душу не пускаем нікога? —
Вынік вынікаў — тайная споведзь,
Кожны сам для сябе —
І суддзя, і святар.

Ледзь не кожны публічна —
Не інакш, як духоўны асілак.
Але ёсць яшчэ ўласнае «я»,
Ад якога не дзецца нідзе.
Ад яго не схаваеш
Ні шматлікіх грахоў, ні памылак —
Наша скрытае «я»
За публічным няўсыпна ідзе.

Наш нябачны двайнік —
Нашы цуглі і наша ікона,
Без якіх лёсу шлях
На ўвесь рост не удасца прайсці,
Хто губляў двайніка,
Той ўзносіў сябе улюбёна,
А, па-сутнасці, хутка,
Бясследна губляўся яшчэ пры жыцці.

Мы прывыклі адвеку —
Зноў спяшацца і зноў мітусіцца.

А жыццё?..
Гонім думку,
Што колісь расстанемся з ім.
Вынік вынікаў — мой самасуд,
Будзе мне ачышчальнай крыніцай,
Будзе мне пакаяннем маім,
Благаславеннем маім.

Шмат навокал падзей,
Несупынна жыццё карагодзіць,
Круціць лёс мой, а значыць,
Я апошні акорд не дайграў.
Вынік вынікаў мне,
Сапраўды, яшчэ рана падводзіць:
— Мы яшчэ пагутарым!
Мы яшчэ наварочаем спраў!

*2013*

*Памяці Каштана*

Ён жарэбчыкам быў — дзіцянё дзіцянём,
Ногі — вецер, душа — ветру крылы.
Ён не думаў, што стане калісьці канём,
Будзе жыць, надрываючы жылы.

Ён не думаў увогуле — жыў «навырост»,
Каляровыя дні — нібы хвалі.
Ён імчаў па маленстве, а грыва і хвост
За няўрымслікам ледзь паспявалі.

О маленства! Ты ў сталасць вясёлкавы шлях
Для людзей, для жывёлінак шчырых.
Ты ў бязвоблачным небе — за ўзмахам узмах
І надзеяў, і мар легкакрылых.

О, як добра, што гэты жарэбчык дзіцё
І ружова ўвесь свет успрымае.
Ён імчыць па маленстве пакуль, а жыццё
Не заўсёды ружовым бывае.

* * *

Недалёка адгэтуль, лічы, ў той жа час,
(Коціць лёсазваротнае кола.)
Нарадзіўся звычайны хлапчук сярод нас,
Сэрца светлае, вочы анёла.

Лёсу час узгадоўваў і клікаў яго,
Хлопчык кінуў калыску-запечак.
Ён у сонечных промнях маленства свайго
Днямі гойсаў, нібыта жарэбчык.

Лёс вясёлкава ззяе, куды ні зірні,
Кожнай раніцай — казачна-новы.
Каляровыя сны, каляровыя дні,
Кожны з іх непаўторна ружовы.

Хлопчык пэўнай б абняў свет дзівосны, каб мог:
— Што за цуд матылькі-аднадзёнкі,
Ах, як весела конікі скачуць з-пад ног,
Вунь, як луг забялілі рамонкі!

Для дзіцячае шчырасці і дабрыні
Сонца й восенню свеціць вясенне.
Спрэс — ружовая казка, куды ні зірні,
Захапленне і зноў захапленне.

Як хацелася бегчы і бегчы яму
Ў свет ружовы ад ранку да ранка.
І насустрач імчалі адно аднаму
Той жарэбчык і хлопчык Дзям'янка.

* * *

Вёска — ў працы, ў руплівасці з першага дня,
Вунь сядзібы, палі — як прыгожа!
Кожны ведае, што гаспадар без каня
Да зямлі падступіцца не можа.

Не, не ганьба, што хтось без каня, не дакор,
Можна й трактар набыць — ён уздыбе
Сто гектараў, ды тэхніка любіць прастор,
А не соткі на ўласнай сядзібе.

Ўсё ж вясковец да коніка сэрца хіне,
Адмятае пра трактар гамонку.
Конік яблыньку не папсуе, абміне,
Паміж град пракладзе баразёнку.

Ён дзірван «акультурыць», успульхніць папар,
Воз цяжэзны пацягне ў ахвотку.
Вось усё гэта ўзважыў Уладзя Шугляр
І купіў ён каня-аднагодку.

Аднагодку... Як хутка мінуў гэты год
З той пары непаўторна-раздольнай,

Як жарэбчыкам гойсаў штодня без клапот.
А цяпер?.. Ён цяпер паднявольны.

Даў імя гаспадар аднагодку — Каштан,
У хляве аддзяліў яму стойла.
Сам Шугляр жыць пачаў на сядзібе, як пан,
Незалежна ад іншых, прыстойна.

Гаспадарыць Уладзя з размахам, не спіць,
Лад свой перарабляе нанова —
Штось пасеяць, прыбраць, узараць, угнаіць —
Гэта робіцца своечасова.

На душы ў Шугляра цішыня і спакой,
Лёс, як кажуць, цяпер закілзаны.
Вось што значыцца конь кожны дзень пад рукой,
Безадказны, надзейны, аддані.

І Шугляр век зжывае не без галавы,
Ён датумкаўся ўсё-ткі да праўды:
Конь — не трактар, ён мае душу, ён жывы,
Ён не здрадзіць, ён — сябар сапраўдны.

Коціць час, усяму надыходзіць пара,
Нешта згладжвае, штось выпрамляе.
І Каштан прывязаўся да гаспадара,
Бездакорна яму патрафляе.

Падцікоўвала з часам бяда, хоць крычы,
І, здавалася, не адмаліцца.
І пакуль праз завеі праб’юцца ўрачы,
Мчаў Каштан Шугляра да бальніцы.

Што казаць, ён па-свойму яго палюбіў,
Дваццаць год з Шугляром, нібы ў парцы.
Колькі ён тут карыснага перарабіў,
Ўзняў з каленяў яго гаспадарку.

І суседзі з паклонам ішлі да яго:
— Памажы, дай каня, мы аддзячым.
Вельмі хутка Шугляр сцяміў, што да чаго:
— Ах, аддзячыце вы? Што ж пабачым.

І, замест адпачынку, каню — у каршэль,
Ён на досвітку спераздзі плуга.
Шугляру ж — пару пляшак ці нейкі рубель,
Каштану ж — мацюканне і пуга...

Дваццаць год набліжаўся Каштан да бяды.
О жыццё! Ты — ўсяго бліскавіца.
Дваццаць год... Ды не здолеў Шугляр за гады
Шчыра, сэрцам з канём парадніцца.

* * *

Падышоў да трагічнае рысы Каштан...
Ну а як той хлапчук светлатвары?
Ён ужо не Дзям'янка-блазнюк, а Дзям'ян,
Мае сталыя мэты і мары.

Ён даўно адчувае сябе каралём,
Дваццаць год — прэч з душы блазнюкоўства!
З лёгкім хлебам, гарэлкай і доўгім рублём
Прызвычаіўся весці сяброўства.

Ён вынюхваў, сачыў, мазгаваў — дзе б урваць,
І пры тым не чыніў беззаконня.
Ён танней набываў, каб з «наварам» прадаць —
Ёсць такая «прафесія» сёння...

Слых па вёсках папоўз, што збывае Шугляр
Каштана, каб набыць аднагодку.
Тут як тут і Дзям'ян, ён разнюхаў навар,
Прыімчаў да Уладзі ўахвотку...

Што каню дваццаць год? У яго й сілы шмат,
І яго не палохае праца.

Для каня дваццаць год, як для нас пяцьдзясят —
Ці ж павінна жыццё абарвацца?

І Шугляр гэта ведаў, ды грошы — сіло,
Конь адкормлены, чым не нажыва.
Ён прыкінуў вагу — ажно дух заняло,
Ён у думках лічыў грошы хціва.

І Шугляр, і Дзям’ян крочаць да Каштана
Па шаўковым, някошаным лузе.
— Ну, дык колькі ты просіш? Якая цана? —
Перакупшчык спытаўся ў напрузе.

Падышлі да каня, гаспадар-«дабрадзей»
І Дзям’ян — погляд зыркае зверам.
Конь хіне галаву Шугляру да грудзей,
Зазірае ў вочы з даверам.

Цягне пысу сваю да нябрытай шчакі —
Вось яны — зло і шчырасць, сам-насам.
Тут Шугляр запытаўся: — Твой выкуп які?
Ты ж на мяса купляеш?
— На мяса.

— Ты ж глядзі! — І Шугляр даланёй па кані,—
Кумпякі, а якая грудзіна!
Тут паўтоны адборнага мяса, зірні!
Гэта ж, братка, не жарт, а каніна!

І пачулася лаянка, спрэчка і крык,
То ўздымалі цану, то збівалі.
А «каніна», жывая душа, працаўнік,
Быў пакладзен з грашыма на шалі.

* * *

Мы няўмольна сыходзім усе ў нікуды.
Кожны шляхам сваім канаваным
І Каштан ўсё бліжэй і бліжэй да бяды
Паслухмяна ішоў за Дзям’янам.

Не прадказвала сэрца пагібель каню,
Ён штогод безадказна, праз стому,
Абслугоўваў й чужых, ці ж яму ўпершыню —
Не, ён вернецца хутка дадому.

Дзень разгон набіраў, блізка гарачыня,
Вось паляна і цень ад яліны.
Тут Дзям’ян прывязаў да хваіны каня,
Падышоў да сяброў ля машыны.

— Ну, як бачыце, я не з пустым, пацаны,
Ці магу я купляць без навару?
Я яго акалпачыў аж на паўцаны,
Хоць і сквапны Шугляр, хоць і скнара.

Страпянуўся Каштан. Абступілі яго
Тры чужынцы — і тлум, і штурханні:
— Глянь, які ён адкормлены, гладкі! Ого!
— Ха! Ацэняць яго ў рэстаране!

Агрызнуўся Дзям’ян: — Разбярэмся з цаной!
Хопіць лындзіць вам з боку прыпёку.
Шчыльна ногі вяжыце адна да адной,
Каб ні ў перад, ні ў бок — ні паўкроку.

Дзе нажы? Дзе сякера? А вы пра меню,
Камерсанты за байкі не плоцяць.—
І, стрыножыўшы ногі, каня на зямлю
Штурхануўшы ў бакаціну, коцяць.

— Не ўтрымаўся Каштан, паваліўся, як сноп,
Нож — маланкай па горле ляжачым.
Конь рвануўся устаць, заіржаў... ды захроп,
Захлынаўся крывёю гарачай.

Хтосьці злосна зароў: — Даразай ты хутчэй!
— Насядай! Наваліся на звера!
— Што стаіш? Улупі абухом між вачэй,
Галаву адсякай — ты ж з сякерай!

Біў з надрэза на горле крывавы фантан —
Завяршалася жорсткае ліха.
І амаль што не дрыгаў нагамі Каштан,
Ён слабеў, ён сіпеў, ледзьве дыхаў.

Толькі вочы жахліва крычалі: — За што?
Толькі сэрца... і сэрца згасала...
Хоць бы злітваўся хто з гэтых злыдняў. Ніхто!
Колькі жорсткасці ў свеце... Не мала...

— Перакур, пацаны! Вешай скуру на сук! —
Хтось скамандваў бадзёрагалосы.
І смакталі яны з акрываўленых рук
Акрываўленыя папяросы.

Дзесь зязюлінаў спеў, колькі жыць — варажыў,
Між галін стракатала сарока.
А Каштан... Ён ляжаў — шмат свой век не дажыў,
Ён заснуў непрабудна-глыбока.

Ён калісьці не думаў, а жыў «навырост» —
Каляровыя дні, нібы хвалі.
Ён імчаў па маленстве, а грыва і хвост —
За няўрымслікам ледзь паспявалі.

Сёння грыва і хвост запякліся ў крыві,
Ногі-вецер адсеклі сякерай...
Праўду кажуць: — Хоць год, хоць стагоддзе жыві,
А пакутаў глынеш поўнай мерай.

* * *

На шляху дабрыні мы крутнулі назад,
Мы спраўляем жывёле «дажынкі»,
І таму між вясковых сядзібаў і хат
Коні рэдкасць, на жаль, іх адзінкі.

Ёсць шукацелі лёгкай нажывы, яны
Ў душы лезуць нахабна і дзёрзка.
І шнырають па вёсках, нібы груганы,
Баль свой чыняць бяздушна і жорстка.

Хоць вяскоўцу яны, як няпрошаны госць,
Мусіць ён з іх паслугай мірыцца.
Дзе там нейкі мясны камбінат? Дзе ён ёсць?
Як дапяць да яго, дазваніцца?

Ну а тут — вось вам конь, толькі спраўна плаці —
Што пасеецца, тое і жнецца...
Чалавечнасць згубіўшы, ці зможам знайсці?
Сэрцы згубім — а што застанецца?

Генадзь, хоць любіў свае родныя сцены —
Свой кут, ды звярнуўся да жонкі, Мілены:
— Духоўнасці ў нашым жыцці — не багата:
То хата — то праца, то праца — то хата,
То тэлеатруту глядзім, то ў талерку,
А што, калі б з’ездзіць праведаць швагерку?
Радня, як ні як — з кім яшчэ сустракацца?
Магчыма, і ў іх, як і ў нас: хата — праца...
Мілена падскочыла: — Дзіўны ты нейкі!
Такой ва ўсім свеце не знойдзеш сямейкі —
Сястра, але ўбачыць не маю ахвоты,
Яна з сваім Саўкам, ну й пара — два боты.
Што ён, што яна — кожны звягі стваральнік,
У іх жа замест языкоў — мацюгальнік.—
Генадзь не згаджаецца: — Кінь ты згрызоту!
Яны, можа, сплюнулі з роту брыдоту.
Ты піва налі, а праз час — знікне пена,
І ў іх з часам знікне благое, Мілена.
Мы будзем з табой, калі ўзнікне шуміха,
Паводзіць культурна, выказвацца ціха.
Ды што мы губляем? На моўны іх перчык,
Мы ляснем дзвярыма і — аравідэрчык...
Мілена здаецца: — Паедзем... пабачыш,
Гарбатага ў зграбнага не перайначыш,
Каторы ўжо раз заракаюся — досыць!
Ды еду, а потым душа аж галосіць...

* * *

І вось у нядзелю, ў святочным адзенні,
Пастукалі ў дзверы Савосю і Фені
Мілана з Генадзем (а франты якія!):
— Дазвольце да вас, сваякі, дарагія!
Савось як усклікне: — О, ёкарны шкворань!
Прыпёрліся ўсё-такі, мацць вашу ў корань!
А мы зачакаліся вас, свалачынаў,
Даўно бы пратрэслі свой зад. Малайчыны!

І Феня сястру абдымае манерна:
— Нарэшце з’явілася, гадаўка, сцерва!
Я ж так цябе рада пабачыць, калоду,
Заходзьце! Зварганім гулянку, як з лёду.
Захмелім свой лыч да бяспамяцтва, клёва,
Сядай да стала, будзь, як дома, карова! —
Затым гаспадыня Савося гукнула:
— Ну, што ты прыстаў да Генадзя, як скула?
Вунь, сала нарэж, адкаркоўвай бутэлькі,
І так змарнавалі, лічы, паўнядзелькі.
А я каля печы крутнуся рупліва —
І, праўда, аздобілі стол, як на дзіва,
Мачанкай, каўбаскай, вяндлінай, капустай,
Блінамі і бульбай — прыгожа і тлуста.
І чаркі налілі ўрачыста і чынна.
Мілена ўхваліла: — Не стол, а карціна!
А мы нашчака, ажно зрання не елі...
— Дык што ж ты сядзіш, як... міндаль на вяселлі?
Прыткнула паўтонны кумпяк свой наўскрайку,
Ты сядзь на ўсю лаву, мяне слухай, Саўку!
Жары вунь капустачку, сала, каўбаску,
Закідвай халяву ў валё пад завязку.
А ты што не п’еш, не закусваеш, Гена?
Культурныя, маць вашу цераз калена.
Накінься на бульбу, пакуль не астыла,
І не выкабельвайся, хрэн табе ў рыла!..
Нарэшце кілішкі з прыцмокам кульнулі
І хвалі цяпла ва ўсім целе адчулі.
За чаркай — закуска, за зычаннем — чарка,
Адно за другім, без маруднасці, шпарка.
Генадзь, пасля шостай мо, расчырванеўся,
Пагладзіў жывот: — Як за грошы наеўся!
Падзяка вам шчырая, Феня і Сава!
Калі ж нам чакаць вас у госці? Цікава!
Мілена азвалася: — Сава і Феня,
І я далучаюся да запрашэння.

Тут Саўка даў волю свайму лексікону:
— Дарэмна, Генадзь, ты здымаеш карону.
Куды мы паедзем? Ды што мы, паўдуркі?
У вас бутэрбродзікі, чаркі-мінзуркі,
У вас жа графінчык, фужэрчык, бакальчык,
Відэлец бярэце, адставіўшы пальчык.
У вас жа на твары — лагоднасці маска,
Праз кожнае слова — «пардон», «калі ласка».
Я вашых манер не прымаю ўчыстую,
Мяне ад салодзенькіх слоў ванітуе.—
Раптоўна і Феня агучыла слова:
— А я дык у госці хоць сёння гатова!
Чым дома сядзець, палыкаючы слінку,
Прыемней намурзацца на дармавінку.
Не слухайце Саўку — напіўся мой злыдзень,
Прыедзем абодва — чакайце праз тыдзень...

* * *

Вярталіся госці з гасцей у напрузе,
Марудзіла думка настрой ім: — Што ж будзе?
Як ім дагадзіць — і Савосю, і Фені?
Дзе выйсце вышукваць, хоць стань на калені.
Маўчала Мілена, Генадзь быў маркотны —
Жыццё, як медаль, мае бок адваротны.
Раптоўна з Генадзя аж пырснулі словы:
— Прыдумаў! Ура! Што мы сушым галовы?
Мы елі вяндліну, каўбаску, мачанку,
Мы, як пад капірку, паўторым гулянку.
Усё, што і ў іх, будзе ў нас спарышова,
І нават гаворка — амаль слова ў слова.
Успомнім давай папярэднія гулі,
Ці ж мала абразаў ад іх мы глынулі? —
Мілена няўпэўнена гутарку правіць:
— Яны ж не давалі нам слова уставіць...
Ды чуе Генадзевы ноткі жывыя:
— У нас яны будуць сядзець, як нямыя!

Мы будзем няспынна сплятаць тары-бары,
Мы ўсё абмазгуем — напішам сцэнарый.
Для іх пустабрэх, як бяскрыўдныя жарты,
Мы ім аджартоўваннем зблытаем карты.
Хоць сорамна трафіць абразам і кпінам,
Ды выйсце адно ў нас, як кажуць, клін клінам.

* * *

Нарэшце настаў гэты дзень непазбежны,
Нервова-напружаны, сумны і смешны.
Ледзь толькі з’явіўся Савось на парозе,
А побач і Феня, як пані на возе.
Генадзь стаў разыгрываць першую сцэну,
Адразу ж гукнуў на падмогу Мілену:
— Ты глянь! Два паўдуркі ў святочным адзенні!
О, Саўка! О, Феня! Ды ну вас да фені!
А вочы галодныя! Як вы схуднелі!
Вы што, цэлы тыдзень пасцілі, не елі?
А сёння, замест бутэрбродаў — во, фічку!
Паклікалі вас мы на хлеб і вадзічку...
Жартую! Вунь стол, не хвалюйцеся, чэрці,
Прысмакі ў тры горлы дазволім вам жэрці.—
Савось рот раскрыў, толькі лыпаў вачыма:
— Не ў тыя я дзверы патрапіў, магчыма?
Адкуль столькі розуму і інтэлекту? —
Генадзь усміхнуўся: — І мы маем сметку!
Такімі разумнымі быць з жонкай мусім,
Ты палец у рот не кладзі нам — адкусім.—
Мілена ў гаворку ўступае памалу:
— Савось! Падпіхні сваю жонку-завалу!
Сястра, кастыляй праз парог, кратай ногі,
Прачніся, не стой, нібы пень ля дарогі.
Хутчэй да стала, і з разгону угасьце,
Ды толькі з нагамі на стол не залазьце.
Жартую, бо вы, спадзяюся, не свінні,
Савось, не штурхайся, дай сесці жанчыне.—
У Фені здзіўленне ў вачах: — Ну, сястрыца!

Не стол, а пасаг!.. Вось дык хлеб і вадзіца!
Няўжо гатавала сама? Пабажыся!
Такая тут закусь, хоць распеража́ся.
Нарэшце і выпілі, і закусілі —
Законы гасціннасці — вечныя, ў сіле.
Савось ушчаміцца спрабуе ў гаворку,
Ды толькі Генадзь не дае й слова ўторкнуць:
— І што ты ўсё, Саўка, маўчыш безгалова?
Нібыта ў штаны ты наклаў — ані слова!
Ты ж быў гаваркі, як сто баб на базары —
Што, скіс? Адбасячыў сваё? Адгутарыў?
Тут Феня за мужа — гарою імгненна:
— Вы ж рот нам заткнулі!..
Ды ўстала Мілена
І выдала, нібы анучай па пысе:
— Ты слухай разумных людзей і вучыся!
Калі штосьці чутае недаспадобы,
Кульні вунь штрафную, пагрэеш вантробы!
Ты ж, Феня, малодшая, ёсць, пэўна, порах,
Ці ўсё разбазарыла, сучы твой потрах?..
Тут нечая шклянка з стала, як на ліха,
Дзын-дзын аб падлогу — і сціхла шуміха —
Пакой цішынёю напоўніўся ліпкай...
Ускочыла Феня, як першая скрыпка:
— На шчасце! Разбілася шклянка на ўдачу!
Савось зірк падлобна: — Я іншае бачу.
Якое тут шчасце? Абразы і здзекі.
Мы ў госці ішлі, а папалі ў цырк нейкі...
І Феня за Саўкам дадала нясмела:
— Што робіцца сёння тут — незразумела.
Адкуль гэта колкасць, як елак іглiца?
Скажы, растлумач, прасвятлі нас, сястрыца.
Мілену кранула сястра за жывое:
— Вы глянулі сёння ў люстэрка крывое.
Няўжо вы ў люстэрку сябе не пазналі?
З Генадзем мы ваш лексікон паўтаралі.
Абразу вам чуць непрыемна, нязручна,—
Вы нас навучылі — мы здатныя вучні.

Ты, Саўка, сказаў пра абразы і здзекі?
Так, праўда і крытыка — горкія лекі.—
Савось ад Міленіных слоў аж падскочыў:
— Няўжо мы такое выказвалі ў вочы?
Няўжо я і Феня такое казалі?
Ад чутага сёння, ў нас вушы завялі.
Паслухаўшы лаянку з вашага боку,
Убачылі мы бервяно ў сваім воку.—
Слязу ачышчальную выцерла й Феня:
Няўжо так глыбока пусціла карэнне
У нашай душы бездухоўнасці зерне?
Хто ж нас альбо што зноў да людскасці верне?
Не верыцца нават, а ўспомню — і сорам,
Мы, Сава, з табой непрыстойна гаворым,
Буяе бяздумная наша гамонка...—
Савось уздыхнуў: — Распусціліся жонка.
Ён Феню падтузаў: — Давай побач сядзем,
І шчыра папросім Мілену з Генадзем:
— Генадзь, даражэнькі! — Міленачка-краска!
Даруйце, прабачце вы нам, калі ласка!
Мы справім, адновім характар свой свінскі,
Праз месяц-другі, як бамонд будзем Мінскі.
Мы перачытаем Купалу, Шэкспіра,
Да споведзі сходзім, ачысцімся шчыра.
Пачнём мы заводзіць у сэрцы духоўнасць —
І падлай я буду за непаслядоўнасць...
А Феня паспела ажно праслязіцца:
— Я с Саўкам гатовая перарадзіцца!
Люстэрка мы выправім, знікне скрыўленне,
Інакш, ён — не Саўка, а Феня — не Феня!
Пакажа люстэрка адбітак наш годны.—
Мілена з Генадзем усклікнулі:
— Згодны!

*2013*

Роздум...
Роздум просіцца
Не пра мяне.
Я — наіўны міраж
У жыццёвым тумане,
Лёс мой — кропля ўсяго,
Толькі кропля адна
У жыцці-акіяне,
І яе акіян паглыне.
Я вагаўся,
Я важыў:
Паглыне альбо не?..
Паглынуў — не заўважыў.

Роздум не пра мяне...
Я — пяшчынка зямлі,
Над якою падзеі гулі —
І змяшалася ўсё...
Сярод мноства мільярдаў
Пяшчынак
Я згубіўся — і ўжо не знайсці
Ні мяне,
Ні ўспамін,
Ні мой вечны прыпынак...

Роздум пра...
Як галоўнае ў свеце знайсці?
Як не ўблытацца ў дробязі
Чуткаў,
Пляткарства,
Какецтва?
Што галоўным было
На працягу вякоў
У жыцці?
У жыцці чалавека,
Ўсяго чалавецтва?

Насцярожана крочыць —
Куды? —
Дваццаць першы наш век,
Пэўна, самы заблытаны
Й непрадказальны.
І куды завядзе ён цябе,
Чалавецтва?
Цябе, чалавек?
Што пачуе сусвет —
Гімн жыццю
Альбо звон памінальны?

Як банальна гучыць:
Веды — гэта святло!
Ды за лозунгам светлым,
Нярэдка —
Прыхільнікі ночы.
І штыкі, і валюта ў галоўных —
Ўсё гэта было...
Да трагедый вяло,
Не ў святло.
Але тое «было» — у сучасным,
Да бездані крочыць.

О, калі б з дэкларацый,
З усіх канстытуцый —
З усіх!
Урасло назаўжды
У рэальнасць жыцця,
Ў чалавечую геннасць,
Што, усё ж чалавек,
Даражэй і нажыў,
І інтрыг.
Што, усё ж чалавек,
Ён не толькі каштоўнасць —
Бясцэннасць!

О, каб гэта ўсвядоміў
Свядомы,
Шмат бачыўшы свет!
Зніклі б з нашай Зямлі
Назаўсёды
І жорсткасць, і войны.
Чалавецтва ускрэсла б —
За ім — не скрываўлены след,
А пачэсны жыццёвы уклад
І прыстойны.

Ды, на жаль,
Ёсць такія на нашай Зямлі,
І былі...
Пэўна, й будуць,
Хто прагне для іншых трагедый.
Быццам маці не мелі яны
Быццам дзецьмі яны не былі —
А для матак чужых і дзяцей
Плодзяць беды.

Кожны кожнаму сёння —
Падазроны,
Далёкі,
Чужы.
І жывецца няўпэўнена,
У неадступнай трывозе.
Кожны з нас,
Чалавецтва,
Падыйшло да апошняй мяжы,
За якою — знішчэнне,
Мы — стаім на парозе.

Чалавек схамянуўся —
Адкрыцця стаў баяцца свайго.

І трывога гудзе
Над блакітнай планетай
Набатам:
Дык няўжо быў расшчэплены
Атам
Людзьмі для таго,
Каб Зямлю,
Каб прытулак людзей расшчапіў
Той жа атам?

Паўтарэнне таго, што гучала —
Няўдзячная праца,
Паўтарэнне таго,
Ад чаго «мазалі» у вушах...
Але ж трэба
Крычаць і пісаць,
Пісаць і крычаць —
ПАЎТАРАЦЦА!
Бо і кропля скрозь камень
Праточвае шлях.

Ў кожным слове,
Радку
Сэнс вядомы — няма навізны...
Хтосьці скрывіцца кісла:
— Не каркай
Бяды не наклікай!
Чалавецтва прывыкла,
Яго прывучылі — ні дня без вайны,
Без маленькіх трагедый і войнаў,
І няўмольна вядуць
Да вялікай.

Да жыцця на Зямлі
Падкрадаецца ценем бяда.—
Кормяць «ястрабы» байкамі

Нас, «салаўёў».
З году ў год,
З веку ў век гэта тэма,
Нібыта у ступе вада,
І таўчэцца яна,
І ўсё болей яе —
Да краёў.

Ёсць жа прымаўка, ёсць:
Гадка есці — ядзім,
Бо шкада гэта выплюнуць,
Мабыць, лянотна...
Нам Радзіма — Зямля,
Больш не будзе Радзім!
Калі страцім яе —
Толькі раз!
Назаўжды!
Беззваротна!

Самагубства ўсяго чалавецтва
Было ўжо —
Рэальнасць, не сон.
Старажытным памылкам
Сучаснасць
Спрыяе вярнуцца.
Дык няўжо чалавек — самагуб?
Скарпіён?
Каб сваімі адкрыццямі
Знішчыць сябе,
Захлынуцца?

Ўсё «банальна» вакол —
Чалавек, чалавецтва, каханне,
Пошук ісціны, роздум,
Напоўнены розумам час.

Ну а што, калі час
Назаўжды
«Безбанальны» настане —
Без кахання, без ісціны,
Без чалавецтва —
Без нас?

Не, не ўдасца нікому
Схаваць у пясок галаву,
Калі розум —
Пад ногі,
А над ім уладар —
Антырозум.
І пакуль свет не згінуў,
Пакуль я свядома жыву,
Роздум не пра мяне —
Пра галоўнае мой
Заклапочаны роздум...

*2013*

Людзей заўжды прыцягвалі святыні
Падзей і дат — яны часоў пячаць.
Таму я зноў у спаленай Хатыні,
Каб памянуць, схіліцца, памаўчаць.

Тут не музей, хоць ёсць экскурсаводы,
Тут боль, як свет — такой велічыні,
Тут попел тых, хто згінуў назаўсёды,
Хоць мог бы жыць і сёння, ў нашы дні.

Хатынь дапамагае памяць рухаць.
І чэрствасці людской — прысуд яна.
Душой тут трэба бачыць, сэрцам слухаць,
Каб зразумець, які ён жах — вайна.

Вось я маўчаў і слухаў сэрцам чулым,
А думкі свідравалі мне душу.
Здавалася б, трагедыя ў мінулым,
А я той боль заўжды ў сабе нашу.

Хто прагнуў і крыві, і слёз, і мукаў,
Няхай той будзе кляты у вяках.
Чужых дзяцей паліў, сваіх жа ўнукаў
Люляў на акрываўленых руках.

Бездапаможнасць мне душу вярэдзіць,
І крыўдна, і балюча, хоць крычы
За тое, што не мог вас папярэдзіць,
Уратаваць не мог, дапамагчы.

І я нібыта ў гэтым вінаваты:
«Не дапамог...» — і горка ад таго.
Які тады з мяне быў памагаты?
Мне быў гадок няпоўны усяго.

Дый вёсачка мая за сотню вёрстаў
Стаяла ад хатынскае бяды.
І ў тым жа годзе карнікамі жорстка
Была таксама спалена тады.

Нас нечакана хтось падняў з пасцелі,
Ледзь толькі ранак бліснуў у акне.
І ўсе вяскоўцы збегчы ў лес паспелі —
І менш ахвяраў стала на вайне.

* * *

Душа баліць і шчыра спачувае
Праз шмат гадоў ахвярам той вайны...
Мне сніцца, што Хатынь яшчэ жывая
І даглядае ранішнія сны.

Ды жыць Хатыні засталося мала —
Віхурыў час трагедый і нагод.
Нямецка-паліцайская навала
Ашчэрыла над ёй крывавы рот.

Раўлі машыны.
Катаў зброд шалёны
Гадзючыў да Хатыні ўсё бліжэй.
А я імчаў наперадзе калоны,
Каб папярэдзіць, ўратаваць людзей.

А бегчы ў сне — усё цела нібы з ваты,
Слабелі ногі ў хібах каляін,
Таму мяне мінулі шумна каты,
Дыхнуўшы едкай чаднасцю машын.

Я бег і бег, без дум, што гэта сніцца,
Нібыта я — ад смерці абярэг.
Паспець бы толькі!
Толькі б не спазніцца!
Уратаваць бы іх!
Я бег і бег.

А золак шэры фарбаваўся сінню,
Збіраўся зазірнуць у вочы дню.
Ды смерці цень павіснуў над Хатынню,
Палохаў цішынёю цішыню.

Каб знуліць, разбурыць намер звярыны,
Каб кроў ні пасмактаў ніводзін кат,
Крутнуўў я цераз лес, праз гушчарыны,
Я націянькі імчаў да сонных хат.

Я ў вокны грукнуў:
— Уставайце, людзі!
Я біўся ў дзверы:
— З дзецьмі ў лес! Хутчэй!
І выбягалі людзі з хат у спудзе,
Да сэрца прыціскаючы дзяцей.

Я расштурхаў вяскоўцаў, сном спавітых,
Я папярэджваў іх, са скуры лез.
Ад цёплых ложкаў, ад вуглоў абжытых
Пабеглі людзі ў ратавальны лес.

Я побач бег, як кажуць, спадарожна,
Усцешаны — бяда людзей міне...
Я бег і раптам хтосьці асцярожна
І далікатна паштурхаў мяне.

Мой сон спыніўся. Я расплюмшыў вочы
І здзіўлена абвёў вачмі пакой,
Мяне дачка будзіла сярод ночы,
Штурхаючы маё плячо рукой.

Затым сказала неяк вінавата:
— Прабач, што не дала твой сон дасніць.
Ты так стагнаў, ты штосьці выкрыкваў, тата,
Я мусіла той жах перапыніць.

Я сеў на пакамечанай пасцелі,
І пад уплывам бачанага сну
Сказаў дачцэ: — Хатынцы не згарэлі,
Яны цішком схавацца ў лес паспелі,
Ім удалося перажыць вайну.

І раптам зразумеў — мой сон не спраўдзіць,
Бо сэрца чула рэха той вайны,
Бо над зямлёй, дзе зноў хтось ліха ладзіць,
Гучаць Хатыні вечныя званы.

* * *

Мінае час, а мне начамі сніцца
Хатынь жывая — як адна сям’я...
Чаму ж я так спазніўся нарадзіцца?
Магчыма, вас уратаваў бы я...

*2015*

Ад першых дзён свядомага жыцця
І да сівога сёлетняга года,
Гучыць у сэрцы: — Я тваё дзіця!
Твая часцінка, Матухна-Прырода!

Мае, жыццём раскіданыя дні,
Табой скандэнсаваны ў лёс адзіны.
І сёння як аддзяка дабрыні —
Ў святой зямліцы лёсу карані,
Ў бяздонні неба лёсу вершавіны.

З чаго ўсё пачыналася й калі?..
Дзівосаў тых выток і сёння сніцца,
Якаясь сіла вабіла ў палі,
Ў лясы вяла якаясь таямніца.

Ў блакітным небе аблачын радкі
Рукой нябачнай хтосьці піша зграбна,
А мне — чатыры ўсяго гадкі,
Мне ўсё цікава, родна і прывабна.

Прырода — мой шчаслівы абярэг,
Шчаслівая мая й цяжкая доля.
Тады, малым, я падсвядома бег
У шчырыя абдымкі наваколля.

Я мог ляжаць гадзіны на спіне,
Глядзець у сіні акіян бяздонны,
О, як было прыемна бачыць мне,
Што й неба на мяне глядзіць ўлюбёна.

Пяшчоціў сэрца летам і зімой
Прыроды покліч — І я бег на ўдачу,
Бо забываўся і на голад мой,
І на пасляваенную нястачу.

Напеў гаёў, палёў жытнёвых пах,
З дубамі таямнічымі сустрэчы,
І сум бароў, і вецер — вольны птах
Узбагачалі сціплы свет малечы.

Узбагачаўся ён ад навізны —
Дарункаў шчодрых Матухны-Прыроды.
Уражанні дзіцячыя — яны
Яскравыя, жывыя назаўсёды.

* * *

Сталее ўсё — зямля, лясы, дамы,
Лугі, дубы — асілкі-хмарачосы,
І неяк неўпрыкмет сталеем мы,
Закручаныя завірухай лёсаў.

Падзеі неўгамонныя гулі
Штогод, штодзень — то стрымна, то наскокам.
О колькі папятляў я па зямлі
І па замежжы блізкім і далёкім.

За акіянам, паміж марных спраў,
Мне марылася ў настальгічнай скрусе —
Я б з патрахом Амерыку аддаў
За вёсачку маю на Беларусі.

Не знойдзеш больш пакутлівых пакут,
Быць хоць часова, на чужбіне горкай.
Усюды і заўжды Лагойскі кут
Быў для вяртання пуцяводнай зоркай.

* * *

Цяжар гадоў мне на душу ўзлез,
І хоць узросту я не вельмі рады,
Зноў тая ж сіла кліча мяне ў лес,
Зноў таямніча вабяць далягляды.

Хвалюе тая ж казачнасць бароў,
Напоўненая таямнічай мовай,
І я іду ў абдымкі да сяброў
З душой малечай, чатырохгадовай.

Вось і дубы — сыны вякоў сівых,
Іх бачылі, напэўна, й продкаў продкі.
А вунь бярозы — памятаю іх,
Яны — мае сяброўкі-аднагодкі.

Я бачу ўсіх, нікога не міну,
Я на сяброўства гэтае малюся,
Прылашчу елку, абдыму сасну,
Да згорбленага клёна прытулюся.

Каля таполі моўчкі пастаю,
Вы ўсе — майму жыццю ўзнагарода.
Маленькую часцінку аддаю
Любові той, што дорыць мне Прырода.

* * *

Я памятаю як даўным-даўно
Прывёз у Мінск сваю старую маму,
Яна ўслых здзівілася:
— Сынок!
Што ж ты прывёз мяне ў гэту яму?

Вязі мяне хутчэй адсюль назад!
— Дык гэта ж Мінск! — заўважыў я шматзначна.
— А дзе ж тут неба? Дзе ж тут далягляд?
Дзе сонца ўсход? Нічога тут нябачна!..

Мяне здзівілі словы мамы? Не!
І я б пабег ад гарадскога чаду.
У горадзе так не хапае й мне
І сонейка, і неба, й далягляду.

Мяне здзівілі словы мамы? Не!
Тут шум і тлум, а мне жывецца вяла,
Тут шмат людзей, ды адзінока мне,
Тут ёсць сябры, ды шчырасці ў іх мала,

Тут паміж мною і жыццём сцяна.
І я бягу любой парою года,
Імчу туды, дзе царствуе яна —
Яе Вялікасць, Матухна-Прырода.

Я ў сэрцы да яе любоў нашу,
Бясцэнным скарбам, а не абавязкам,
Я саступлю дарогу мурашу,
Я пакланюся матылькам і краскам.

Нястомных верабейчыкаў бузу
Заўсёды бласлаўлю ўсмешкай шчырай,
А ўвосень не змагу стрымаць слязу,
Бо з плачам адлятаюць птушкі ў вырай.

О, мой абшар! Сябры з усіх бакоў!
Люблю цябе да слёз, мой краю родны!
Так, я — дзівак, напэўна, з дзівакоў,
Так — я сентыментальны й старамодны.

Хоць падышоў я да сваёй мяжы,
Хоць надыходзіць час мой развітальны,
Не замутніўся у маёй душы
Дзівосаў тых выток невычарпальны.

*2015*

Ігнацій Швед быў розумам «няпоўны»,
І ўсё ж абраў дэвіз: «Я — з галавой!»
І сапраўды разбагацеў раптоўна,
Як ён шаптаў — праз хітры бізнес свой.

Ці так, ці гэтак, але ён з грашыма,
Не абмінуў ён, пэўна, крадзяжу.
Таму махнуў рукой: — Бывай, Радзіма!
І хуценька зматаўся за мяжу.

Там стала непакоіць штосьці Шведа —
Вядома ж, грошы муляць, як нарыў,
З'ядала й слава Нобеле Альфрэда,
Таму ён фонд свайго імя стварыў.

Сабраў савет з дарадцаў дылетантаў,
З мясцовых і такіх як сам «былых».
Вышукваў па ўсім свеце намінантаў,
Каб прэміяльна ашчасліваць іх.

Амерыка для Шведа — як ікона,
Амерыка для Шведа — о-ё-ёй!
І ён шукаў старанна і натхнёна
Міралюбіўцу, міратворцу ў ёй.

І той, каго шукаў ён «днём са свечкай»,
Сябе паводзіў ветліва, цішком.
І выглядаў нявіннаю авечкай,
Хаця на справе быў ён воўк ваўком.

Кім толькі ён не быў на свеце гэтым,
З кінжалам за халявай «дэмакрат»?
І быў галаварэзам ён адпетым,
Наймітам быў, узброеным да пят.

Ён сеяў смерць, а думаў аб заробках,
За грошы ён — хоць галавой у вір.
Ён забіваў ва ўсіх гарачых кропках,
А Швед такому — прэмію за мір.

О, гэтыя загадкавыя душы,
У прыцемках падзей жывуць яны.
А Швед — ён задаволены па вушы —
Амерыку лізнуў ніжэй спіны.

«Цяпер і я вядомыя ва ўсім свеце!» —
Сябе употай цешыў думкай ён.
І на чарговым, на сваім савеце,
Працягваў самазванец-пустазвон.

— Так... З прэміяй за мір — усё ў ажуры,
Як кажуць, нос камар не падаткне.
Цяпер пярэйдзем да літаратуры,
Тут трэба паднапнуцца вам і мне.

Якія меркаванні, прапановы? —
Тут ціхенька азваўся хтось з журы:
— Вось Здольнік нам даслаў раман чарговы,
Магчыма, аўтар «Лысае Гары»?

З размахам напісаў, таленавіта,
Такія творы, як заўжды, ў цане...
— Не! Я не згодзен! Карта яго біта! —
Азваўся Швед.— Не па нутру ён мне!

Яго я ўзнагародзіць быў бы рады,
Ды бачу, азірнуўшыся назад —
Ён творыць і не брэша на улады,
Таму, які ён к чорту лаўрэат?
Тым больш, які той Здольнік дэмакрат?

Хай літаратар гэты нам даруе,
Бо творчасць не галоўнае для нас.
Палітыка і творчасцю кіруе,
І спортам, і людзьмі — такі ўжо час.

Таму давайце зробім новы захад,
Каб раптам не патрапіць у канфуз.
А каб не крыўдзіць уплывовы Захад,
Патрэбен англічанін ці француз.

Ці чорт, ці д’ябал, толькі б з дэмакратаў —
Хоць Джэк, хоць Жан — кульгавы ці крывы,
А мы яго пхнем да лаўрэатаў —
Хто плоціць грошы, у таго й правы...—

Падумаў Швед, затым спытаўся злосна:
— Хто «за»? Хто «супраць»? Устрымаўся хто?
Так і запішам: «за» — аднагалосна.
І аднадумства наша — на ўсе сто!

Што ж, вырашылі й гэтае пытанне.—
Тут Швед устаў: — І адпачыць пара.
Ад нас лаурэатам прывітанне
І прэміі грашовыя — ура!

* * *

Назаўтра разглядалі медыцыну,
Затым навуку й доследы яе.
Ды тут узнагародную карціну
Іх дылетанства не перапсуе.

Хоць Швед той — самазванец самародны,
Хоць Швед з грашыма — сумны анекдот,
Ды кожны навуковец прэмій годны,
І кожны доктар варты ўзнагарод.

А Шведу й бервяно не рэжа вока,
Не чырванее ён і ад маны.
А Швед і грошы — ад жыцця далёка,
Яшчэ далей ад ісціны яны.

* * *

Палітыка і творчасць — антыподы,
Палітык кожны пад сябе грабе.
Палітыка ўсюды і заўсёды —
«Глушэц», «дальтонік» — на карысць сабе.

Калі ёй трэба — чуе ўсё і бачыць,
Свайго не ўпусціць і не праміргне.
Няўгоднае па-свойму перайначыць
І творчасць праз калена перагне.

Палітыка — духоўнасць і на вілы
Падыме на шляху да ўласных мэт.
Палітыка на горла і на крылы
Духоўнасці наступіць — не сакрэт...

Ці быў той Швед, ці не было ніколі?..
Не!
Мне прысніўся гэты брудны сон.
Не бачыць бы яго мне больш ніколі,
Не чуць бы пра яго да скону дзён.

Я ў вёсачцы, на родным мне прычале,
Ў бацькоўскай хатцы напаслед пішу:
Як добра, што мяне не заўважалі,
Што ў гэтым сне мяне не вылучалі,
Інакш бы Швед заплямiў мне душу.

*Лістапад, 2015 г.*

Я балюча шкадую,
што не чарадзей,
Што жыццё пражываю
амаль без карысці.
Я рабіў бы выключна
дабро для людзей,
Каб, з жыцця адыходзячы,
локці не грызці.

Час над светам ляцеў,
нібы птах без крыла,
Час стагнаў і крывавіў,
залізваў ён раны.
Горы, гмахі, завалы —
натворана зла,
Моры слёз налілося,
крыві акіяны.

Чалавецтву чамусьці
была «не з рукі»
Поўніць мірам і згодай
жыццёвую чашу.
Не!.. З мячом і пажарам
яно праз вякі
Ваяўніча дайшло
аж да нашага часу.

Я чароўную сілу
спаўна б скарыстаў,
Не стаміўся б пра ўсіх
катаваных маліцца.
Я зрабіў бы, каб кожны
загінуты ўстаў
З Кулікова поля,
З Барадзінскай зямліцы.

Я наўсцяж расхінуў бы
заслону часоў,
Я спыніў бы трагедый
крывавыя плыні.
Не было бы
арыйска-каўказскіх вусоў,
Ленінградскай блакады,
зруйнаванай Хатыні.

Не было бы заўчасных,
гвалтоўных смярцей
І канцлагераў —
жах гэты нечалавечы.

Не глыталі б мужчын
і жанчын,
і дзяцей —
Незлічоных ахвяр
ненажэрныя печы.

Я ў мінулае
толькі б аднойчы не лез,
Ўсё б пакінуў
на тым самым месцы злачасным —
Не змяніў, не крануў бы
Нюрнбергскі працэс
Як урок еўрапейскім
«арыйцам» сучасным.

Я б дазволіў і людзям
раскрыць сцяты рот,
Каб сваім меркаванням
далі яны волю.
Хіба ж можа адзін,
аж за цэлы народ,
Быць больш мудрым
і не памыляцца ніколі.

Гэта ён, той «адзін», —
помнік быў пры жыцці,
А пад ім «пастамент» —
і народ, і свабода.
Ён быў здольны
і чорнае ў белым знайсці —
І народ шматмільённы
стаў «вораг народа».

Штучна ўтвораных
жудасных бед не злічыць,
Ў сэрца б’ецца бяда
за бядою набатам.
Колькі болю і ран —
іх бы ўсе залячыць...
Я б надзейна найперш
закілзаў мірны атам.

Я б вярнуў да жыцця тых,
хто ноччу і днём
Нам жыццё ратаваў,
ратаваў чалавецтва.
Тых, хто радыяцыйным
нябачным агнём
Быў бязлітасна спален,
зменшыўшы бедства.

Жыватворным цяплом
чараўніцтва свайго
Я б здароўе вярнуў
без віны вінаватым.
Я б узвёў саркафаг,
каб не збег з-пад яго
Аніводзін!
Людской безадказнасці атам.

Я б сцішаў землятрусы
нябачнай рукой,
Каб яны нам здаваліся
лёгкімі снамі.
Я бы меншыў да хвалі
ласкавай марской
Акіянскія жахі —
забойцы-цунамі.

Я б глухім слых вярнуў,
а аслеплым бы — зрок,
Я б скалечаных —
хутка паставіў на ногі.

Я б усім!
Я б усім!
Я б усім дапамог!
Вы ж не супраць,
каб мары спаўняліся, Богі?

*2016*

Шукаў я ісціну,
збіваючыся з ног,
Па ўсёй зямлі
пракладваў пуцявіны.
Ды кажуць людзі:
Ісціна — сам Бог!
І толькі Бог!
І толькі Бог адзіны!

А я ж стаптаў падэшваў —
не злічыць,
А мне ж у грудзі
лёс мой навальнічыў,
А мне ж душэўных ран —
не залячыць
Ад тых, хто мне ў спіну
няўдачу зычыў.

Ў жыцці хтось лічыць плён,
а хтось — варон,
Хтось сонечна жыве,
а хтосьці — хмарна.
А я?!
Няўжо ўсе намаганні — вон?
Няўжо таптаў зямлю
дарэмна, марна?

Няўжо, дзівак,
шукаў зусім не там
Я ісціну —
святую праўду-матку?
Я ж за яе,
за ісціну аддам
Жыццё і ўсё, што маю —
без астатку.

Я заплачу і грэшнасцю сваёй,
І святасцю —
ёсць і ўва мне такая.
Мне б толькі на зямлі
спаткацца з ёй —
О, як душа
сустрэчы з ёй чакае!

*

Што? Ісціна — сам Бог?
Дык як жа мне
Сустрэцца з ім,
з ім — ісцінаю ісцін?
Разгубленасць мая мяне хіне
Да безнадзейнасці —
няма тут выйсця.

На небе Бог,
жывыя ж — на зямлі,
Калі там Бог —
і ісціна на небе.
І хто туды з смяротных —
і калі
Праз лес грахоў
сцяжыну працярэбе?

А мудрасць продкаў
слынна раіць нам:
Да розуму чужога не галубся,
На Бога спадзявайся,
але й сам
Не лежабоч,
а кратайся і рупся.

*

Тут, на зямлі,
сам усвядоміў я,
Што ісціна ўсё ж ёсць.
Што гэта значыць?
Што ісціна —
у кожнага свая,
І што яе па-свойму
кожны бачыць.

Што ў ісціны —
спрадвек бацькоў — слата,
І што спрадвек
не мела роднай хаты.
Яна пры шматбацькоўстве —
сірата,
І сярод нас
шукае вугал пяты.

Бывае, што забрэхваюць яе,
Яна ж назаўтра —
з новай сілай кліча,
Яна, як Фенікс,
з попелу ўстае:
— Вось ісціннае ісціны аблічча!

*

Што сёння прыпадносяць,
як ману,
Адбеліцца і стане праўдай з часам.
Мы спасцігаем ісціне цану,
Калі з хлуснёй сустрэнемся —
сам-насам.

Мы ісціну шукаем
днём з агнём
У шматмільённым тлуме
шматгалосым.
І ўсё ж сярод хлусні
мы праўду жнём,
Бо толькі ў праўды
родзіцца калоссе.

*

Хтось любіць ісціну,
а большасць — не,
Яна камусьці
палкі ў колы ставіць.
І ісціна — спрадвеку
не ў цане
У нешматлікіх тых,
хто «балем правіць».

І многія змікіцілі даўно:
Нікчэмнасць перад ісцінай —
канае,
Што ісціна —
у воку бервяно,
Яна, як костка ў горле, замінае.

Гісторыі няспынны махавік
З гадамі не збаўляе абароты.
Быў «ісцінай» —
Нерон і трон, і штык,
Быў «ісцінай» —
тэрор і хор дурноты.

Жыццё б пражыць —
адказны гэты міг,
Асэнсавана, правільна, карысна.

А ісціна —
вышэй улад, інтрыг,
Яна стаіць, як вечнасць —
непахісна.

Без ісціны жыццё —
як без вады,
Як без паветра —
у тупік упрэцца.
Мы з часам адыходзім назаўжды,
А ісціна —
не знікне, застанецца.

*

Які ж ён, вынік
пошукаў маіх,
Майго неўтаймаванага блукання?
Ёсць ісціна?
Адна?
Ці многа іх?
Які ж адказ на гэтыя пытанні?

Ёсць ісціна!
Яна — сам чалавек!
Ён ісціну ўхваляе ці скрыўляе,
Ён беражэ яе
ці чыніць здзек,
Бароніць альбо нішчыць дазваляе.

Таму і чалавецтва —
то на ўзлёт,
То непазбежна —
да пакутаў верне,
Бо ісціне —
то запіхаюць рот,
То зноўку
прарастае яе зерне.

*

О, ісціну губляўшы, чалавек!
Ачысцься ад няшчырасці!
Прачніся!
Зірні ў мінулы,
у дваццаты век,
На шлях свой азірніся —
І жахніся!

Ад догмаў адцурайся,
ад старых,
Калі хлусня
замешвалася крута.
Без ісціны адной —
адной на ўсіх
Чакае зноў хаос,
трагедый смута.

*2016*

Я шлялся по притонам тайным
И по сомнительным друзьям.
И стал участником случайным
Событий — их открою вам.

В те годы был я свят и молод,
Стремился к звездам, а не вниз.
Духовности насущной голос
Меня преследовал и грыз.

Но разве девственность и святость
Для кабаков и пьяных сцен?
Разгульная их неопрятность
Взяла меня в свой мутный плен.

Нас формирует окруженье,
Неистребимость бытия.
Иные с ним ведут сраженья,
Свое отстаивают «я».

Свое же «я», свое же мненье,
Я окружению вручил.
Куда меня несло теченье,
Туда безропотно и плыл.

И направлял я бесшабашно
В заблудший свет свои стопы
О, этот узурпатор страшный —
Всеволье масс, синдром толпы.

Что это? Придурь? Срам до жути?
Или прощальный взмах крыла?
Ведь я, интеллигент по сути,
С бомжом пил с одного горла́.

Однажды привела дорога
К друзьям на праздничный обед.

Шутили плоско, пили много,
Несли какой-то пьяный бред.

Тут друг свою жену ударил,
Расквасил нос и губы вкровь.
За то, что с нею я «базарил»
Про жизни смысл и про любовь.

Есть и у подлости в начале
Свое начало всех начал —
Все гости тупо промолчали,
И я трусливо промолчал.

Нет, я всерьез, не понарошку,
Стал неразборчив, худ и сиз.
И по извилистой дорожке
Катился и катился вниз.

Себя я превращал в мочало,
Хирел от пьянства и тоски.
Меня все это поглощало,
Словно зыбучие пески.

Таким, как я, живется худо,
Действительность, как страшный сон.
Я не работал, а откуда
Брать деньги на «похмелеон»?

Не опохмелишься — и крышка,
Но я пел выдумке хвалу —
Заталкивал костыль под мышку,
И становился на углу.

— Подайте, люди, инвалиду,
Афганцу, видевшему ад!..
Без костыля я жалок с виду,
А тут — герой, хоть без наград.

А тут — дитя судьбы-злодейки,
Смерть видевшее на войне.
И люди кровные копейки
Сердечно отдавали мне.

Свою судьбу я крыл и крою,
Зато был постоянно пьян.
И этим оскорблял героев,
Тех, кто прошел через Афган.

Паденье вниз, дурные вести,
Не отравляли жизни мне.
Я был без совести и чести,
Ведь я их утопил в вине.

Как ноги тащит пес от чумки,
Так я судьбу свою волок.
Однажды я украл из сумки
У старой бабки кошелек.

В нем были крохи, их хранила
Старушка, может быть на хлеб?
А я купил себе «чернила» —
Вершину всех своих потреб.

Вершина пропастью бездонной
Явилась мне на много лет.
Я жил, грядущего лишенный,
А в общем — жил я или нет?

За это каждый лично платит,
Что есть у жизни на счету...
А я заканчиваю. Хватит!
Довольно! Подвожу черту.

* * *

О, Господи! Какое счастье,
Я прекращаю этот бред!
Нарисовал я в одночасье
Свой... Нет, совсем не свой портрет.

Да, я пока что свят и молод
И не вкусил сей страшный грех.
Я, к счастью, жизнью не расколот,
Словно не вызревший орех.

Мне, как и многим, неохота
Богатство потерять свое —
Друзья есть, девушка, работа,
Есть хобби, «планов громадье».

А жизнь вокруг — какое чудо!
Живи, дерзая и любя.
Я был бы форменным Иудой,
Когда бы предал сам себя.

Представил я, а что бы было,
Какой бы я платил ценой,
Когда бы дьявольская сила
Вот так же овладела мной?

Ведь я нарисовал картину,
Когда и белый свет не мил.
Я следствие, а не причину,
Изобличил, изобразил.

Причина — в нас, ее мы пылко
Храним, покуда будем жить...
Передо мной стоит бутылка
С названьем: «Пить или не пить?»

*2015*

Агония Советского Союза...
Республик независимых парад,
И нет для сердца тяжелее груза,
Чем нашей общей Родины распад.

Начало девяностых...
Все невзгоды
Наслаивались, словно снежный ком —
Остановились фабрики, заводы,
А в магазинах — покати шаром.

Народ и власть — вот-вот на стенку стенка,
Доверие скатилось до нуля.
Тогда-то Александр Лукашенко
Стал во главе страны,— встал у руля.

Он создал сам себя открыто, гласно,
В своих речах доступен был и прост.
И избран был почти единогласно
На самый высший в Беларуси пост.

Решительный и прагматичный в меру,
Он, засучив публично рукава,
Вселил в людей незыблемую веру,
И заявил, что Беларусь — жива!

Лишь скептики ухмылку не скрывали,
Но и для них настал прозренья час —
С колен колхозы подниматься стали,
Вернулся вновь к станкам рабочий класс.

И вот тогда, в начале возрожденья,
И запад, и восточный наш сосед,
От Беларуси ждали поклоненья,
Что «батька» сдаст свой суверенитет.

Но он не сдал своих позиций главных,
Был целеустремлен всегда, во всем.
И Беларусь, как равная средь равных,
Своим шла, независимым путем.

Мы хлеб свой сами сеяли и жали,
Свой статус повышали каждый год —
И в мире Беларусь зауважали,
И Президента, и его народ.

Нет, время вспять направить невозможно,
И крикунам пора бы уж понять,
Что в этом мире беспощадно-сложном,
Лишь сильный духом может устоять.

Ведь Беларусь чернили неизменно,
Заочно, зло над ней вершили суд.
Её пытались гнуть через колено,
Сулили пряник, приготовив кнут.

Плели интриги низкие — мы знаем,
И слали оппозиции «ЦУ»,
Но тот, кто у руля, был несгибаем —
И Беларусь сегодня на плаву.

Да, жизнь из слез и праздничных улыбок,
Из взлетов и падений — как без них?
Но избежали мы чужих ошибок,
Без революций обошлись «цветных».

И нам, идя на праздник, на работу,
Взглянуть на карту мира в самый раз.
И скажем честно — по большому счёту,
Сегодня многим далеко до нас.

Сегодня сердце биться не устало,
Творить и созидать — вот наш удел!
Мы отмечаем: — Сделано немало,
Но впереди гораздо больше дел.

Всё воплотится в жизнь в руках умелых,
В задумках наших — прочности запас.
И грандиозность наших планов смелых
Смущает Запад, восхищает нас.

Мы в жизни смысл нашли не только дома,
Но подставляем и другим плечо.
Взаимопомощь нам давно знакома —
Друзей благодарим мы горячо.

Сегодня с нами братская Россия —
И на душе спокойней от того...
А Рулевой — по-своему Мессия,
Как знать, что было б нынче без него?

Бесспорно, Президент внёс вклад весомый
В то, что имеем — все признать должны.
Вот он, пример, столетиям знакомый —
Роль личности одной в судьбе страны.

Правленью Александра Лукашенко
За каждый год, за этих двадцать лет,
Историей поставлена оценка
Наивысшая!
И здесь сомнений нет!

*2014*

# Змест

Літаратурна-мастацкае выданне

**ДАВІДОВІЧ** Сяргей Фёдаравіч

ЗБОР ТВОРАЎ
У пяці тамах

**Том 2**

*Паэмы*

Адказны за выпуск *У. А. Мачульскі*

Малюнкі *С. Ф. Давідовіча*

Мастацкае афармленне серыі *С. Ф. Давідовіча*
Мастацкі рэдактар *В. М. Максімовіч*
Тэхнічныя рэдактары *Л. С. Зубец*

Падпісана да друку 16.11.2016. Фармат 84×108 $^1/_{32}$. Папера афсетная.
Гарнітура Таймс. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 39,48.
Ул.-выд. арк. 30,15. Наклад 50 экз. Заказ .

Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вырабніка і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/463 ад 28.04.2015.
Вул. Фрунзэ, 5-209, 220034, Мінск.

Падрыхтоўка да друку і паліграфічнае выкананне:
Выдавец А.М. Вараксін.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вырабніка і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/99 ад 02.12.2013.
E-mail: artmanager3@mail.ru